


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**2** (1060)

ЛЮТЫ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2018

# *ЗМЕСТ*



Віктар ГАРДЗЕЙ

# ПАЛЁТ ІКАРА

## КАЛЯ ФУЖЭРА

Слізгане мой фужэр з падаконня,
І наплачацца ўдосталь душа.
Толькі гэта ў мінулым — сягоння
Іншы час і другая імша.

Дзень прайшоў без малітваў-літанняў —
Боскі храм пастыр нанач прымкне,
І ніякіх ужо спадзяванняў,
І нікога ў прыціхлым акне.

Пэўна, мрояцца сінія вочы?
А ўначы на які яны ляд!
Толькі гэта ў мінулым — дзявочы
Неадчэпны і прагны пагляд.

Сумны госць — пасадзілі на покуць
І мяне, і маю злыбеду,
Ды не трэба так чынна, пад локаць,—
Да канапы я сам дабрыду!

---

*__Гардзей Віктар Канстанцінавіч__ нарадзіўся 19 жніўня 1946 года ў вёсцы Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1984). Працаваў у часопісах «Беларусь», «Родная прырода», «Маладосць», «Полымя», «Вожык», у выдавецтве «Мастацкая літаратура», газеце «Літаратура і мастацтва».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Касавіца» (1975), «Верасное палясоўе» (1978), «Засевак Радзімы» (1983), «Незабудкі азёр» (1985), «Узрушэнне» (1988), «Дзікая пчала» (1994), «Зялёныя дажджы» (1997), «Межань» (1999), «Трыадзінства» (2010), кніг прозы «Дом з блакітнымі аканіцамі» (1984), «Карані вечнага дрэва» (1988), «Уратуй ад нячыстага» (1992), трылогіі «Аселіца ў басейне Чорнага мора» (2000), рамана «Бедна басота» (2003), кнігі выбраных твораў прозы «З мінулага не вяртаюцца» (2014), шматлікіх паэтычных кніжак для дзяцей.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1994), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2008) і іншых.*

Тут сюжэт, як у казках вядомых:
Выкраў дзеўчыну швыдкі гяур.
Толькі гэта ў мінулым — на зломах
Бітай цэглай асыпаўся мур.

Вецер студзіць суседнія хаты,
Хоць гаворкі няма пра зіму.
Разаб’ецца фужэр мой шчарбаты —
Зноў пакуты трываць аднаму.

## ЗНАТАКІ

***З пасляваеннага дзяцінства***

Блізка дзесьці тут аэрадром:
Неба гулам поўніцца сурова.
Бамбавозы над Малым Сялом,
Верталёты шныраць з-пад Кукова.

Кажуць, што з Нямеччыны дамоў
Збройны чын вяртаюць мірным часам.
Дзень які ўжо несціханы роў
У лясах, над нівай, над папасам.

Страшна палявому жаўруку.
Мне не страшна — брат мой у салдатах.
Я гуляю ў дзедавым садку,
Выглядаю ў самалётах брата.

Помню ў небе іх жалезны строй,
То нароскід, то падобна ромбу.
І крычу я з радасцю дурной:
— Скінь мне, Косцік, атамную бомбу!

Ваня, мой сябрук, загаласіў,
Ды мяне вучыць не забывае:
— Бомбу хочаш? Простую прасі —
Атамная ўсіх пазабівае!

Знатакі! Тут Ваня аж збялеў:
Новы шквал над хатамі знянацку.
Праўда, я ўжо болей не пасмеў
Страшную сабе выклянчваць цацку.

## НОЧ ГРЫБОЎ

Можа, заўтра пайсці у грыбы?
На Імшэчак тут момант хадзьбы.
Не праспаць жа — тады не пачую

Між грыбамі іх спрэчку начную
За свае інтарэсы, правы
І, вядома, за месца грыбное
У лясах, дык, бясспрэчна, лясное.
Шчодрай ночы, мой лес баравы!

Цёплы дожджык. Туман. Маладзік.
Ноч грыбоў! Да падушкі прынік,
І панесла, панесла праз неруш,
Дзе ў бярэзніках белых — ці верыш? —
Апусцілася Баба Яга.
Во, скажы, недасяжная пляга!
А мятла? Рэактыўная цяга!
На Імшэчку звідна мітульга.

Тут Юльян, тут сусед мой Іван.
Лес нікога не ўводзіць у зман.
Ля крынічкі, і ў спёку не мелкай,
Чый там яркі капелюх пад елкай?
З першым промнем усё ажыло.
У кашы ці ў вядры на Імшэчку
Варты грыб скончыць вечную спрэчку.
Бог у помач, Малое Сяло!

## ПІЛЯ

Гуляць з дзяўчаткамі хацеў,
Яны ў свой гурт не бралі —
Цвялілі брыдка нараспеў
І гуртам уцякалі.

Сядзі ў самоце цэлы дзень,
Якія ж вы, дзяўчаты!
Я ростам Пілю да калень,
А ён, як шост, цыбаты.

Шынеля з сіняга сукна —
То Піля, участковы,
Ды Пілю, гледзячы з акна,
Зайздросціць я гатовы.

Як пакараў за самагон,
Шыбуе паўз прысады —
Яго вітаюць у паклон,
І дзеўкі Пілю рады.

Не помню, колькі лет і зім
Сачыў мараль ён зорка:

То Манька з ім, то Янька з ім —
Крулююць па задворках.

Там, у Гаўрылавым гумне,
Схаваюцца праз хвілю.
Адрынуты, сяджу ў акне:
За што ж так любяць Пілю?

## АРЭЛІ

Вялікдзень, шчодры валачобным,
Сябры гуляннямі сустрэлі:
Ад шкапчыкаў з мясным і здобным,
Дзе кілбаса і кулічы,
Дзяўчат гукнулі на арэлі,
Ля вокнаў іхніх бегучы.

Пад берастам з крутога рала
Рыпяць арэлі на канатах.
Аселіца народ сабрала:
Усмешкі, сонца, пірагі!
Абноўкі ў кожнага да свята,
Але пастой — чакай чаргі.

Цыбаты Пётра, мажны Янка
Загушкалі ўжо нарачоных.
Гайдаюцца Ірынка з Ганкай,
А хлопцы моцныя ў руках.
Вышэй! Да зорак незлічоных!
То Пётра — мах, то Янка — мах.

Ды як лятаць бяскрылай птушкай?
Сам бераст дзівіцца праявай:
Кахаеш, то з размахам гушкай,
Пабачыць збоку — любата!
Дзяўчаты вочы плюшчаць млява.
— Ірына, Ганка,— гу-та-та!

— Авой! Трымайце! Я лятаю! —
Пішчыць адна, другая мовіць:
— І я лячу, куды — не знаю,
Хоць не ўпусцілі б, таўкачы!..
Пад берастам нявестаў ловяць —
Рыпяць арэлі паначы.

## ПРЫЗНАННЕ

Не хам, не хват, што яву робіць тайнай,
Глядзіш, сапрэ і грушы на вярбе.
Яшчэ малым я зразумеў адчайна:
Мне будзе вельмі блага без цябе.

Вось успамін: мы разам, і над намі
Апошні вырай у нябёсы мкне.
Цябе, матуля, паражыў гадамі,
Таму і сорамна, няёмка мне.

Сваю журбу, гаючых слоў прызнання
Не выказаць ні крыкам, ні цішком.
Каб толк які ад гэткага казання!
А птушцы горш з падраненым крылом.

На ўсё, чым жыў, ледзь-ледзь ставала спору —
Сноп не трывалы без твайго вязьма.
Птушыны шлях пачаўся не з фальклору:
Пралёг між зор, і выбару няма.

Час — вадаспад. Паклон свайму парогу.
Шчаку сляза як-кольвек апячэ.
Яны ляцяць, але ж і дзякуй богу,
Што пушкі нашы ўсё ляцяць яшчэ.

## КАХАННЕ НАД ЛІЎНЕМ І ГРОМАМ

Дзе жыла, ля твайго, мабыць, дому
Стаў паклоннікам ліўняў і грому.
Дождж сячэ наўскасы і наўзмах,
Дастае і пад шыферны дах.
Добра, трапіўся двор захалусны.
Бач, у ліўня спакусныя вусны!
Хай анёл гэты міг сцеражэ,
Ліся, лівень, спарней і даўжэй.

Цяжкі ўздых — як варочаў каменне.
Пацалункамі трызніць няўменне.
У вачах недавер і спалох,
І бязлюдна ў суседніх дварох.
Многа страціў, калі прамарудзіш.
Ой, у ліўня гарачыя грудзі!
Зігавіца мільгне, і ўгары
Адгукнецца Грымотнік стары.

Скуль у ліўня бязвольныя рукі?
Круцяць крукі і іншыя штукі.
Змрок гусцей, тут і ветру парыў,
Пацалункаў ніхто не дарыў.
Размаўляем, як дзеці, на мігі:
Вілы, крукі — па-нашаму хвігі.
Ветрам дрэўцы пахілены ніц,
Свет не бачыў такіх навальніц!

Мы, нарэшце, няцот пабаролі,
Мы — акцёры, і ў гэтай вось ролі
Адпіваем з любоўных піял,
Бо іграем ужо серыял
Пра каханне пад ліўнем і громам,
Хоць з фіналам яшчэ невядомым…
Навальніцы такой уздагон
І табе, чараўніца, паклон!

## ПРА СПЯКОТУ І ПАЛЁТ ІКАРА

Усход бурліць — сачыць цікава зроку
Над лесам пырскі чырвані гарачай,
А сведкам стаць, хоць ля прыпёку збоку,
Пры адраджэнні міфа — звышудача.

Чаму так вабяць не свае маразмы?
Ікар ляціць — вякі мінаюць цугам.
Ды вось ізноў сляпучы выплеск плазмы
Праз далячынь акрэсліў хорду круга.

Пасля сам круг пакажацца ў натуры,
Дакладней, сонца асвяціла вёску.
Пачаўся дзень з тэмпературы,
Бадай, прыдатнай для плаўлення воску.

Дажджу няма, і што таму прычынай?
У дрэў журба зялёная ў абрысах.
Туман гусцей клубіцца над лагчынай,
Бо нават быльнік на пагорках высах.

Усход без фарбаў стаў і сам панылы,
Ды сімвалічна: міф прыйшоў з Усходу.
Ляці, Ікар, пакуль махаюць крылы:
Бурліць уранку чырвань — на пагоду.



**Анатоль РАЗАНОВІЧ**

# ПОМСТА*

*Апавяданне*

## I

Дэпрэсія дэпрэсіі — розніца. А ў гэты дзень яна ў Івана Васільевіча Раброва была нейкай найбольш безвыходнай, пакутлівай. Чагосьці яму не хапала, нешта яго прыгнятала, незразумела што да яго набліжалася. Толькі чаго і што Раброў не ведаў. Змрочны, згорблены больш звычайнага, быццам на ўсю яго высокую, хударлявую, а таму не зусім устойлівую постаць ціснула пачуццё гэтай безвыходнасці, ён хадзіў туды-сюды ў гасцінічным нумары і, глыбока ўцягваючы дым, курыў цыгарэту за цыгарэтай. Спыніўшыся, выглянуў у акно, скрозь шчыліну якога цягнуў лёгкі, але халаднаваты скразняк, і думаў: «Можа, кінуць усё і з'ехаць, куды вочы глядзяць?..»

Па сутнасці, яму было ўсё роўна: можна з'ехаць, а можна і застацца. Так і не вырашыўшы, што рабіць, Раброў у думках вылаяўся, шкадуючы, што не шанцуе. Ён рэзка выняў з рота цыгарэту, скамячыў яе і з горыччу кінуў у кут.

— Усё не так, — выдыхнуў ён злосна.

Былы начальнік участка з тэлевізійнага завода, а цяпер загадчык аддзела забеспячэння дробнай камерцыйнай фірмы, а дакладней — звычайны штурхач, даставала, як называюць у народзе такую пасаду, Іван Васільевіч прыехаў у раённы палескі гарадок, каб заключыць дамову на пастаўку ягад, у асноўным журавін, у Германію. Дамовы такія з мясцовымі прадпрымальнікамі Раброў падпісваў, але ўпэўненасці ў тым, што ўсё будзе нармальна, у яго не было. Ды і не магло быць: у прыродзе гаспадарыў ліпень, і да збору ягад заставалася процьма часу. А гэта, вядома, магло як дапамагчы, так і згуляць злы жарт. Мабыць, ад гэтай няўпэўненасці на душы Раброва было прыкра.

«Павячэраю, а там будзе відаць, што рабіць», — вырашыў Іван Васільевіч.

Апрануўшы пінжак і прычасаўшыся, Раброў выйшаў з гасцініцы і накіраваўся ў невялікі ўтульны рэстаран, які славіўся сваёй простай, але сытнай беларускай кухняй і да таго ж знаходзіўся непадалёк — на суседняй вуліцы.

* З цыкла «Ліхія 90-я».

---

***Разановіч Анатоль Іванавіч** нарадзіўся 3 лютага 1958 года ў вёсцы Рубель Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ і Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Аўтар празаічных мастацкіх твораў і публіцыстычных матэрыялаў у беларускіх перыядычных выданнях.*

## II

У рэстаране амаль нікога не было. За суседнім столікам сядзеў загарэлы мужчына ў паўрасшпіленай клятчастай кашулі і самотна піў гарэлку, запіваючы півам, а за другім, за кубкам кавы, аб нечым сваім балбаталі дзве паўнагрудыя дзяўчыны. Па ўсім, мясцовыя.

Прысеўшы каля акна за акуратна прыбраны столік, Раброў замовіў сабе салату з агуркоў, бульбачку з катлетамі, паўлітровую бутэльку настойкі горкай «Белавежская», фірмовы напой з ягад каліны і стаў чакаць свой заказ.

На дварэ ўжо вечарэла. Па паўпустыннай, выкладзенай яшчэ польскім брукам вуліцы, ішлі каровы, вяртаючыся з пашы. За імі клыпаў пастух — рыжы хлопец у доўгім, да пят, брудным брызентавым плашчы. У тоўстых, як быццам вывернутых вуснах пастуха, дымілася самакрутка. Ён лянiва азіраўся па баках, нібы правяраў, ці не адстала якая карова і машынальна, мабыць, па даўно выпрацаванай звычцы, махаў пугай. Параўняўшыся з рэстаранам, пастух затрымаў свой погляд на акне, у якое глядзеў Іван Васільевіч, пасля чаго на момант спыніўся, дэманстратыўна выплюнуў дакураную самакрутку і з крывой усмешкай нешта сказаў. Напэўна, хлопец, убачыўшы ў рэстаране сумнага Раброва, захацеў ці то абразіць яго, ці то выказаць сваё негатыўнае стаўленне да піцейных устаноў і тых, хто такія ўстановы наведвае. Ад гэтага Івану Васільевічу стала непрыемна, і ён адвярнуўся ад акна. Пачуццё безвыходнасці яшчэ больш абвастрылася, яго ахапіла незразумелая трывога.

«Можа, захварэў?» — мільганула думка.

Ён дастаў цыгарэты, закурыў.

Афіцыянт, лысаваты грузны мужчына, падобны на цыгана, прынёс заказ. Бліснуўшы залатым зубам, абыякава кінуў:

— Чым багаты — тым рады.

Раброў наліў сабе гарэлкі, выпіў. Узяўшы агурок, адкусіў трохі, астатняе паклаў на талерку: есці не хацелася. Наліў другую чарку і толькі паднёс яе да рота, як пачуў знаёмы бас:

— А я думаю, хто гэта?.. Ваня?..

Іван Васільевіч падняў галаву. Перад ім, расплыўшыся ў лагоднай усмешцы, узвышаўся яго былы аднакурснік Цімафей Андрэевіч Зданевіч. Поўны, чырвоны, быццам пераспелы памідор, ён злёгку хістаўся і з п’янай любоўю пазіраў на Раброва.

— Ты, брат, усё такі ж, — Цімафей Андрэевіч жартаўліва пагразіў Івану Васільевічу тоўстым пальцам. — Спартыўны, як тады, у інстытуце... Ну, што сядзіш, абдымемся, ці што?..

— Прывітанне, — узрадаваўся Раброў, паднімаючыся.

Адразу падабрэўшы ад гэтай нечаканай і прыемнай сустрэчы, ён нейкі час збянтэжана стаяў, нібы баяўся, што Зданевіч, як з’явіўся, так можа і знікнуць, пасля чаго падаўся да яго.

— Якім ветрам тут? — прагрымеў Зданевіч, пляснуўшыся ў крэсла, якое жаласліва зарыпела пад магутным седаком. І тут жа, дурнавата прыжмурыўшыся, папракнуў: — Мяне, напэўна, ужо не памятаеш?..

— Як жа, цябе забудзеш, — аджартаваўся Іван Васільевіч. — Ты ж, бачу, расцеш усё... Феномен.

— Гм... — Цімафей Андрэевіч хітнуў палыселай галавой, паляпаў даланёй-рыдлёўкай па сваім тоўстым жываце. — Не расту, брат, а старэю.

— Добра, справа звычайная, — Раброў зноў засумаваў. — Давай вып’ем, калі нас занесла сюды абодвух.

— Давай, — згадзіўся Зданевіч. — Перакулім, як у юнацтве, гэтую горыч. Дзе наша не прападала?.. — Ён падняўся, узяў з суседняга століка, за якім нікога не было, чарку, сам наліў у яе гарэлку. — Ну, за сустрэчу!

Выпілі. Цімафей Андрэевіч папрасіў афіцыянта прынесці што-небудзь з мясных страў і дзвесце грамаў гарэлкі. Не прайшло і пяці хвілін, як афіцыянт падаў на стол нарэзку з мяса і каўбасы, паставіў графін з гарэлкай. Закусваючы, Іван Васільевіч і Зданевіч маўчалі, з цікавасцю пазіраючы адзін на аднаго. Яно і зразумела: столькі гадоў не бачыліся.

— Расказвай, — першым пацікавіўся пра жыццё свайго былога аднакурсніка і прыяцеля Цімафей Андрэевіч. — Што, дзе, як?..

— У цябе пытанні, быццам у следчага, — заўважыў Раброў.

— А ты меў справу са следчымі? — Зданевіч уважліва паглядзеў на Івана Васільевіча. — Га?..

— Не накаркай, — кінуў Раброў. — Я працую сумленна.

— Я таксама, — уздыхаючы, выціснуў Цімафей Андрэевіч. — Ва ўсякім выпадку, стараюся... Ну, слухаю цябе.

— А чаго мяне слухаць, — пацiснуў плячыма Іван Васільевіч. — Прыехаў вось да вас у раён па ягады. Ужо трэці дзень тут.

— Фу-ты, ну-ты, — развязна фыркнуў Зданевіч. — Напэўна, па журавіны?

— У асноўным па іх.

— А колькі табе трэба?

— Хоць бы тону, ці дзве, — пацiснуў плячыма Раброў. — А атрымаецца больш — яшчэ лепш.

— У такім выпадку табе да мяне трэба звяртацца, — Цімафей Андрэевіч пераможна кіўнуў. — Я тут у раёне не апошні чалавек. Не апошні... — Зданевіч узняў угору ўказальны палец. — Я, брат, намеснік старшыні райспажыўсаюза. Адчуваеш?..

— Адчуваю, — усміхнуўся Іван Васільевіч. — І ўжо па-свойску, па-добраму, як блізкі чалавек, прапанаваў: — Давай яшчэ вып’ем.

— Налівай, — не адмовіўся гаваркі і вясёлы Цімафей Андрэевіч.

— А ты ж інжынер-канструктар, — нагадаў свайму быламу аднакурсніку Раброў. — Я памятаю.

— Быў, — прытворна ўздыхнуў Зданевіч. — Усе мы былі рысакамі... Усе мы — я маю на ўвазе наша пакаленне — былыя: выраслі пры Саюзе, а цяпер не разбярэш, хто і дзе... — Цімафей Андрэевіч гучна, але нявесела рагатнуў. — Быў я канструктарам, у райкаме партыі інструктарам, а сёння займаюся гандлем... Гандлёвы чалавек... Перабудова, суверэнітэт, а на самай справе — ратуйся, хто як можа.

— Інакш кажучы, жыві, як можаш, — уставіў Іван Васільевіч.

— Адзін чорт, што першымі, што другімі, — махнуў рукой Зданевіч і, наліўшы сабе чарговую чарку, спустошыў яе адным махам. — Вось так…

— Калі б так, — а то за грошы, — прамовіў Раброў. — Мабыць, нашы шляхі падобныя. Я зараз таксама займаюся, як кажуць, купі-прадай.

— Значыць, лёс, — падвёў рысу пад быццам бы вясёлай, нават некалькі задзірлівай, а па сутнасці, сумнай размовай Цімафей Андрэевіч. — Сам ведаеш... Быў бы ў мяне капітал, працаваў бы на сябе, а так прыходзіцца гарбаціцца на дзяржаву. А яна прагная, рубля лішняга не дасць... Нават не прасі.

— Прыватнікам быць яшчэ горш, — з ноткамі злосці ў голасе прамовіў Іван Васільевіч. — Я вось у камерцыю падаўся. Думаў, кучу грошай зараблю, але не выйшла — што атрымліваю, тое і раскідаю.

— А-а... Не будзем... — Зданевіч правёў асалавелымі вачамі па зале рэстарана, які быў амаль ужо амаль запоўнены, і рашуча гаркнуў:

— Пятровіч!

Няспешна падышоў афіцыянт — усё той жа мужчына цыганскай знешнасці. На яго масляністым, глянцаватым твары чыталася знарочыстая паслужлівасць, змешаная з насмешкай.

— Што, Цімафей Андрэевіч?

— Як заўсёды! — стукнуў па стале цяжкім кулаком Зданевіч. — Каб добра выпіць і са смакам паесці... Толькі хутка.

Афіцыянт паспешліва прынёс салату з капусты, салёныя агуркі, смажаную каўбасу і літровую бутэльку гарэлкі «Гарбачоў». Адставіўшы чаркі, наліў у фужэры. Амаль па-поўным.

Цімафей Андрэевіч няцвёрдай рукой узяў фужэр і прыжмурыўшы вочы, выдыхнуў:

— Ну, за ўсё добрае, што было ў нас і што будзе...

Зданевіч так махнуў рукой, у якой трымаў відэлец, што з яго зляцеў агурок. Не звяртаючы на гэта ўвагі, асушыў фужэр да дна.

Іван Васільевіч, ужо добра захмялелы, няпэўна кіўнуўшы важкай галавой у знак згоды, выпіў сваю гарэлку.

## III

Былыя аднакурснікі, а цяпер проста знаёмыя людзі, Раброў і Зданевіч, сядзелі доўга, да самага закрыцця рэстарана. Гаварылі, здаецца, пра ўсё, аб чым могуць гаварыць п’яныя мужыкі. У гэтай зацягнутай размове, яны ўсё больш скардзіліся адзін аднаму на свае праблемы, абураліся жыццём: і сваім, і наогул тым, якое іх акружае. Тон іх гутаркі, якая пачалася адносна мірна і весела, рабіўся ўсё больш нервовы, злы, агрэсіўны. Ці таму, што пастарэлі — ім ужо было пад пяцьдзясят — ці таму, што лёсы ў аднаго і другога складаліся няпроста, са зрывамі і няўдачамі, ці таму, што перабралі лішняга. А хутчэй, ад усяго разам узятага.

Іван Васільевіч распавядаў пра тое, як сышоў з завода, калі разваліўся савецкі рынак і айчынныя тэлевізары, у параўнанні з заходнімі, сусветна вядомымі мадэлямі, безнадзейна састарэлі, сталі амаль непатрэбнымі, незапатрабаванымі ў пакупнікоў. І па якасці, і па дызайне, і па кошце. Пачаліся скарачэнні рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў. Раброў, чалавек па натуры горды, звольніўся, праўда, сам. Але што з таго?.. Іншай добрай работы па сваёй спецыяльнасці не знайшоў, стаў выпіваць. І жыццё яго, што абяцала спачатку сямейны дабрабыт і ўдалую службовую кар’еру, пакацілася ўніз. Ён развёўся з жонкай і сышоў жыць у інтэрнат — дом, у якім камунальны побыт сілкуецца не толькі цярплівасцю жыхароў, але і іх слабасцямі. Менавіта з-за гэтага ў характары Івана Васільевіча адбыўся перанлом. Пакуль яшчэ нязначны, ледзь адчувальны, але пачуццё няўпэўненасці, страх перад будучыняй, безвыходнасць завалодалі Рабровым.

Зданевіч, па характары добры і разгаворлівы, таксама, як выявілася, заблукаў на рынкавых прасторах. Збіўшыся са шляху, ён пачаў калясіць па былым Саюзе ў пошуках простага чалавечага шчасця, якое будуецца ў добрай сям’і, на нармальнай працы, пад надзейным дахам над галавой. Але, на жаль, марна. Паматаўшыся некалькі гадоў па неабсяжных прасторах былой вялікай краіны, Цімафей Андрэевіч вярнуўся ў свой родны гарадок, на бацькаўшчыну.

Добра, што, у рэшце рэшт, уладкаваўся на нядрэнную прыбытковую працу ў райспажыўсаюзе. Спачатку быў простым спецыялістам у гандлёвым аддзеле, потым выбіўся ў намеснікі старшыні па гандлі. Але што пасады, грошы, калі сям'я пасля шматлікіх пераездаў распалася і ў былой кватэры, якая засталася яму ад бацькоў у спадчыну, пасялілася адзінота. Здавалася, назаўжды.

І Раброў, і Зданевіч апынуліся выкінутымі за борт новага, невядомага ім жыцця. Аб былым жыцці ў іх засталася толькі памяць, ды і тая паступова сыходзіла ў нябыт.

— А ўсё ён нарабіў! — ткнуўшы пальцам у этыкетку з выявай Гарбачова, загрымеў на ўсю залу Цімафей Андрэевіч. — Ён, перабудоўшчык, халера яго бяры!.. Усё ён!..

І так чырвоны, Зданевіч пабарвавеў. На яго злым, перакошаным твары чыталася нянавісць, якая збіралася доўга і цяпер смела, адчайна выплюхвалася вонкі.

Іван Васільевіч і сам не ўспрымаў тых змен, якія адбыліся ў рэчаіснасці, але вярнуць назад былое немагчыма.

— Не дуры, — паспрабаваў ён супакоіць Цімафея Андрэевіча. — Усе мы вінаватыя, усе.

— Не, ён, Гарбачоў! — не сунімаўся Зданевіч.

Наведвальнікі рэстарана спачатку толькі паглядалі на ап'янелых сяброў, але ўжо праз некалькі хвілін сталі з цікавасцю назіраць за сцэнай, якая разыгрывалася за іхнім сталом.

— Маўчы, — папрасіў Раброў. Яму стала няёмка за Цімафея Андрэевіча. — Перажывём, не такое перажывалі.

— Сумняваюся, — незадаволена сказаў Зданевіч. — Даўно ўжо сумняваюся.

— Перажывём, — упэўнена, але і не настойваючы на сваім, глуха паўтарыў Іван Васільевіч, супакойваючы ўжо не толькі Зданевіча, але і сябе.

Пасля бурнай сцэны былыя аднакурснікі змоўклі. Цімафей Андрэевіч апусціў галаву і, здавалася, ціха, без слёз, плакаў. Раброў стомлена і раўнадушна глядзеў у цёмнае акно, нібы там, за даўно нямытым, брудным шклом вось-вось з'явіцца той, хто супакоіць душу Зданевіча, а заадно і яго, Івана Васільевіча, душу, верне былы, не вельмі сытны, але адносна добры стары час, у якім засталіся іх маладосць, надзеі, бурнае жыццё. Верне не толькі гады, але і ўсё тое, у што верылася, марылася і здавалася непахісным, вечным. Яно, гэтае непарушнае і вечнае, абяцала поўнае радасці і поспехаў жыццё. На жаль, амаль нічога не спраўдзілася, і ўжо наўрад ці спраўдзіцца.

Цімафей Андрэевіч раптам рэзка падняў галаву, павольна, ужо праз сілу выпіў гарэлку, што засталася ў фужэры, цяжка падняўся і шумна выдыхнуў:

— Паедзем да мяне.

Раброў адмоўна пакруціў галавой. Яму было дрэнна, хацелася спаць.

— Паедзем, — яшчэ раз прапанаваў Зданевіч, які прыкметна хістаўся, хоць і трымаўся за спінку крэсла.

Іван Васільевіч няўпэўнена ўстаў, працягнуў руку і паабяцаў:

— Я заўтра прыеду.

— А сёння? — не хацеў адступіцца ад свайго Цімафей Андрэевіч.

— У мяне тут машына, — патлумачыў Раброў. — Да пабачэння, Цімафей.

Зданевіч горача абхапіў руку Івана Васільевіча сваімі мядзведжымі лапамі. Потым моцна абняў прыяцеля, абслюнявіў яго худую жылістую шыю.

Абдымаючыся, яны ледзь не ўпалі на падлогу.

— А можа, усё ж такі паедзем? — у які раз запытальна прагудзеў Цімафей Андрэевіч.

Раброў заплюшчыў вочы. Здавалася, ён вось-вось засне стоячы. З сілай расціснуўшы набрынялыя павекі, Іван Васільевіч з цяжкасцю павярнуў да дзвярэй вялікае цела Цімафея Андрэевіча, якое аддавала гарачынёй.

— Ідзі, — Раброву стала шкада былога аднакурсніка. — Ідзі...

Зданевіч, развітваючыся, моцна абняў Івана Васільевіча, нібы праводзіў яго так далёка і назаўсёды, што нават не ведаў, ці пабачыць яшчэ калі-небудзь. Потым, доўга корпаючыся ў кішэнях, знайшоў сваю візітную картку, сунуў яе Раброву і, ледзь не падаючы, паплёўся да выхаду.

Іван Васільевіч з палёгкай апусціўся на крэсла. Цела яго адразу абмякла, усё вакол паплыло, навалілася дрымота.

## IV

Рэстаран закрываўся апоўначы. Афіцыянты прыбіралі са сталоў посуд і падлічвалі выручку.

Раброў, падпёршы галаву рукамі, засынаў і ўжо бачыў сон. Але гэта было быццам наяве, цяпер, у гэтым рэстаране. На Івана Васільевіча глядзеў рыжы пастух, што гнаў кароў з пашы. Глядзеў доўга, уладна, ацэньваюча. У яго вуснах дымілася самакрутка. Густы і чорны дым ад яе падымаўся да столі, засціў святло. І калі ў зале стала амаль зусім цёмна, пастух выплюнуў недакурак і голасам, які не церпіць пярэчання, загадаў:

— Уставайце!

Раброў хацеў устаць, але цела не слухалася. Усе суставы сталі быццам драўлянымі. Пастух, скрывіўшы вусны ў пагардлівай і знішчальнай ухмылцы, рэзка махнуў пугай. Іван Васільевіч здрыгануўся і... прачнуўся.

Над ім, схіліўшыся, стаяў афіцыянт. Абнімаючы Раброва, лёгенька штурхаў яго ў плячо.

— Уставайце...

Іван Васільевіч з цяжкасцю прыйшоў у сябе.

— З вас восемдзесят тры тысячы, — афіцыянт паклаў на стол рахунак. — Вось...

Раброў машынальна кіўнуў:

— Дзякуй. Адну хвіліну...

Ён палез у кішэню, каб дастаць партманет. Але яго не было. Іван Васільевіч праверыў усе кішэні — пуста.

— Дзе ж грошы? — прамармытаў сам сабе.

Афіцыянт цярпліва чакаў. Па яго расчырванелым перад канцом змены твары было відаць, што ён павячэраў ужо, не без гарэлкі, вядома. А таксама, што афіцыянт можа дазволіць сваім кліентам не вельмі спяшацца, нават пасядзець і выпіць яшчэ. Але, зразумела, за дадатковую плату.

— Прабачце, — Раброў вінавата ўсміхнуўся. Усмешка атрымалася крывой і жаласлівай. — Я партманет, мабыць, у гасцініцы забыўся. Зараз прынясу.

З твару афіцыянта адразу ж зляцела дабрадушнасць. Ужо строга, з адценнем перавагі, ён працадзіў:

— Гэта вам будзе каштаваць даражэй. Сашка!..

З-за століка, што стаяў у самым куце, падняўся высокі мардаты хлопец з чорнай кучаравай шавялюрай.

— Правядзі кліента, — паказаўшы вачамі на Івана Васільевіча, коратка загадаў афіцыянт. — З яго сто тысяч.

Хлопец важна падышоў да Раброва, бесцырымонна ўзяў пад руку.

— Пайшлі.

Гэта абразіла Івана Васільевіча і ён, адкінуўшы руку незнаёмага яму Сашкі, якога афіцыянт прыставіў да яго, Раброва, як праважатага, рэзка падняўся. Ад гэтай рэзкасці яго гайданула. Ледзьве ўтрымаўшыся на нагах, ён няцвёрдай хадой накіраваўся да выхада. За ім следам заспяшаўся мардаты дзяцюк.

На вуліцы Іван Васільевіч прагна ўдыхнуў свежага, змешанага з пахам адцвітаючага бэзу, паветра. Сілячыся прагнаць хмель, ён правёў узмакрэлай далонню па твары і адразу ж адчуў боль у страўніку, а за ім — млоснасць. Неўзабаве яго званітавала.

Бамбіза грэбліва паморшчыўся, сплюнуў сабе пад ногі.

Пасля гэтага Іван Васільевіч адразу ж адчуў палёгку, уздыхнуў і, няўцямна зірнуўшы на хлопца, прамовіў:

— Хадзем.

Гарадок ужо спаў. Па напаўасветленай вуліцы нетаропка прайшла маладая падвыпіўшая пара, ды каля смеццевага кантэйнера курняўкалі каты.

Ля ўвахода ў гасцініцу Раброў спыніўся, папрасіў свайго праваднiка:

— Пачакай тут, я хутка.

— Хадзем разам, — холадна буркнуў малады здаровы мужчына.

Яго мясісты, хмурны і незадаволены твар, чымсьці быў падобны на твар афіцыянта з рэстарана — Пятровіча.

Іван Васільевіч, паціснуўшы плячыма, прамовіў:

— Ну, як хочаш.

Дзяжурная ў вестыбюлі гасцініцы абыякава бліснула на Івана Васільевіча і яго спадарожніка вялікімі лінзамі сваіх акуляраў і ўтаропілася ў пакамечаную газету «Комсомольская правда».

«Ціха, як на балоце, — міжволі падумаў Рабраў. — Да чаго б такая цішыня?..»

Адчыніўшы свой нумар, ён кінуў хлопцу:

— Праходзь.

Пераступіўшы парог, здаравяка бухнуўся ў крэсла. Напаўлежучы, шырока расставіўшы ногі, на якіх, здавалася, трашчалі джынсы, ён паглядаў на Івана Васільевіча.

Абвёўшы гасцінічны нумар уважлівым поглядам, Рабраў на хвіліну задумаўся: «Дзе ж партманет?..»

Ён праверыў кішэні курткі, паглядзеў у шуфлядах пісьмовага стала, глянуў на падаконнік, перабраў асабістыя рэчы ў чамадане, нават зазірнуў пад падушку — партманета нідзе не было.

«Можа, у машыне?» — няўпэўнена падумаў Іван Васільевіч.

Узяўшы ключы, ён падаўся да дзвярэй.

— Куды? — паднімаючыся з крэсла, насцярожана спытаў хлопец. У яго калючых вачах было нешта нядобрае, гатовае вось-вось выбухнуць. — Я доўга чакаць не буду.

— Пайшлі, — спрабуючы ўсміхнуцца, міралюбна сказаў Рабраў, спадзеючыся, што прапажа знойдзецца. — Хутчэй за ўсё, грошы я пакінуў у сваёй машыне.

Адчуваючы на сабе халодны, пранізлівы погляд, ён на хаду павярнуўся і, як старэйшы па ўзросце, павучальна заўважыў:

— Грошы будуць, было б здароўе.

— Давай шагай, — не слухаючы, бамбіза груба штурхнуў Івана Васільевіча ў спіну, — ноч ужо.

Раброў стрываў: «Круці не круці, а што трэба заплаці». Але ўнутры яго ўжо кіпела. Ён прыспешыў крокі, амаль цалкам стаў цвярозым.

«Разбяромся...»

Машыну, старэнькія «Жыгулі», Іван Васільевіч паставіў не на аўтастаянцы, а каля яе, каб у любы час, не пытаючыся вартаўніка, можна было забраць. Машына стаяла на тым жа месцы, і была ў тым жа стане. Хіба што пыл, які ліп да «Жыгулёў» ужо некалькі дзён, трохі змяніў колер фарбы — зацямніў задзірліва-чырвоную паліроўку і зрабіў амаль нябачнай невялікую расколіну на ветравым шкле.

Раброў нервова сунуў ключ у дзвярны замок і рэзка павярнуў. Але ключ да канца не павярнуўся, а таму характэрная пстрычка, якая азначае, што дзверцы адчыніліся, не прагучала. Іван Васільевіч паспрабаваў яшчэ раз, але яго стаpанні былі марныя — і да гэтага дрэнна працуючы замок не спрацаваў.

— Халера! — вылаяўся Раброў.

— Дай я, — хлопец нецярпліва працягнуў руку да Івана Васільевіча. — Ключы… Сам адкрыю.

Раброў, злосна зірнуўшы на мардатага здаравяка, павольна, у трэці раз, стаў адчыняць дзверцы сваіх «Жыгулёў», імкнучыся прымусіць паставіць замок у нейтральнае становішча.

— Дай сюды! — зароў дзяцюк і рэзка выхапіў з рук Івана Васільевіча ключы.

— Ты што? — абражана выдыхнуў Раброў.

Яму нясцерпна захацелася накрычаць на гэтага блазнюка, ударыць у яго бычыную шыю.

— Я што!? — узвіўся хлопец, хапаючы Івана Васільевіча за крысо пінжака. — А ты-ы?! Смяешся?!

Дыхнуўшы Раброву ў твар, бамбіза нечакана і амаль імгненна стукнуў кулаком Івану Васільевічу пад дых. Потым, схапіўшы яго за валасы, з сілай сагнуў і ўдарыў каленам у грудзі.

Раброў скурчыўся ад болю, яго занудзіла, перад вачыма ўсё паплыло.

— Ды ты, ды ты, — захрыпеў ён.

І зноў мардаты выцяў яго нагой. На гэты раз у жывот. Адчуваючы, як унутры нешта рвецца, Іван Васільевіч скурчыўся ад болю, апусціўся на калені і бокам, нязграбна, прыхінуўшыся да плота аўтастаянкі, застагнаў.

У гэты час да машыны падышоў невысокі сутулы хлопец, апрануты не па сезоне — у скураную доўгую куртку. На шыі ў яго блішчаў масіўны залаты ланцуг.

— Што, праблемы? — спытаў ён.

— Не без іх, — раздражнёна адказаў мардаты дзяцюк. — Хочаш праехацца?

У яго голасе чулася не пытанне, а хутчэй прапанова, якая прымушала да дзеяння.

— Калі трэба, — хмыкнуў сутулы, косячыся на Раброва.

— На ключы ад машыны, — здаравяк сунуў іх сутуламу. — Будзеш руліць.

Ён вывернуў з-пад плота камень, стукнуў ім па шкле дзвярэй «Жыгулёў». Шкло рассыпалася. Мардаты адчыніў дзверцы знутры, пасля загадаў хлопцу, які падышоў да іх:

— Сядай... Паедзеш, калі скажу.

Сутулы буркнуў:

— Гэта можна.

Павярнуўшыся да Івана Васільевіча, які стаяў нерухома, не маючы сілы сапраціўляцца, здаравяка працадзіў:

— Уставай, паедзем.

Раброў маўчаў: яму было дрэнна, так дрэнна, як калісьці ў войску, на вучэннях, калі яго, напаўжывога, выцягнулі з баявой машыны пяхоты, якая танула.

— Уставай! — прыкрыкнуў бамбіза і, не чакаючы пакуль Іван Васільевіч устане, падхапіў яго пад рукі, павалок у машыну. Запіхнуўшы на задняе сядзенне, сеў побач і з сілай зачыніў дзверцы.

З цяжкасцю разумеючы, што адбываецца, Раброў павольна выпрастаўся, склаў рукі на жываце, нібы збіраўся паміраць, і адкінуў галаву назад. Дыхаў ён шумна, цяжка.

— Ну што? — засвідраваў яго вачыма здаравяка. — Я не жартую.

Раброў маўчаў.

— Плаціць будзеш? — пагрозліва прашыпеў мардаты дзяцюк, пакрываючыся барвовымі плямамі. — Я сапраўды не жартую... Спадзяюся, ты зразумеў.

— Што, няма ў кліента грошай? — падаў голас той, хто сядзеў за рулём. І павярнуўшыся, параіў: — Ты яму кішэні выверні, можа, знойдзеш што.

— Ды што ў яго ёсць? — выціснуў бамбіза.

— А ты глянь, — не хацеў адступіцца ад свайго сутулы.

Падумаўшы, мардаты ўсё ж пагадзіўся.

Ён абхапіў за шыю Івана Васільевіча, і з сілай ірвануўшы так, што, здаецца, у яго затрашчалі косткі, прыціснуў да сябе, пасля чаго скамандаваў свайму саўдзельніку:

— Давай ты паглядзі, а то мне няёмка трымаць яго і ў той жа час шукаць грошы.

Сутулы абмацаў кішэні Раброва, але ў іх нічога не было. Толькі змятая сотня, ды візітоўка з адрасам Зданевіча. Непрыкметна сунуўшы купюру ў сваю кішэню, працягнуў візітоўку мардатаму дзяцюку:

— Вось.

Адпусціўшы Івана Васільевіча, здаравяк прачытаў адрас Цімафея Андрэевіча, яго пасаду. Задаволена ўсміхнуўшыся, дыхнуў у твар Раброву:

— Зданевіч, значыць, сябар твой?..

— Сябар, — ледзь чутна прамовіў Іван Васільевіч.

— Вось ён нам і заплаціць, — упэўнена сказаў бамбіза. — Паехалі на вуліцу Цэнтральную. Гэта каля старога рынка...

Паездзіўшы па вузкіх вулачках і завулках, пад’ехалі да шматпавярховага цаглянага дома, які аднавока глядзеў на пусты двор, акружаны чарнастволымі дрэвамі, кроны якіх былі размаляваны ўжо месяцовай жаўцізной.

— Схадзі да гэтага Зданевіча. — Здаравяк кінуў уладны і ўзбуджаны погляд на кіроўцу. — Скажы, няхай аддасць грошы за свайго сябра, а то я яго закапаю.

Сутулы неахвотна адкрыў дзверцы машыны і знік у цёмным пад’ездзе.

Раброў, аслабелы, змучаны, з нянавісцю павярнуўся да свайго крыўдзіцеля, імкнучыся запомніць яго твар. Але бачыў Іван Васільевіч дрэнна: было цёмна, у вачах мільгалі мудрагелістыя барвовыя цені, балела галава. Напружваючы зрок і памяць, ён усё ж спрабаваў разгледзець здаравяка. Той, заўважыўшы гэта, пагардліва хмыкнуў:

— Што, успомніў, дзе грошы?

— Успомніў, — з намаганнем вымавіў Раброў. — Ты імі хутка падавішся.

— Я? — з выклікам спытаў дзяцюк, прыплюшчваючы вочы, нібы перад ім быў не чалавек, а маленькі дажджавы чарвяк, якога не шкада раздушыць. — Пакуль я, ты падавішся!

Ён рэзка ўдарыў у вуха Івана Васільевіча, потым у вока, яшчэ і яшчэ раз у галаву, не зважаючы, куды і як б'е.

— Сам напрасіўся...

«Сам», — скрыгатаў зубамі Раброў, адчуваючы як разам са слінай з рота пайшла кроў...

Адкрыўшы дзверцы, бамбіза выштурхнуў Івана Васільевіча з машыны, выскачыў сам і стаў біць ляжачага Раброва нагамі. Біў доўга, прыгаворваючы:

— На, на!..

Іван Васільевіч ужо не адчуваў болю. Трацячы прытомнасць, ён раптам убачыў яркае святло, у якім калыхалася нешта вялікае. Яно імкліва набліжалася і ўрэшце накрыла яго ўсім сваім цяжарам, пагражаючы раструшчыць. Раброў, задыхаючыся, страціў прытомнасць. Калі ачуняў, над ім, схіліўшыся, галасіў Цімафей Андрэевіч:

— Што ж яны зрабілі, Божа!.. Што зрабілі...

Іван Васільевіч з неймавернай цяжкасцю ўзняў галаву, агледзеўся. Яго мучыцеля ўжо не было. Машына стаяла побач.

— Апамятайся, брат, апамятайся, — жаласна паўтараў Зданевіч.

Цела Раброва не слухалася. Вочы, а дакладней, адно вока, — другое, з рассечаным брывом, запухла, — закрывалася. Ні пра што не думалася. Хацелася толькі аднаго — спакою.

## V

Прачнуўся Іван Васільевіч пазней звычайнага і адразу, як толькі павярнуўся, адчуў, што баліць усё цела. Асабліва балела ў правым баку, аддавала вышэй, у грудзях. Ад гэтага дыхаць было цяжка, а калі глыбока ўздыхаў, перахоплівала так, што, здавалася, вось-вось сканае. Раброў, сціснуўшы зубы, усё ж прыўзняўся, сеў на ложку.

За акном разлівалася ранішняе святло. Крывы прамень узыходзячага сонца падаў акурат на канапу і каля яе. На гэты светлы, жаўтлявы кавалачак падлогі Іван Васільевіч з цяжкасцю паставіў ногі, якія дрэнна слухаліся. Потым павольна, як стары, аджыўшы сваё дзед, устаў і асцярожна пакульгаў у ванную. Упёршыся рукамі ў ракавіну, утаропіўся ў люстэрка. І... не пазнаў сябе. На Раброва глядзеў апухлы ад сінякоў і ран мужчына няпэўнага ўзросту. Толькі вочы, хоць і нейкія чужыя, усё ж нагадвалі сапраўднага Івана Васільевіча: строгага, падцягнутага, заўсёды гладка выгаленага.

— Сволач, — сіпла выціснуў разбітымі, з запечанай крывёю, вуснамі Раброў, успамінаючы мардатага дзецюка з рэстарана. — Сволач...

Іван Васільевіч няўпэўнена, без лішніх рухаў, каб не так балела, памыўся. Ледзь дакранаючыся ручніком да цела, быццам прамакаткай, асцярожна стаў выцірацца. Калі адчуў, што твар высах, хацеў ісці ў пакой, прылегчы, але не змог: закружылася галава, павяло ўбок. Раброў прысеў на краёчак ванны, спыніў погляд на сцяне. Яму здалося, што белая плітка захісталася, потым стала як быццам шурпатай, падобнай на буйны чысты снег. Івану Васільевічу захацелася зачэрпнуць далонню жменю гэтага снегу, прыкласці да твару,

замарозіць пухліну і сінякі, каб суняць боль. Але праз хвіліну міраж знік: замест снегу перад вачамі зноў з'явілася плітка. І не шурпатая, а гладкая. Яе бліскучая паліроўка быццам аддавала гарачынёй. І раптам плітка разам са сцяной зноў захісталася. Раброў, каб не ўпасці, мацней сціснуў пальцамі край ванны. Пасядзеўшы так некаторы час, падняўся і цяжка патупаў на кухню: хацелася піць — чаго-небудзь халоднага. Ён адкрыў халадзільнік, дастаў бутэльку кефіру. Піў доўга, у некалькі прыёмаў. Унутры трохі адлягло. Іван Васільевіч прайшоў у залу, лёг на канапу і адразу ж задрамаў. Калі прачнуўся, гадзіннік паказваў апоўдні. Было чуваць, як на кухні лілася з крана вада, нешта варылася на газавай пліце. «Зданевіч», — здагадаўся Раброў. Яму зноў прыгадалася ўчарашняе: рэстаран, гасцініца, пабоі, словы мардатага дзецюка «Сам напрасіўся...»

Чым больш падрабязна Іван Васільевіч успамінаў усё тое, што здарылася з ім, тым больш балюча было яму, сталаму мужчыну. І фізічна, і душэўна. Хацелася ўстаць, сысці, схавацца ад гэтай ганьбы, ад усяго таго, што акружала яго зараз, а галоўнае — задушыць у сабе ўвесь гэты цягучы, калючы і рэжучы боль. Раброў міжволі закрыў твар рукамі і тут жа, ад неасцярожнага дотыку, застагнаў. Гэта яго вярнула ў сапраўдны стан. Ён зразумеў, што трэба сядзець у чужой кватэры і чакаць пакуль хоць трохі сыдзе пухліна, і з большага зажывуць ранкі.

Іван Васільевіч міжвольна застагнаў. На гэты стогн у пакой увайшоў Цімафей Андрэевіч. Выглядаў ён няважна: пад вачыма сінелі вадзяністыя мяшкі, пад носам блішчаў пот.

— Ну, як? — спагадліва пацікавіўся Зданевіч.

— Не ведаю, — адварочваючыся, пацiснуў плячыма Раброў.

— Я разумею... — Цімафей Андрэевіч пакруціў галавой. — Сам аднойчы апынуўся ў такой сітуацыі... Не дай бог.

— Каб ведаў, дзе ўпаду, саломку б падсцяліў, — хмурна прамовіў Іван Васільевіч. — Пройдзе.

— Павінна прайсці, — не зусім упэўнена падтрымаў свайго былога аднакурсніка Зданевіч. — Ты ўставай і давай да стала. Трэба табе, брат, паесці... Падмацавацца...

Іван Васільевіч, абапіраючыся на бакавіну канапы, падняўся, прайшоў на кухню. Цімафей Андрэевіч паклаў яму ў талерку яечню і кавалак вяндліны.

— Еш, папраўляйся.

Раброў не адказаў. Адрэзаўшы кавалачак мяса, стаў жаваць. Але млява, як быццам неахвотна, бо апетыту не было.

— Можа, наліць? — спытаў Зданевіч.

— Давай, — абыякава пагадзіўся Іван Васільевіч, усведамляючы, што ехаць яму дадому прыйдзецца не раней, чым праз тыдзень-два: пабоі не жартоўныя, выходзяць з хрыпамі, кашлям і крывёй у сліне.

Цімафей Андрэевіч наліў па паўшклянкі «Рускай». Гледзячы ў стол, сказаў:

— Ну, каб усё наладзілася.

Раброў перакуліў шклянку, запіў вадой. Бачачы, што Зданевічу неяк не па сабе, прамовіў:

— Усё наладзіцца.

— Вядома, — павесялеў, Цімафей Андрэевіч. — Ты еш, еш.

— Не турбуйся. — Раброў паклаў відэлец. Уважліва, наколькі гэта было магчыма ў яго становішчы, паглядзеў у вочы Зданевічу і прама спытаў: — Табе няёмка за мяне?

Цімафей Андрэевіч сумеўся.

— Ты чаго?

— Нічога, — Іван Васільевіч узяў відэлец. Калупаючы мяса, здушана прамовіў: — Мне сорамна. Але я сам вінаваты, што выпіў лішняе. Сам... Ведаеш, мне нават пра гэта сказаў хлопец з рэстарана, які мяне біў... Так. І я пагадзіўся. Але ўнутры ў мяне ўсё роўна агонь... Ён не проста гарыць, ён разгараецца. Разумееш?

— Не вельмі, — насцярожыўся Цімафей Андрэевіч, адчуваючы сваю віну ў тым, што адбылося.

— Брыдка, — Раброў скрывіўся. — Не хочацца жыць.

— Ды я, ды я... За цябе... — Зданевіч, не дагаварыўшы, узбуджана падхапіўся, паклаў тоўстую руку на плячо Раброва. — Ты гэта, брат, кінь. Мы — сябры.

— Так, — пагадзіўся Іван Васільевіч, — больш не буду. — Ён стомлена заплюшчыў вочы, але тут жа адкрыў іх і, каб не маўчаць, спытаў ці то ў Цімафея Андрэевіча, ці то ў сябе: — Можа, у міліцыю паведаміць?

Зданевіч змяніўся ў твары.

— Ты што, гэта ж крыміінальнікі, — пераходзячы ад хвалявання на шэпт, паведаміў ён. — Не чапай іх.

Раброву, які і так пакутаваў ад болю, стала яшчэ больш балюча: Цімафей Андрэевіч, вялікі і моцны мужчына, на выгляд ліхі казак, нарэшце, далёка не апошні чалавек у раёне, спалохаўся.

— Добра, — Іван Васільевіч апусціў галаву. — Закрыем тэму... І так, хоць вый.

Размова паміж былымі аднакурснікамі, якія з радасцю сустрэліся і амаль урачыста адзначылі гэтую падзею, больш не клеілася.

Зданевіч, хутка паеўшы, зазбіраўся на працу. Сыходзячы, вінавата, хаваючы погляд, прамовіў:

— Я хутка вярнуся, і мы ўсё вырашым. А ты адпачывай, патэлефануй, калі хочаш, сабе на службу.

Ён пайшоў. Раброў зноў лёг на канапу, заскрыгатаў зубамі ад бяссілля і крыўды.

## VI

Больш за тыдзень Іван Васільевіч праваляўся на канапе Цімафея Андрэевіча. Пухліна Раброва амаль спала. Ранкі пакрыліся скарынкай, якая трэскалася і злазіла.

Фізічны боль у Івана Васільевіча сышоў. Але боль душэўны! Ён прыходзіў раптоўна, пры нервовых прыступах, адпускаў павольна, быццам здзекуючыся. Гэты боль не даваў Раброву нармальна есці, спаць, думаць. Ён быццам шукаў для сябе нейкі толькі яму вядомы выхад, каб аднойчы пакінуць цела Івана Васільевіча і ўсяліцца ў каго-небудзь іншага альбо загінуць разам з ім. І, нарэшце, знайшоў.

Раброў, пакутуючы ад бяссоння, уключыў тэлевізар. На экране ішоў чарговы баявік. Чарнявы, сярэдняга ўзросту паліцэйскі, на велізарным джыпе з шалёнай хуткасцю імчаў па закінутай, дарозе. На вяроўцы, прывязанай да аўтамабіля, крывавіла зямлю цела знявечанага бандыта. Упіваючыся сваёй уладай, хуткасцю і пачуццём помсты, паліцэйскі крычаў:

— Ты хацеў гэтага, хацеў!..

Прывязаны бандыт, пакутуючы ад невыноснага болю, паміраў. На ўвесь экран гарэлі яго вялікія, пашыраныя ў вар'яцтве вочы.

— Атрымлівай тое, што ты рабіў з іншымі! — крычаў паліцэйскі і яго твар гарэў ад праведнага гневу. — Атрымлівай!

Іван Васільевіч, не адрываючыся, глядзеў на экран. Яму захацелася зрабіць гэтак жа са сваім катам — мардатым бамбізам з рэстарана. І Раброў вырашыў: «Я заб'ю яго...»

У гэтую ноч ён ужо не мог спаць. Узбуджаны сцэнай справядлівага, на яго погляд, гвалту, Іван Васільевіч абдумваў дэталі помсты. Менавіта яна, жорсткая і неадкладная, здавалася яму, будзе выратаваннем ад болю, ганьбы, крыўды, безвыходнасці, якая, як п'яўка, ненаедна высмоктвала з яго кроў. Толькі адпомсціўшы, з надзеяй думаў Раброў, ён пакончыць са сваім старым і ўжо брудным жыццём, і зажыве новым — незамутнёным, чыстым.

Назаўтра, устаўшы крыху раней, Іван Васільевіч прыняў душ, чыста пагаліўся, апрануўся.

— Ого! — убачыўшы Раброва, усклікнуў Зданевіч. — Ты, брат, як жаніх... Кажу, што думаю.

Іван Васільевіч, упершыню за некалькі дзён выціснуў усмешку. Але яму было не да весялосці: думка пра помсту, якая захапіла яго ноччу, не давала спакою, падштурхоўвала да дзеяння, якое невядома чым можа скончыцца. Але што вырашана, тое вырашана.

— Цімафей, даведайся прозвішча і адрас таго хлопца, здаравеннага, з рэстарана, што біў мяне, — без лішніх размоў папрасіў Раброў. — Даведайся, мне трэба.

Зданевіч уздыхнуў, з сілай, нібы праганяючы сваю нядаўнюю слабасць, расцёр сабе патыліцу і, уважліва паглядзеўшы ў вочы былога аднакурсніка, згодна кіўнуў:

— Добра. Толькі я табе нічога не гаварыў.

Іван Васільевіч працягнуў руку.

— Само сабой.

Цімафей Андрэевіч удзячна і моцна паціснуў, хрыплавата сказаў басам:

— Ты даруй мне, даруй... Мне жыць тут. Жыць.

— Я разумею...

Яны адчулі, што развітваюцца. Быць можа — назаўсёды.

Калі Зданевіч пайшоў на працу, Раброў прысеў, але тут жа ўстаў, нервова захадзіў па пакоі, адчуваючы трывогу, якая ішла аднекуль знутры, здавалася, з самага сэрца, прымушаючы яго біцца часцей, потым раптам павольна, яшчэ больш марудна...

«Як перад смерцю», — міжволі падумаў Іван Васільевіч і спалохаўся сваёй думкі. У гэтым стане ён хутка прайшоў на кухню, дрыготкімі рукамі ўключыў кран, набраў шклянку халоднай вады і залпам выпіў. Паступова сэрца Раброва супакоілася, страх прайшоў. Іван Васільевіч сеў у крэсла і заглядзеўся ў акно.

У двары грузны пажылы мужчына ў спартыўным трыко прагульваў сабаку — вялізнага чорнага дога. Непадалёк на лаўцы сядзела маленькая высахлая бабулька ў доўгай старамоднай сукенцы і гладзіла пухнатага рыжага ката, які, гулліва выгінаючы спіну, цёрся каля яе ног. Гуляючы, дог увесь час паглядаў на ката, гыркаў. Калі мужчына, загледзеўшыся, прыслабіў ланцужок, дог вырваўся і панёсся да ката. Спалоханы кот, надзьмуўшыся, зашыпеў, але тут жа кінуўся наўцёкі. Бабулька ад страху ўскрыкнула. Гаспадар сабакі закрычаў на ўвесь двор:

— Джэк, Джэк, месца!..

І кот, і сабака зніклі за суседнім домам. За імі заспяшаліся мужчына і бабулька.

«Вось яно, жыццё, — падумаў Раброў. — Перамагае сіла».

Ён устаў, закурыў. Зацягнуўшыся некалькі разоў, і не дакурыўшы цыгарэту, кінуў яе, зноў захадзіў па пакоі.

У гэты час зазваніў тэлефон. Іван Васільевіч зняў трубку і насцярожана прамовіў:

— Слухаю вас.

Тэлефанаваў Цімафей Андрэевіч. Спытаў ціха, з прыдыханнем:

— Усё нармальна?

— Так, — Раброў чамусьці глянуў на ўваходныя дзверы і паўтарыў: — Так.

— Запісвай адрас...

Запісаўшы, узбуджаны Іван Васільевіч падышоў да акна. Мужчына ў трыко, быццам нічога не здарылася, гуляў з сабакам. Самотна сядзела на лаўцы бабулька. Ката нідзе не было відаць.

Двор жыў сваім звычайным жыццём.

«Трэба ехаць», — вырашыў Раброў і стаў збірацца.

Ён склаў свой, як называў, паходны прыбор для брыцця, зняў з батарэі вымытыя шкарпэткі, кашулю. Загарнуўшы ўсё ў газету, паклаў у сумку і задумаўся: «Што яшчэ?..»

Іван Васільевіч збіраўся нязвыкла вяла, задумліва: нешта яго не адпускала, трымала. Зачыніўшы на замок сумку, ён сеў на канапу, якая стала за гэты час для яго роднай, паклаў рукі на калені і абыякава ўтаропіўся ў сцяну. Яшчэ паўгадзіны таму, поўны энергіі і рашучасці адпомсціць свайму крыўдзіцелю, цяпер Раброў не хацеў ехаць, што-небудзь рабіць.

Так ён сядзеў доўга, і амаль нерухома.

Стрэлкі гадзінніка набліжаліся да дванаццаці. Калі яны сышліся, пачуўся гулкі звон, які нагадваў царкоўны.

Іван Васільевіч здрыгануўся, агледзеўся і неяк асуджана падняўся. У апошні раз агледзеўшы сваё часовае жыллё, узяў сумку і не спяшаючыся выйшаў на вуліцу.

Яго «Жыгулі» стаялі пад домам: цэлыя, вымытыя, з новым шклом у дзверцах, якое паставіў Зданевіч. Звыкла агледзеўшы машыну, Раброў заўважыў, што каўпакоў на колах няма. «Хуліганнё», — незласліва абазваў ён выкрадальнікаў. Сеўшы за руль, павольна паехаў у цэнтр горада.

Па дарозе Іван Васільевіч убачыў злашчасны рэстаран. І адразу ж, міма сваёй волі, адчуў, як галаву абдало гарачынёй. Яму здалося, што ў акне рэстарана заўважыў тлустую постаць афіцыянта Пятровіча і з ім яго пасыльнага — здаравеннага, упэўненага ў сабе і сваёй беспакаранасці мардатага дзецюка.

Успомнілася Раброву тая ноч...

Ён, скрыгатнуўшы зубамі, націснуў на газ. Спыніўся ўжо за горадам. Цела яго дрыжала, чамусьці хацелася есці.

«Я заб’ю яго, заб’ю!» — зноў застукала, прычым з новай сілай, у запаленым мозгу Івана Васільевіча.

Сціснуўшы руль, ён паспрабаваў засяродзіцца. Але з гэтага нічога не выйшла. Раброў адчыніў дзверцы, выйшаў з машыны, вырваў жмут травы, расцёр ёю твар. Трохі супакоіўшыся, уздыхнуў з палёгкай, падняў погляд да неба. Яно было бяздонна-цёмным, як велізарны вір, які прыцягвае да сябе, быццам у ім ёсць нешта тое, чаго не хапае людзям у іх звычайным жыцці.

— Так, — няпэўна кінуў Іван Васільевіч, сядаючы ў машыну.

Запусціўшы рухавік, ён паехаў назад у горад: трэба было сапраўды штонебудзь перакусіць.

Спыніўся каля крамы. Каля яе ўвахода, на ганку, стаялі два падвыпіўшыя мужыкі, апранутыя ў брудныя робы. Адзін — высокі, з доўгімі светлымі валасамі і вуграватым, хваравітым тварам, а другі — сярэдняга росту, лысы, круглатвары, з барвовым носам-бульбінай, адвіслым мешкаватым жыватом. «Дарожнікі», — падумаў Раброў. Ён хацеў прайсці паўз іх, але яны яго спынілі. Высокі, паказваючы закарэлы кулак з паднятым дагары вялікім пальцам і адтапыраным мезенцам, прапанаваў:

— Трэцім будзеш?

Івану Васільевічу трэба было супакоіцца, сабрацца з думкамі і ён згодна кіўнуў:

— Буду.

Рабочыя тут жа пайшлі ў краму. Праз хвілін пяць вярнуліся. На іх грудзях адтапырваліся целагрэйкі, пад якімі адгадваліся бутэлькі.

— Куды пойдзем? — дзелавіта спытаў лысы.

Раброў агледзеўся.

— Дык да мяне, у машыну.

— Згода, — ухмыльнуўся высокі. — Будзем як у рэстаране.

— І вы туды ж, — нервова крутануў галавой Іван Васільевіч. — Сукі.

І высокі, і лысы, пераглянуўшыся, няўцямна паглядзелі на Раброва.

— Гэта я не вам, — махнуў рукой Раброў. — Аднаму афіцыянту і яго сябру... Не звяртайце ўвагі.

— Глядзі, — папярэдзіў высокі. — Мы людзі простыя, можам і ў вуха даць.

— Гэта не вам, — паўтарыў Іван Васільевіч.

— Добра, — выціснуў лысы, — забылі…

У машыне рабочыя паклалі на сядзенне тры бутэлькі таннага партвейна і пластмасавыя шкляначкі, дасталі няхітрую закусь: кавалак сала, хлеб, галоўку часнаку. Адкаркавалі бутэлькі.

— Ну, будзем, — лысы падняў напоўненую вадкасцю шкляначку, якая непрыемна пахла.

— Будзем, — падтрымаў яго высокі.

Яны выпілі, налілі яшчэ і зноў апаражнілі свае шкляначкі. Пасля гэтага, без перапынку, у чарговы раз напоўнілі свой пластмасавы посуд вермутам.

«Будзем», — выпіваючы, у думках прамовіў сам сабе Раброў. Закусваючы, як бы між іншым, спытаў:

— А вы ў мясцовым рэстаране бываеце?

— Часам заходзім на піва, — сказаў лысы, хмялеючы. — А што?

— Ды нічога, — Іван Васільевіч кінуў у рот зубок часнаку, зажаваў з хлебам, адчуваючы горыч. — Там афіцыянт, пра якога я казаў, працуе. На цыгана падобны.

— А-а, — працягнуў высокі. — Гэта Сцяпан Моніч, мой сусед. Там і сын яго падзарабляе.

У Раброва ўсярэдзіне пахаладзела.

— Гэта хто? — спытаў ён.

— Дык Сашка, здаравенны такі бугай, — патлумачыў высокі. — Ужо адседзеў, паскуда...

— А які хатні адрас у гэтых Монічаў? — спытаў Раброў, ужо сумняваючыся, што Монічы жывуць там, дзе гаварыў Цімафей Андрэевіч, дыктуючы іх адрас па тэлефоне.

— Адрас?.. — высокі ўхмыльнуўся. У яго мутных вачах з'явілася насцярожанасць, але тут жа знікла. — Адрас звычайны: вуліца Чапаева, дом шаснаццаць... Я ж кажу: жыве са мной па суседстве...

Горыч ад часнаку апякла нутро Івана Васільевіча, перахапіла дыханне. Ён уявіў сябе ў рэстаране, зноў убачыў крываногага пастуха, яго ўхмылку, пачуў свіст бізуна, жорсткі загад: «Уставайце!..»

Раброву ўспомнілася, як яго будзіў афіцыянт. «Вось яно што, — мільганула ў Івана Васільевіча здагадка. — Партманет ён скраў, Пятровіч. А сынок падзякаваў... Падзякую і я…»

Раброў больш не піў. Яго зноў ахапілі дрыжыкі, паднялася і выходзіла вонкі злосць. З нецярпеннем дачакаўшыся, пакуль рабочыя дап'юць віно, ён пацікавіўся:

— Вы зараз куды?

— Пабуду яшчэ тут, — прамовіў лысы, закурваючы цыгарэту. — Каля крамы. Можа, каго знаёмага сустрэну.

— А я дадому, — кінуў высокі. — Жонка сказала, каб прыйшоў крыху раней.

— Я давязу.

Іван Васільевіч, хутка выкінуўшы рэшткі сціплага балявання, рэзка павярнуў ключ запальвання. «Жыгулі» спачатку няўпэўнена, а потым усё хутчэй паляцелі па раённым горадзе. Як толькі павярнулі на вуліцу Чапаева, высокі крыкнуў:

— Тармазі!..

Раброў высадзіў добра падвыпітага вуграватага рабочага каля яго дома і адразу ж, трохі ад'ехаўшы, паставіў свае «Жыгулі» за маладой нізкарослай бярозкай, каб яны не так кідаліся ў вочы. Праз ветравое шкло Іван Васільевіч бачыў усе чатыры пад'езды новага трохпавярховага дома, дзе жыў жорсткі Сашка і яго бацька — старшы Моніч.

Ужо вечарэла. Адразу за горадам дагараў барвовы захад. На гароды, з якіх цягнула агурочным пахам, садзіліся смуга туману. Вакол было ціха і амаль бязлюдна.

Раброў чакаў. Ён адчуваў: вось-вось з'явіцца яго кат. Але таго не было. Прайшла гадзіна, другая, трэцяя...

Нервовае напружанне ў Івана Васільевіча нарастала. У нейкае імгненне ён не вытрымаў, захацеў было кінуць гэтае страшнае дзяжурства, з'ехаць. Але крыўда, што сядзела ў ім, перамагла. Яна, здавалася, крычала, выварочвала зняважаную і абражаную душу Раброва, надзімала ў ім дзікую, безразважную злосць. І ён застаўся. Узіраючыся ў ледзь асветленыя пад'езды, праводзіў вачыма кожнага, хто ўваходзіў у дом ці выходзіў з яго.

Непрыкметна наступіла ноч. Стала халаднавата. Іван Васільевіч закурыў. І тады ён убачыў мардатага дзецюка. Той ішоў павольна, злёгку хістаючыся. «П'яны, — узрадаваўся Раброў. — Добра...»

Асцярожна адкрываючы левай рукой дзверцы машыны, правай Іван Васільевіч сціснуў рыльца бутэлькі з-пад партвейна, якую ён прадбачліва пакінуў у сваіх «Жыгулях». Не спяшаючыся, баючыся зрабіць лішні рух, Раброў вылез з машыны. Сэрца яго адчайна білася, з кожным імгненнем усё часцей і часцей.

Малады здаровы мужчына набліжаўся да свайго дома. Іван Васільевіч, сцяміўшы, што можа не паспець ажыццявіць помсту, рушыў наперад. Ледзь стрымліваючыся, каб не павярнуць, уцячы, ён ішоў насустрач свайму кату. Вось і ён...

Раброў, каб спыніць яго, хацеў папрасіць закурыць, як гэта звычайна робяць падлеткі, калі чапляюцца да якога-небудзь небаракі, але не змог вымавіць і слова.

Мардаты дзяцюк, гледзячы сабе пад ногі, дыхнуў перагарам і прайшоў міма Івана Васільевіча. Ён, хутчэй інстынктыўна, чым свядома, рэзка павярнуўся, узмахнуў бутэлькай і наводмаш ударыў ёю па галаве свайго крыўдзіцеля. Бутэлька разляцелася на дробныя шкельцы. Аглушаны нечаканым ударам, хлопец ступіў па інерцыі некалькі крокаў і ўпаў тварам у кучу пяску. Валасы на яго галаве заблішчалі макроццем. «Кроў!» — здагадаўся Раброў і кінуўся да сваёй машыны. У гарачцы сеў у яе, завёў і на хуткасці пад’ехаў да пад’езда, дзе ляжаў Сашка. З цяжкасцю зацягнуўшы яго вялікае тоўстае цела на задняе сядзенне, Іван Васільевіч панёсся за горад.

Па дарозе дзяцюк апрытомнеў. Не разумеючы, дзе ён і што з ім, глуха выціснуў, звяртаючыся да Раброва:

— Ты хто?

Прыгледзеўшыся, пазнаў. Пацягнуўшы рукой па скрываўленай галаве, стаў патроху цяміць. І калі да яго дайшло, што адбываецца, сутаргава пацягнуўся рукамі да шыі Івана Васільевіча. Убачыўшы ў люстэрка задняга віду небяспеку, ён з сілай націснуў на тормаз і выскачыў з машыны. Спрабаваў адкрыць заднія дзверцы, ачомаўшыся, і бамбіза. Калі ён, нарэшце, адчыніў іх і стаў вылазіць, Раброў прыгнуўся, быццам рыхтаваўся да скачка, і дзіка, у нервовым прыступе, закрычаў:

— Што, зноў?!

Ён укладаў у гэтае «зноў» увесь свой боль, які яму прыйшлося перажыць, а яшчэ — нянавісць, прагу помсты. Кінуўшыся да мардатага дзяцюка, гвазданyў яму нагой у пах, потым у жывот, твар, яшчэ раз у жывот. І ўжо куды трапляў — яшчэ і яшчэ...

Іванам Васільевічам авалодала жывёльнае пачуццё страху, змешанае з жаданнем смерці свайму ворагу. Цяпер быў яго, Раброва, час: не ён, а яго крыўдзіцель, жаласны і бездапаможны, з крывёю і слінай на мясістых вуснах, качаўся на зямлі, трацячы апошнія сілы і, напэўна, жадаючы лепш памерці, чым так пакутаваць.

— Атрымлівай!..

У запаленым мозгу Івана Васільевіча пранеслася тэлевізійная карцінка, на якой чарнявы паліцэйскі цягнуў на джыпе жорсткага бандыта. Ужо не цямячы, што робіць, Раброў хутка дастаў з багажніка вяроўку, прывязаў ёю да машыны напаўмёртвага бамбізу і пацягнуў па дарозе. Усё хутчэй і хутчэй...

Наперадзе бліснулі фары сустрэчнага грузавіка. Іван Васільевіч, спалохаўшыся, уціснуўся ў сядзенне і на нейкае імненне адпусціў руль. «Жыгулі» ў тую ж хвіліну зляцелі з дарогі.

— Усё, — з адчаем смяротніка, ціха выдыхнуў Раброў.

Пераварочваючыся ў паветры, машына стала падаць у асушаную і глыбокую канаву. Азірнуўшыся, Іван Васільевіч убачыў амаль чорнае, знявечанае цела свайго ворага, якое перашкаджала гэтаму свабоднаму, лёгкаму палёту і цягнула яго, Раброва, і машыну назад, на грэшную зямлю...





**Віктар ЯРАЦ**

# ЦЁПЛЫ СНЕГ

* * *

Цёплы снег атуляў лікі Храма —
цэлы свет, у якім на зары
спавядаліся ў чым снегіры
за аконнай сасноваю рамай?

Прачыналася ты — і святлела
яшчэ болей зімы светлыня.
…Там звінела ільдзінкамі дня
вышыня без журботнага хмелю…

## ЗІМОВАЯ СТРУНА

Чые імёны вецер паўтарае
за шыбай пасівелага акна,
калі за ўсе грахі
над снежным краем
звініць высокая світальная струна?
На чый парог спяшае гук вандроўны,
з якіх дарог (замеценых ці не?)
раней за добрай весткі паштальённай,
за словы тэлефонныя раней?

---

***Ярац Віктар Уладзіміравіч*** *нарадзіўся 23 кастрычніка 1948 года ў пасёлку Красны Мост Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1970). Служыў у Савецкай Арміі. Скончыў аспірантуру пры кафедры беларускай літаратуры ГДУ (1975). Працаваў выкладчыкам у Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Францыска Скарыны. Кандыдат філалагічных навук.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Уваходзіны» (1976), «Добрыца» (1989), «Дняпроўскі бакен» (1992). Перакладае з рускай, украінскай, балгарскай, літоўскай моў.*

Каго яшчэ да сонечных прыветаў
паклічуць не ільдзінкі ў маразы —
мелодыі спаткання і пад ветрам
аблокі — качавыя абразы?

Пра позірк чый і губ чыіх сакрэты
сказаць так хоча неба за акном,
калі далёка да вясны, да лета
з іх кветкаю,
з іх яблыкам, лістком?..

* * *

Будні дзень блаславёны сініцамі.
Заінелым галлём — яму
будзе неба марознымі спіцамі
рукавіцы вязаць на зіму.

Будні дзень паяднаны з вышынямі,
і дакорам таму не гняві
далячыні, дзе рэкамі сінімі
мылі рукі летнія дні.

Будні дзень параднёны з роднымі
галасамі дарог людскіх,
хоць цішэюць гудкі параходныя
да прыходу шурпатых крыг…

* * *

А тое кола, сцежкай за якім
хлапчук ганяўся ў басаногім леце,
ніяк не скоціцца за даляглядаў дым
і ў пасівелым, і ў зімовым свеце…

## ЗАВЕЙНЫ РАНАК

У завею ранкам недзе ў школу
дзеці полем вечнасці ідуць.
Круціць неба сумна ці вясёла
снегавых фантазій каламуць?

Белай геаметрыі фігуры —
болей тут трапецый ці кругоў?
Праз гадоў жыццёвыя віхуры
потым прыгадаюць цвет снягоў.

Потым будуць цёплымі здавацца
дні дзяцінства ў зімах снегавых —
праз агні і прыстаняў, і станцый,
на шляхах і гучных, і нямых.

Далячыні разгарнуць старонкі —
там пытанні не пра медзь, не ртуць.
…Недзе ранкам у абдымках колкіх
дзеці полем вечнасці ідуць…

## СНЕЖНАЯ ЭЛЕГІЯ

На маміну дамоўку снег кладзецца —
на той грудок пясчаны, пад якім
замоўкла назаўжды у цішы сэрца
пад грузам самым на зямлі цяжкім.

Кладзецца снег, як і раней, як сотні
гадоў таму назад на берагі,
што чулі мамін і пчаліны клопат
пра родны свет — таму і дарагі.

Паверыць хочацца, што разам з сэрцам сына
і сэрца мамы б’ецца — столькі ў ім
было любові да людзей пад небам сінім
і белым небам мройна-снегавым…

Кладзецца снег —
яго ці чуеш, мама?

## * * *

Паклічуць прывітальна вокны станцый,
сняжынкі — дух марознай вышыні, —
і вучышся і ветру адгукацца,
і выдыху гняздоўяў цішыні.

Чакаеш светлых дзён, нібы дагэтуль
у неба светлай не ўзляцеў парой,
нібы не зведаў, як плывуць у Лету
прызнанні — вечнасці людской пароль…





Таіса СУПРАНОВІЧ

# НАЎКОЛА ЛЮДЗІ...

*Апавяданні*

## Славік і Ядзя...

Стэфанія цэлую ноч прасядзела на табурэтцы каля бальнічнага ложка, аблакаціўшыся на прыладжаную каля біла падушку. Легчы не магла — лежачы горай балелі ногі, пяклі, як вытрываць. Ноччу прысніўся (хаця які там сон...) нябожчык брат Юзік. «Не плач па Ядзьцы, ёй тут не кепска, вучыць усіх на гармоніку граць». Стэфанія прачнулася і зайшлася ў плачы. Юзік, брат, памёр нядаўна, яшчэ і года няма, а дачка Стэфаніі Ядзька ўжо будзе па восені пяць гадкоў. Стэфка не надта верыла пра «той свет», а пасля смеці брата ўпэўнілася — ён існуе. Юзік любіў грошы, а хто іх не любіць?.. Брат не быў занадта сквапны, але і не раскідны. Грошы з часам мяняліся, ён жа збіраў, тусаваў іх, складваў буйнейшыя да буйнейшых, хаваў у надзейнае месца. Потым Ядзька, пляменніца, працаваўшы ў банку, навучыла, каб мяняў беларускія купюры на амерыканскія. Так і мяняла, кожны свой прыезд імчала дзядзьку то дваццаць, то больш долараў.

Захварэла яна знянацку. Была такая трапяткая, увішная да работы — лічы, кожны тыдзень на выхадных прападала ў свёкра і свякрухі на градах. Да Стэфаніі заедуць мо на які час і спяшаюць туды, за сем кіламетраў — недалёка выйшла дачка замуж. Сорак сотак градаў ды яшчэ столькі ж у полі. Але во дзіва — пасля Чарнобыля там, за сем кіламетраў плацілі «грабавыя», а ў вёсцы Стэфаніі — не. Ядзька расказвала, што ў свякрові каля хлява расла агромністая ліпа, дык у красавіку пасля чарнобыльскага выбуху на лістах ліпы асеў пыл, такім тоўстым пластом, як попел, толькі колер быў ядавіта-зялёны. Ліпа ссохла ў год, калі памерла Ядзька. Цяпер у той вёсцы, хто раней, хто пазней, амаль усе памерлі ад анкалогіі. Брат Стэфаніі любіў Ядзьку як родную дачку. Сам меў толькі сына. Ды не дзіва — Ядзька была агонь што ў рабоце, што ў бяседзе. Муж Стэфаніі Вінцусь славіўся на ўсю акругу як музыка — іграў на ўсіх

---

***Супрановіч Таіса Іосіфаўна** нарадзілася 30 студзеня 1956 года ў вёсцы Чарэшня Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыла Мінскі інстытут культуры (1981), працавала загадчыцай дзіцячай бібліятэкі ў Навагрудку, у Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь, у Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў, цяпер — у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.*

*Аўтар кніг прозы «Мужчыны і жанчыны» (1999), «Матчын зарок» (2003), «Халодны дзень і цёплы вечар» (2017).*

інструментах, якія меў пад рукой. І на баяне, і на скрыпцы, і на бубне. І яшчэ змалку прывучыў дачку да музыкі. Двух сыноў і не вучыў, самі някепска спявалі і трохі гралі на бацькавай скрыпцы. А Ядзька нават бывае ўкіне ў бутэльку відэльцы і патрапляе бацьку ў такт, ото ўдалая была. А згарэла ўмомант. Дактары не дапамагалі, кінуліся да дзядоў. Паехалі з сынам і нявесткай да нейкага знахара за Нёман. Як быццам сапраўды дапамагаў людзям. Але і браў немалыя грошы. Бог з імі з грашыма, абы дапамог. А нявестка ў Стэфаніі вушлая, разумная — пайшла да знахара першая, як быццам гэта яна хворая. Дык ён ёй такіх парад надаваў, такой бязглуздзіцы нагаварыў, што Еўка толькі Стэфаніі і адкрылася. Нават рукою пад спадніцу палез. Еўка прасіла напрамілы бог свякруху, каб не прагаварылася Славу, сыну, бо той пасля таго Афгана, хоць час прайшоў, але мог забіць таго знахара з гарачкі.

Раніцай трохі палягчала. Стэфанія так бадзёранька схадзіла ў сталовую, што доктар, бачачы як яна шпарка ідзе па калідоры, вельмі здзівіўся. Пасля абходу суседцы Стэфаніі паставілі кропельніцу і папрасілі яе прасачыць, каб слупок у трубачцы не апусціўся ніжэй крэскі, і каб Стэфанія іх паклікала, калі лякарства выкапае. Стэфанія аднеслася да гэта вельмі адказна і не зводзіла вачэй з кропельніцы. Ды, не спаўшы ноч, няўзнак прыдрамнула. Зірк — вадкасці ў трубачцы не відаць ужо. Дзе ўзялася тая моц і сіла — яна кінулася ў сястрынскую. Ды не закрычала, залямантавала: «Галубчыкі мае, кончылася, кончылася, а я — во дзе грэх, прыснула...» Што тут пачалося — усе гуртам кінуліся на калідор, затым у палату, а жанчына пад кропельніцай ляжыць як ляжала. Малады доктар грозна да Стэфаніі: «Дзе хто кончыўся, цётка?» — «Ды лякарства ў трубцы кончылася, а я спалохалася, апамятацца не магу».

Далі Стэфаніі ўкол, далі таблетак, яна супакоілася і зноў як бы прыснула. Ізноў перад вачыма дачка і брат. Зрабілі Ядзьцы шэсць сеансаў хіміятэрапіі. Прыехала з бальніцы дадому, за дзень-два стала збірацца на работу ў банк. Дзе там паляжыш — яна была галоўнай здабытчыцай у сям'і. Ды на вачах у мужа і дзяцей стала сціхаць, сціхаць і вось яна перад імі — ужо бездыханная.

З таго часу Вінцусь перастаў граць. Бывала, наперад усе выхадныя былі распісаны па ўсіх вёсках. Бывала, сенакос і ўсе хатнія клопаты былі толькі на Стэфаніі, сама душылася ў рабоце і дзяцей прымушала рабіць. А затое як прыязджаў гаспадар было свята. Прывозіў цэлы воз прысмакаў, грошай у хату. Ехалі ў горад, куплялі дзецям абноўкі. Ядзьку прыбіралі як ляльку. Хлопцы кожны меў па веласіпедзе — у школу хадзіць было далекавата. Цяпер як адрэзала. Хоць і ў гадах быў, але граў адмыслова. Гэдакі дар быў чалавеку. Хоць і іншыя часы — гэтыя электрагітары, узмацняльнікі гуку, а як, бывала, зайграе Вінцусь, ды яшчэ заспявае — казалі, мёртвага падніме. А ў Стэфаніі з таго моманту, як памерла Ядзька, адказалі ногі. Спачатку вельмі цяжка было хадзіць, але перасільвала сябе, старалася рухацца подбегам, спяшалася як заўсёды да работы, але ўжо не той спрыт стаў, не тая сіла. Ды во год будзе, як не стала Юзіка. З вечара адчуў сябе кепска, сказаў, што раніцай, калі не палепшае, паедзе да доктара. Раніцай стала яшчэ горш. Ды яшчэ жонка ягоная паехала ў Мінск пабыць з маленькай унучкай, сыну з нявесткай трэба было адлучыцца. Прыбегла Стэфанія з іх малодшай сястрой Вандай. Толькі і паказаў рукой на бажніцу і ледзь вымавіў, што там грошы ляжаць і адышоў... Сёстры памылі, адзелі Юзіка. Плакалі — харошы быў брат, добры, спагадлівы. Узялі з-за бажніцы нейкую суму грошай — купіць труну, гарэлкі, прадуктаў, покуль прыедуць з Мінска жонка Юзіка з сынам і нявесткаю. Трэба каб былі хаўтуры не горшыя як у людзей. Тут Ванда: «А давай, Стэфка, пакладзём яму ў нагрудную кішэньку пінжака пяць долараў. Ён гэдак ашчадна іх збіраў, гэдак цаніў кожную капейчыну. Няхай будзе ўсцешна яму на тым свеце».

Так і зрабілі, узялі пяць доларaў па адной паперцы, такія былі ў яго, і не сказалі нікому аб гэтым. Пахавалі Юзіка. Ужо і трыццаць дзён вось-вось пасля смерці (у католікаў не сорак адзначаецца, а трыццаць). Калі ехалі ў касцёл, Таццяна, жонка Юзіка, расказала сон. Быццам прыходзіць ён дадому і кажа ёй, што адразу ТАМ сустрэў Ядзьку, што такая яна прыгожая, дагледжаная, светлая. Даў, кажа я ёй тры долары і сабе пакінуў два, болей не было, толькі пяць па долары. І яшчэ, кажа, папрасіла яна, каб не плакалі па ёй ні татусь, ні мамуся, бо надта мокра ёй тут ад слёз, няўтульна.

Стэфка з Вандаю потым бажыліся, што пра тыя пяць доларaў ніхто акрамя іх не ведаў. Нешта ўсё ж ёсць таямнічае для нас на тым ды і на гэтым свеце.

У Стэфаніі і Вінцуся трое дзяцей: двое сыноў і дачка, цяпер ужо нябожчыца. Яе дачку Ядзьку кожная сям'я, дзе раслі хлопцы, за шчасце лічыла б мець нявесткаю. А долі не даў Бог пажыць. Ды і хлопцам вартай долі не даў.

Старэйшага сына Славу забралі ў Афган. Стэфка, бывала, любавалася на сваіх сыноў. І яна, і яе Вінцусь сярэдняга росту, а хлопцы абодва пад два метры. У вёсцы ў адным месцы было балота, якое ніколі не высыхала. Для чужога чалавека быццам проста лужына. А легкавая машына калі патрапіць у гэтую лужыну, дык і засядзе. І ўжо тады бегаюць наўкол, шукаюць трактара. «Ды паклічце Славіка Вінцусёвага, ураз выцягне», — падказвае нехта. І праўда. Клікалі Славіка, ён сунуў ногі ў рыбацкія боты, заходзіў у лужыну, падважваў машыну знізу багажніка, з сілай раз-два пхаў наперад і вось ужо яна на сухім. І на табе — Афганістан. Кожны дзянёчак за гэты час Стэфанія вочы выгледзела, чакаючы паштальёна. Праўда, пісаў сын часта. Славік любіў маці. Бывае, сянуючы, не даваў, каб сена ў капу клала, забіраў вілы. Толькі дазваляў падграбаць за ім. Ды яшчэ раз-пораз змахваў камароў з матчыных рук-ног. Кожны вечар пасля работы, калі забралі сына, ставіла свечку Матцы Боскай, прасіла-маліла за сына. Ды раптам пісьмы ісці перасталі. Работы па гаспадарцы процьма, а трэба яшчэ ісці ў калгас, так здаралася, што часта засынала толькі пад раніцу трывожным чуйным сном і амаль тут жа прахоплівалася, нема крычучы…

Неяк бачыць накіроўваецца да іхняе хаты паштальён. Ядзька хуценька выскачыла наперад, выхапіла пісьмо. Не Славіка почырк, незнаёмы. Стэфа скамянела, не магла ступіць і кроку. Не адчувала ног. Ядзька пачала дрыготкім голасам чытаць: «Здравствуйте, родные Славы, пишет Вам его друг...» У Стэфаніі паплыло ўсё перад вачыма і цемната... Мітусілася іхняя фельшарка, Вінцусь і дачка плакалі ўголас. Ядзька ажно ў крык дачытвала пісьмо. Аказваецца, гэты «друг» пытаўся новы адрас Славы — іх развёў салдацкі лёс па розных месцах дыслакацый.

Стэфанія пасля гэтага пісьма саслабела целам, дрыжалі-трэсліся рукі: такой спраўнай, як раней, руплівай гаспадыні з яе ўжо не было. Ізноў бясконцае чаканне спачатку пісем, потым ужо яго самога. Нарэшце дачакаліся — сын вярнуўся зусім не той — іншы. Быў нейкі вялы, у яго пастаянна балела галава, адсутнічаў апетыт. Начамі крычаў, кідаўся, лез на сцяну: «Стреляй, стреляй, ай-ёй, Сашке голову оторвало. Бросай гранату…» — і так кожную ноч. І раптам надышла іншая бяда. Паслала яго Стэфанія ссекчы раней абрэзаныя вішнёвыя галіны для вяндлярні. У вёсцы была толькі адна вяндлярня — у Вінцуся. Насілі да яго пакапціць кумпякі, каўбасы, паляндвіцы. Вінцусь вэндзіў сумленна, не спаў некалькі начэй, падкідваў дровы, сыры ядловец, каб даваў густы дым. Пайшоў Слава за паветку секчы вішняк — і няма яго і няма. Стэфа подбегам кінулася за паветку (увесь час была напружаная, як прадчувала бяду). Глядзь — сядзіць яе Славік на калодцы, галаву звесіў і трасецца ў ліхаманцы. Дыхае часта-часта

і глядзіць невідушчымі вачыма. Стэфанія схапіла ў роспачы яго за рукі — рукі былі халодныя і нейкія ажно сінія. Клікнула Ядзю, ледзь дацягнулі Славу дадому, паклалі на ложак, накрылі і Стэфа кінулася выклікаць «хуткую». Урачы прыехалі ўмомант, можа, спрацавала тое, што сын толькі што вярнуўся з Афгана. Забіралі Славу на насілках, ісці ўжо не мог. Стэфанія здагадалася, што хваробу сваю сын прывёз адтуль, з вайны.

Назаўтра да іхняй хаты панаехалі машыны. Уварваліся ў хату ў белых халатах, у масках, у рэзінавых пальчатках. «Вот что ваш сын нам устроил, да-а-а, устроил так устроил...» Стэфа падумала, ды калі ж ён паспеў што ўпароць у такім становішчы. Хіба толькі па дарозе, можа, ачуняў ды збіў гэтых урачоў-санітараў. Аказваецца, не, проста прывёз ён са службы невядомую тут хваробу «малярыю». А гэта было «ЧП», і прыехалі яны рабіць дэзынфекцыю. Сказалі, што будуць зліваць спецыяльным растворам хату, надворак, студню. Божа літасцівы — век не адмыешся ад гэтага смуроду. Стэфанія стала рубам — не дала здзекавацца са сваёй сядзібы. Паваяваўшы з ёю, санітары пакінулі нейкай атруты ў бутэльках, далі нейкія дакументы на подпіс і з’ехалі.

Слава паправіўся, але маці бачыла, што вайна сапсавала яе добрага, памяркоўнага, лагоднага да людзей сына. Цяпер ён як запалка ўспыхваўся нават па нязначнай прычыне. Пасля хваробы паехаў у Гродна і лёгка паступіў у сельскагаспадарчы інстытут. Ды неяк адразу пасля першага курса ажаніўся. Разам вучыліся, была дзяўчына гады на два маладзейшай за Славіка, але вучылася ўжо на чацвёртым курсе на бухгалтара. Нявестка трапілася спраўная, бойкая, разумная. Славік яе, ажно дзіва, слухаўся, нават, здавалася, пабойваўся. Ну, можа, не пабойваўся, але як бы хацеў схавацца за яе жыццярадаснасцю, здаровай смеласцю да рэальнага жыцця, смеласцю вырашаць любыя паўсядзённыя пытанні. Ева, так яе звалі, часта ездзіла ў Польшчу. Ды як можна сказаць «ездзіла» — проста хадзіла з маткаю ці з сястрою. Польшча была за сем кіламетраў па той бок мяжы. Там жылі і родны брат маці, і сястра з сем’ямі. Ды і брат Еўкі, лічы, пастаянна стаў там жыць. Пераездамі: круціўся, рабіў свой гандлёвы бізнес.

Аднойчы Еўка сказала свякрусе, што яна заканчвае інстытут, а Славу хоча перавесці на завочнае аддзяленне, бо ён у гэтым горадзе скруціцца, сядзе ў турму, звязаўся з нейкімі хлопцамі. Славу ўцягваюць у рэкет, а ён па натуры добры і сумленны, начамі не спіць, месца сабе не знаходзіць, бывае, напіваецца.

Стэфанія спалохалася: што рабіць? Еўка тут жа сказала, што яны са Славам гаварылі-перагаварылі пра гэта. Але ні ён, Славік, ні нявестка не хочуць раскрываць свае планы. Толькі просяць, каб маці з бацькам аддалі ім дзедаву хату для Славы — прадзеда Іосіфа. «Ды нашто ж яна вам, гэтая старая хата з дзіраваю страхою?» — «Мы ездзілі, глядзелі, дрэва ў хаце смалістае і нам яна патрэбная».

Каб гэта была не Еўка, то Стэфанія забедавала б над такімі задумамі маладых, а нявестка — чалавек справы, і яна, канечне, дабра жадае для свайго вайной пакрыўджанага мужа і сына Стэфаніі.

## Казік

Казік вучыўся добра, але не было ніякай упэўненасці, што паступіць. А паступаць хацеў на аўтатрактарны факультэт політэхнічнага інстытута. Тым больш там была ваенная кафедра. Гэта ўсё растлумачыў Стэфаніі сусед, настаўнік нямецкай мовы. Гэта ён падказаў, каб Казік пазаймаўся з лепшым матэматыкам, які жыў у райцэнтры. Вінцусь з паўгода вазіў туды сына на кані, чакаў да ночы, покуль займаўся іх хлопец.

Казік паступіў, і армія пакуль што адпала. Сын стаў жыць у «абшчазе», быў спакойны, памяркоўны, сціплы. Удзельнічаў у самадзейнасці і, нават калі на экзаменах атрымліваў тройку, ўсё роўна меў стыпендыю.

Недзе, калі Казік быў на курсе трэцім ці чацвёртым, да іх у «абшчагу» падсялілі студэнтак з інстытута культуры. Гэты інстытут нядаўна быў створаны, і інтэрнат для студэнтаў толькі будаваўся. Студэнтак пасялілі ў пакой, які спецыяльна для іх адгарадзілі ад агульнага калідора. Атрымалася даволі вялікая плошча, на якой жыло ажно дванаццаць дзяўчат. Хлопцы казалі «культурыстак». Кожны вечар у іх збіралася цэлая грамада — там было весела. Весяліла ўсіх звычайна Лена. З рэчаў у яе быў невялікі чамаданчык і старэнькі (спісаны ў вясковым клубе) баян. Ужо потым Казік ведаў, што бацькі яе былі як бы «масавікамі-завадатарамі», працавалі ў сельскім клубе. Абое былі бесклапотнымі, вясёлымі. Жылі па прынцыпе: «Дзень прайшоў — і дзякуй богу». Пастаянныя раз’езды з канцэртамі-выступленнямі не спрыялі сямейнай заможнасці, і як вынік дачка заўсёды хадзіла ў адной і той жа кароценькай спадніцы і добра паношаным світарку. Але калі яна пачынала граць на баяне, падпяваць, ад азарту ажно гарэла.

Казік завідным быў жаніхом. Стэфанія апранала яго вельмі дабротна. Да таго часу Славік быў ужо жанаты, ездзіў у Польшчу, прывозіў брату модныя джынсы і красоўкі. Стэфанія вязала хлопцам прыгожыя світары з дамашняй воўны. А авечкі ў яе былі знатныя — сястра прынесла крадком з калгаснай аўчарні двое пародзістых ягнятак — баранчыка і авечачку. Праз некалькі гадоў іх стала ўжо не двое. Воўна як шоўк, і белая як снег. Хлопцы ўга як фарсілі ў гэтых світарах!

Казік на частых вячэрніх канцэртах падпяваў Лене і паціху-патроху ўпадабаў яе. Іншыя хлопцы з політэха ўсур’ёз яе не вельмі ўспрымалі — бачылі, што песні і баян, канечне, ёсць, а так — усё хі-хі ды ха-ха. І калі Лена «заляцела», Казік, не разважаючы, ажаніўся. Прывёз перад вяселлем яе да бацькоў на агледзіны — Стэфанія з Вінцусём ледзь не ўмлелі з гэтых агледзінаў. Якраз на выхадныя Вінцусь паехаў іграць на вяселле, Стэфа ў Мінск да Ядзькі. Казік з раніцы паплыў на лодцы правяраць сеткі на дальняе возера Гляву, пакінуўшы маладую (амаль ужо жонку) на гаспадарцы. Днём Лена з пашы карову не сустрэла, як наказвала Стэфанія, з акрайчыкам хлеба, не пагаварыла з Атаўкаю, не пагладзіўшы грыўку між рагоў, а, махаючы дубцом, загнала ў хлеў. Пайшла даіць, а карова сцёбнула моцна хвастом Лене па твары, потым ужо, калі малака было даволі многа, паставіла нагу ў вядро. Усё малако прыйшлося выліць свінням.

Прыехала Стэфанія з Мінска, якраз аўтобус спыняўся супроць іхняй хаты, а на лаўцы сядзіць Лена з баянам, музыка ліецца на ўсю вёску, побач стаіць гурма народу, усе вясёлыя і задаволеныя. А Казік у гэты час таўчэ ў сагане бульбу, замешвае свінням.

Маці толькі глянула на ўсё гэта, ды нічога не сказала. А сын і без слоў разумеў усю сітуацыю, ціха ўнурыўшы галаву, пайшоў карміць трусоў ды надта хутка вярнуўся. Аказваецца, Лена вырашыла напаіць гэтым сапсаваным малаком трусоў ды не зашчапіла клеткі. Трусы пайшлі гуляць па бульбе, градах, знайшлі выхад і да суседзяў. Шукалі трусоў, а асабліва трусянят да поўначы і назаўтра. Лена старалася разам з усімі, вяслом прамацвала высокае бульбянішча, на каленях заглядвала пад складзены штыкетнік. Стэфаніі ажно шкада яе стала, а болей шкада было сына Казіка. Во як бывае: пярун б’е і трапляе ў адно і тое ж месца!.. У Стэфаніі Вінцусь музыка ды гуляка — і сыну такую ж, як у маці, долю даў Бог.

Па заканчэнні інстытута Казік стаў працаваць на трактарным заводзе. Гэта была не яго стыхія — лязгат, грукат, цяжкае паветра. Ён неяк за пару месяцаў змарнеў — знік румянец са шчок, прапала белазубая зычлівая ўсмешка.

Пасяліліся яны з Ленай у рабочай «абшчазе». Казік мала-памалу па вечарах стаў затрымліваццa ў кампаніі з хлопцамі за «карцішкамі», папіваць то піва, то вінцо, а то і гарэлачку.

А Слава з Еўкаю задумалі бог ведае што. Стэфанія загаравала з гэтых іх задумак, але не ўмешвалася. Гэта ўсё ішло з Польшчы, ішло ад сваякоў і блізкіх Еўкі, яна сама была як спружына, заведзеная на дзеянне. Стэфанін добры і трохі разважлівы сын ніколі б не рашыўся на такія камерцыйныя дзеянні: Еўка ўзяла ў польскіх землякоў немалую беспрацэнтную пазыку, ды і Слававы цесць і цешча далі ім таксама немалую суму, не патрабуючы аддачы. Маўляў, абжывайцеся…

У вёсцы, дзе стаяла хата Стэфанінага дзеда, жыхароў, лічы, не засталося. Канечне, пры сваіх задумах Ева і Слава чулі пра Дудуткі, але яны хацелі тут стварыць не музейны комплекс старажытных рамёстваў, а проста такую сучасную вёску, дзе людзі маглі б адпачыць на прыродзе ад індустрыяльнага горада, павудзіць у возеры рыбу, пахадзіць у грыбы-ягады, нарэшце, пакупацца ў чыстай азёрнай вадзе і паляжаць на сонцы на сыпучым, як манка, і чыстым пясочку. Канечне, гаспадары абавязаліся карміць іх адмысловай нацыянальнай ежай, домікі павінны былі мець усе камунікальныя выгоды. У Польшчы, як пераконвалі Стэфанію дзеці, такія месцы адпачынку ўжо існавалі і адбою ад жадаючых пажыць там не было. Ды і гаспадары, стаўшы на ногі, мелі даволі не благі прыбытак.

Мусіць, з дзесяць, ці больш гэтых старых хат Слава з Еваю купілі адразу ды за бясцэнак. Але як пачалі іх рэстаўрыраваць — то гэтыя хаты аказаліся ўга якімі моцнымі. Абчэсанае дзерава праяўлялася бурштынам. Перш за ўсё адбудавалі хату сабе. Не хату, а з прыбудовамі адмысловы дом з усімі выгодамі. Потым адрамантавалі прыдбаныя тут усе хаты. Наладзілі аграсядзібу. Якраз паўсюль на іх мода пайшла... Зажылі яе дзеці. Адно трывожыла Стэфанію: няма ў яе ўнукаў ні ад Славы з Еваю, ні ад Казіка з Ленаю. Еўка казала, што ім пакуль не да іх. А ў жонкі Казіка быў выкідыш...

Няўзнак прайшлі гады. Стэфанія і Вінцусь ужо добра сталыя людзі. У Стэфаніі недалягаюць ногі, у Вінцуся пабольвае сэрца. Калі Слава і Еўка добра абжыліся, з году ў год расшыралі сваю гаспадарку і сядзібу, перацягнулі да сябе Казіка з Ленаю. Тым часам Еўка ўжо нарадзіла, у Славы падрастаў сын, копія бацькі. Неўзабаве Слава з Ленаю Ядзьчыных сірот прытулілі ў сябе, ужо амаль дарослых. На такой гаспадарцы ўсім работы хапае. А зусім нядаўна праз вялікія намаганні праз ЭКО ў Казіка і Лены нарадзіліся дзяўчынкі-двайняткі — вялікая радасць для бацькоў і родных…

Едуць да яе дзяцей на аграсядзібу людзі, каб адпачыць. І нашы, і з замежжа. Падабаецца ім у дзяцей Стэфаніі. Прыгожа, прасторна. А Слава вырашыў цешыць пастаяльцаў самабытнай беларускай музыкай. Як ні ўгаворваў бацьку іграць, як ні прасіў — той не згаджаўся. Стэфа ажно пасварылася — сыны выбіваюцца з сіл, стараюцца, дапамагаюць ім, старым, а ён, бачыце, кабызіцца. Ды тут яшчэ падключылася Лена. Гэта была яе стыхія, бо тут яна якраз была як рыба ў вадзе. Цяпер на гэтыя вечарынкі (такая пра іх пайшла пагалоска) прыязджаюць падзівіцца людзі нават з горада, а што там — меўшы машыны Стэфаніны хлопцы са свае аграсядзібы бывае па патрэбе зганяюць у горад некалькі разоў, а то і ў Мінск.

Глядзіць Стэфанія на сваіх сыноў і нявестак і радуецца: усё перамаглі, усё адолелі яе дзеці, то хай жывуць шчасліва сярод людзей…



Марыя КОБЕЦ

# У СУЗОР'І ВАР'ЯЦТВА

## СОНЦА

…Так, толькі Сонца
Ведае сцяжыну да вялікага Гняздоўя Жар-птушкі…

Старанна і надзейна хавае яно гэты маршрут
І ад бяздзейных мінакоў,
І ад апантаных шукальнікаў.
Змораныя нялёгкай дарогай,
Толькі адзінкі з сотняў тысяч адшукваюць Яго
Праміж мільёнаў падманных прыстанішчаў,
Знаходзяць і застаюцца ў Святасці Яго
Назаўсёды прасветленымі.

Мажліва, мне не ставала моцы ў нагах,
Мне не хапала зроку, слыху ці разумення,
Каб адолець гэты шлях.
Таму сёння
Я агідна глытаю атрутлівы пах чужых валасоў,
Прызвычайваюся да крывадушнага атачэння,
Ды ледзь-ледзь вытрымліваю відавочнае —
Я — ў ліку астатніх сотняў тысяч.

---

*__Кобец Марыя Уладзіміраўна__ нарадзілася 19 кастрычніка 1974 г. у вёсцы Валішча Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыла Пінскае медыцынскае вучылішча (1994), Інстытут журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (2017). Працавала загадчыкам Валішчанскага фельчарска-акушэрскага пункта (1998—2010), дырэктарам Валішчанскага сельскага Дома культуры (2010—2013). З 2013 г. — рэдактар карэспандэнцкага пункта г. Пінска РУП РТЦ «Тэлерадыёкампанія "Брэст"».*

*Лаўрэат Брэсцкай абласной літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка (2012). Аўтар паэтычных зборнікаў «Кроплі» (2011) і «Палыновая квецень» (2016). Творы перакладаліся на рускую, польскую, сербскую, туркменскую мовы.*

## ВЕЦЕР

Вецер… Халодны жорсткі вецер,
як і стагоддзі таму знішчае далікатныя целы лістоты…
Нястомна ірве іх агністае крылле,
Імкліва ўпіваецца ў дробныя зжоўклыя пражылінкі.
Хістае,
Тузае,
Здзекуецца.
Бязлітасна кідае іх бездыханнае атрэп'е долу.
Жоўтыя…
Брудна-цагляныя…
Рудыя…
Зусім зялёныя…

Ці ж хопіць моцы супрацівіцца сіле Ветру
і застацца на Дрэве хоць аднаму з іх
у той час,
калі надыдзе
Час Вялікага Супрацьстаяння?..

## ДЫПЦІХ ІСНАСЦІ

**I**

…І пакідалі людзі посахі свае,
ашчэрылі пашчы ваўчыныя,
агалілі мячы двухбокія.

Грымнуў у небе гром,
горы паскідалі шапкі зашэрхлыя,
рэкі пацяклі супраць плыняў сваіх…

Напэўна, у існасці няма сэнсу,
калі зямля — ёсць выток,
калі зямля — ёсць вусце...

Але… кавалі куюць цвікі сталёвыя,
а лжэсведкі рыхтуюць вянец[1] новы.
Хутка пальецца кроў па поўсці ягнячай.

А Ты…
Ціхмяна стаіш ля дзвярэй і стукаеш…[2]
Ці чуе хто стук Твой?..

[1] Тут: цярновы вянец.
[2] Новы Запавет. Адкрыццё Святога Іаана Багаслова. Глава 3:20.

**II**

…І папаўзлі па Зямлі чуткі жахлівыя:
Брат пайшоў на брата,
А бацька падае сыну камяні замест хлеба…[1]
Дзень стаў падобны ночы,
А ноч залілася крывавымі дажджамі.
Патухлі люстры, пацьмянелі зоры…

Адной скарынкі, казаў Прарок,
замнога, каб накарміць племя чалавечае.
Дык чаму, перасычаныя пірагамі,
людзі ўсё роўна прысягаюць Мамоне?..
Так, адной гадзіны часам зашмат,
каб зразумець усю сутнасць чалавечую.

Напраўду казаў Апостал Павел:
«…хто жыве па плоці, пра плоцкае думае,
а хто жыве паводле Духа — пра духоўнае»[2].
Толькі як усвядоміць істотнае? —
«Не бойся нічога, што табе трэба перацярпець…
Будзь верным да смерці і адкрыю табе Вянец жыццёвы…»[3]
…Хутка, напэўна, зусім хутка надыдзе той самы Час.
Як стрэнем яго?..

## У СУЗОР'І ВАР'ЯЦТВА, АЛЬБО СМЕРЦЬ У ІМЯ РАТАВАННЯ...

Бровы Вашы — крылы невядомай дагэтуль птушкі,
якія дораць летуценную бязважкасць.
Валасы Вашы — цёмна-шэрыя аблокі на вечаровым небе.
Дакрануўшыся да іх,
абавязкова трапляеш у падарожжа да Сузор'я Вар'яцтва.
Рукі Вашы — срэбныя бранзалеты.
Гарачымі ланцугамі яны назаўсёды застануцца на целе маім.
Голас Ваш — жнівеньскі гром,
раскаты якога адначасова захапляюць і пужаюць сваёй магутнасцю і сілай.
Подых Ваш — ураганны вецер, які ў стане за імгненне ўзняць над зямлёй
і завіхурыць да беспрытомнасці.
Гарачыя вусны — бездань, патрапіўшы ў якую, разумееш,
што гэта ўжо шлях у адзін канец.
Вочы Вашы — халодныя стрэльбы.
Смяротна параненая імі я,
Ранейшая, загінула пасля першага іх стрэлу.
Але мне не страшная такая смерць,
бо смерць гэтая і ёсць
Смерць у імя Ратавання...

---

[1] Новы Запавет. Пасланне да Рымлянаў Святога Апостала Паўла. Глава 8:5.
[2] Новы Запавет. Адкрыццё Святога Іаана Багаслова. Глава 2:10.
[3] Новы Запавет. Ад Лукі Святое благавестванне. Глава 2:11.

Тадэвуш ДАЛЕНГА-МАСТОВІЧ

# ПРАКУРОРКА*

*Раман*

## Раздзел 11

— Ой, капітане! Я яшчэ не гатовая! — закрычала Люба праз дзверы.

— Што? Яшчэ? — нібыта з абурэннем крыкнуў Друцкі.

— А што вы хацелі паказаць?

— Свой новы набытак, аднак калі вы не гатовая, то да пабачэння, я выходжу!

Друцкі пачаў тупаць нагамі і ціхенька сеў на крэсла тут жа ля дзвярэй.

— Капітане! Капітане! — крычала Люба і, не пачуўшы адказу, убегла ў залу.

Яна сапраўды не была апранута: у камбінашцы і халаце, які паспела надзець толькі на адну руку.

Не заўважыўшы Друцкага, яна прабегла да дзвярэй, што вялі ў сталовую і, высунуўшы галаву з-за іх, пракрычала:

— Ужо, ужо, я гатовая, вярніцеся, калі ласка!

Адначасова яна здолела справіцца з супраціўленнем другога рукава. Калі ўрэшце ёй гэта ўдалося, Друцкі, не кранаючыся з месца, вельмі гучна сказаў:

— Ну, нарэшце!

— Ах! — спужалася Люба. — О, вы нягоднік! Як можна… Падглядаць за мной неапранутай!

Яна падбегла да яго і, нахіліўшыся, сурова пагразіла яму пальцам.

Друцкі засмяяўся і схапіў яе за руку.

Ці то ўхапіў надта моцна, ці дыван ссунуўся, але гэтага было дастаткова, каб яна захісталася, страціла раўнавагу і апынулася ў яго на каленях. Люба знерухомела, не адпускаючы яго рукі.

— Люба!.. — засцерагальна прашаптаў Друцкі.

Яна засмяялася і закінула яму рукі на шыю:

— Напужаў мяне, дык цяпер павінен супакоіць.

— Люба! — хрыпла паўтарыў Друцкі.

Яна раскрыла вусны тут жа ля яго вуснаў, полымя ў яе вачах разгаралася. Голыя плечы яе краналіся яго шыі і карка. Яны наблізіліся да яго настолькі, што Друцкі адчуў паскоранае дыханне жанчыны.

Ён сціснуў сківіцы і адвярнуў галаву. Тады Люба пачала шаптаць яму на вуха, што нічога страшнага, што гары яно ўсё гарам, што служка не ўвойдзе, што яна больш не вытрывае, што ён каханы, што гэта пакута, няхай будзе што будзе…

---

* Працяг. Пачатак у № 1 за 2018 г.

Яе прагныя вусны пакідалі гарачыя палосы на яго твары.

Раптам ён узяў яе на рукі, сціснуў у абдымках, сарваўся з месца і пачаў хадзіць па пакоі. У вачах у яго памутнела, у грудзях хрыпела, кроў адбівала шалёны рытм у скронях. Друцкі не адчуваў яе цяжару, аднак хістаўся, як п’яны.

Не, гэта было вышэй за яго сілы!

Ён гвалтоўна адарваў яе рукі ад сябе, кінуўся ў крэсла.

— Нельга так, Люба… гэта страшна… нельга… — гаварыў Друцкі перарывістым голасам, — я даў твайму мужу слова…

Яна падышла да яго:

— І што! І што! І што, што не стрымаеш, — шаптала яна, чапляючыся за яго рукі.

— Стрымаю!.. Люба!.. Павінен стрымаць і стрымаю!..

— Ты даў слова, — не саступала яна, — што не кранеш мяне… Ну добра, добра… Але не адмаўляйся мілаваць мяне… Таму што гэта можна…

— Люба, я звар’яцею! Няўжо ты не разумееш?!.

— Нічога я не разумею, нічога не хачу разумець, — тулілася яна да Друцкага, — мой цудоўны, мой самы салодкі…

У яго былі гарачыя як полымя, рукі, а яе скура халодная як мармур. Вусны яго перасохлі, а ў яе былі сакавітыя і вільготныя.

Раптоўны званок тэлефона прывёў іх да памяці і працверазіў.

Трубка ў руках Любы дрыжала, і голас яе дрыжаў:

— Алё!

— …

— А, гэта ты?.. Што ты хацеў?

— …

— Малы гуляе. А я зараз выходжу, таму што прыйшоў капітан. Мы ідзём разам.

— …

— Добра. І я цябе цалую. І не спазняйся на абед.

Друцкі працёр лоб, пайшоў у сталовую, выпіў залпам дзве шклянкі вады і закурыў.

Люба пацалавала яго ў вусны і пабегла апранацца. Праз некалькі хвілін яна была гатовая.

— Пані Люба! — пачаў Друцкі, але яна яго перарвала:

— Толькі не маралі, капітане, толькі не маралі!

— Аднак…

— Бо гэта было так нявінна, але так цудоўна. Хадзем, хадзем.

Яна яшчэ зазірнула на кухню, аддала нейкія распараджэнні, і яны выйшлі на вуліцу.

Перад варотамі стаяла доўгая, шэрая, як мыш, двухмесная машына, якая блішчала свежай фарбай.

— Ах, якая прыгожая машына, — залямантавала Люба, — цікава, чыя яна.

— Лялька, — пацвердзіў Друцкі.

— Гэта, напэўна, Баўман купіў, — выказала здагадку Люба.

— Не.

— Капітане!

— Так, — кіўнуў ён галавой, — гэта і ёсць набытак, які я вам хацеў паказаць.

— Цудоўны!

— А пабачыце яшчэ, як ён ездзіць!

Друцкі адчыніў дзверцы, дапамог Любе сесці і сам заняў месца за рулём.

— Якая гэта марка? — спыталася Люба.

— «Фулд». Шэсць цыліндраў.

— Ён, відаць, добрых грошай каштуе.

— Значна менш, — засмяяўся Друцкі, — чым здаецца знешне.

Яны паехалі ў Віланаў.

За горадам вясна ўжо была ў разгары.

Узараная зямля моцна, насычана пахла, абочыны зелянелі. Дрэвы пакрыліся першым дробненькім лісцем.

У Віланаве яны пілі малако і елі чорны хлеб з водарам мёду. У Варшаву вярталіся ў выдатным настроі.

Машына сапраўды ехала цудоўна, хоць Друцкі заўважыў, што трэба будзе паправіць амартызатары ля рысораў.

Ён адвёз Любу дадому і вярнуўся ў атэль.

— Вам ліст, пан дырэктар, — затрымаў яго парцье.

У белым канверце была толькі кароткая запіска, надрукаваная на машынцы: «Чакаю неадкладна сёння вечарам — К».

— Нарэшце, — уздыхнуў Друцкі.

Роўна ў восем ён быў на Жаліборы. Бруніцкі чакаў яго ў холе.

— Гэта я, — сказаў Друцкі.

— Дзякуй табе, — паказаў яму на крэсла прафесар. — Ты знішчыў мой лісток?

— Зразумела.

— Нас чакае доўгая размова. Можа, гарбаты?

— Калі ты не супраць, мне моцнай.

Прафесар націснуў на званок. Адразу ж з'явіўся квадратны барадач і, выслухаўшы загад, праз хвіліну даставіў паднос з гарбатай.

— Аб адным я цябе папрашу, — пачаў прафесар, — а менавіта, прыняць тое, што я скажу, на веру, а потым, каб ты ў мяне не выпытваў пра рэчы, пра якія я сам не скажу.

— Я прыйшоў сюды не для задавальнення сваёй цікаўнасці, — кіўнуў галавой Друцкі.

— Такім чынам, справа ў наступным: законы не дазваляюць навуковыя эксперыменты на пацыентах. Ты добра ведаеш, што пытанне, якое я задаў навуцы і на якое даўно шукаю адказ — гэта ці магчымае так званае «ўгляданне».

— Ведаю.

— Дык вось, прызнаюся, я кіраваўся матывамі — і ты, Багдане, ведаеш гэта лепей, чым хто іншы — асабістымі. Таму я мог бы пайсці супраць сябе, калі б не абыякавасць да пытання матываў даследаванняў з боку самой навукі. Гаворка пра надзвычай важную рэч, надзвычай вялікую, каб мае ці твае магчымыя сумненні я мог браць пад увагу. Даследаванні ж могуць быць праведзены толькі эксперыментальным шляхам. Для гэтага мне патрэбны адпаведныя аб'екты, дастаўкай якіх ты і павінен заняцца.

— Дастаўкай… людзей? — запытаўся Друцкі.

— Жанчын, — пацвердзіў Бруніцкі.

— Жанчын?.. Многіх жанчын?

— Пачакай. Як ты, відаць, здагадваешся, да гэтага часу я вымушаны быў рабіць гэта сам. Аднак па многіх прычынах гэта было небяспечна і вельмі часта немэтазгодна. Бо гаворка толькі пра цяжарных жанчын. Я не буду расказваць табе пра сродкі, якія я мусіў ужыць, каб знайсці такіх жанчын. Я дазволю сабе звярнуць тваю ўвагу на дзве галоўныя крыніцы: першая — гэта нелегальныя акушэркі, да якіх звяртаюцца з нагоды цяжарнасці, другая — берагі Віслы, чыгуначныя пераезды, паркі — гэта значыць, месцы, дзе найчасцей адбываюцца самагубствы дзяўчат, якія спазналі так званую любоўную прафесію і якім матэрыяльныя ці сямейныя ўмовы не дазваляюць нарадзіць або зрабіць аборт. Разумееш?

Друцкі сціснуў пальцы:

— І я павінен дастаўляць іх табе?

— Не ўсіх. Сярод іх бывае шмат такіх, каго іншыя прычыны штурхаюць да самагубства. Таму трэба выбіраць. Варта спачатку ўпэўніцца, што дадзены

экзэмпляр сапраўды знаходзіцца ў цікавым стане. Інакш рызыкаваць не варта. Акрамя таго, выбіраць трэба маладых жанчын, да трыццаці гадоў, здаровых, моцных. Найбольш вітаюцца інтэлігентныя асобы, з уразлівай псіхікай.

— І што мне з гэтым рабіць?

— Заданнем тваім будзе адшукаць адпаведны аб'ект, не звярнуўшы на сябе чыёй бы тое ні было ўвагі, і потым даставіць яго сюды. З пункту погляду бяспекі трэба быць надзвычай асцярожным. Таму перавозіць пацыентку ў гэтую вілу трэба ў адурманеным стане. Яе можна ап'яніць алкаголем, хлараформам, эфірам ці іншымі сродкамі, якімі я цябе забяспечу. У любым выпадку, каб яна не магла зразумець, куды яе вязуць і дзе знаходзіцца. Гэта, урэшце, не галоўнае, аднак былі выпадкі, калі грэбаванне ап'яненнем прыводзіла да непрадбачаных наступстваў.

— І гэта ўсё, чаго ты ад мяне хочаш?

— Не зусім. Праз некалькі дзён ты павінен будзеш адшукаць вінаватага ў цяжарнасці і здабыць яго фатаграфію і, наколькі гэта будзе магчыма, выявы яго бацькоў і бацькоў дзяўчыны. Гэта не надта складана, таму што звычайна пасля знікнення дзяўчыны адбываецца скандал. Гэтым цікавяцца фотарэпарцёры, следчыя паліцыі, часта прыватныя дэтэктывы. Такім чынам, твая асоба не прыцягне чыёй-небудзь увагі.

Прафесар флегматычна закурыў і дадаў:

— У далейшым я буду чакаць ад цябе яшчэ пэўных паслуг, а пакуль гэта ўсё.

Друцкі панура ўперыўся ў яго:

— Можа, трупы вывозіць?

— Чаму трупы? — непрыемна рассмяяўся Бруніцкі. — Ніякіх трупаў, будзь упэўнены.

— Аднак, даруй, як наконт тваёй і маёй асабістай бяспекі? Бо гэтыя няшчасныя, пакінуўшы твой дом…

— Я прасіў цябе, — перарваў прафесар, — каб ты не выпытваў.

Друцкі ўстаў і пачаў шырокім крокам хадзіць па холе. Ён не верыў Бруніцкаму. Цяпер самыя фантастычныя здагадкі і апаскі, якія мучалі яго пасля дадзенага прафесару абяцання, засталіся ў мінулым. Ён павінен выконваць ганебную ролю… Канечне… самую ганебную… Заслугоўваць давер няшчасных, падманваць іх і аддаваць, выдаваць у рукі Бруніцкага і гэтага японца… чорт ведае на якія пакуты.

«Дзеля навукі», — абудзілася ў ім злачынная рэфлексія.

— Паскудства, — уголас сказаў ён.

— Адкуль раптам такая абвостраная маральнасць? — са з'едлівай іроніяй запытаўся прафесар.

— Паскудства, — паўтарыў Друцкі.

— Дык што… адмаўляешся?

— Пачакай! Скажы мне толькі… Дай мне слова гонару, што не будзеш іх забіваць, што…

Прафесар затрымаў яго рухам рукі:

— Чалавеча! Мне не трэба іх забіваць. Што б я, урэшце, рабіў з трупамі? Наадварот, гэтыя жанчыны заўсёды найлепшым чынам дагледжаныя.

— Слова гонару?

— Ну добра, даю табе слова гонару, — раздражнёна сказаў Бруніцкі. — Я не бяздумная жывёла, якая бязмэтна забівае людзей. Я не толькі не хачу смерці гэтых жанчын, я хачу, каб яны былі здаровыя, шчаслівыя і жылі ў дастатку.

Размова прадоўжылася да позняй ночы. Друцкі пазваніў у «Аргенціну» і аддаў некалькі распараджэнняў. Вячэралі яны ўдвух. Доктар Кунокі зусім не паказаўся.

Друцкі выйшаў змучаны і спустошаны.

У найбліжэйшыя дні ён павінен быў заняцца сваім новым брыдкім рамяством. Урэшце ў яго не было іншага выйсця. Ён даў Бруніцкаму абяцанне, і прыйшоў час яго стрымаць.

У гэты дзень дырэктар Вінклер быў не ў гуморы. У чым адразу пасля яго з'яўлення ў клубе пераканаўся парцье, які, як на злосць, менавіта сёння крыху выпіў. Наступнай ахвярай стаў інжынер Турман, якому дырэктар рэкамендаваў адмовіць у далейшым крэдыце. Падчас масавага танца электраманцёр забыў чарговасць светлавых эфектаў і даведаўся, што ў Амерыцы за гэтую чарговасць пазбавіўся б уласных зубоў. Панна Тэця была праінфармавана, што артышокі любяць, каб іх пісалі праз «т», дэгустатар — што можа не выдаваць «Cristal», калі яго просяць «Cordon rouge», гаспадыня кухні азнаёмілася з поглядамі пана дырэктара на пытанне пра падмятанне, а Казя пачула рэзкае «адчапіся».

З самага пачатку работы ў клубе дырэктара не памяталі ў такім настроі. Да таго ж, ён загадаў падаць сабе ў кабінет бутэльку джыну і піў кілішак за кілішкам, не звяртаючы ўвагі на нясмелыя погляды Тэці, страшна прыгнечанай і занепакоенай настроем шэфа.

Гэтым ранкам Друцкі не спаў увогуле. Ён лёг у пасцель і курыў папяросы.

У дзевяць быў ужо на нагах. Ён патэлефанаваў у банк аднаму з пастаўшчыкоў, нарэшце — Залкінду, ад якога даведаўся, што Люба ў захапленні ад яго аўтамабіля.

«Пракачуся, — падумаў ён, — пойдзе на карысць».

Друцкі пайшоў у гараж, агледзеў рухавік, сам наліў бензіну і выгнаў машыну.

На досвітку, відаць, прайшоў дождж, таму што паветра было чыстае, а дарога вільготная. Друцкі паехаў праз Новы Свет, звярнуў на праспект Трэцяга Мая і пачаў ціснуць на газ. Ён апусціў шыбы, таму вецер біў яму прама ў твар.

Праз мост Панятоўскага ён праляцеў як страла, не звяртаючы ўвагі на грозную міну паставога, і не прайшло хвіліны, як ён быў ужо за горадам.

Стрэлка на спідометры перасунулася на сотку, сто дзесяць, сто дваццаць… трыццаць…

На шчасце, шаша была добрая і амаль пустая.

Паветра займала дыханне і проста асляпляла. Вобразы дрэў, збудаванняў, людзей, якіх ён мінаў, зліваліся ў невыразнае воблака.

«Так вось урэзацца б у якую-небудзь сцяну, — думаў ён, — секунда — і ўсё!»

Раптам на даволі плаўным павароце ён убачыў за паўтара дзясятка метраў перад сабой статак кароў.

Друцкі не зменшыў хуткасць.

Налева бегла вузкая і няроўная палявая дарога. Ён звярнуў на яе.

Машына подскакам налятала на калдобіны.

«Ліха з ёй, з машынай», — пранеслася ў яго галаве.

Калі б ён не сціскаў руль абедзвюма рукамі, то вылецеў бы ўверх, як мяч.

«Ліха з ёй!»

Дарога ішла паміж загонамі, якія ўздымаліся па абодва бакі, звівалася ў бессэнсоўныя петлі і збягала да малой, шырока разлітай і на першы погляд неглыбокай рачулкі, за якой даволі стромка ўзнімалася на пагорак.

Вада са свістам узвілася двума шырокімі фантанамі з-пад колаў аўто.

— Ёхо-о-о-у! — крыкнуў на поўныя грудзі Друцкі, не чуючы ўласнага голасу.

На шчасце, дно было роўнае і, мокры да апошняй ніткі, ён праехаў рэчку ўброд.

З пагорка ён убачыў малую вёсачку, да якой якраз і вяла дарога, і шалёна зарулiў прама на ўзаранае поле.

Гэта былі пякельныя арэлі, але ён гэтага амаль не адчуваў. Мчаў проста на драўляны плот перад сабой. Прама перад ім Друцкі схіліў галаву і яшчэ даў газу.

Дошкі не былі ні тоўстыя, ні надта моцныя, таму што яны ні на секунду не затрымалі машыну. Кароткі трэск, бразгат разбітага шкла фар, скрыгатанне па жалезе капота — і аўто выскачыла на шашу.

Друцкі перастаў газаваць і націснуў на тормаз.

— Я вар'ят, — сказаў ён уголас.

Навюткая машына выглядала нікчэмна. Эмаль паадпадала, буферы былі пагнутыя, запасное кола ён недзе згубіў, і ўся машына была ў гразі.

Друцкі рассмяяўся:

— Наўпрост у Творкі[1].

На шчасце, ні рухавік, ні шасі не былі пашкоджаны, а машына, па меншай меры, ехала нядрэнна, хоць усё ў ёй бразгатала і скрыгатала.

«Трэба яе адразу аддаць у рамонт, — падумаў Друцкі, едучы павольна ў бок горада, — каля дзвюх тысяч будзе каштаваць гэта вар'яцкая язда».

Аднак ён не шкадаваў пра гэта. Аўто было знішчана, сам ён адчуваў стому ва ўсіх мышцах і боль у карку, але настрой значна ўзняўся. У рэшце рэшт, ён мог дасягнуць таго самага і без псавання машыны. Палётаць па полі з высунутым языком ці пастукаць галавой аб сцяну…

— Божа мілы! — схапіўся за галаву аўтамайстар, калі ўбачыў, у якім стане ўчора прададзены навюткі аўтамабіль. — Што адбылося? Вы трапілі ў аварыю?

— Не, — смяяўся Друцкі, — не трапіў. Проста ваш «фулд» ашалеў і панасіў мяне па бездарожжы.

— Як гэта?! Тармазы не працавалі?

— Працавалі, толькі так звяруга мчаў, што не было калі тармазіць.

Майстар недаверліва паглядзеў на яго, перакінуўся кароткім, шматзначным позіркам з механікам і сказаў:

— Ага!

— Вы думаеце, я звар'яцеў? — сур'ёзна спытаўся Друцкі.

— Што вы, барані божа! — непераканаўча запярэчыў інжынер.

Раптам у Друцкага ўзнікла ідэя напужаць інжынера. Ён нечакана падскочыў і крыкнуў:

— Віват!

— Можа, вам адпачыць? — нясмела прапанаваў інжынер. — Можа, шкляначку вады?..

Друцкі не стрымаў смех:

— Не хвалюйцеся, мне ўжо лепей. Дык калі вы думаеце адрамантаваць гэтую клячу?

— Не менш як праз тыдзень, — выказаў меркаванне інжынер, стараючыся трымацца як мага далей ад небяспечнага кліента.

Таму ж, відаць, сапраўды стала лягчэй, бо ён ужо зусім па сутнасці і спакойна пачаў гаварыць пра дэталі справы.

— Але вы нерваваліся, — з палёгкай развітваўся з ім інжынер.

— Дарагі вы мой, — сказаў Друцкі, хвіліну падумаўшы, — я страшэнна нерваваўся і вырашыў пазбавіцца ад гэтага настраёвага бзіка, як казалі нашы дзяды.

У атэль ён вярнуўся пешшу і лёг на канапу. Друцкі быў вельмі стомлены і адразу ж заснуў.

Калі ён прачнуўся, было ўжо цёмна. Дырэктар апрануўся і паехаў у «Аргенціну».

Ён зноў быў у нармальным, вясёлым настроі, жартаваў з персаналам і смяяўся.

Ад бзіка ён пазбавіўся, аднак трывога не адступала.

Найбліжэйшыя дні Друцкі прысвяціў абследаванню «тэрыторыі» і роздумам над пастаўленым заданнем. З гэтай мэтай ён бадзяўся па ўскраінах.

Ён вырашыў абмежавацца выключна самазабойцамі. Таму чытаў цяпер хроніку здарэнняў у жоўтай прэсе.

---

[1] Творкі — слэнгавае, абазначае мясцовасць, дзе ёсць псіхіятрычная клініка.

У Варшаве штодзень некалькі маладых дзяўчат пазбаўляліся жыцця. Але яму не шанцавала. Адзін раз, праўда, ён убачыў маладую жанчыну, на выгляд кухарку, у якой быў вельмі сумны твар, і сядзела яна на чыгуначным пераездзе, але не мела намеру кідацца пад поезд, а без лішніх цырымоній прызналася, што калісьці сустракалася тут са знаёмым дарожным рабочым і цяпер прыходзіць на гэты пераезд, бо «прыемна ўспомніць».

Бруніцкі тэлефанаваў два разы з інтэрвалам у некалькі дзён, пытаўся пра навіны.

Урэшце пасля тыдня пошукаў — удалося.

Ён ішоў якраз па Аградовай і пад ліхтаром заўважыў высокую худую брунетку, якая лічыла дробныя грошы.

Друцкі сцішыў крок і чакаў. Павагаўшыся з хвіліну, дзяўчына ахінулася шарсцяной хусткай і ўвайшла ў найбліжэйшую крамку.

Друцкі стаў ля акна. Крамка была малая, і ён добра бачыў абыякавую міну прадаўца і хваляванне на твары пакупніцы. Бутэлечка воцатнай эсэнцыі была схавана пад хусткай, і дзяўчына выйшла.

Яна нерашуча агледзелася па баках, урэшце хуткім крокам накіравалася ў бок плошчы Керцэля. Друцкі думаў, што яна тут затрымаецца, але не: звярнула на Млынарску.

Вуліца была пустая. Друцкі ішоў хутка, баючыся згубіць яе з поля зроку, таму што яна амаль бегла.

Затрымалася дзяўчына толькі пад сцяной могілак і зноў азірнулася. Відаць, яна чакала, калі ён пройдзе.

— Прабачце, — пачаў ён, — ці не ведаеце вы, колькі гэта зараз можа быць часу?

— Не ведаю, — адказала яна дрыжачым голасам. — Можа, гадзін восем.

Друцкі стаў за некалькі крокаў ад яе і жартаўліва сказаў:

— І вы не баіцеся тут упоцемку ля нябожчыкаў?

Дзяўчына адвярнулася ад яго:

— Не чапайце мяне… Не мне баяцца нябожчыкаў, — скончыла яна шэптам.

Друцкі флегматычна закурыў, патушыў запалку і ўздыхнуў з павучаннем:

— З жывымі заўсёды лепей.

— Як каму.

— Любому, — запэўніў Друцкі.

— Ідзіце сваёй дарогай, — загаварыла яна нечакана рэзка і акінула яго журботным позіркам.

— Кінуў?.. — коратка запытаўся ён пасля паўзы.

Дзяўчына закрыла твар хусцінкай і заплакала.

— Дурненькая, — паківаў галавой Друцкі, — гэты кінуў, будзе другі. Ці ж мала мужчын?.. Ды яшчэ для такой маладой і прыгожай… А можа, вернецца…

— Хай яго халера! — не стрымалася дзяўчына. — Хай ён крывёю зальецца! Не трэба ён мне! Ні ён, ні хто іншы! Адыдзіце, чаго вы прычапіліся?!

— Навошта сабе шкодзіць? — не здаваўся Друцкі. — Вы б супакоіліся. Жыць заўсёды варта.

— Вы такі разумны, — усхліпвала яна, — а што, вы думаеце, з гэтым дадуць чалавеку жыць?

— Няўжо хто не дасць?

— Усе. Бацькі з дому выганяць, з працы выкінуць, пальцамі будуць тыкаць. А жыць жа трэба, дзяўчына з дзіцем — дык ніхто і граша не дасць зарабіць… Вось якія людзі.

— І такія, і не такія, — разважаў Друцкі, — а зрэшты, можа, яшчэ магчыма ўсё ўладзіць?

— Позна ўжо, позна… Паганец абяцаў ажаніцца — і ажэніцца… Толькі не са мной. Што ж мне застаецца, дзе я падзенуся, вось хіба тут… за сцяной…

Яна зноў залілася слязьмі.

Друцкі, не цырымонячыся, абняў яе і пагладзіў па плячах:

— Ціха… ціха… Нехта ідзе.

Сапраўды, ля іх прайшлі двое рабочых. Калі іх крокі заціхлі, Друцкі сказаў:

— Я вамі займуся. Мы ўсё зробім так, што пра роды ніхто не даведаецца, і, тым больш, пальцам тыкаць не будзе.

Дзяўчына перастала плакаць і выцерла нос чыстай белай хусцінкай:

— Што ж вы мяне падманваеце…

— Я не падманваю.

— А можа, вы з якой паліцыі ці з магістрата?

Друцкі рассмяяўся.

— Ні з паліцыі, ні з магістрата. Проста ў мяне зашмат грошай, і я хачу вам дапамагчы, бо і мне людзі дапамагалі.

Ён праглынуў сліну і падумаў, што не зманіў. А яму хіба людзі інакш дапамагалі? Можа, за выключэннем Залкінда…

Дзяўчына глянула яму ў вочы, а ён апусціў павекі:

— Хадзем.

Яна моўчкі ішла побач з Друцкім.

— Аддайце мне гэтую бутэлечку.

Дзяўчына падазрона паглядзела на яго і стала:

— Якая вам справа? — запыталася яна.

— А што б вы зрабілі, калі б убачылі, як нейкае дзіця кладзе руку ў агонь?

— Ну, так, але я не дзіця.

— Дзіця, малышка, дзіця.

Яны зноў ішлі моўчкі.

— Куды вы мяне ведзяце?

— Куды? Ну, спачатку мы павінны замачыць наша знаёмства і шчаслівы зыход неразумных намераў.

— Я не п’ю, — затулілася ў хустку дзяўчына.

— І я таксама, — засмяяўся Друцкі, — але так, адзін раз, для настрою. О, хадзем сюды.

Яна не супраціўлялася.

Гэта была маленькая забягалаўка, якіх шмат на Волі. Кафляная падлога, пасыпаная пілавіннем, нізкія вокны, зацягнутыя жоўтым паркалем, чырвоная барная стойка і некалькі столікаў на жалезных ножках. За стойкай быў тоўсты, бочкападобны мужчына з вялікім шрамам на шчацэ і з закручанымі па-вільгельмаўску чорнымі вусамі, якія блішчалі ад памады.

— Маё шанаванне, — буркнуў ён такім тонам, нібыта быў смяротна абражаны.

— Прывітанне, пане гаспадару, — кіўнуў яму галавой Друцкі, не здымаючы капелюша, — вішнёўку і якую-небудзь добрую закуску.

Яны селі ў куток. Акрамя іх, у забягалаўцы быў толькі стары рамізнік, які нават не звярнуў на іх увагі.

Дзяўчыне магло быць дзевятнаццаць, можа, дваццаць гадоў, апранута яна была вельмі сціпла, але чыста. Друцкі, хоць падчас сваіх прагулак выкарыстоўваў самае паношанае адзенне, заўважыў, што яно выклікала ў яго спадарожніцы павагу.

Гаспадар прынёс гарэлку, сардэлькі і два відэльцы.

— Агурка? — спытаўся ён.

— Дайце агурка.

Калі яны выпілі па поўным кілішку, дзяўчына ўздыхнула:

— Вы, відаць, і сапраўды добры чалавек!

— Мг, добры…

— На выгляд добры, — слаба ўсміхнулася дзяўчына.

— Вы яшчэ лепшая.

— Што там я, я — не лічыцца… Я сябе загубіла…

— За наша халасцяцкае здароўе! — чокнуў Друцкі ў яе кілішак.

Праз паўгадзіны настрой дзяўчыны ўзняўся. Яна аддала бутэлечку з воцатнай эсэнцыяй, пачала расказваць пра сябе.

Яна была дачкой вагонаважатага трамвая, жыла з бацькамі ў Пэльцавізне[1], а працавала ў магазіне адзення на Садовай, зарабляючы тры злотыя штодня. Так распарадзіўся лёс, бо збіралася яна быць настаўніцай. Скончыла агульнаадукацыйную школу, і яе хацелі аддаць у гімназію. Але тут прычапіўся бессаромны нягоднік і закруціў ёй галаву. Дурная была, і ўсё тут. Цяпер яна за гэта адплаціць. А ён ажэніцца з дачкой афіцыянта, з такой рабой Ядзяй, што нават сабакі на яе выюць, бо, да таго ж, яна яшчэ рыжая.

— А ён?

— Зразумела, слесар, працуе ў Лілпопа. Можа, вы чулі, Валендзяк Юзэф, такі брунет.

— Можа, вы з’елі б што-небудзь гарачае? — прапанаваў Друцкі.

— Добра. Толькі шкада грошай.

— У мяне шмат, мне не шкада.

Ён выняў сто злотых і паклаў на стол.

— Пане гаспадару, можа, чаго-небудзь гарачага?

— Альбо свіная катлета, альбо нічога, — забурчаў гаспадар.

— Загадай зрабіць дзве. А, пане гаспадару, тэлефона тут няма?

— Чаго?

— Тэлефона.

— На рагу, у аптэцы, — працёр гаспадар нос рукавом, паправіў вусы і пайшоў на кухню.

— Я зараз вярнуся, секунду, — сказаў Друцкі. — Толькі пачакайце! Добра?

Дзяўчына кіўнула галавой.

— А дзе я падзенуся? Буду чакаць. Толькі вы ж прыйдзіце, бо калі не, то ў мяне няма чым заплаціць і мяне адвядуць у камісарыят.

— Дык я пакідаю за сябе заклад, — засмяяўся Друцкі, падсоўваючы банкнот пад талерку.

Рассмяялася і дзяўчына. Алкаголь рабіў сваю справу.

Друцкі пагладзіў яе падбародак і выйшаў. Аптэка была побач, і тэлефон свабодны. Друцкі перамовіўся з Бруніцкім некалькімі словамі па-англійску, каб аптэкар не мог зразумець.

Калі ён вяртаўся ў забягалаўку, у галаве яго прамільгнула, што дзяўчына забрала грошы і знікла. Насуперак цвярозаму розуму ён гэтаму вельмі парадаваўся.

Аднак заспеў дзяўчыну за столікам.

— О, вы вярнуліся! — амаль радасна закрычала яна.

— Вып’ем! — адказаў Друцкі, наліваючы кілішкі.

Калі яны выходзілі, дзяўчына была ўжо амаль непрытомная. Друцкі ўзяў яе пад руку, вуліцы былі цалкам цёмныя, і (перш чым дайшоў да ўмоўленага месца) ён не быў упэўнены, ці прыслаў прафесар машыну, тым больш што шафёр патушыў святло.

— Паедзем на таксі? — пыталася дзяўчына, хістаючыся.

— На таксі, — пацвердзіў Друцкі, уцягваючы яе ў машыну.

Дзяўчына заснула амаль адразу на яго плячы.

Друцкі ўпотай праклінаў усё на свеце.

Зараз ён, можа, выскачыў бы, але аўто мчала з нарастаючай хуткасцю. Менш чым праз чвэрць гадзіны яны затармазілі перад варотамі вілы на Дэмбовай.

[1] Пэльцавізна — раней вёска, цяпер тэрыторыя на паўночным усходзе Варшавы.

Відаць, іх вельмі чакалі, таму што вароты адчыніліся адразу ж. Машына зрабіла круг і стала перад маленькімі дзвярамі ззаду вілы ў глыбіні двара. Дзве фігуры вынырнулі са змроку. Дзверцы машыны адчыніліся звонку, і Друцкі пачуў прыглушанае пытанне Бруніцкага:

— Прытомная?

— Не, спіць.

— Алкаголь?

— Так.

— Давай яе сюды.

Друцкі дапамог дастаць бяссільную дзяўчыну і хацеў зачыніць дзверцы, але дакрануўся да нечага вільготнага. Гэта японец мокрай сурвэткай выціраў ручкі і падушкі аўтамабіля.

— Вазьмі за ногі, — шапнуў Бруніцкі.

Яны ішлі, несучы дзяўчыну навобмацак праз доўгі цёмны калідор. За імі чуўся рокат машыны, якая ад'язджала, скрыгат ключа ў дзвярах, якія замыкалі, і хуткія крокі японца.

Доктар Кунокі апярэдзіў іх і запаліў святло.

Гэта быў прыгожы белы пакой, які нагадваў сваёй абстаноўкай санаторый і крыху майстэрню мастака, таму што вокны былі зроблены ў столі.

Дзяўчыну паклалі на ложак. Японец змераў яе пульс, Бруніцкі прынёс прыбор для ін'екцыі і ўпырскнуў ёй пад скуру нейкае лякарства.

— Хадзі, — узяў ён пад руку Друцкага.

Яны зноў ішлі па калідоры, мінаючы ўжо каторыя дзверы, падобныя, як блізняты, да тых, за якімі засталася новая пацыентка прафесара. Усе яны былі абабітыя тоўстым лямцам і не мелі ручак.

Прайшлі каля ваннага пакоя, у якім было чуваць плёсканне вады і плач дзіцяці.

— У цябе тут цэлая бальніца, — заўважыў Друцкі.

Яны прайшлі даволі вялікую цёмную залу, якая пабліскала з бакоў нікеляванымі апаратамі. Лабараторыя ці таксама аперацыйная зала. Зноў калідор, тоўстыя дзверы, якія прафесар адчыніў ключом — і вось яны апынуліся ў знаёмым холе.

— Дзякуй табе, — сказаў Бруніцкі.

— Караль, — прытрымаў яго далонь Друцкі, — памятай, што яна павінна жыць.

— Яна будзе жыць, — раздражнёным голасам адказаў прафесар. — Ты мне толькі скажы, ці ўсё ў парадку?

— Думаю, так.

— За табой не сачылі?

— Упэўнены, што не.

— Цябе не маглі пазнаць?

Друцкі запэўніў, што не мае ніякіх сумненняў.

— Сёння ўжо вельмі позна, і ў цябе, напэўна, няма часу, — паглядзеў на гадзіннік прафесар, — дык, можа, будзеш такі добры і забяжыш заўтра прыкладна ў поўдзень у псіхіятрычную клініку.

— Навошта?

— Я павінен апісаць дэталі біяграфіі, сям'і і гэтак далей дзяўчыны. Скажы мне толькі, яна дакладна цяжарная?

— Дакладна.

— А які месяц?

— Паняцця не маю.

— Спроба самагубства?

— Так, хацела атруціцца воцатнай эсэнцыяй.

Прафесар праводзіў Друцкага аж да брамкі і перасцярог:

— Будзь уважлівы на вуліцы.

— Не бойся, — скрывіўся Друцкі, — я ў гэтым разбіраюся лепш за цябе.

Паблізу нікога не было. Аднак Друцкі не ўзяў найбліжэйшае таксі, а сеў у трамвай. Праехаўшы некалькі прыпынкаў, выскачыў, звярнуў на бакавую вуліцу і толькі тут узяў машыну.

Калі пераапранаўся, Друцкі знайшоў у кішэні бутэлечку з эсэнцыяй.

«Я, аднак, неасцярожны», — падумаў ён.

Па дарозе ў «Аргенціну» ён выкінуў бутэлечку ў сметнік.

— Пан дырэктар, — з усмешкай павітаў яго касір Юстэк, — званіў адвакат Лэньчыцкі і замовіў ложу.

— Што вы кажаце! — узрадаваўся Друцкі.

— Я забраніраваў дзявятку.

— Дзякуй вам.

Да яго вярнуўся добры настрой.

«Усё ж такі прыйдзе», — падумаў ён.

Друцкі памыліўся. Аліцыя не прыйшла. Лэньчыцкі з’явіўся ў большай кампаніі, але без Аліцыі.

«Вось упартая баба», — у захапленні канстатаваў сам сабе Друцкі.

Гэтай ноччу ён піў і выгаворваў Казі за назойлівасць. Аднак ён не хацеў быць адзін і забраў з сабой у атэль Тэцю. Друцкі стараўся не думаць пра сваю сённяшнюю авантуру, але ніякім чынам не мог пазбавіцца ад успамінаў пра тую дзяўчыну.

Нарэшце алкаголь і стомленасць узялі сваё.

Ён адправіў Тэцю і заснуў мёртвым сном.

Абудзіў яго стук у дзверы. Друцкі паглядзеў на гадзіннік: было адзінаццаць, значыць гэта служка. Ён крыкнуў:

— Увайдзіце, — і сеў на ложак, шырока расплюшчыўшы вочы.

У дзвярах стаяла Люба.

— О, капітан яшчэ спіць? — фрывольна ўсклікнула яна. — Добры дзень!

— Люба! — сказаў ён з выклікам. — Навошта вы гэта зрабілі?

— Што? — спытала яна з наіўнай мінкай.

— Спусціцеся ў хол і чакайце. Праз паўгадзіны я буду гатовы.

Люба засмяялася і падышла да ложка:

— Я была пра вас лепшай думкі. Мне здавалася, што такі мужчына, як вы, заўсёды гатовы… Асабліва, калі ляжыць у пасцелі і ў такой прыгожай піжаме.

— Люба! Выйдзіце, калі ласка!

Ён стараўся надаць свайму голасу як мага больш пагрозлівае гучанне, але яна ўсё смяялася.

— Гляньце, які негасцінны! Ну, і вы не павітаецеся са мной?

— Не павітаюся!

Друцкі загарнуўся ў коўдру і рэзка адвярнуўся тварам да сцяны.

Тады Люба села на ложак і, зняўшы пальчаткі, заглыбіла пальцы ў яго валасы.

— Шоўк, — сказала яна ціха.

— Люба! Шоўк ці шчаціннe, а я зараз як падскочу і без цырымоній спушчу з цябе скуру!

— Я не ведала, — засмяялася Люба, — што капітан садыст.

Яна ссунула капялюшык і зняла футра.

— Горача тут, — заўважыла яна.

— Люба, — Друцкі перайшоў на ўгаворы, — навошта вы гэта робіце. Трэба ж думаць! Як можна!

— Божа, які вы сёння нудны, — уздыхнула Люба, зноў сядаючы на ложак і нахіляючыся над ім, — да яго прыходзіць прыгожая, маладая і прагная жанчына, а ён…

— А ён зусім не прагны, — перарваў Друцкі.

— Не? — какетліва спыталася яна.

— А вось і не! Зусім не! Каб ты ведала, перад тваім прыходам у мяне ў гэтым самым ложку была маладая і прыгожая жанчына.

Ён сказаў гэта наўмысна. Думаў, што гэтым яе адштурхне, але Люба яшчэ бліжэй падсунулася да яго:

— Так, так, ложак яшчэ пахне яе парфумай, ён яшчэ цёплы ад яе пяшчот. Якая яна, відаць, была шчаслівая! Скажы, яна была страсная?

— Ведаеш, Люба, — абурыўся Друцкі, — ты бессаромніца!

— Так, так, я хачу быць бессаромнай. Скажы, яна была прыгажэйшая за мяне? Ах, капітане, я хацела б ведаць, як ты ёй завалодаў, як выгіналася яе цела ў тваіх руках, як яна аплятала цябе сабой… Гэта павінна было быць прыгожа!.. Стыхія! Полымя! Ураган! Усё, што ты робіш, павінна быць прыгожым і магутным…

Яна тулілася да яго, і яе гарачы шэпт абліваў яму шыю.

— Люба, ты ашалела?

— Ашалела! Ах, якія ж мы дурныя і заняволеныя! Чаму я не магу напіцца табой! Напіцца да непрытомнасці! Ты не ўяўляеш, што б я аддала за тое, каб ты дазволіў мне так ляжаць ля цябе і глядзець, як ты завалодваеш іншай…

— Люба!

— Не, не, ты гэтага не зразумееш, што гэта другая палова асалоды… Ох, я б хацела быць такой бессаромнай, такой разбэшчанай, распушчанай… Ведаеш, пра што я мару? Каб на тваіх вачах аддавацца Барысу і на яго вачах — табе, і каб была яшчэ іншая жанчына, такая ж прыгожая і распусная, як я, і каб…

Друцкі сеў і закрычаў:

— Люба! Ты хворая! Ты ўсведамляеш, тое, што ты гаворыш, — агіднае?!

— Ап’яняльнае, ашаламляльнае…

Яна апляла яго рукамі і распаленым тварам прынікла да яго грудзей.

— Вазьмі мяне, вазьмі, — шаптала яна перарывістым голасам, — бо я згару датла…

Драпежнымі рухамі яна сарвала з яго коўдру і прыстала да яго ўсім целам.

— Як я блізка да цябе… Як я цябе адчуваю… каханы… каханы… каханы…

Голас ператварыўся ў хрып, у доўгі стогн, у крык і Люба самлела — яе плечы расслабіліся.

Друцкі, хістаючыся, устаў і працёр вочы. Ён сам быў непрытомны.

Толькі праз доўгую хвіліну ён знайшоў флакон з адэкалонам і пачаў націраць ёй скроні.

— Люба! Люба! — трос ён яе.

Яна была бяссільная і белая, як палатно.

— Што ж рабіць?

Усур’ёз устрывожаны, ён хацеў ужо выклікаць хуткую дапамогу, але жанчына адкрыла вочы і ўсміхнулася.

— Люба, вам лепей?

Рухам павекаў яна адказала «так». Друцкі падаў ёй шклянку вады і, прытрымліваючы галаву, уліў у вусны некалькі кропель.

Яна яшчэ была вельмі слабая, але села.

— Можа, келіх віна? — прапанаваў ён.

— Добра.

Люба прагна выпіла.

— Яшчэ? — спытаўся ён.

— Калі ласка!

Калі Друцкі пераканаўся, што ёй ужо лепей, ён пачаў мнагаслоўна, без толку гаварыць. Гаварыў доўга і вельмі пераканаўча. Яна слухала з усмешкай і ў канцы сказала:

— Я хацела б так памерці, як зараз самлела. Калі вось так адчуваецца смерць, то жыццё значна менш вартае, чым я меркавала.

— Жанчына! Злітуйся над сабой! Трэба ж валодаць сваімі жарсцямі.

— Я прытрымліваюся іншага правіла, — пярэчыла Люба, — я не ведаю, хто гэта сказаў, але ён, відаць, быў разумны: адзіны эфектыўны сродак барацьбы са спакусай — гэта яе задавальненне. Па-вашаму, гэта не слушна?

— Не слушна! — упэўнена адзначыў Друцкі і падумаў, што сам ён заўсёды рабіў менавіта так, але ён зусім не згодны, што гэта правільна.

Люба ўстала і зрабіла некалькі крокаў.

— У мяне дрыжаць ногі, гэта дзіўна, — сказала яна з усмешкай.

— Ну, бачыце.

— Не бачу — адчуваю. Ах, мой салодкі!

Яна села Друцкаму на калені і бяссільна абаперлася галавой аб яго шчаку.

— Я прыйду сюды заўтра… паслязаўтра… кожны дзень буду прыходзіць.

— Не прыйдзеш! — узлаваўся ён.

— Не змагу не прыйсці.

— Дык я выметуся адсюль у іншае месца і не пакіну адрас.

— Бачыш, які ты нядобры!

Друцкі зняў яе з каленяў.

— Люба, ты павінна гэта зразумець. Я мужчына, і хутчэй пальнуў бы сабе ў лоб, чым мог бы зрабіцца тваім каханкам. Я даў слова гонару! Калі б я яго парушыў, калі б так адплаціў твайму мужу за яго сяброўства і дапамогу, то лічыў бы сябе падонкам. Таму я цябе малю, каб ты мяне зразумела. Я не змагу жыць, сябе не паважаючы.

— О, ты вельмі высакародны!

— Не ў гэтым справа, — раздражніўся Друцкі, — я інакш разумею высакароднасць і маральнасць, чым іншыя. Я маю рацыю ці яны яе маюць — гэта мая справа. Даволі, што я катэгарычна табе заяўляю: калі ты яшчэ раз прыйдзеш да мяне, то прымусіш мяне з’ехаць. Паеду ў Амерыку ці да чорта лысага, і больш мы не ўбачымся. Даю табе слова.

Люба зразумела, што ён выканае пагрозу, і расплакалася.

— Жыццё — страшна недарэчнае, страшна…

— Ну, не плач, Люба, гэта таксама не разумна.

— Я ведаю, — выцірала яна слёзы.

— Ты хіба ведаеш, што я адштурхоўваю цябе, бо не кахаю. Аднак, павер, мне гэта цяжка даецца.

— Тым горш. Абрыдлыя забабоны!

— Анархістка!

— Ну дык ведай! Тоня — ідыётка са сваім камунізмам. Ідыётка. Знішчае адну веру, каб стварыць сабе іншую. Я б увогуле гэта ўсё знішчыла. Разарвала на дробныя кавалачкі!

— І навошта?

— Каб была сапраўдная свабода!

— А што такое сапраўдная свабода?

Люба задумалася.

— Каб кожнаму ўсё было можна.

— Як гэта ўсё? Дык мне можна было б забіць твайго сына?

— Так, можна!

— Глупства ты нясеш, дарагая Люба, у самай вялікай турме можна быць свабодным. Глянь на мяне, прынамсі, я вольны, як птушка.

— Нічога сабе воля! Ты гаворыш, што хацеў бы мяне, але не можаш, бо цябе стрымлівае дадзенае Барысу слова.

— Я даў яго па ўласнай волі.

— Але яно цябе зараз гняце.

— Не.

— Ты, капітане, нахабнік!

— Ты дрэнна мяне зразумела. Мяне больш гняло б парушэнне слова. Глядзі, я зараз шчаслівы, што змог авалодаць сабой, калі мы былі там, — ён паказаў на ложак.

— Капітане! — жаласна ўздыхнула Люба.

— Люба, будзь сапраўдным мужчынам, — сказаў са смехам Друцкі, — а цяпер спусціся ў хол. Праз пятнаццаць хвілін я буду гатовы і праводжу цябе. Як ты сябе адчуваеш?

Яна добра сябе адчувала.

Яны зайшлі ў цукерню выпіць кавы, пасля чаго Друцкі адвёз яе дадому.

Канечне, яна не прыйшла ні назаўтра, ні ў наступныя дні. Друцкі, зрэшты, цяпер уставаў значна раней, таму што машыну ўжо забраў з рамонту, дзякуючы чаму ён мог прагульвацца за горадам.

Часам ён браў з сабой Любу, Тэцю або Тоню. Казя таксама неаднаразова аб'яўлялася, але ён заўсёды адгаворваўся.

Яна надакучвала яму. Апошнім часам ён увогуле не наведваў яе. Таму яна воўкам глядзела на Тэцю, а гэта зноў аддаляла яе ад Друцкага.

Была субота, дзень, калі ў «Аргенціне» найбольш наведвальнікаў і самая вялікая выручка. Друцкі прыйшоў яшчэ ў восем. Прагледзеў ліст замоў і ўзяўся за чытанне карэспандэнцыі. Гэта былі пераважна гандлёвыя і любоўныя пісьмы. Сярод іх аказаўся, аднак, вялікі стары канверт, на якім было надрукавана на машынцы. Унутры быў аркушык паперы з тэкстам, таксама набраным на машынцы, і без подпісу.

Здзіўлены, ён прачытаў:

«Сёння ноччу будзе праверка. Калі ласка, усё прыбярыце. Піша вам невядомы сябар. Гэты ліст абавязкова спаліце».

Далей была дата.

— Што за праверка, чорт? Нейкі вар'ят, ці што?

Аднак ліст ён спаліў.

Дарма Друцкі ламаў сабе галаву, ён не мог зразумець, якой праверкай яго пужалі. З чаго б гэта раптам «Аргенціну» будуць правяраць? І што ён павінен прыбраць? Тут жа няма ні тайнага вінзавода, ні друкарні грошай!

Ён нібыта сапраўды ў сувязі з гэтым засумняваўся, абышоў увесь клуб: ад падвала да балконаў. Усё было ў поўным парадку.

«Альбо містыфікацыя, — падумаў ён, — альбо памылка, хутчэй містыфікацыя».

Ну і хто, да таго ж, мог яго папярэджваць пра рэвізію? У паліцыі ён нікога не ведаў, а пра такое можа ведаць толькі паліцыя ці там які-небудзь судовы следчы.

Гасцей усё прыбывала. Адпачывалі цудоўна. Мінула другая, трэцяя, чацвёртая гадзіна…

«Вядома, містыфікацыя!»

Друцкі падчас сваёй вандроўкі ад століка да століка смяяўся, вітаўся, прысаджваўся, калі да яго падышоў афіцыянт і шапнуў на вуха:

— Пан дырэктар, паліцыя!

— Што?

— Паліцыя.

Ён хутка выбег у хол, там сапраўды было шмат паліцэйскіх, у форме і ў цывільным.

— Вы ўладальнік гэтага клуба? — звярнуўся да Друцкага камісар, мажны брунет, якога Друцкі не раз бачыў на вуліцы.

— Я, — сказаў ён спакойна, — чым я магу вам дапамагчы?

— Я атрымаў загад правесці тут праверку.

— Праверку? — нібыта здзівіўся Друцкі. — Але ж, пан камісар, чаму?

— Мы атрымалі распараджэнне. Адзінае, чым я магу вам служыць, — гэта прад'явіць яго на паперы, калі вы мне не верыце.

— Я вам цалкам веру.

— Значыць, вы захочаце мяне суправаджаць.

На працягу пяці хвілін усе дзверы былі пад аховай. Сярод прысутных запанавала незадавальненне. Служкі шырока адкрывалі вочы і былі напужаныя.

Клуб абшуквалі пільна, заглядалі ў кожны кут, прастуквалі сцены і падлогу, даследавалі змесціва пакецікаў з кавай і цукрам.

Друцкі толькі ўсміхнуўся:

— Гэта быў, відаць, нейкі подлы данос.

Нарэшце камісар зайшоў у кабінет Друцкага, выправадзіў спалоханую пані Тэцю і папрасіў ключы ад сейфа і ад пісьмовага стала.

— Да вашых паслуг, вось ключы ад касы. Стол адчынены.

— Тут грошы, — сказаў камісар, адчыняючы сейф, і звярнуўся да Друцкага: — Будзьце ласкавы, дапамажыце рэвізіі. А гэта як адчыняецца? — указаў ён на маленькую шкатулку.

— Вось так, — падняў вечка Друцкі.

Унутры былі кантакты, падатковыя квітанцыі і падобнае.

Касу зачынілі і пачалі даследаваць стол. У сярэдняй шуфлядзе, дзе тырчаў ключ, Друцкі здзіўлена заўважыў даволі вялікі плоскі пачак у жоўтай паперы. Ён дакладна ведаў, што такога пачка ён ніколі не трымаў у руках і пэўна не клаў яго ў шуфляду.

На пачак была прыклеена друкаваная этыкетка:

«Тлушч раслінны Віх».

Следчы, які дастаў пачак, і камісар абмяняліся шматзначнымі позіркамі, якія не ўслізнулі з-пад увагі Друцкага.

— У кухні «Аргенціны», — між іншым спытаў камісар, — ужывалі гэты раслінны тлушч?

— Зусім не, пан камісар, мы ўвогуле не ўжываем ніякіх тлушчаў.

— Ага, значыць, гэта вы, пэўна, купілі на пробу.

— Ніяк не, я зусім не купляў. Я ўвогуле бачу гэты пачак упершыню, — спакойна адказаў Друцкі.

— Адкрыць, — загадаў камісар.

У паперы была драўляная скрынка, а ў скрынцы стаялі ў два рады шчыльна ўпакаваныя флаконы з белым парашком.

Камісар прыжмурыў вока і засмяяўся:

— Нічога сабе тлушч, а?

— Морфій! — усклікнуў следчы.

Усе работнікі паліцыі, якія знаходзіліся ў кабінеце, сабраліся ля стала.

— Харошы запасік! — пачуліся задаволеныя галасы.

— Гэта мне не належыць, — не губляў раўнавагі Друцкі.

— Вы ўзялі гэта на захоўванне? — іранізаваў камісар.

— Не. Гэта мне падклалі.

Камісар сеў і выняў з папкі аркуш паперы.

— Падклалі? Ну канечне! Зразумела! Напэўна, нехта з наведвальнікаў?

— З наведвальнікаў — не можа быць. Публіка не мае сюды доступу.

— Тады каго вы падазраяце?

— Нікога не падазраю.

— Ну, добра, а хто з персаналу мае сюды доступ?

Друцкі паціснуў плячыма:

— Калі я тут — любы.

— А калі вас няма?

— Калі мяне няма, тут заўсёды мая сакратарка і часта касір, пан Юстэк.

— Дык вы іх падазраяце?

— Зусім не, пан камісар. Канечне, нярэдка сюды заходзяць і іншыя работнікі. Але ж яны не могуць заглядваць у мой стол. Ні касіру, ні сакратарцы я б гэтага не дазволіў.

Камісар хутка занатоўваў. Нягледзячы на павагу, з якой ён слухаў тлумачэнні Друцкага, было відаць, што камісар яму не верыць. Ён нешта шапнуў аднаму з паліцэйскіх, і той праз хвіліну вярнуўся з пані Тэцяй. Дзяўчына ўся трэслася.

— Вы сакратарка дырэктара Вінклера? — спытаўся камісар.

— Я.

— Ваша імя і прозвішча?

— Антаніна Кручэўска.

— Вам знаёмы гэты пачак? — ён паказаў зноў запакаваны морфій.

— Канечне, знаёмы.

— Так? Сапраўды?

— Абсалютна, пан камісар. Калі сёння я прыйшла на працу, то знайшла яго на сваім століку ля машынкі.

— Ах, так? А як ён апынуўся ў пісьмовым стале?

— Я сама яго туды паклала.

Запанавала цішыня. Ніхто не чакаў такога адказу.

— Вы кажаце, — пачаў нарэшце капітан, — што паклалі яго ў стол. З якой мэтай?

— Каб ён не ляжаў наверсе. Я падумала, што гэта пачак пана дырэктара, вось і паклала яго ў стол у сярэднюю шуфляду.

— А вы ведаеце, што ў тым пачку?

— Канечне. Нейкі раслінны тлушч.

— А чаму вы меркавалі, што гэта належыць пану дырэктару? Вы раней бачылі ў яго такія пачкі?

— Не. Але тут бываюць толькі рэчы пана дырэктара. Пан касір ніколі б тут нічога свайго не паклаў.

— Дык вы ўпэўнены, што раней вы такіх пачкаў не бачылі?

— Зразумела, ніколі, пан камісар. Я нават яшчэ сказала пану Юстэку, што дзіўна, навошта пану дырэктару гэты тлушч.

— Дык і касір быў пры гэтым?

— Так.

Паказанні касіра Юстэка цалкам пацвердзілі гэта. Ён бачыў, як панна Тэця клала пачак у стол.

Справа ўскладнялася, і камісар быў вымушаны арыштаваць не толькі дырэктара, але і яго сакратарку, і касіра.

— Я вас затрымліваю і аддаю ў распараджэнне судовага следчага. Апранайцеся, калі ласка.

Гэта рашэнне было канчатковым не толькі з-за знойдзенага рэчавага доказу, але і таму, што сярод заўсёднікаў клуба, якія прысутнічалі ў зале, пазналі шэсць асоб, закаранелых марфіністаў, якіх пэўна ў «Аргенціне» забяспечвалі наркотыкамі.

Траіх арыштаваных прывезлі ў следчую ўстанову і пасля допыту зачынілі ў асобных камерах.

Касір быў у роспачы. Тэця залівалася слязьмі. Толькі Друцкі не надта браў да галавы. Па-першае, умовы, у якіх ён зараз знаходзіўся, не былі для яго нечым новым, па-другое, ён быў упэўнены, што яго адпусцяць, па-трэцяе, не сумняваўся, што бармен Грабоўскі, у рэшце рэшт, некалькі дзён справіцца з кіраваннем «Аргенцінай».

Безумоўна, гэта быў подлы ўчынак: яму падклалі морфій. Хто гэта мог зрабіць і з якой мэтай — Друцкі марна ламаў галаву. Гэта павінна было быць звязана з аўтарам ананімкі, але якім чынам? І навошта?

Друцкі ні на хвіліну не траціў надзеі, што следства хутка гэта выявіць.

На працягу сутак паліцэйскае расследаванне было скончана і справа перайшла ў рукі судовага следчага.

Калі Друцкага павялі да яго, у прыёмнай дырэктар заўважыў парцье, дырыжора аркестра, некалькіх афіцыянтаў, кветачніцу і пару заўсёднікаў танцаў, якія, відаць, чакалі допыту.

Суддзя, нізкі і даволі поўны мужчына старэйшага ўзросту з казлінай бародкай, рабіў ураджанне добрага чалавека. Ён ветліва паказаў Друцкаму на крэсла і пачаў расследаванне ў стылі салоннай размовы. Друцкі адказваў коратка і ясна, паўтараючы паказанні, дадзеныя паліцыі. Ён нічога не баяўся, слушна думаючы, што нікому не прыйдзе ў галаву правяраць дакладнасць яго амерыканскага пасведчання асобы.

— Справа выглядала б для вас зусім інакш, — гаварыў судовы следчы, — калі б запас морфію, знойдзены ў вашым стале, вы прызначылі выключна для ўласнага ўжытку. Вы не ўжывалі морфій?

— Ніколі, пан суддзя.

— Тым горш, — уздыхнуў суддзя, — але, можа, збіраліся?

— Вельмі шкада, але не.

— Падчас вобыску ў займаемым вамі нумары атэля была знойдзена гэта бутэлечка без этыкеткі. Што ў ёй?

— Хлараформ, — не вагаючыся адказаў Друцкі.

— Ага, а для чаго вы яго ўжывалі?

Хлараформ быў прызначаны для ўсыплення жанчын, на якіх ён паляваў для Бруніцкага. Зараз трэба было хутка нешта прыдумаць.

— У мяне бываюць моцныя неўралгічныя болі, — сказаў Друцкі, — у груднай клетцы. Некалькі ўдыхаў хлараформу заспакойваюць іх, дазваляюць хутка заснуць.

Суддзя, відавочна, зусім не разбіраўся ў медыцыне, таму, раз так, выказаў гатоўнасць аддаць флакон наглядчыку, які кожны раз, калі будуць паўтарацца прыступы, мог бы ўручаць Друцкаму лекі для ўжывання.

— Я буду вельмі ўдзячны пану суддзі, — з усмешкай пачаў Друцкі, — але спадзяюся, што вы мяне ўвогуле выпусціце.

Суддзя развёў рукамі:

— Пакуль гэта немагчыма.

— Ну дык, можа, пад заклад?

— Праз некалькі дзён пабачым. А цяпер будзьце ласкавыя падпісаць свае паказанні. І не крыўдуйце на мяне, калі ласка, бо сёння пасля абеду я зноў паклічу вас да сябе.

Тры найбліжэйшыя дні Друцкага дапрошвалі і рабілі яму вочныя стаўкі незлічоную колькасць разоў.

Наколькі ён мог прааналізаваць стан сваёй справы, надта аптымістычна яна не выглядала. Касір і панна Тэця былі адпушчаны без закладу. Яго ж трымалі. Парцье даў паказанне, што дырэктар Вінклер даволі часта прыходзіў у клуб з рознымі пачкамі. З іншага боку, было ўстаноўлена, што некаторыя госці «Аргенціны» сапраўды там запасаліся морфіем і хоць не хацелі казаць, хто ім яго ўручаў, было вельмі праўдападобна, што рабіў гэта дырэктар, які часта падсаджваўся за розныя столікі.

Сцвярджэнне арыштаванага, што пачак яму падкінулі, ні на чым не грунтавалася, супраць яго сведчыў зараз рэчавы доказ — знойдзены наркотык — і цэлы шэраг іншых.

Між тым, Друцкі даведаўся ад добразычлівага суддзі, што тут быў Залкінд, што ад яго прынялі заклад.

— Гэты пан Залкінд, — смяяўся суддзя, — відаць, вельмі добры ваш сябар. Ён, плацячы кожны раз, кляўся, што галаву б аддаў на адсячэнне, што вы не вінаватыя.

Гэта ці перакананасць у тым, што Друцкі не захоча збегчы, паўплывала ўрэшце на рашэнне суддзі: праз тыдзень Друцкага выпусцілі пад заклад у дваццаць тысяч злотых.

Першай, каго ён убачыў пасля выхаду на вуліцу, была Люба. Яна чакала яго і зараз не магла гаварыць ад хвалявання і радасці.

Люба палка прытулілася да яго пляча.

— Што добрага чуваць? — спытаўся ён.

— О, зараз ужо ўсё добра! — яна палымяна глядзела яму ў вочы, — паехалі да нас на абед. Барыс чакае, марозіць шампанскае.

— Нібыта вялікае свята?

— Велізарнае!

У таксі яна пачала цалаваць Друцкага:

— Каханы, салодкі, бедалажка, так нацярпеўся…

— Люба, ты, хіба, жартуеш?! Такая дробязь! Не было б толькі большых непрыемнасцей!

— Так, праўда. Барыс казаў, што капітану чым папала не атруціш жыццё. Каханы!

— Барыс? — падміргнуў ён.

— І Барыс таксама. Ты не ўяўляеш, капітане, як ён стараўся табе дапамагчы! Ён бы за цябе жыццё аддаў.

Залкінд стаяў на балконе і ўжо здалёк памахаў ім хусцінкай, пасля чаго, кульгаючы больш, чым звычайна, выбег аж на лесвіцу.

Мужчыны пацiснулі адзін другому руку.

— Hallo, old Jack![1] — павітаўся Друцкі.

— All right, John![2] — хрыплым голасам сказаў Залкінд.

А Люба стаяла тут жа ля іх і адчувала, што яе сэрца вырываецца з грудзей.

Усе ўвайшлі ў залу, і мужчыны доўга нічога не гаварылі, седзячы насупраць адзін аднаго.

Люба, напяваючы нейкую песеньку, завіхалася ў сталовай.

— Вясна, Джэк, сёлета цудоўная, — заўважыў Друцкі.

— Дні робяцца ўсё даўжэйшымі, — дадаў Залкінд.

І абодва адкашляліся.

— Ведаеце, — гучна ўсклікнула Люба, стоячы ў дзвярах, — тут замяшаная жанчына. Як піць даць, жанчына. Хадземце, я падаю ўжо.

— Вельмі верагодна, — сказаў Залкінд, — бо ворагаў тут у капітана няма. Што вы пра гэта думаеце, капітане?

— Паняцця не маю.

— Але капітана апраўдаюць, так, Барыс?

— Хм-м-м… Хто яго ведае? У любым выпадку ў нас зараз хапае часу, каб самастойна правесці расследаванне.

— А што, Джэк, ты з самага пачатку быў упэўнены, што морфій мне падклалі?

— Ну, натуральна! Якога чорта ты займаўся б морфіем! З грашыма ў цябе, капітане, ніколі не было праблем, хіба, дзеля спорту? Дык гэта таксама не твой стыль.

— А спірт? — засмяяўся Друцкі.

— У спірце плёскаліся кулькі, капітане! Так! Ці ж і з пушак не сыпаліся яны на вашу «Аўрору»?!

— Добрыя былі часы, а, Джэк?

— Не тое слова!

— А потым, — пастукаў сябе па лбе Друцкі, — я быў бы закончаным ідыётам, калі б трымаў морфій у стале.

— Я вам кажу, гэта нейкая жанчына, — паўтарыла Люба. — Падумайце, капітане, можа ў гэтую гульню быць замяшана жанчына?

---

[1] Hallo, old Jack! (*англ.*) — Як справы, сябра Джэк!

[2] All right, John! (*англ.*) — У парадку, Джон!

Друцкі рассмяяўся.

— Зашмат бы іх было замяшана, — выказаў здагадку Залкінд.

— Але! — усклікнуў Друцкі. — Уявіце сабе, што за некалькі гадзін перад з'яўленнем паліцыі я атрымаў ананімку з папярэджаннем, што будзе праверка.

— Ананімку?

— Так. Падпісана яна была «добры сябар» ці нешта ў гэтым родзе і папярэджвала ананімка аб праверцы, раячы «прыбраць усё».

— Ай-ай-ай! — пачухаў нос Залкінд.

— Вось іменна! Я думаў, што гэта нейкая містыфікацыя. Аднак сумленне маё было чыстае.

— А хто мог напісаць?

— Чорт яго ведае.

— Бо цікава, што, як я даведаўся пасля твайго арышту, паліцыя таксама атрымала ананімны данос на «Аргенціну». Толькі ў гэтым даносе паведамлялася, што наркотыкі знаходзяцца ў сакратаркі дырэктара.

— Адкуль вы пра гэта ведаеце, гэта дакладна? — здзівіўся Друцкі.

— Дакладней быць не можа. Мая сястра даведалася ад аднаго следчага з адпаведнай установы. Данос быў напісаны ад рукі і высланы поштай пракурору, і толькі ўжо пракурор пераслаў гэтую ананімку ў паліцыю. У паліцыі вельмі хацелі б злавіць таго, хто выслаў ананімку, бо далі б яму таксама прыкурыць.

— Аўтару даносу?

— Так. Бо ён, заўважце, капітане, напісаў, што паведамляе непасрэдна пракурору, бо паліцыя ўзяла б на лапу і замяла б справу.

— Да варожкі не хадзі, жанчына! — сцвярджала Люба.

— Ну, а другая ананімка — гэта перасцярога для мяне?

Пані Люба задумалася:

— Хто ведае? Можа, тая самая жанчына?..

— І апамяталася ў апошні момант? — спытаўся Друцкі.

— Жанчыны шалёныя, — сказала Люба.

Аднак Залкінд выключаў такую магчымасць. Калі б ананімкі былі справай адных рук, то абедзве былі б напісаныя на машынцы.

— У любым выпадку, капітане, — працягваў ён, — цяпер, калі вы на волі, вам значна лягчэй будзе адшукаць замяшаных у гэтым людзей.

Таму Друцкі і не паехаў на Дэмбову. Ён з кватэры Залкінда патэлефанаваў Бруніцкаму і паведаміў прафесару, што яго выпусцілі пад заклад да моманту судовага разбору. Прафесар, са свайго боку, таксама перасцерагаў ад сачэння, даючы зразумець тым самым, што пакуль ён устрымаецца ад дапамогі Друцкага.

— А ці ўсе здаровыя? — абстрактна спытаўся Друцкі, думаючы аб падабранай ім дзяўчыне.

— Будзь спакойны, — запэўніў яго Бруніцкі, — усё ў парадку.

— Я не буду цябе турбаваць, Караль, пакуль гэта ўсё не скончыцца.

— Якое ты прадбачыш заканчэнне?

— Я невінаваты. Мне гэты морфій падклалі, відаць, у якасці помсты.

— І я так думаю, — сказаў прафесар. — Можа, табе трэба грошы?

— Не, дзякуй.

— Ну дык жадаю табе поспеху!

— Бывай.

Друцкі паклаў трубку.

Ён яшчэ доўга размаўляў з Любай і Барысам пра сваю справу і шкоду, якую ўвесь гэты скандал прынясе «Аргенціне».

— Я баюся, што публіка перастане хадзіць, — турбаваўся Залкінд.

— А я не думаю. Тыя госці, хто мяне ведае, не павінны паверыць у маю віну.

— Натуральна! — усклікнула Люба.

У атэлі парцье і ўсе служкі прынялі Друцкага даволі холадна.

Ён якраз скончыў пераапранацца, калі да яго прыйшоў дырэктар атэля.

— Страшна непрыемная гісторыя, — пачаў ён.

— Непрыемная, — пацiснуў плячыма Друцкі, — але з добрым канцом.

— Я таксама так думаў, — сказаў дырэктар з выразам твару, які сведчыў, што ён так зусім не думаў.

— Чым я магу вам служыць?

— Я… таго… прыйшоў, — заікаўся дырэктар, — спытацца, шаноўны пан застанецца ў сваім нумары?..

Друцкі выпрастаўся і паглядзеў прама яму ў вочы:

— Застануся.

— А, ну так… А то я думаў…

— Можа, гэта вас не задавальняе? — спытаўся Друцкі з пагрозай у голасе.

— Мяне? — стукнуў сябе ў грудзі дырэктар. — Чаму гэта?

— Ну і добра. Калі ж каму-небудзь гэта не падабаецца, прышліце яго да мяне. Будзьце ўпэўнены, я яму… дагаджу.

— Хе… хе… — смяяўся дырэктар, — вы сапраўдны амерыканец. І насамрэч вы мяне дрэнна зразумелі. Раз думаеце і далей аказваць гонар нашаму атэлю…

— Думаю аказваць гонар далей, — перарваў яго Друцкі, — а цяпер я з вамі развітваюся.

— Маё шанаванне.

Дырэктар, які, відавочна, прыйшоў з намерам адмовіць Друцкаму ў даху над галавой, выйшаў ні з чым.

На вуліцы толькі змяркалася, калі Друцкі з’явіўся ў гаражы.

Тут наадварот рады былі яго бачыць, а старшы шафёр гаража адвёў яго ў бок:

— Слухайце, тут быў адзін такі агент са Следчага Камітэта, ён загадаў мне тэлефанаваць яму, як толькі вы захочаце падрыхтаваць машыну ў далёкую дарогу. Шпіёны хрэнавы, ліха на іх! — скончыў ён абурана, але не без захаплення.

— Дзякуй вам, — патрос яго руку Друцкі, — ні ў якую далёкую дарогу я не выбіраюся. А зараз дайце мне машыну. Я трохі праветруся пасля гэтага арышту.

— Вы малайчына, — засмяяўся шафёр, — мы тут паміж сабой гутарылі і зрабілі выснову, што вам і ўсе д’яблы не далі б рады.

Калі аўтамабіль схаваўся за варотамі, шафёр звярнуўся да памочніка і, паказваючы галавой у кірунку ад’ехаўшай машыны, сказаў:

— Залаты госць! Колькі я ўжо іх бачыў, дык разбіраюся ў людзях, а гэты і свой хлопец, можна сказаць, і, што ні гавары, пан з паноў стапрацэнтны. Ну, што стаіш як укапаны? Зачыняй!

## Раздзел 12

Пра тое, што шэфа адпусцілі, у «Аргенціне» не ведалі. Таму яго з’яўленне выклікала сенсацыю сярод персаналу.

Усе работнікі сабраліся ў холе. Друцкі з усмешкай паціскаў ім далоні. Потым ён закрыўся ў кабінеце з касірам і з Грабоўскім. Выслухаў іх справаздачы, прагледзеў кнігі.

Выручка, сапраўды, значна знізілася, але Друцкага больш непакоіла тое, што знізіўся ўзровень публікі. Здараліся грубыя скандалы, а раз нават вымушаны былі выклікаць паліцэйскага.

— З гэтым мы павінны тут жа скончыць. Пан Грабоўскі, паклічце сюды парцье і Вжосэка.

Старшы афіцыянт Вжосэк і Грабоўскі атрымалі строгае распараджэнне не дапускаць непажаданых гасцей.

— А пра скандалы паведамляць мне.

Парцье ж з гэтага часу не павінен быў пускаць абы-каго, што яму, зрэшты, спадабалася:

— Можаце быць спакойныя, пан дырэктар, — сказаў ён, — я ўжо дзесяць гадоў парцье па найважнейшых справах і ўсіх прыстойных гасцей ведаю, а галадранца пазнаю за мілю.

Наступнай справай Друцкага быў дэталёвы агляд памяшкання. Ён знайшоў шмат хібаў і недаглядаў. Вінаватыя атрымалі па адным кароткім позірку. Гэтага ім было дастаткова.

Калі ён вярнуўся ў кабінет, там ужо была Тэця. Яшчэ перад прыходам у «Аргенціну» яна, відаць, даведалася пра тое, што Друцкага адпусцілі, таму што на сваім стале ён убачыў букет кветак.

Ад хвалявання ў сакратаркі дрыжалі вусны, а вочы іскрыліся радасцю.

— Нарэшце, нарэшце… Божа мілы, — шаптала яна, сутаргава сціскаючы яго далоні, — а ўсё гэта з-за мяне, з-за маёй недалёкасці. Ты да смерці мне гэтага не даруеш…

— Чаго, дурненькая, чаго? — смяяўся ён, прытуляючы яе да грудзей.

— Ну, таго, што я паклала гэты пачак у стол, але я сапраўды не думала…

— Супакойся, дурнічка, я ніколькі на цябе не крыўджуся. Ты так вінаватая, як і я. Але не смуткуй, бо ўсё ўжо скончылася. Ну, носік угору і дай мордачку… Толькі навошта ты трацішся на кветкі? — пагразіў ён ёй пальцам.

— На кветкі? — здзівілася яна.

Рухам галавы ён указаў на стол.

— Гэта не я, — патрэсла яна галавой.

— Не ты?

Яна пабляднела і сказала:

— Гэта Казя.

— Э-э-э!.. З якой ласкі?

— Абсалютна дакладна. Калі я ўваходзіла, то на ўласныя вочы бачыла, як яна клала сюды гэтыя свае кветкі.

Друцкі раптам ссунуў бровы. У яго прамільгнула думка: «А можа, і морфій?»

Так, яна магла таксама ўвайсці і пакласці. Толькі навошта? Ён забываўся пра яе апошнім часам, але ён быў з ёй ласкавы, ёй не было за што так подла помсціць.

— Не, нонсенс, — сказаў ён уголас.

— Але ж гэта яна, я сама бачыла, — запэўніла Тэця, лічачы, што Друцкі думае пра кветкі.

— Як гэта? — сарваўся ён з месца. — Ты бачыла?

— Бачыла. Яна вельмі старанна ўкладвала іх.

— А… кветкі!.. Ну, так, — засмяяўся ён, — зараз жа за работу.

Друцкі разабраўся з заляжалай карэспандэнцыяй, прадыктаваў некалькі рэкламных тэкстаў для прэсы.

З залы даносіліся гукі аркестра і гоман прысутных. У калідоры ўсё часцей чуўся прыглушаны дываном грукат хуткіх крокаў. Гэта афіцыянты, якія курсіравалі паміж кухняй і танцзалай.

Прыйшоў касір Юстэк:

— Сёння нядрэнна, пан дырэктар. Палова лож занятая і амаль усе столікі.

— Ну, трэба мне паказацца, — вырашыў Друцкі. — Зладжу ім сёння каціны канцэрт.

Аднак не спяшаўся выходзіць. Не вельмі прыемна свяціцца, калі ты так заплямлены, хоць і бязвінна.

Праходзячы ля пакоя «артыстак», Друцкі ўбачыў Казю.

— Як справы, малышка? — выкрыкнуў ён весела. — Навошта ты марнуеш грошы на кветкі? Ну, але дзякуй табе. Што ты на мяне так вылупілася?

Сапраўды, яна глядзела на яго шырока раскрытымі вачыма, нібыта спалохана.

— Ну? — Друцкі пагладзіў Казю па шчочцы.

— Дырэктар, — прашаптала яна, — я павінна вам сказаць нешта важнае.

— Важнае? О, я слухаю.

— Не, не тут. Адзін на адзін. Я прыйду ў кабінет пасля свайго выступлення. Толькі без сведкаў.

— Добра.

Казя знікла за дзвярыма.

Ужо з-за стойкі амерыканскага бара ён акінуў позіркам залу. Старых заўсёднікаў не бракавала. Аркестр якраз закончыў бастон, і пары танцуючых разыходзіліся да столікаў.

З'яўленне Друцкага ў зале выклікала хвіліну цішыні. Раптам нехта гучна выкрыкнуў:

— О, глядзіце, Вінклер! Прывітанне, дырэктар! Прывітанне!

— Віват! — зароў нехта з кута.

З другога кута пачуліся воплескі. Спачатку асобныя, яны пацягнулі за сабой іншыя, апладысменты перайшлі ў авацыю, якая напоўніла залу. Адзінкавыя выкрыкі змяніліся агульным шумам.

Некаторыя мужчыны паўставалі і акружылі Друцкага замкнёным колам. Пытанні, запэўненні, шчырыя поціскі далоняў, а здаля гуллівыя позіркі жанчын.

Аркестр урэзаў у агульным шуме фанфары. Служкі з поўнымі рукамі знерухомелі, тоўпячыся ў дзвярах.

Грабоўскі нахіліўся да Юстэка і крыкнуў яму ў вуха:

— Любяць людзі нашага шэфа! А?!

Танцы былі ў разгары.

Мяўканне ўдалося на славу. Друцкі вяртаўся ў кабінет сам вясёлы, як ніколі, і тут убачыў Казю, якая чакала яго.

— Ну, малышка?

— Але мне трэба сам-насам, — сказала дзяўчына, указваючы рухам галавы на дзверы, з-за якіх чуўся лёгкі клёкат пішучай машынкі.

— Тады, можа, заўтра?

— Не, мне трэба сёння. Вельмі важная справа.

Друцкі задумаўся:

— Што ж, добра. Прыйдзі праз паўгадзіны. Я адпраўлю пані Тэцю дадому.

Ён больш не задумваўся пра гэта. Падпісаў падрыхтаваныя лісты і адпусціў Тэцю:

— Да пабачэння, малышка. Ідзі дадому.

— Я не спяшаюся, — апусціла яна вочы.

— У мяне тут будуць розныя размовы, а работы ўжо няма. Да пабачэння, і няхай табе прысняцца анёлкі. Пабачымся толькі заўтра.

Два апошнія словы ён вымавіў асабліва выразна. Друцкі не хацеў, каб яна цяпер прыходзіла ў атэль. Магчыма, за ім, а можа, і за ёй сочаць.

Ён прысеў на падаконнік, праглядаючы рахункі, і чакаў. Праз некалькі хвілін пасля выхаду Тэці ў дзвярах паказалася Казя.

— Ну, хадзі і расказвай. Што здарылася?

Яна моўчкі стала перад ім з шырока раскрытымі вачыма, з якіх струменіў страх.

— Ты што, чорт цябе бяры, анямела, мая малышка?

— Не называйце мяне так, — сказала яна ціха, — я гэтага не вартая. Праз хвіліну вы мяне выганіце, як сабаку, бо нічога іншага я не заслужыла. Гэта я падклала морфій.

Друцкі ўстаў, засунуў рукі ў кішэні штаноў і нетаропка падышоў да яе.

— Ты напілася? — спытаўся ён спакойна. — Ты п'яная?

— Не, — патрэсла яна галавой — я цвярозая і гавару праўду. Гэта я, подлая, падклала. З помсты, са сляпой помсты.

Друцкі паклаў руку ёй на плячо:

— З помсты? Жанчына! За што ж ты мне помсціш? Чым я цябе пакрыўдзіў?

— О… — прастагнала яна, — не вам, не вам… Дзеля вас я б сэрца выдрала са сваіх грудзей… Я ёй хацела адпомсціць.

— Каму, ты вар'ятка?!

— Гэтай Тэці, гэтай хітрай дзеўцы, якая прыкідваецца святошай, што забрала цябе ў мяне… Я яе хацела прыбраць з вашых вачэй. Але была надта дурная. Я не ведала, як гэта зрабіць, і ўсё звалілася на вас. О, я няшчасная!

Яна ўсадзіла пальцы сабе ў валасы і абаперлася аб сцяну.

У Друцкага выцягнуўся твар, а на лбе выступілі зморшчыны.

— Дык гэта ты прадавала тут морфій?

— Я, я… Я праклятая, я распусная…

— Расказвай, — загадаў дырэктар.

Казя пачала распавядаць ціхім, стомленым голасам. Яна ўжо даўно пазнаёмілася з нейкім Цяржаўскім, з адным дзялком у гоначных і іншых справах, і ён яе падгаварыў. Ён прыносіў морфій ёй дамоў і сам браў грошы з пакупнікоў, а яе задачай было толькі ўручэнне ім слоічкаў. Яны прыходзілі сюды, а яна ім уручала. Цяржаўскі плаціў ёй па пяць-дзесяць злотых са слоічка, а сам, падлюга, браў з пакупнікоў па дваццаць злотых за грам. І яшчэ ашукваў іх, бо з кожнага пяцідзесяціграмовага слоічка патрохі адсыпаў. Яна сама гэта бачыла, таму што ён рабіў гэта ў яе кватэры. А пакупнікі гэтага нават не заўважалі, бо заўсёды нерваваліся і былі рады, што атрымліваюць сваю дозу.

— Ну зразумела, вываляць такому махляру тысячу злотых, а ці дастаткова гэтага, невядома. Пан дырэктар паняцця не мае, што за тып гэты Цяржаўскі.

— Ведаю я яго. Што далей?

— Ён і палітыкай займаецца, кажа, што ў яго ёсць сувязі і што ніхто яму нічога не зробіць. Але пабачым! Дык вось, некаторыя госці былі так задаволены, што яшчэ то той, то іншы ўсоўваў мне ў сумачку паперку-другую. Я не магла паскардзіцца. Найбольш давалі пастаянныя пакупнікі. Але калі я ўбачыла, што гэтая святошка вас зусім ачмурыла, то ў мяне ўсяліўся нейкі д'ябал. Я падумала, ну што мне гэтыя грошы, затое яе я так запакую, што вы яе доўга не ўбачыце… А вось, аднак…

Казя адвярнулася ад Друцкага і заплакала.

— Далей! — груба крыкнуў ён.

— Ну, — працягвала Казя, усхліпваючы, — д'ябал мяне спакусіў. Я папрасіла аднаго, каб мне напісаў данос пракурору… І паслала. А вечарам, калі гэтая Тэця выйшла па патрэбе, я ўбегла сюды і ўсунула пачак за яе сумку.

— Ну ты і дурніца! — пацісну ў плячыма Друцкі.

— Калі б я ведала, што гэта халера знойдзе пачак і ўсуне вам у стол!.. Але я думала, што паліцыя з'явіцца хутчэй, і, каб яны паспяшаліся, то гэтая святошка не паспела б. Якраз яе і забралі б…

— Як ты магла?! Як ты магла?!

— Потым я білася аб сцяну сваёй дурной галавой. Але што я павінна была рабіць? Яшчэ сама сабе думала, што вас выпусцяць, а яе затрымаюць… Але так усё раптоўна навалілася, і гэты с… Цяржаўскі яшчэ да мяне чапляецца, што такое багацце — кажа — змарнавала, дзесяць тысяч злотых, а я яму дулю пад нос, бо, кажу, праверка прыйшла і што, я павінна была сама ім здацца?

— Ну, і што цяпер будзе? — панура спытаў Друцкі.

Казя выняла з сумачкі тоўсты канверт і паказала Друцкаму. Не надта ўмелай рукой на ім быў напісаны адрас: «У Вяльможны Акругoвы Суд у Варшаве».

— Што гэта?

— Ну, я апісала тут усю праўду, што і як. Усё па парадку. Што ніхто не вінаваты, толькі я і Цяржаўскі. Усё апісала.

Друцкі кінуў ліст на стол і стаў хадзіць па пакоі, засунуўшы рукі ў кішэні.

— А ў вас прашу прабачэння, перад Богам прашу, даруйце! Я злая і няшчасная. Прадала душу д'яблу, але ўласны гонар маю. Гэты ліст я вышлю ўжо сёння.

Друцкі кашлянуў і затрымаўся перад ёй:

— І што ж, уцякаеш?

Казя слаба ўсміхнулася.

— А пашпарт у цябе ёсць?

— Ёсць. У мяне добры пашпарт, — прыціснула яна сумачку да грудзей.

— Бо калі цябе зловяць, — засцерагаў ён, — то два, а то нават і тры гады турмы ўлепяць. А можа, і больш.

— О, не, з гэтым пашпартам я схаваюся так, што мяне ніхто не знойдзе.

— За мяжу едзеш, канечне ж?

— Так, — кіўнула галавой Казя і праз хвіліну маўчання дадала: — Нічога мяне тут ужо не трымае, зусім нічога.

— Ну, ты маладая, прыгожая, зробіш яшчэ за мяжой кар'еру, — сказаў Друцкі, гледзячы ў акно.

— Ануча, — ціха сказала Казя.

Здзіўлены Друцкі павярнуўся:

— Якая ануча?

— Я ануча, брудная… О, ведаеце, за гэты тыдзень я больш паразумнела, чым за ўсё жыццё… Я пайду, — Казя ўзяла ліст са стала, — вы са мной не развітаецеся?..

Яе голас дрыжаў.

— Я не вартая гэтага, але вы так, з літасці…

Друцкі падышоў да яе і пагладзіў па валасах, па шчочцы.

Яна схапіла яго руку і прыпала да яе вуснамі.

— Едзь. А пісьмо лепей укінь, калі будзеш за мяжой. Ты праз Гданьск ці як? Віза ёсць?.. Ану, пакажы пашпарт.

Казя адскочыла як апараная.

— Не, не, у мяне ўсё ў парадку: і візы, і паперы.

Друцкі ўважліва прыгледзеўся да яе, і ў яго з'явілася падазрэнне.

— Дай пашпарт, — загадаў ён.

— Да пабачэння! — кінула Казя і накіравалася да дзвярэй.

Адзін скачок — і Друцкі быў ля яе, адным рыўком ён завалодаў яе сумачкай. Павярнуў ключ у замку, выняў і схаваў яго ў кішэнь.

— Аддай, аддайце, — маліла Казя.

— Ціха! — гаркнуў ён на яе.

Дырэктар адкрыў сумачку: пісьмо, хустачка, пудраніца, губная памада і — маленькі чорны рэвальвер.

Друцкі выняў зброю, падкінуў яе, злавіў у паветры за ствол і схаваў у кішэнь.

Дзяўчына кленчыла на падлозе, уціснуўшы галаву ў плечы, і рыданні калацілі яе бездапаможнае цела.

Друцкі стаяў і маўчаў.

Ён выняў папяросу і закурыў, не спяшаючыся, разарваў канверт і разгарнуў вялікі аркуш паперы.

Пад смешным, наіўным загалоўкам «Вяльможны Акруговы Суд» пачыналася: «У маёй смерці прашу не вінаваціць нікога. Я пазбаўляюся…»

Друцкі далей не чытаў. Склаў аркуш і рвануў. Папалам, і яшчэ раз папалам, і яшчэ раз.

На дыван пасыпаліся маленькія кавалкі паперы. Адны падалі тут жа ля яго ног, іншыя адляталі далей.

Дырэктар абтрос рукі, патушыў папяросу, схіліўся над Казяй, узяў яе за плечы, без высілкаў панёс і пасадзіў на стол. Яна трэслася, як у ліхаманцы, твар быў мокры ад слёз.

— І што ты сабе думала, смаркачка, — іранічна пачаў ён, — што такому шчаняці, як ты, трэба ехаць на той свет, бо такому слану, як я, нехта нечым пагражае? Гляньце на яе! Ахвяру яна мне прыносіць! Самаадданасць!..

Друцкі рассмяяўся, а яна ўсё рыдала, пазіраючы на яго час ад часу заплаканымі вачыма.

Ён тлумачыў, адчытваў, злаваўся, прыдумваў, пагражаў, зневажаў, што яна перастала рыдаць і супакоілася.

— Ну, ты сама бачыш, што зрабіла глупства?

— Не, — патрэсла яна галавой.

— Але ты даеш мне слова, што будзеш мяне слухаць?

— Буду.

— Ну дык зараз прыпудры нос і марш дадому. Я што-небудзь прыдумаю для цябе. Але калі ты гэта зробіш, калі тваё дурное самазабойства павісне на маім сумленні, то я табе гэтага ніколі не дарую. Ты мяне пакрыўдзіла, жадала таго ці не, але пакрыўдзіла. Праўда?

— Вельмі пакрыўдзіла, — шапнула Казя.

— Ну, бачыш, і хочаш загладзіць віну.

— Хачу.

— Таму дазволь, каб я выбраў спосаб гэта зрабіць. А ты хацела мяне яшчэ раз пакрыўдзіць.

— А калі вас засудзяць?

— Не бойся, не засудзяць. А калі і так, то гэта ўжо не твая справа. Ты павінна слухаць і ўсё. Рот на замок, і рабі сваю справу. А я што-небудзь для цябе…

У дзверы пастукалі, і Казя здрыганулася.

Друцкі адчыніў. За дзвярыма стаяў хлопец са швейцарскай:

— Там адзін чалавек да панны Казі.

— Хто такі? — спытаўся Друцкі.

— Такі лысы.

— Гэта ён, — спахмурнела Казя, — Цяржаўскі.

— Чакай, — загадаў хлопцу Друцкі і, зачыніўшы дзверы ў яго перад носам, звярнуўся да дзяўчыны:

— Чаго гэты злодзей хоча ад цябе?

— Вядома, — паціснула яна плячыма, — хоча, каб я давала морфій пакупнікам. А я ні за што… Хопіць з мяне гэтага…

— Тады слухай, — узяў яе за руку Друцкі, — ідзі ў сваю грымёрку і праз дзесяць хвілін ты павінна пайсці дадому. І не прыходзь заўтра! Я табе нічога не скажу!

Казя зноў хацела яго пацалаваць у руку, але ён прыкрыкнуў на яе:

— Не трэба, дурніца. Я яшчэ не біскуп.

Ён чмокнуў яе ў шчочку і, моцна паляпаўшы яе па спіне, выпусціў на калідор.

— Слухай, хлопча, уважліва: ты пойдзеш да гэтага лысага і скажаш яму, што панна Казя не можа да яго выйсці, але што яго чакае…

— У грымёрцы, — скеміўшы, закончыў хлопец.

— Не ў грымёрцы, а тут, у кабінеце. Скажы яму, што яна адна і чакае. Каб ён абавязкова прыйшоў. Разумееш?

Друцкі чакаў доўга. Дзверы адчыніліся, і ў пакой увайшоў Цяржаўскі, высокі, мажны, амаль саракагадовы амбал з лысым чэрапам і з тоўстым, у складкі каркам. Ён зрабіў рух, нібыта хацеў павярнуць назад, але, авалодаўшы сабой, усклікнуў з усмешкай на бліскучым пажадлівым твары:

— А, каго я бачу, дарагі пан дырэктар Вінклер!

— Я рады вас бачыць, пан Цяржаўскі.

— Я, уласна, не да шаноўнага дырэктара, але хлопец мяне прывёў сюды. Аднак, калі ўжо…

Ён замоўк, таму што Друцкі падышоў да дзвярэй і замкнуў іх на ключ.

— Я замыкаю, — патлумачыў ён, — бо хачу, каб нам не перашкаджалі. А я павінен з вамі пагаварыць, пан Цяржаўскі.

— Я заўсёды да вашых паслуг, — няўпэўнена прамармытаў госць.

— Вам вядома, што я абвінавачаны ў незаконным гандлі морфіем?

— Вядома! Вось дык няшчасце, — жаласліва прастагнаў Цяржаўскі. — Гэта відавочна нейкае непаразуменне, а колькі непрыемнасцей!

Друцкі акуратна зняў пінжак і павесіў яго на спінку крэсла. Цяржаўскі адразу зарыентаваўся ў сітуацыі і зрабіў крок да дзвярэй.

— Чакай! — буркнуў Друцкі, не рухаючыся з месца.

— Што вам ад мяне трэба, пане Вінклер?

— Я хачу падзякаваць табе асабіста за дабрыню, перад тым як цябе пачастуюць крыміналам.

— Нібыта за што? — бессаромна падняў галаву Цяржаўскі.

— Не хвалюйся, дрэнь! Усё ўжо ў мяне. Твая Казя накіравалася на пасяджэнне, ды і табе варта некалькі гадоў адпачыць.

— Выпусціце мяне!

— Не, братка, не так хутка.

Друцкі павольна і з усмешкай набліжаўся да яго, спакойны, як ніколі. Праўда, ён не мог аддаць Цяржаўскага паліцыі, бо выдаў бы Казю, але гэты павінен яму заплаціць за ўсё.

Цяржаўскі адступаў крок за крокам. З-пад маленькіх тлустых павекаў выстрэльвалі хуткія неспакойныя позіркі, якія шукалі дарогу выратавання, на бліскучым твары выступілі вялікія кроплі поту.

Ён ужо апынуўся ў куце, і яго тоўстыя рукі з пальцамі, што нагадвалі сардэлькі, падняліся ў абаронным руху.

Секунда, доля секунды — надта позна.

Моцна сціснуты кулак мільгануў бліскавічнай дугой і са страшнай сілай грымнуўся на шырокі нос Цяржаўскага. Амаль адначасова другі кулак рэзкім ударам у велізарнае пуза скруціў яго цела ў вялікі клубок, які пад няспыннымі ўдарамі скурчваўся, хваляваўся, пераварочваўся, змяняючы сваю форму.

— А-а-а-а… — стагнаў Цяржаўскі.

Тое, што ён не спрабаваў абараняцца, яшчэ больш распальвала Друцкага. Магутны хлопец, здаровы, нібы вол, а такі млявы.

Моцным штуршком ён выкінуў Цяржаўскага ў цэнтр пакоя і нанёс дзясятка паўтара новых удараў, незвычайна балючых. Амбал выдаў з сябе глухі рык і пачаў бязладна махаць рукамі.

— Лічы зубы! — крыкнуў Друцкі, і моцны ўдар прыпаў на сківіцу Цяржаўскага з правага боку. Цяржаўскі захістаўся, але не ўпаў, бо з левага боку атрымаў яшчэ мацнейшы ўдар, і зноў справа, а ўрэшце дакладны пад падбародак.

Цяпер Цяржаўскі зваліўся на падлогу, як ад удару маланкі, усім цяжарам сваіх ледзь не ста кілаграмаў. Ён, аднак, павінен быў быць неверагодна вынослівым, таму што не страціў прытомнасці. Яго вочы шалёна гарэлі, з тоўстых вуснаў язык выпхнуў крывавую пену з выбітымі зубамі.

— Дантысту ты заплаціў бы за гэта добрых пару злотых, — сказаў Друцкі, лёгка дыхаючы.

Цяржаўскі раптоўным рухам дасягнуў задняй кішэні, але перш чым здолеў дастаць зброю, атрымаў такі бліскавічны выспятак у локаць, што завыў ад болю і ўскочыў на роўныя ногі.

— Бач ты, верабейка, — засмяяўся Друцкі і адразу адскочыў, таму што Цяржаўскі нахіліўся ўсім тулавам. Было зразумела, што ён хоча атакаваць так званым «быком», ці ўдарам галавы пад дыхавіцу праціўніка.

Друцкі добра гэта ведаў. Калі ён быў яшчэ недасведчаным юнаком, яго такі ўдар на тыдзень упёк у шпіталь, у дадатак ён паламаў сабе косці трох пальцаў аб

цвёрдую галаву ірландскага боцмана. Друцкі ведаў, як абараняцца. Ёсць толькі два спосабы: выкруціцца і выцяць кулаком у адкрытую аснову чэрапа — гэта значыць, забіць на смерць, і другі — парыраваць ударам калена.

Друцкі не зрушыўся з месца, і калі бліскучы чэрап з усіх сіл сабраўся атакаваць, ён якраз дарэчы падняў калена. Патрапіў ён у нахілены твар паміж вачэй, і галава Цяржаўскага, апісаўшыі вялікую дугу, пацягнула за сабою тулава і ляснулася цемем аб падлогу.

Цяпер гэта бяссільная куча мяса і сала з тварам, які нагадваў апухлую і не надта свежую пячонку, ляжала нерухома.

Друцкі з намаганнем перавярнуў госця спінай уверх, выняў рэвальвер з задняй кішэні і схаваў у сваю. Пасля ён падцягнуў Цяржаўскага і пасадзіў яго на падлозе, абапершы аб сцяну.

Сам ён стаў насупраць і, задаволены, прыглядаўся да сваёй працы. Ён любіў салідную работу.

Друцкі даў выхад шаленству і цяпер быў у цудоўным настроі. Цяржаўскі стагнаў, паволі прыходзячы ў сябе.

— Ну, — пачаў Друцкі, — на гэты раз, верабейка, я цябе злёгку памацаў. Але я не жадаю тваёй сівой прабабцы, каб ты калі-небудзь трапіўся мне на вочы. Тады, казявачка, я баюся, што для чарцей на смажаніну мала чаго ад цябе застанецца, і ў труну цябе праз варонку ўвалье твая несуцешная ў смутку сям'я…

— Вады! — хрыплым голасам папрасіў Цяржаўскі.

— Прыемнае — потым, галубочак! Цяпер гавары: табе хопіць?

У адказ пачуўся толькі стогн.

— Дык збірай свае косці і няхай цябе чэрці парвуць! На гэты раз я табе дарую. Ідзі на ўсе чатыры бакі.

Цяржаўскі недаверліва паглядзеў на яго з-пад страшна апухлых павекаў:

— Гэта значыць, — спытаўся ён, — што вы не выклічаце паліцыі?

— Не. Ліха з табой!

З цяжкасцю, стогнучы і крывячыся, Цяржаўскі падняўся і, хістаючыся, упаў на крэсла. Ён усадзіў вялікі палец сабе ў рот.

— Амаль усе зубы, — скардзіўся ён жаласліва.

— Беражы рэшту! — засцярог Друцкі. — Найлепшы спосаб захаваць тое, што засталося, — пазбягаць сустрэчы са мной. А зараз — увага: я цябе адпускаю на ўсе чатыры бакі. Не раю табе заглядваць дадому, бо там цябе пэўна ўжо чакае паліцыя. Твая кватэра і кватэра тваёй партнёркі пад наглядам. Валі на чыгуначны вакзал і карыстайся тым, што цяпер цябе і родная маці не пазнае. Грошы ў цябе ёсць?

— Ёсць… Колькі вы хочаце?

— Ідзі ты к чорту са сваімі грашыма. Нічога я не хачу, — націснуў ён званок і адчыніў дзверы.

— А тут на вуліцы няма шпегаў? — недаверліва спытаўся Цяржаўскі.

— Думаю, што ёсць, але, відаць, яны пільнуюць галоўны ўваход.

— Чаму вы мяне адпускаеце?

— Такая мая панская воля.

У дзверы пастукаў хлопец. Ён увайшоў і, кінуўшы вокам на Цяржаўскага, не мог стрымаць усмешкі.

— Глядзі, смаркач, — прыкрыкнуў на яго Друцкі, — вось гэтаму графу крыху нездаровіцца.

Рот хлопца расцягнуўся ад вуха да вуха.

— Яму нядобра, бо ў яго нейкія сямейныя праблемы. Праводзіш яго да кухонных дзвярэй і скажы вартаўніку, каб ён выпусціў яго праз вароты. Разумееш?

— Так, пан дырэктар.

— Марш! Маё шанаванне пану графу!

Цяржаўскі няцвёрдым крокам выйшаў за хлопцам, які па дарозе ўзяў з крэсла яго капялюш.

Друцкі надзеў пінжак.

Зала ўжо была пустая. Служкі прыбіралі. Гудзенне вентылятараў і звон посуду, які спешна збіралі, заглушалі размовы.

Дырэктар зноў абышоў увесь клуб, палічыў касу з Юстэкам, аддаў распараджэнні і паехаў у атэль.

Першыя промні сонца залівалі вуліцу ясным, празрыстым, нібы свежавымытым святлом.

«На самай справе я вар'ят, — падумаў Друцкі, канстатуючы, што па сваёй волі ўзяў на сябе чужую віну, — вар'ят безнадзейны!»

Ён дадаў газу, і свежы вецер ударыў у яго стомленыя вочы.

«Але добра быць вар'ятам!» — засмяяўся ён, і матор адказваў яму ціхім адабральным мурканнем.

У паветры пахла бэзам.

## Раздзел 13

Недзе, у самым далёкім калідоры, прагучаў першы званок, секундай пазней затрашчаў другі ўнізе, нарэшце ўжо і гэты ў восьмым класе радасна адазваўся. Нудная сухая пані Крупова на палове сказа перарвала сваю лекцыю аб прадукцыі нафтавай вытворчасці і пачала складваць кнігі і запісы.

Ніхто ўжо на яе, зрэшты, і не звяртаў увагі. Дзяўчаты паўставалі з месцаў, хутка зашпільваючы партфелі. Клас напоўніўся гоманам спешна кінутых згадванняў пра пазыку падручнікаў, пра сустрэчу вечарам перад кінатэатрам, пра ўзоры для вышывання. Насамрэч ніводная з іх ужо не думала ні пра нафту пані Круповай, ні пра вышыўкі, ні пра кніжкі.

Зараз яны цалкам былі паглынутыя ўсведамленнем свабоды, гэтага найвялікшага моманту дня, калі яны апынуцца на вуліцы адны. Некага чакаюць у бліжэйшых варотах студэнты або кадэты, іншых — яшчэ больш: цэлыя натоўпы незнаёмых прахожых, прыстойных мужчын, пад прагнымі позіркамі якіх яны будуць дэманстраваць пругкасць сваіх маладых цел.

Вось яны высыпаюцца на ходнік у сваёй гранатавай форме з флоцкімі каўнярамі, са смехам, румяныя, звонкія, смелыя. Іх вочы іскрацца, крок робіцца пругкім, нервовым, ад якога напаўраскрытыя грудзі ўздрыгваюць пад тонкай тканінай блузак.

Якія ж пажадлівыя іх свежыя, ненафарбаваныя вусны, якое вялікае багацце адчуваюць у сабе гэтыя сакавітыя маладыя целы, багацце, якое яны жменямі б раскідвалі сярод гэтых мужчын у светлым адзенні з шыкоўна завязанымі гальштукамі. Дурні! Ці ж могуць яны дадумацца, што зараз вось мінаюць скарбы найфантастычнейшых жаданняў, ашаламляльных мар, утоенага сораму!..

Яны ідуць па дзве, па тры, прытуліўшыся адна да адной, рухавыя, нязграбныя, шчабятлівыя, смела шукаючы вачыма погляды мужчын, погляды, якія адчуваюць на сваёй гладкай скуры праз жакецікі.

— Як ты думаеш, мы сустрэнем сёння гэтага акцёра?

— А я табе кажу, што гэта інжынер. І ў дадатак жанаты. Учора я бачыла, як ён купляў папяросы на Маршалкоўскай. У яго на пальцы пярсцёнак.

— Не траві Юлькіну душу!

Юлька пацiснула плячыма:

— У яго рыжае шчацінне, і ён заўсёды дрэнна паголены, — сказала яна пагардліва.

— Не скажы! У гэтым ёсць свае плюсы. Калі ён так казыча! Гэта павінна ўзбуджаць!

Юлька ў душы прызнавала, што сяброўка мае рацыю, але якраз падыходзіў аб'ект размовы, таму дзяўчына здолела толькі прамовіць:

— Ідзе.

Усе тры падміргнулі яму і азірнуліся.

Ён стаў і з усмешкай глядзеў на іх.

— Чакайце! — усклікнула адна дзяўчына. — Зараз мы павітаемся і пабачым, за кім з нас ён пойдзе.

Усе пагадзіліся. Карпоўска пайшла па вуліцы Снядэцкіх, Радзікуўна па Польнай, а Юлька ў бок дома. Яна ішла хутка. Юлька была ўпэўнена, што ён ідзе за ёй, але баялася азірнуцца. Калі на рагу Тапалёвай яна ўрэшце вырашыла гэта зрабіць, то пераканалася, што гэты ёлуп нават не думаў яе суправаджаць.

Гары ён гарам! Хай бы нават сабе пайшоў за рабой Радзікуўнай!

Дзверы адчыніла Юзэфова.

— Вы паабедаеце ці будзеце чакаць пані? — спыталася яна.

— Я пачакаю.

Юлька пераапранулася і пайшла памыць рукі. На акне стаяў папяровы пакет. Дзяўчына зазірнула ў яго і здзівілася.

— Юзэфова! Навошта вы паставілі цукар у ваннай?

— Які цукар?

— Ну, там стаіць пакецік з цукровай пудрай.

Старая прысунулася.

— А і праўда. Але гэта, відаць, пані прынесла. Бо хто яшчэ?

— Навошта б пані прыносіла?

— Ну дык дома заўсёды можа спатрэбіцца.

Юлька накрыла на стол і патэлефанавала Аліцыі. Адказаў судовы служка і заявіў, што пані пракурор ужо выйшла, нейкіх хвілін дваццаць таму.

Ледзь не ў той жа момант Юлька пачула, што дзверы адчыняюцца.

— Аля, гэта ты?

— Я.

— Выдатна! Можна падаваць абед?

— Натуральна.

За сталом яны сядзелі адна насупраць адной, і Юлька расказвала, што сёння было ў гімназіі.

— Ты нейкая бледная, Аля, — са спачуваннем заўважыла дзяўчына. — Можа, ты дрэнна сябе адчуваеш?

— Не, я проста крыху стамілася.

— Гэта ты паставіла цукар у ваннай?

— Цукар? — заружавелася Аліцыя. — А, так… так. Я купіла сабе для гарбаты.

— Пудру?

— Менавіта, мне памылкова далі пудру. Зрэшты, ці не ўсё роўна? Скажы, ці выклікалі цябе сёння на лацінскай мове?

— Ну дык я ж хвіліну назад табе гаварыла!

— А, так, так. Я сёння крыху рассеяная. У мяне было вельмі стомнае пасяджэнне.

— Гэта справа бандыта з Мазавецкай?

— Так. Пажыццёвае зняволенне.

Аліцыя ўстала і, забраўшы партфель, перайшла ў свой пакой. У яе было яшчэ шмат працы па падрыхтоўцы да заўтрашняга абвінавачвання ў справе пра распаўсюджванне наркотыкаў супраць Яна Вінклера, уладальніка начнога клуба «Аргенціна».

* * *

Адвакат качаўся на сваім амерыканскім крэсле і маўчаў.

— Такім чынам, — парушыў цішыню Друцкі, — як вы ацэньваеце шанцы за і супраць?

— Калі б абвінавачвала не гэтая чортава баба, я верыў бы ў апраўдальны прысуд, а так… Ну, скажам з пэўнай доляй аптымізму, шанцы роўныя.

Адвакат Колдынгер не надта падабаўся Друцкаму. Магчыма, ён і сапраўды быў такі спрытны, якім яго прадставіў Залкінд, магчыма, у зале суда ён бы здолеў здабыць з сябе энергію, зараз жа ён рабіў уражанне апатычнага і прыбітага чалавека, што надзвычай раздражняла.

— Скажыце мне, адвакат, адно: калі вынесуць абвінаваўчы прысуд, мяне арыштуюць адразу?

— Не думаю. Залог высокі, вы ўладальнік вялікага паспяховага прадпрыемства, ніхто, хіба, не будзе баяцца вашых уцёкаў. Хоць, з іншага боку, калі пракурор будзе вельмі настойваць…

Друцкі ўстаў.

— Да пабачэння. А якой трэба быць у судзе?

— А дзясятай. Да пабачэння. І не хвалюйцеся. Зробім усё, што будзе ў нашых сілах.

Друцкі, збягаючы па лесвіцы, шаптаў пракляцці. Добра яго гэты адвакат уладкуе. Цяльпук. Нібыта і прафесіянал, а нічога не ведае. Сказаў бы проста: уцякай, бо справа прайграная, альбо: плюй на ўсё, апраўданне табе гарантавана. Было б вядома, як сябе паводзіць.

Друцкі ўжо не шкадаваў, што выпусціў з рук Цяржаўскага, і свайго велікадушша ў адносінах да Казі, якую ён выслаў у Крыніцу з умовай, што на працягу года яна не пакажацца ў Варшаве.

«Чорт з імі!»

Яму ўспомнілася Люба, таму ён пайшоў да Тоні.

Ён правёў у яе ноч і без пятнаццаці дзесяць быў ужо ў судзе. Яго настрой узняўся настолькі, што ён весела спытаўся ў кур’ера, дзе тут месца для галоўнай асобы.

Пасяджэнне прызначылі ў невялікай зале, таму яна хутка да краёў запоўнілася публікай: некалькі мужчын і каля сотні жанчын. Люба, Тэця, жонка генерала Далінскага, кветачніца Дося, графіня Халаноўска, балерына Ерэсуўна, дачка старшыні Цэліньскага, пакаёўка з «Брысталя», сястра капельмайстра з аперэты, рыжавалосая манікюрка ад цырульніка… Гэта ўсё кліенткі «Аргенціны» або яго асабістыя, а часта і тое, і другое ў адной асобе, або такія, хто б хацеў спалучаць гэтыя дзве перавагі.

Друцкі няспешна гутарыў з адвакатам Колдынгерам, якога сёння было не пазнаць. Рухавы, вясёлы, дасціпны, ён дзяліўся са сваім падапечным пікантнымі заўвагамі наконт публікі.

— Вам шанцуе на жанчын, — казаў ён. — Шкада, што ўсё зайшло так далёка, што і абвінаваўца — жанчына.

— Праўда! — прыпамінаў Друцкі. — Што за іронія лёсу! Абвінавачваць мяне будзе гэта прыгожая бландзінка! Падпракурор Аліцыя Горн.

Пачуўся званок, і працяглы пранізлівы голас судовага служкі паведаміў:

— Устаць! Суд ідзе!

Прысутныя з шумам усталі, і з-за дзвярэй, што знаходзіліся за зялёным сталом, паказаліся постаці трох старшых паноў у тогах і малой чапурыстай сакраталкі ў вялікіх рагавых акулярах.

У той жа час з бакавых дзвярэй увайшла Аліцыя Горн, высокая, зграбная, з цудоўнымі палаючымі вачыма, напалову закрытымі неверагодна доўгімі вейкамі, з пухлымі пачуццёвымі вуснамі, якіх Друцкі так прагнуў.

Праз імгненне ў Друцкага з’явілася непераадольнае жаданне пакланіцца паводле ўсіх правілаў добрага тону, але ён стрымаўся.

Зачыталі акт абвінавачвання.

Старшыня суда, адвакат Турчыньскі, мілы сівы мужчына з інтэлігентным выразам твару, нервовы, шчуплы суддзя Пшчулкоўскі, які нагадваў сароку, і

дакладчык справы, тоўсты, пануры пан суддзя Гум з крывымі жоўтымі зубамі, нібы ў злога бульдога.

— Гэты пап'е з мяне крыві, — шапнуў Друцкі на вуха адвакату.

— Гум? Вы памыляецеся. Гэта чалавек з вялікім сэрцам. Каласальнай дабрыні. Найгоршы з іх — Пшчулкоўскі.

Друцкі некалькі разоў злавіў на сабе пільны погляд юрыста-стажоркі і паглядзеў на Аліцыю.

Аліцыя не адрывала вачэй ад папер.

«Не можа быць, каб яна мяне не пазнала», — быў упэўнены падсудны.

На стале ляжаў пакет з морфіем: рэчавы доказ.

«Ах, гэта дурніца Казя!»

Як жа хутка ён мог пазбавіцца ад абвінавачвання: дастаткова было б шапнуць некалькі слоў Колдынгеру!..

Друцкі глядзеў на Аліцыю. Каменны спакой, пад якім схавана цэлае пекла тэмпераменту. Навошта яна яго адштурхнула?..

— Падсудны Ян Вінклер! — пачуўся голас старшыні. Імя, прозвішча, узрост… Грамадзянін Злучаных Штатаў Амерыкі, нарадзіўся ў Дэтройце, капітан ваенна-марскога флоту Злучаных Штатаў, пазней гандлёвага флоту, на дадзены момант гандляр, уладальнік прадпрыемства грамадскага харчавання «Аргенціна» ў Варшаве. Сваю віну не прызнае. Як можа патлумачыць знаходжанне ў яго кабінеце пакета з морфіем?.. Вельмі проста. Нехта падкінуў. Па якіх матывах?.. Можа, зайздрасць канкурэнтаў, магчыма, жаданне асабістай помсты, а можа, проста жарт… свавольства…

— Ці ёсць пытанні з боку абвінавачвання і з боку абароны?

Канечне. Пракурорка Аліцыя Горн пытаецца, ці прыходзіў падсудны ў сваю ўстанову з пакетамі? — Так. — Часта?.. — Даволі часта прыносіў сабе папяросы, кнігі…

— Ці мела «Аргенціна» ліцэнзію на продаж папяросаў? — Мае. Але падсудны курыць іншыя. — У падсуднага было шмат абавязкаў у клубе? — Так. — Значыць, у яго не было вольнага часу? — Не было, ці было вельмі мала. — Калі ў такім выпадку ён чытаў прынесеныя кнігі? — Забіраў іх назад у атэль. — Падсудны сцвярджае, што морфій падкінулі са злымі намерамі. Падсудны нікога не падазрае? — Не. — Дык хто гэта мог зрабіць? — Можа, хтосьці дзеля жарту.

Сыпаліся халодныя кароткія пытанні, вымаўленыя голасам, які гучаў, як сталь, што стварала бліскавічныя і дакладна вымераныя штуршкі.

Друцкі адказваў спакойна. Яго нізкі барытон ні разу не здрыгануўся, хоць ён ясна ўсведамляў, што кожным адказам ён звязвае сабе рукі, што кожнае пытанне — гэта нібы дробны ўкол. Адзін за другім, уколы ўтвараюць цэлы шавок, які працінае яго абарону.

Досыць будзе потым моцнага рыўка — і ад яе застануцца шматкі.

А пытанні ўсё гучалі. Дасціпныя, удумлівыя, на першы погляд, бяскрыўдныя. Яны асаджалі яго з усіх бакоў, замыкалі ўсе дзверы для адступлення. І затрымаліся, нерухомыя, празрыстыя і непраходныя, як загародкі з калючага дроту.

— Дзякуй. Я скончыла.

У зале запанавала глыбокая цішыня.

«Яна мяне ненавідзіць, — падумаў Друцкі. — І за што?»

Пачаў пытацца адвакат. Ён быў бледны, вусны яго лёгка дрыжалі. Яго проста абяззброіла харызма праціўніка. Ён не выйграў у гэтай бабы ніводнай справы, а гэту можна было б выйграць!

Пачалася новая серыя пытанняў. Друцкі адказваў з роўным спакоем. Ён ніколі не меў справы з наркотыкамі. Сярэдні даход ад «Аргенціны» значна большы, чым яму трэба на выдаткі, кнігі ён купляў часцей за ўсё пасля абеду, за столікі прысаджваўся, але ніколі нічога нікому не ўручаў, ды і ніякіх грошай не збіраў, у кабінет мог трапіць на момант нават хтосьці з гасцей…

Ён адказваў, але адчуваў, што загародкі, пастаўленыя гэтай прыгожай жанчынай, той, якая ўсёй душой яго ненавідзіць, не зварухнуліся.

Допыт сведкаў. Зноў яе раздражняльны металічны голас. Бармен Грабоўскі, швейцар, старшы афіцыянт Вжосэк. Даюць паказанні, што Друцкага любіў не толькі персанал, але і госці. Ці мог хтосьці трымаць на яго злосць? Добрыя людзі кажуць: барані божа. А ў яго пакеты ніхто не зазіраў. Дырэктар Вінклер кажа, што там былі кнігі ці папяросы, дык, відаць, так і было. А ці браў ён папяросы з бара? — Часам браў. — Як часта? — Ну, раз на тыдзень, можа, два. — А можа, і тры? — Можа.

Колдынгер выцягвае з іх, што дырэктар заўсёды быў вясёлы, прыемны, добразычлівы да работнікаў, справядлівы, што не быў скнарам, што ніхто не бачыў, каб ён уручаў гасцям якія-небудзь пакеты ці браў грошы.

Перад сталом суддзяў перамяшчаюцца сведкі, адзін за адным. Адвакат Колдынгер кусае вусны і нервова стукае алоўкам па трыбуне. Друцкі бачыць сваю сітуацыю цалкам ясна. Ён адварочваецца. Яго позірк ловяць чорныя, блакітныя, зялёныя, арэхавыя вочы…

Усе вочы поўняцца страхам… Вось зноў гучыць металічны, звонкі, як сталь, голас і вочы накіроўваюцца на Аліцыю Горн, вочы мяняюцца за імгненне — цяпер яны палаюць нянавісцю.

Перад трыбунай для сведкаў стаіць афіцэр паліцыі са Следчага Камітэта, кіраўнік брыгады па барацьбе з гандлем наркотыкамі. Высокі, зграбны, інтэлігентны мужчына.

— Вы можаце сказаць, што ў гэтым пакеце? — пытаецца Аліцыя Горн.

— Морфій. У такіх пакетах морфій перапраўляюць з Германіі.

— Якія цэны на морфій?

— Мне трэба ўбачыць этыкеткі на слоічках, — гаворыць афіцэр.

Суддзя Гум падае сведку пакет. Ён адкрывае каробку, вымае слоічак з белым парашком:

— Mophinum muriaticum, — чытае ён, — у легальным гандлі грам каштуе каля злотага.

— А ў нелегальным якой можа дасягнуць цаны?

— О, розніца велізарная! Марфіністы плацяць за адзін грам ад дваццаці да трыццаці злотых, а часам і болей.

— Такім чынам, наколькі каштоўная ўся гэта партыя ў нелегальным гандлі?

Афіцэр агледзеў слоікі і палічыў у памяці:

— Тут пяцьсот грамаў, таму каштуе гэта ад дзесяці да пятнаццаці тысяч злотых.

Суддзі пераглянуліся. Зала заварушылася. Аліцыя Горн зноў запыталася:

— Дык наркагандляры настолькі багатыя, што гэта для іх не сума?

— Адкуль? — засмяяўся сведка. — Найчасцей гэта ўвесь іх абаротны капітал.

— Падсудны сцвярджае, што гэты пакет, вартасцю ў паўтара дзясятка тысяч злотых, быў яму падкінуты з помсты або дзеля… жарту. Ці дапушчае сведка, што які-небудзь гандляр мог бы дзеля гэтай мэты ахвяраваць такую суму?

— Я лічу, што гэта абсурдна, немагчыма. Хапіла б маленькага слоічка, таму што…

Адвакат сарваўся з месца, злы сам на сябе за тое, што позна зарыентаваўся:

— Высокі Суд, я прашу адхіліць гэта пытанне! Сведка некампетэнтны ў гэтай справе.

Старшыня Турчыньскі зіркнуў на Аліцыю і адкрыў рот, але яна запярэчыла:

— Сведка кампетэнтны, таму што дзякуючы свайму становішчу ён ведае асяроддзе наркагандляроў. Абарона ж не спрачаецца, што рэчавы доказ у выглядзе дзесяці слоічкаў утрымлівае наркотык, а менавіта морфій.

Старшыня кіўнуў галавой, і Аліцыя Горн задала сведку новае пытанне:

Адвакат схіліўся да вуха Друцкага.

— Мы прайгралі, — шапнуў ён панура.

— Дакладна?

— Без сумнення. Два-тры гады.

— Мяне могуць арыштаваць? — шапнуў Друцкі.

Адвакат паківаў галавой і ціха сказаў:

— Адзінае, што я магу зрабіць, — гэта запатрабаваць адтэрміноўку, калі вы… вы хочаце адмовіцца ад закладу і змыцца.

— Давайце, — вырашыў Друцкі і падумаў, што, відаць, не наканавана яму асесці ў Варшаве. Зноў уцёкі, зноў бадзянні…

Адвакат Колдынгер устаў:

— Высокі Суд, я прапаную паклікаць эксперта для вывучэння змесціва слоічкаў і адтэрмінаваць справу.

— Дык на слоічках, — скрывіўся старшыня, — ёсць выразны надпіс.

— Так, — настойваў адвакат, — але этыкетку можна наляпіць на слоічак з любым парашком, з содай, з хінінам і г. д. З-за таго, што паўстала пытанне пра цану гэтага пакета, вывучэнне прадукту неабходнае, таму я настойваю на хімічным аналізе.

Пракурор Аліцыя Горн заявіла, што хоць прапанова абаронцы паспрыяе зацягванню справы, аднак яна не супраць, бо сапраўды не праведзены аналіз морфію, які з’яўляецца рэчавым доказам, — гэта недагляд следства.

Старшыня ўстаў:

— Суд ідзе на нараду.

Зала напоўнілася гоманам. Адвакат Колдынгер нахіліўся да свайго кліента:

— Яны павінны ўзяць пад увагу маю прапанову.

Друцкі пацiснуў плячыма. Ён дакладна ведаў, што гэта яму не дапаможа.

— Ва ўсякім выпадку, — гаварыў адвакат, — у вашым распараджэнні будуць, па меншай меры, суткі. Пакуль яны адашлюць морфій, пакуль зробяць аналіз, пакуль дашлюць заключэнне… Думаю, што справу адкладуць на тры дні.

Друцкі агледзеўся, з усмешкай кланяючыся жанчынам, страх якіх яго забаўляў. На самай справе нічога ў гэтым незвычайнага. Заўтра ў гэты час ён будзе ўжо далёка. Ён што, не можа сабе дазволіць пляваць на такія дробныя непрыемнасці?..

Нарада суддзяў зацягвалася. Дзесяць хвілін, дваццаць, паўгадзіны.

— Якога чорта!..

— Відаць, снедаюць, — зяўнуў Друцкі.

Але вось зазвінеў званок. Суд вяртаецца, займае месцы. Сярод поўнай цішыні старшыня паведамляе, што суд прыслухаўся да прапановы абаронцы і вырашыў выклікаць дасведчанага пастаяннага судовага эксперта, дацэнта Політэхнічнага ўніверсітэта доктара Мар’яна Краўца. Яго ўжо выклікалі па тэлефоне, і ён хутка прыбудзе, у сувязі з гэтым Суд пастанавіў не адкладваць слуханне, а працягваць яго.

Друцкі агледзеўся: у зале было трое дзвярэй, але ні праз якія з іх немагчыма было ўцячы. Двое вялі ўглыб будынка, а праход да трэціх запоўніла публіка. Да таго ж, там стаяў паліцэйскі.

А між тым, давалі паказанні наступныя сведкі, затрыманыя ў «Аргенціне» марфіністы. Яны нічога новага ў справу не ўнеслі, а толькі пацвярджалі паказанне афіцэра наконт цэн на морфій.

«Калі мяне арыштуюць, — думаў Друцкі, — пэўна ж не дадуць вялікага эскорту, а з адным паліцэйскім я распраўлюся без праблем».

Ён пракруціў у памяці план найбліжэйшых вуліц. Памчыць па Мядовай на Капуцынскую, тут праскочыць праз вароты — і ў другі двор... Зрэшты, можа, апаскі беспадстаўныя. Абвінаваўчы прыгавор яшчэ не азначае змены закладу на арышт.

Судовы служка далажыў аб прыбыцці эксперта, якога таксама адразу ж паклікалі да стала суддзяў. На пытанне старшыні ён адказаў, што так, ён можа адразу перад Судом даследаваць утрыманне слоічкаў, таму што прывёз з сабой усё патрэбнае для павярхоўнага аналізу.

Яму падсоўваюць каробачку. Ён вымае з яе адзін слоік, трасе яго, высыпае дробку белага парашку на паперу і праз вынятую з кішэні лупу хвіліну яго разглядвае.

— Ну? — нецярпліва пытаецца суддзя Пшчулкоўскі.

— Шаноўны Суд, — павольна гаворыць эксперт, — морфій звычайна прадаюць у крышталіках, а тут у нас цёрты парашок.

— Але морфій бывае і цёрты?

— Можа быць, хоць да гэтай пары я такога не сустракаў.

— А ці ва ўсіх слоічках тое самае? — спытаўся старшыня.

Хімік уважліва агледзеў праз лупу астатнія слоічкі і кіўнуў галавой:

— Так. Морфій крышталізуецца ў дробныя іголкі, а тут усюды крошкі.

Эксперт дастаў з кішэні два флаконы. Адзін з празрыстай вадкасцю, другі з рыжаватай.

Далей у вялікую прабірку ён насыпаў па дробцы парашку з усіх слоічкаў і наліў у іх шмат празрыстай вадкасці, пасля чаго заткнуў прабірку пальцам і пачаў флегматычна трэсці рукамі.

Друцкі глядзеў на яго абыякава, ён правёў позіркам па засяроджаных тварах суддзяў і затрымаўся на Аліцыі Горн. Яна сядзела нерухома, сачыла за экспертам. У яе вачах нібыта тлелася іскрынка іроніі. «Натуральна, — думаў ён, — яна раскрыла хітрасць адваката і цяпер радуецца, што план яго сарваўся за паўгадзіны».

«Што за д'ябал у ёй сядзіць! — скрыгатнуў зубамі Друцкі. — Ох, калі б я мог атрымаць яе ў свае рукі! Сам бы, можа, звар'яцеў, але яе навучыў бы вар'яцтву, навучыў бы, што яна не змагла б мяне ненавідзець, дастаў бы з яе ўсё пекла…»

Ён адчуў, як уздоўж хрыбетніка прабеглі дрыжыкі.

У цішыні прагучаў голас эксперта:

— Я змяшаў парашок і растварыў яго ў дыстыляванай вадзе. Зараз я дадам у гэты раствор некалькі кропель хларыду жалеза. Хларыд жалеза выяўляе ўтрыманне морфію нават у найдрабнейшай колькасці. Калі ў гэтай прабірцы знаходзіцца хоць міліграм, хоць сотая доля міліграма морфію, вадкасць адразу ж стане ярка-сіняй.

Усе ўтаропіліся ў прабірку.

Хімік, не спяшаючыся, адкаркаваў флакон з іржавай вадкасцю.

Адна кропля завісла на сценцы і ўпала ў прабірку, другая, трэцяя, чацвёртая… пятая…

Бясколерная вадкасць у шкляной трубцы пачала афарбоўвацца ў брудна-жоўты колер.

Хімік патрос прабіркай і падняў яе да ўзроўню вачэй.

Міналі секунды… хвіліна, дзве… тры…

Ні следу блакітнага колеру. Вадкасць заставалася брудна-жоўтай.

У смяротнай цішыні залы пачулася прыглушанае:

— А-а-а-а…

Вадкасць не мяняла колеру.

— А-а-а-а, — рос выдых палёгкі.

— А-а-а-а… — ён узмацняўся, выходзячы з мноства грудзей, у якіх боязь і надзея затрымалі дыханне.

Адвакат Колдынгер вылупіў вочы, здавалася, што яны выпадуць з арбіт.

Друцкі працёр далонню вільготны лоб.

Эксперт з поўным спакоем адклаў свае прыборы, выцер рукі хустачкай і сказаў:

— Гэта не морфій.

— Ці можаце вы гэта сцвярджаць з поўнай упэўненасцю? — спытаўся старшыня.

— О, так. Я цалкам упэўнены. Ва ўсіх гэтых слоічках няма ні кроплі морфію.

Ён яшчэ раз прыгледзеўся да прабіркі і паўтарыў:

— Ні кроплі.

— Што тады гэта за парашок? — запытаўся суддзя Пшчулкоўскі.

Дацэнт хіміі паціснуў кволымі плячыма і бездапаможна развёў рукамі:

— Для ўсталявання складу гэтага парашку патрэбны быў бы даўжэйшы лабараторны аналіз. У любым выпадку, гэта не морфій. Хаця…

Эксперт засунуў палец у слоік і ўзяў на язык дробку белага пылу. На яго твары з'явілася абыякавая ўсмешка.

— Так, — сказаў ён, — морфіем тут і не пахне. Усе злучэнні морфію вельмі горкія на смак, надта горкія, а гэта абсалютна салодкае.

Старшыня Турчыньскі таксама выцягнуў палец, дакрануўся да парашку, аблізаў, пасмакаваў хвіліну, яго бровы здзіўлена ўзняліся, і ён сказаў тонам адкрыцця:

— Цукар!

— Хутчэй за ўсё, звычайны цукар. Цукровая пудра, — пацвердзіў эксперт.

Сярод публікі пачуліся смяшкі.

У мозгу Друцкага праносіліся думкі: «Цукар?.. Адкуль?» Ён жа ведаў, ведаў без усялякага сумнення, што ў гэтых слоічках быў морфій!

І раптам у яго з'явілася думка: «Рэчавыя доказы захоўвае пракурор!.. Аліцыя Горн… Так! Усё абвінавачванне яна засяродзіла на сапраўднасці морфію. На гэта яна завязала ўсё… Божа! Які ж я дурань!»

Адвакат нешта яму гаварыў, але ён не чуў, не разумеў.

«Аліцыя Горн… А я думаў, што яна мяне ненавідзіць… Які велізарны маштаб дзеяння! І адвага!.. Смеласць, хутчэй. Праўда, ужо дзякуючы свайму становішчу яна магла не баяцца падазрэнняў, таму што ў яе рэпутацыя самага суровага абвінаваўцы…»

Эксперт забраў свае прыборы і праціскаўся да выхаду.

Старшыня рухам рукі супакоіў шум у зале і сказаў:

— Слова мае пракурор.

Аліцыя Горн устала. Божа, якая яна прыгожая!

Друцкі заўважыў насмешлівы трыумф на твары свайго абаронцы і падумаў: «А гэта дурань!»

— Я адмаўляюся ад абвінавачвання, — і Аліцыя села, бледнаватая, але надзвычай спакойная і стрыманая.

Друцкі ўжо не звяртаў увагі на далейшы ход пасяджэння.

Ён упіўся вачыма ў яе апушчаныя павекі і глядзеў. Глядзеў так доўга, што павекі павольна падняліся і полымя яе вачэй ударыла яму ў зрэнкі.

Ох! Гэта доўжылася секунду, долю секунды, але і гэтага імгнення хапіла, каб ён зразумеў.

Старшыня абвяшчаў апраўдальны прысуд. Апошнія яго словы заглушыў шум вокрыкаў і апладысментаў. Спачатку старшыня хацеў заклікаць публіку да парадку, але, правёўшы поглядам па разгарачаных тварах жанчын, усміхнуўся і махнуў рукой.

Аліцыя ўстала, а на яе вуснах блукала сумная ўсмешка, усмешка чалавека, які зламаў сябе і замкнуўся ў сабе, і ведае, што ўсё гэта бясследна сплыве.

Яна ўжо не глядзела на істэрычную сцэну абсыпання яго кветкамі. Яна адчувала на сабе яго позірк і ішла сагнутая, з апушчанай галавой, страшна стомленая.

На калідоры да яе далучыўся старшыня Турчыньскі. Ён казаў нешта пра нядбаласць судовага следства, пра вечныя недагляды, пра недапушчэнне даверу да ананімных даносаў.

Аліцыя не чула яго.

Старшыня пачаў яе суцяшаць. Бясконца захапляўся яе талентам, здзіўляўся яе метаду.

«Дабрак», — падумала яна.

— На самай справе няма пра што непакоіцца, пані Аліцыя.

— Старшыня памыляецца, я радуюся, — сказала яна надламаным голасам і падала яму руку на развітанне.

Незвычайнае нервовае напружанне апошніх дзён, бяссонне доўгіх начэй, аддадзеных на вырак барацьбы з сабой, найвышэйшае напружанне волі, ліхаманкавая пільнасць мозга — усё гэта зараз адклікнулася неймавернай стомай, гнятучым цяжарам, звонкай пустатой.

«І навошта? За што такая велізарная адплата?! Павінна была… павінна была…»

Зрэшты, і пра гэта яна не магла думаць: у галаве быў хаос. Нервы здранцвелі. Яна разыграла вялікую, цяжкую гульню, гульню больш чым смяротную. Аліцыя зараз мела права стаць перад сабой і сказаць:

— Перамога!

Яна мела права стаць зараз перад светам і сказаць:

— Ведайце, я моцная, страшна моцная!

А ішла яна бледная і адчувала ў сабе паражэнне, і адчувала ў сабе слабае, беднае, самотнае сэрца — жанчыны.

Яна на аўтамаце апранулася, выйшла на вуліцу, села ў трамвай. Бяздумна глядзела ў акно.

Якая ж яна была спустошаная, якая бяссільная перад міжвольным патокам думак.

Адчыніла дзверы. Насустрач выйшла Юзэфова:

— Езу Назарэцкі, пані да сёмай без абеду, як так можна! Цяляціна перагрэлася, будзе нясмачная, а ў мяне больш нічога няма. Падаваць?

— Не. Не трэба.

— Я б раіла зараз, бо я павінна ўжо ісці на маёвае набажэнства.

— Ідзіце, Юзэфова.

— А абед?

— Мне не хочацца есці.

— О, так нельга. Вы вельмі шмат працуеце…

— Ідзіце, Юзэфова, я сама спраўлюся. А дзе панна Юлька?

— Паненка пайшла да сяброўкі вучыць урокі. Казала, што вернецца ў дзевяць.

— Добра.

Аліцыя пайшла ў свой пакой і легла на канапу. Яна чула трэск ключа ў дзвярах, якія замыкала Юзэфова, адрывістыя крыкі дзяцей, якія гулялі на вуліцы. Аліцыя не спала, яна заглыбілася ў паўпрытомны стан.

У вітальні пачуўся званок. Яна не адразу гэта ўсвядоміла.

Калі празвінеў паўторна, яна з цяжкасцю ўстала. Ляніва пайшла ў вітальню і адчыніла.

Раптам яна адступіла — у дзвярах стаяў ён.

У галаве Аліцыі завіравала ўсё. Яна абаперлася на сцяну і хацела нешта сказаць, але страціла голас.

Друцкі, не здымаючы капелюша, замкнуў за сабой дзверы, моўчкі падышоў да яе, узяў яе бяссільную руку ў дзве далоні.

Яны глядзелі адно на аднаго: вочы з залатымі зрэнкамі ў вочы палымяна-чорныя, вочы палымяна-чорныя ў вочы з залатымі зрэнкамі.

Аліцыя павольна вызваліла сваю далонь з яго рукі і пачала адступаць. Паціху, крок за крокам…

— Пані, — прамовіў Друцкі ціха.

Яна стала, дрыжучы ўсім целам.

— Пані!..

— Чаго вы хочаце, навошта вы прыйшлі? — усклікнула яна з роспаччу ў голасе.

— Навошта вы гэта зрабілі?.. Чаму вы ахвяравалі сабой дзеля мяне?.. Для чаго вы падвергалі сябе небяспецы?

Аліцыя прыцiснула рукі да грудзей і маўчала.

— Навошта? — гаварыў ён. — Я маю права спытаць, навошта?

Аліцыя апусціла галаву і прашаптала:

— Бо я кахаю… Я вас кахаю…

Ён абняў яе і моцна прытуліў да сябе.

Яна не абаранялася, а калі яго вусны ўпіліся ў яе вусны, яна закінула яму рукі на шыю.

Якое ж вялікае шчасце забыцца пра тое, што кожны дзень тысячы простых, наіўных жанчын таксама закідваюць рукі на шыі тысяч мужчын, забыцца, што ў гэтых абдымках тулілася ўжо столькі іншых…

Аліцыя прагнула яго, прагнула наперакор самой сабе, насуперак забытым зараз клятвам… Насуперак усяму, на чым грунтавала сваё жыццё.

— Нарэшце… нарэшце…

Друцкі абхапіў яе і ледзь не нёс праз адчыненыя дзверы на шырокую пакрытую дыванам канапу. Кроў хуткімі хвалямі, хвалямі ўсё больш моцнымі стукала яму ў мозг.

Вось нарэшце яна ў яго руках, гарачая, як жарынка, млявая, бяссільная, цудоўная…

Раптам, неспадзявана для самой сябе, Аліцыя вырвалася з рук Друцкага, адштурхнула яго і, паваліўшы крэсла, якое з шумам перавярнулася, пачала ўцякаць.

Друцкі кінуўся за ёй і схапіў яе за руку, але падсвядомы панічны страх дадаў ёй сіл…

Адным рыўком Аліцыя вызваліла далонь і адскочыла ўбок…

Але Друцкі ўжо быў не ў сабе. Яго лёгкія ліхаманкава хапалі паветра. Ён не разумеў, чаму яна ўцякае, як і ўвогуле нічога зараз не разумеў. Ведаў адно, што хацеў яе, што няма на свеце сілы, якая здолела б яго стрымаць.

Абое не чулі звону разбітага фарфору, які ўпаў разам са столікам, не заўважылі перавернутых рэчаў.

Яны бачылі толькі адно аднаго, чулі толькі сваё паскоранае дыханне.

Друцкі злавіў Аліцыю…

Цяпер яна жорстка супраціўлялася, аж да сыку ад болю з-за выкручаных рук, з вуснамі, поўнымі крыві з яго далоні, у якую яна ўпілася зубамі, у падранай на шматкі сукенцы, аказалася ў палоне яго дзікіх абдымкаў.

У прыніжальным, п’яным, жывёльным, шалёным, пажадлівым гвалце…

Два целы зліліся ў моцны вузел, звіліся ў іерогліф, якім прырода пазначае свой адвечны закон жыцця.

* * *

…Пакой, што патанае ў змроку, бясформенныя абрысы перавернутай мэблі і тут жа над яе вачыма залацістыя зрэнкі… і прама над яе вуснамі — вусны… і гэты авал твару… Галюцынацыя?.. Гэта галюцынацыя?.. Нейкі кашмарны рэфлекс успамінаў?..

Не… не…

Пакрысе яна прыходзіла ў сябе, а карціна не мянялася…

Аліцыя адсунула яго ад сябе і шырока адкрытымі вачыма ўглядалася ў бледны разадраны твар.

— Гэта ты, — прыглушана сказала яна.

Ён не разумеў.

Яна абаперлася на локаць і паказала яму перавернутыя рэчы.

— Ты памятаеш?

— Што? — здзівіўся ён.

— Не пазнаеш?

— Даруй, я быў не ў сабе, — ён прытуліў яе, — але чаму ты супраціўлялася?

— Чакай, — перарвала яна, — ты хіба не памятаеш летні вечар, пакой, які тоне ў змроку, перавернутую мэблю?

Друцкі сарваўся з месца і выцер лоб.

— Не памятаеш рванай сукенкі маладой дзяўчыны, якой ты завалодаў сілай?..

— Божа! — крыкнуў ён і засланіў твар рукамі.

— Цяпер я цябе пазнала… Так, гэта ты…

Аліцыя адарвала яго рукі ад твару.

— Гэта ты… Цябе завуць Багдан Друцкі…

— Божа, Божа, — стагнаў ён, — як жа я мог цябе не пазнаць, як жа я мог…

Аліцыя абаперлася галавой на далоні і паўтарала:

— Гэта ты… гэта ты…

У галаве яе мітусіліся неспакойныя думкі… Гэта ж нейкі неспасцігальны фатум… Дзікая фантазія лёсу, капрыз ці сіла, якой кіруе свядомая рука…

— Ты мяне ненавідзіш, — глуха сказаў Друцкі.

— Я цябе кахаю.

— Ты павінна мяне ненавідзець… Я быў плямай на тваёй маладосці.

— Ты памыляешся… Ты быў пракляццем усяго майго жыцця. Ты яго зламаў… Ты быў аўтарам не толькі маёй трагедыі… О, ты ўчыніў мне страшную, страшную крыўду… Ты не ўяўляеш, наколькі вялікую крыўду…

Друцкі прыкусіў вусны і ўстаў:

— Я магу заплаціць табе за гэта толькі мізэрную цану. Забі мяне.

Ён выняў з кішэні рэвальвер і выцягнуў руку.

Аліцыя ўзяла зброю і ўзважыла яе ў руцэ.

— Я заб'ю цябе, — сказала яна сур'ёзна, — заб'ю, калі… ты перастанеш быць… маім…

— Дык… ты сапраўды мяне кахаеш?.. Сапраўды, нягледзячы на тое?

Ён прытуліў яе да сябе.

Аліцыя прыхінулася галавой да грудзей Друцкага. Абое яны ў гэтых абдымках шукалі абароны ад страху, які затрымцеў у іх, калі яны ўбачылі таямнічую маску лёсу. Абое, спаткаўшыся на незразумелым зігзагу паўторнага скрыжавання дарог свайго жыцця, адчулі вакол прорву, галавакружную прорву неспасцігальнага, перад якім адзінай апорай і адзінай надзеяй на выратаванне для кожнага з іх дваіх быў гэты другі. А яны ж ведалі, што яны пагроза адно для аднаго і *memento*[1] пра няшчасце, што не дае вырваць сябе з грудзей, ведалі, што звязала іх пятля трагічнай фантазіі лёсу, як двух смяротных ворагаў, скаваных ланцугом на злавеснай пустцы вялікіх вод, двух выжыўшых на рэштках разбітай лодкі. Хто ж з іх звар'яцее і штурхне таварыша ў бездань, ведаючы, што непазбежна пойдзе за ім?..

За вокнамі гусцеў змрок. Цяжкія пухлыя хмары зацягнулі неба.

Праз адчыненае акно ўляцеў парыў ветру, па жалезных падаконніках забарабанілі першыя буйныя кроплі. Яны ўдаралі ўсё часцей, усё нецярплівей, усё хутчэй… лівень.

---

[1] Memento (*лац.*) — згадка, папярэджанне.

Аліцыя гаварыла.

Друцкі не разумеў яе слоў. Ён адчуваў на шчацэ яе цёплае дыханне і дотык вуснаў. І ведаў. Ведаў, што гэтыя словы звязваюцца ў стужку балючых прызнанняў, што аплятаюць яго, як яе рукі, дрыжачыя рукі пакрыўджанай дзяўчынкі, поўныя нераздадзенай пяшчоты, рукі жаночыя, хцівыя рукі чалавека, якія адчайным намаганнем здабылі сваё дзікае, неспадзяванае, вымучанае шчасце і не аддадуць яго, хіба толькі разам з уласным жыццём.

Аліцыя гаварыла:

— ...кожнай думкай, кожным нервам, кожнай кропляй крыві... Колькі ж ганьбы, колькі прыніжэння, колькі нянавісці раз'ядала маё жыццё...

За вокнамі шумеў лівень.

— ...і кахаю цябе, і вар'яцею ад думкі, што ты мяне не кахаеш...

Друцкі прытуліў яе да грудзей мацней.

— Скажы... — шаптала яна, — скажы...

— Кахаю, як бы я мог не кахаць, — сказаў ён сур'ёзна.

Аліцыя маўчала, услухоўваючыся ў рэха яго голасу, і спыталася з трывогай, якая сціскала яе гартань:

— Колькім жанчынам... ты гэта паўтараў?..

Друцкі адсунуў яе твар ад свайго:

— Паглядзі мне ў вочы — і ты даведаешся, што я не хлушу: ніводнай, разумееш, ніводнай я не казаў гэтага ніколі.

— Чаму?

— Таму што ніводнай не кахаў... Канечне, іх было шмат. Некаторых я вельмі любіў... Не кахаў жа ніводнай.

Друцкі гаварыў праўду. Ён лічыў агідным такога роду падман. Ён не аналізаваў прычын гэтай агіды, але задавольваўся тым, што ведаў: хлусіць яму не патрэбна. Аднак раптам яго сталі непакоіць уласныя запэўніванні: ці па-сапраўднаму ён кахае Аліцыю? Ці каханне гэта?

Дзеля супакаення самога сябе ён пачаў гаварыць:

— Ведаеш, я ніколі яшчэ не сустракаў такой жанчыны, як ты... Ужо тады... шмат гадоў таму... Уяві, у той момант я не задумваўся, што ламаю сабе жыццё, ды і свядомасць мяне не стрымала, не падказала, што я ўчыняю подласць, што і табе, якраз табе, сам вобраз якой агортваў мяне полымем, прыношу страшную крыўду... Я тады быў, як п'яны, але нават... Праўда, я шмат меў у жыцці страсцей... але ніводная не авалодала мной так моцна... А цяпер, калі я цябе ўбачыў у кавярні, я, шчыра кажучы, цябе не пазнаў, столькі гадоў прайшло, аднак мяне адразу агарнула гэта дзіўнае пачуцце... і пазней... Як жа я чакаў кожны твой візіт... Якое шаленства завалодвала мной, калі ты не прыходзіла... Мне здавалася, што і ты не можаш застацца абыякавай...

Друцкі змоўк на хвіліну.

— Гавары, гавары, — тулілася да яго Аліцыя.

— А калі ты мяне адштурхнула... я не разумеў, у чым справа... Я сабе гэта тлумачыў як жаданне пажартаваць з мяне... І... гэта вельмі мяне абражала... Толькі сёння... я даведаўся, што ты мяне кахаеш, што мяне кахае найпрыгажэйшая, найцудоўнейшая жанчына, якая калі-небудзь жыла на свеце... І як жа я мог бы не кахаць цябе?

— Я веру табе, толькі баюся, што ты памыляешся...

— Калі я памыляюся, якое ж тады каханне? Як жа яно праяўляецца? Калі я памыляюся, то кахання ўвогуле няма... Значыць, і ты мяне не кахаеш, хоць не стала сёння вагацца і ўчыніла злачынства дзеля выратавання злачынца...

— Дык ты ж не быў вінаваты, — усміхнулася яна, і ён хутчэй адчуў яе ўсмешку, чым мог яе разгледзець у цемры.

— Гэта праўда, я невінаваты. Аднак ты пра гэта не ведала.

— Ведала.

— Адкуль? — здзівіўся Друцкі.

— Калі б ты сапраўды быў вінаваты, ты б ведаў, што ў цябе ў стале гэты пакет з морфіем. А ты атрымаў ліст, які засцерагаў цябе ад рэвізіі?

— Ах… — стукнуў ён сябе ў лоб, — дык гэта ты?..

— Я, — кіўнула галавой Аліцыя.

Друцкі задумаўся і праз хвіліну загаварыў…

— Аднак, такім чынам… аднак ты мяне папярэдзіла. Значыць, ты верыла абвінавачванню, была пераканана, што ў мяне ёсць гэты морфій. Аднак…

— Ты памыляешся. Я была ўпэўнена, што ты ў пастцы, што… ты б не зрабіў гэтага.

— Можа, ты мяне надта высока ацэньваеш, — рассмяяўся ён ціха.

— Што ж ты хочаш, інтуіцыя… Інтуіцыя…

Яны зліліся ў доўгім пацалунку.

— Я, відаць, страшна выглядаю, — апамяталася Аліцыя. — Колькі часу?

Друцкі дастаў гадзіннік, нафасфарызаваныя стрэлкі набліжаліся да дзясятай.

— Я павінна прывесці сябе ў парадак, — устала Аліцыя, зараз могуць вярнуцца…

— Хто? — спытаўся Друцкі.

— Прыслуга і мая выхаванка. Толькі дзякуючы ліўню мы засталіся адны, — няшчыра засмяялася яна.

Абое адчувалі сябе няёмка. Аліцыя выняла з шафы сукенку і пайшла ў суседні пакой пераапранулца.

Друцкі ў гэты час апусціў ралеты, адшукаў выключальнік, запаліў святло і актыўна ўзяўся расстаўляць пераверну тую мэблю. Праходзячы каля люстэрка, ён паправіў гальштук і прыгладзіў валасы.

Толькі цяпер ён заўважыў, што ў яго акрываўленая рука. Ён выцер засохлую кроў хусцінкай, змочанай у туалетнай вадзе, і, да свайго задавальнення, канстатаваў, што дождж не перастае.

Увайшла Аліцыя. У чорнай шаўковай сукенцы яна здавалася яшчэ прыгажэйшай, яшчэ больш гнуткай і такой цудоўна жаноцкай. Хоць зараз яна выглядала ледзь не малалетняй, у ёй не было нічога ад дзяўчынкі, а ўсё ад жанчыны, ад яе проста струменіла жаноцкасць, свядомая, сталая, што прываблівала сілай праяўлення, закончанасцю ліній.

У вачах яе Друцкі заўважыў той самы, так добра яму вядомы бляск, які незлічоную колькасць разоў выклікаў на яго вуснах бесклапотныя пераможныя словы «мая малышка!»

Цяпер, аднак, відавочнай стала абсурднасць ужывання гэтых слоў. А іншых ён не ведаў.

Відаць, і яна не магла знайсці патрэбных, бо няўпэўнена агледзела пакой і спыталася:

— Напрацаваліся?..

— Так, здаецца, усё ў парадку…

Паміж імі завісла нейкая збянтэжанасць, нейкая ўзаемная скаванасць, невыносная для абаіх, амаль саромная.

Друцкі ўзбунтаваўся супраць гэтага небывалага гвалту і першы рассмяяўся:

— Мы сябе адчуваем, як дарослыя, — сказаў ён, — якіх заспелі за дзіцячай гульнёй.

Канстатацыя дрэннага настрою заўсёды раўназначная яго ліквідацыі. Ён аказаўся нібыта выкрыты, і яму нічога не застаецца, як знікнуць. Пасля апошняй фразы Друцкага абое адчулі сябе свабадней. Аліцыя наблізілася да яго і пацалавала ў вусны.

Друцкі абняў яе, у абдымках падняў, прытрымаў левай рукой, правую падсунуў пад яе калені — і вось трымаў яе на руках.

Калі ён гаварыў, іх вусны амаль судакраналіся:

— Ведаеш, калі я цябе так трымаю, то адчуваю надта вялікае багацце, якое маю ў руках… І мне здаецца, што калі я цябе выпушчу, то страчу нешта неверагодна каштоўнае, нешта, чаго я прагнуў усё жыццё…

Яе рукі абхапілі яго шыю, вусны зліліся з вуснамі. Гарачая хваля праплыла па яго хрыбце, сківіцы сутаргава сціскаліся.

Аліцыя адарвалася ад яго вуснаў:

— Скажы, скажы, ты мяне кахаеш?..

— Кахаю, кахаю да шаленства, — захрыпела ў яго лёгкіх.

Аліцыя апамяталася.

— Не, не, позна ўжо …

— Найдаражэйшая, адзіная…

Ён зноў быў напаўпрытомны і нёс яе на канапу.

— Зараз прыйдуць!.. — абаранялася яна.

— Не прыйдуць, не, дождж ідзе…

У гэты момант пачуўся скрыгат адчыненых уваходных дзвярэй. Аліцыя вырвалася з абдымкаў Друцкага.

— Халера! — пстрыкнуў ён пальцамі і ўпаў на крэсла.

Аліцыя ўвайшла ў вітальню:

— Гэта Юзэфова?

— Так, пані. Лье як з вядра. Я не магла выйсці з касцёла.

— Вы прамоклі?

— Да ніткі, пані. А паненка вярнулася?

— Якраз не. Вазьміце, Юзэфова, парасон, сядзьце ў таксі і прывязіце паненку. Зараз я дам вам грошы.

Друцкі пачуў, як адкрывалі сумачку, звон манет, цяжкія ўздыхі Юзэфовай і зноў скрыгат дзвярэй.

Аліцыя вярнулася да яго і стала на парозе.

— Пайшла? — шэптам спытаўся Друцкі.

— Так, — засмяялася Аліцыя, — але не болей як праз дзесяць хвілін яна вернецца. Таксі стаяць тут перад домам, а мая Юлька ў сяброўкі, якая блізка жыве.

— Гэта жахліва, — сумна сказаў ён.

— Жахліва, — пацвердзіла Аліцыя, — але ж сёння… наша жыццё не скончыцца… Маё… сёння пачынаецца…

— Жыццё цудоўнае, праўда? — спытаўся Друцкі, прытуляючы яе да сябе.

— Магутнае, магутнае, як ты…

— Каханая…

— І светлае, і стыхійнае, як ты… Калі б ты сышоў, і яно б скончылася.

— Я не сыду. Не хачу, не змагу.

Аліцыя ўзяла яго галаву ў абедзве рукі і ўперылася яму ў вочы.

— У жыцця залатыя вочы, як у цябе…

Іх вусны зноў зліліся ў доўгім, вельмі доўгім пацалунку.

— Табе трэба ісці, — адарвалася ад яго Аліцыя.

— Абавязкова?

— Абавязкова.

— Тады… да заўтра?

— Да заўтра!

І зноў абдымкі, зноў спатканне вуснаў, потым момант пошуку капелюша — і ён ужо збег з лесвіцы.

Друцкі спыніўся на першай лесвічнай пляцоўцы. Аліцыя стаяла, абапіраючыся на дзверы.

Яна ўсміхнулася і прамовіла гучным шэптам:

— Я сентыментальная!..

— Да заўтра! — памахаў ёй Друцкі капелюшом.

Дождж не спыняўся. З паднятым каўняром пінжака Друцкі дабег да шэрагу аўтамабіляў і ўскочыў у першы.

— «Аргенціна», — крыкнуў ён шафёру.

З-пад колаў пырскала вада, мільгалі вулічныя ліхтары.

Друцкі закурыў. Толькі цяпер ён усвядоміў, што ўжо некалькі гадзін не трымаў у вуснах папяросы.

Ён не быў схільны да рэфлексіі. Ён проста грэбаваў капацца ў мінулым. Раманы, у якіх героі заглыбляліся ў лабірынты самааналізу, даводзілі яго да шаленства. Калі ён думаў пра «ўчора», то толькі і выключна ў сувязі з перспектывамі на «заўтра». Факт, які ўжо адбыўся, станавіўся для яго важнай пазіцыяй, з якой неабходна лічыцца, незалежна ад яе станоўчых ці адмоўных бакоў. Мозг проста фіксаваў гэты факт, упісваў у рэестр рэчаіснасці і рабіў высновы на будучае. Гэтым завяршалася функцыя мозга.

Безумоўна, у поўнай незалежнасці ад гэтага рацыянальнага працэсу развіваўся працэс эмацыянальны. Гэта значыць, Друцкі быў вясёлы, быў злы, быў сумны або шалёны. Быў — і ўсё. Чаму? Ён ніколі пра гэта не думаў.

Цяпер, аднак, ён заўважыў дзіўныя парушэнні ў сваіх думках і псіхічным стане.

З'яўляліся нейкія недарэчныя пытанні: што, уласна кажучы, адбылося? Чаму адбылося? Якія ёсць тайны прызначэння? І ці варта радавацца, турбавацца, адчайвацца, выць ад радасці?..

«Халера яго бяры, а што мне?» — сціснуў ён кулакі.

І адказаў пытаннем на сваё пытанне:

«А можа, гэта і ёсць каханне?»

У любым выпадку, яму было не па сабе, і ён ад гэтага адчуваў сябе нязносна, пакуль таксі не спынілася перад «Аргенцінай».

— Даражэнькі, — спытаўся Друцкі ў шафёра, чакаючы рэшту, — што б вы зрабілі, калі б не маглі зразумець, добра вам ці дрэнна?

Шафёр, малады хлопец з выцягнутым тварам, зірнуў на яго спадылба і сказаў з прыветнай усмешкай:

— Ну, зрабіў бы тое ж, што і вы.

— Гэта значыць?..

— Ну, пайшоў бы ў клуб.

— Маеш, браце, рацыю.

Публікі яшчэ не было, і служба магла зладзіць свайму шэфу авацыю. Усе зноў сабраліся ў вестыбюлі і пасля кароткай прамовы Юстэка пад аглушальныя віваты пачалі падкідваць Друцкага ўгору. Служба шчыра радавалася паспяховаму заканчэнню справы, а паколькі то адзін, то другі намякнуў на «абмыванне», Друцкі заявіў, што пасля таго як разыдуцца госці, ён праставіцца.

Тэця, якая не брала ўдзелу ў агульнай авацыі, павітала яго ў кабінеце самай радаснай з усмешак.

— Ну, малышка, — усклікнуў Друцкі, — усё ў парадку!

— Я такая шчаслівая! — дзяўчына зламыла рукі, як для малітвы.

Яна чакала, што Друцкі, як звычайна, прытуліць яе і пацалуе, але не дачакалася. Ён і сапраўды зрабіў такі рух, нібыта хацеў яе абняць, але адразу схаваў рукі ў кішэні і крыху нахмурыўся.

— Дай мне, малышка, каньяку, — сказаў ён, — і загадай прынесці з кухні што-небудзь на закуску.

— Што-небудзь гарачае? — здзіўлена спытала яна, таму што Друцкі ніколі тут нічога не еў.

— Не, якія-небудзь бутэрброды, абы хутка і шмат. Я галодны.

Тэця паставіла на стол бутэльку каньяку і чарачку, зіркнула на шэфа, які абаперся на аконную раму, і хутка выбегла.

Праз некалькі хвілін яна вярнулася з падносам, поўным закусак.

— Дзе мне гэта паставіць? — спыталася яна.

— Пастаў на стол.

Тэця заўважыла, што за яе адсутнасць у бутэльцы значна паменела, і зараз Друцкі напаўняў чарку, выпіў яе залпам і сеў за стол.

Дзяўчына засмяялася.

— Што такое? — зацікавіўся дырэктар яе весялосцю.

— Э-э-э… нічога… толькі ты сеў за стол, — збянтэжана пачала яна, — я яшчэ ніколі не бачыла, каб ты сядзеў за сталом.

У гэты момант ён скеміў, што яна сама прыносіла яму закускі. Пэўна ж, сама іх выбірала і так старанна раскладвала. А ў судзе яе вочы былі поўныя слёз.

«Якая яна добрая і прыгожая», — падумаў Друцкі, і раптам яму стала шкада і яе, і сябе.

— Малышка, — сказаў ён, — дзякуй табе вялікі. Малышка!..

— За што?..

— За тваё сэрцайка.

— О-о-о-ох, — усміхнулася Тэця, нібы прысаромленая.

Ён зноў нахмурыўся, і, невядома чаму, але ёй падалося, што павінна было адбыцца нешта важнае, штосьці, што выкліча сумныя для яе змены.

Друцкі піў і еў. Шмат піў і шмат еў. І Тэці гэта падалося ненармальным, прыкрым, ледзь не хваравітым. Пры гэтым дырэктар не кранаўся з месца.

Нават калі зайграў аркестр, ён не падняў галавы, а калі ўвайшоў касір Юстэк, ён загадаў яму прыслаць яшчэ бутэльку каньяку.

Зазваніў тэлефон.

— Хай сабе звоніць, — буркнуў Друцкі.

— Але, можа, нешта важнае?

— Ну, тады здымі, малышка, а калі папросяць мяне, скажы, што я не прыйшоў і што сёння мяне не будзе. Хіба…

Тэлефонны званок настойліва трашчаў.

— Зрэшты, — Друцкі ўзяў трубку, — алё?

— Як ты, капітане?

Друцкі пазнаў голас Залкінда.

— А, прывітанне, — адказаў ён, — не надта добра… не, нічога надзвычайнага, галава баліць… Што?..

Залкінд гаварыў, што Люба настойвае ехаць у «Аргенціну», а паколькі ён сам нікуды не ходзіць, дык ён толькі адвязе Любу і аддасць яе пад апеку Друцкага.

Дырэктар скрывіўся.

— Ой не, можа, іншым разам. У мяне баліць галава, і я зараз выходжу.

— Дык Люба пакрыўдзіцца, але што ж паробіш. Будзь здаровы, капітан.

Друцкі паклаў трубку і зноў выпіў чарку каньяку.

Тэця хацела яго папрасіць, каб не піў, бо ў яго баліць галава, хацела спытацца, ці сапраўды ён выходзіць, ці возьме яе з сабой, але ў яго была такая непрыступная міна, што яна не прамовіла ні слова.

«Што з ім, — думала яна, — што з ім?»

Ён ужо быў добра нападпітку, аднак загадаў падаць сабе бутэльку шампанскага і бутэльку піва. Змяшаў палова напалову і выпіў усё.

У дванаццаць Друцкі выклікаў Юстэка, аддаў яму агульныя распараджэнні, а ў прыватнасці, якія датычыліся «прастаўлення», што ён абяцаў персаналу, кіўнуў галавой Тэці і выйшаў.

У атэлі ён даручыў парцье даставіць у нумар яшчэ адну бутэльку шампанскага, адчыніў вокны і няўпэўненым крокам хадзіў па пакоі, папіваючы пеністую вадкасць і ўслухоўваючыся ў манатонны шум дажджу.

Калі ў бутэльцы не засталося ні кроплі, Друцкі распрануўся і заснуў мёртвым сном.

Прачнуўся ён рана. Пакой быў заліты сонцам і поўны свежага, бадзёрачага паветра.

Друцкі ўстаў з ложка выспаны і вясёлы. Голячыся, ён бесперапынку свісцеў, з-за чаго ледзь не парэзаўся брытвай, прыняў халодную ванну, апрануўся.

«Жыццё — цудоўнае! — зрабіў ён выснову і, раптам узгадаўшы ўчарашні вечар, схапіў тэлефонную кнігу, адшукаў нумар, паглядзеў на гадзіннік: — Палова на восьмую, відаць, ужо не спіць».

Пазваніў.

Адказаў выразны металічны голас.

— Алё!

— Жыццё — цудоўнае, як ты! — сказаў Друцкі.

Момант цішыні, нейкай цёплай, поўнай невымаўленых слоў цішыні і кароткі вокрык:

— Я ведала!..

— Мая дама дазволіць, каб я па яе прыехаў?

— Не, не… І гэта, чаму «мая дама»?

— А як?

— Трэба прыдумаць, — засмяялася яна, — я прыдумала. Усю ноч думала — і прыдумала.

— Ну і як?

— Бох!

— Я недачуў…

— Бох! «Б» як байка, «о» як вокліч здзіўлення, «х» як… трэцяя літара ў слове «кахаю». Бох!

— Мяне так называлі, калі я быў маленькім хлопчыкам.

— А ты?

— Я буду казаць «мая Аль».

— Мая?.. Я гэтага не разумею, мне заўсёды здавалася, што я магу быць толькі… сваёй…

— А цяпер будзеш чыёй-небудзь, мая Аль.

— Тым лепей для мяне, калі ты здолееш мяне гэтаму навучыць.

— Тым лепей для нас, мая Аль. Я буду ўзорным педагогам.

— Аль, гучыць па-ўсходняму.

— Не. На востраве Вайгу[1] ёсць легенда, што некалі там правіла каралева, прыгожая, як полымя. Яе звалі Аль.

— Я невук, — засмяялася Аліцыя, — і не ведаю, дзе востраў Вайгу. А капітана не заносіла з флатыліяй да яго партоў?

— З флатыліяй не заносіла. Былі іншыя абставіны, але на гэтым востраве я правёў крыху менш, чым паўгода. Гэта адна з найпрыгажэйшых клумбаў у старым Ціхім акіяне. На поўдзень, аж да полюса, ужо няма ніякай сушы. На ўсход трэба тыдзень веславаць на старым судне, каб дасягнуць скалістага ўзбярэжжа Чылі.

— Так, — уздыхнула Аліцыя, — свет велізарны. А чаму ты сказаў, што была каралева прыгожая, як полымя?

— Так распавядае легенда старых палінезійцаў яшчэ з тых часоў, калі яны пакланяліся агню.

— Раскажы мне як-небудзь пра каралеву Аль, востраў Вайгу і многія іншыя астравы.

— Раскажу, мая Аль.

— А сёння ты прыйдзеш на абед да… тваёй Аль.

— А мы… будзем адны?

---

[1] Вайгу — адна з назваў вострава Пасхі.

— Не. Ты пазнаёмішся з маёй выхаванкай і старой Юзэфовай, голас якой ужо ведаеш. Прыходзь у чатыры.

— Добра, мая Аль.

— Да пабачэння, мой Бох.

— Мой? — рассмяяўся Друцкі. — Гэта рэванш?

— Гарачая прага рэваншу. Можа, нават болей: неабходнасць… Спадзяюся… спадзяюся, ты разумееш? — у яе голасе прагучала цвёрдая, стальная нота.

— Больш чым разумею, мая Аль. Я гэтага хачу, — сказаў ён сур’ёзна.

— Жыццё моцнае, як ты.

— Яно багатае, як ты, мая Аль.

— Так. Багатае, на прыгажосць, на асалоду, на небяспеку, на тысячы магчымасцей і немагчымасцей, на прамяністасць сонца і на буры, ураганы…

— Тваё жыццё такое?

— Такое, як ты.

— Бачыш, — засмяялася Аліцыя, — мне ўжо трэба ісці, а так цяжка пакласці трубку. Ну, да пабачэння!

— Да пабачэння, мая Аль.

Ён падышоў да акна і пацягнуўся ў промнях сонца:

— Так, — падумаў Друцкі, — яна, як маё жыццё. Буйная, радасная і небяспечная… А ці радасная? Ах! Якая розніца!

Трэба было падумаць пра кватэру. Бо варта ўлічваць факт, што яна не можа прыходзіць у атэль. І зноў, у яе нейкая выхаванка і служка… Аліцыя павінна лічыцца з іх меркаваннем, і гэта важна. Яна пракурор.

Друцкі ўсміхнуўся сам сабе: доўгую галерэю яго жанчын папаўняе і такая, пракурор.

«Не, — запярэчыў ён сам сабе, — гэта не тое, што астатнія… Гэта нешта цалкам іншае».

Друцкі ўзяўся за справу.

Ён знайшоў аб’яву пасрэдніцкага бюро па найме кватэр, пагаварыў па тэлефоне, загадаў падаць яму яго аўтамабіль, пад’ехаў да бюро, забраў агента, які павінен быў яму паказаць некалькі кватэр для найму.

— Я вам коратка раскажу, чаго я хачу, — пачаў Друцкі, рушыўшы з месца ў бок Бельведэра, — мне патрэбна два або тры пакоі з ваннай…

— І з кухняй.

— Не. Кухня мне непатрэбная.

— Разумею, невялікая кватэрка для карыстання час ад часу…

— Нічога ты, пан, не разумееш. Я там буду жыць. Паслухай жа, чорт цябе бяры: кватэра павінна быць прыстойна абстаўленая, утульная, светлая, у вялікім прыгожым доме.

— Вам патрэбна цалкам абсталяваная?

— О, так. Я амерыканец. У нас можна зняць кватэру так, каб, засяляючыся, мець пры сабе толькі зубную шчотку.

— О?! — здзівіўся агент.

— Мне трэба штосьці непадалёк.

— Зразумела, у мяне ёсць некалькі такіх аб’ектаў, але там, на Горнаслёнскай, куды якраз мы едзем, на жаль, не цалкам абсталявана. Мэбля там толькі ў сталовай… Нешта сапсавалася?

Друцкі спыніў машыну.

— Тысяча чарцей! Нічога не сапсавалася, толькі ў мяне няма лішняга часу. Якога ліха я буду глядзець гэтую на Горнаслёнскай, калі яна мне не падыходзіць?!

— Але гэта вельмі прыгожая кватэра…

— Ты, пан, альбо выходзь, альбо выцягвай свой нататнік і давай адрас такой, якая мне патрэбна!..

— Шаноўны, — настойваў агент, — можа, туды купіць вельмі танную мэблю, у растэрміноўку… Зараз-зараз, — спыніўся ён, бачачы, што Друцкі адчыняе дзверцы, — паехалі на праспект Шуха.

— Не разумею, — пачаў агент, калі машына рушыла, — чаму вы, шаноўны, не хочаце самі абсталяваць кватэру, згодна з вашым густам. Гэта было б танней.

— А вы ведаеце Евангелле? — неспадзявана запытаўся Друцкі.

— Ведаю, — здзівіўся агент.

— Дык вось там сказана: «Не збірайце скарбаў на гэтай зямлі!» Разумееце?.. Я якраз усё рэзервую на Неба. Гэта тут?

— Так.

Яны выйшлі. Гэта была светлая двухпакаёвая кватэра на першым паверсе, абстаўленая па вышэйшым разрадзе.

Іх прыняў сам уладальнік, худы, кволы бландзін, які не вымаўляў «р». У яго была ружовая шаўковая піжама, завітыя валасы і падфарбаваныя вейкі і бровы.

«Дзіўны хлопец», — падумаў Друцкі.

— Гэта шыкоўная кватэрка, ідэальная гарсаньера, — млявым голасам тлумачыў бландзін. — А паглядзіце, якая ванная. Я люблю прыгожыя ванныя пакоі, і гэты абставіў дакладна як у лорда Кентберы… Праўда, цудоўная?..

Сапраўды, Друцкі павінен быў прызнаць, што нічога падобнага ён у жыцці не бачыў.

Прасторны пакой са сценамі з мазаікі, вытрыманай у пастэльных тонах, з выявамі розных сюжэтаў грэчаскай міфалогіі, з падлогай, па-майстэрску выкладзенай паркетам з жоўта-ружовага корку, мяккай і эластычнай. У глыбіні — ніша, захінутая светлай каляровай занавескай, з душамі, кранамі, незлічонымі трубкамі, якія ззялі нікелем. Насупраць — другая, з шырокай белай тахтой.

У цэнтры — цудоўная мармуровая ванна, а хутчэй басейн, уладкаваны ў падлозе, у чатырох вуглах якога — чатыры мармуровыя статуі, якія адначасова выконвалі функцыю кранаў такім чынам, як служыць для гэтага славутая статуя ў Бруселі.

— Чорт пабяры! — вылаяўся Друцкі. — Вы на гэта павінны былі ўбухаць кучу грошай!

— І густу, — захіхікаў бландзінчык, — статуі Адоніса і Апалона работы Певеры, а Нептуна і гладыятара выйшлі з майстэрні ван Рэцка.

Яны прайшлі далей. Кватэрка сапраўды была абстаўлена раскошна, хоць насцярожвала ў ёй Друцкага дзіўная любоў гаспадара да мяккасці ліній і паўтонавасці фарбаў. Прасторная спальня з каласальным нізкім ложам была завешана каштоўнымі карцінамі эратычнага зместу, а хол пры ўваходзе ў яе быў выкананы ва ўсходнім стылі.

Службовы пакой агледзець не было магчымасці, таму што на тактоўнае пытанне гаспадара служка адказаў, што ён яшчэ ў ложку і нікога прыняць не можа.

У малой куханьцы стаялі важкія куфры, ужо запакаваныя.

— Я выязджаю ў Лісабон, — патлумачыў бландзін, — і вельмі хацеў бы, каб мая кватэра на гэты год знаходзілася ў руках цывілізаванага і культурнага чалавека.

— Што? Вы толькі на год з’язджаеце?

— Думаю, так, — прапанаваў гасцям крэслы бландзін. — Я працую ў дыпламатычнай службе, і мяне перавялі ў тамтэйшае пасольства.

Далей сталі агаворваць умовы. Малады чалавек відавочна не разбіраўся ў справе ці быў надта багаты, каб клапаціцца пра дадатковы даход ад найму кватэры, таму што выставіў адносна невысокую для такой раскошы суму: сто долараў за месяц. Для яго галоўным было пытанне захавання абстаноўкі і, прыгледзеўшыся да Друцкага, ён заявіў, што яму давярае.

Уладжваннем усіх фармальнасцей заняўся агент, таму што бландзін са служкам ад'язджаў заўтра ўвечары, Друцкі ж збіраўся засяліцца паслязаўтра ранкам. Заставалася яшчэ знайсці прыслугу. Паколькі бландзін адрэкамендаваў вартаўніка як цалкам прыстойнага чалавека, у якога вялікая сям'я, Друцкі паслаў па яго агента.

Вартаўнік паведаміў, што мае двух сыноў і дзве дачкі, і да паслуг шаноўнага пана заўсёды нехта будзе, і ён абавязкова будзе задаволены, таму што яны і так рабілі тут генеральную ўборку і ўсё тут ведаюць. Перад тым, як пан заселіцца, кватэру прывядуць у парадак, і ўсё будзе ззяць, «як лялька».

Лепшае Друцкаму цяжка было ўявіць, і ён быў цалкам задаволены. Ён яшчэ прысвяціў некалькі гадзін пакупцы неабходных дапаўненняў, як пасцель і падобнае, пасля чаго вярнуўся ў атэль, загадаў падаць рахунак і пераапрануўся.

«А, дарэчы, гэта забаўна, — падумаў Друцкі, — ужо колькі гадоў у мяне не было сваёй кватэры!»

## Раздзел 14

Аліцыя, ужо апранутая на выхад, аддавала Юзэфовай распараджэнні, калі ў кухню зазірнула таксама гатовая Юлька:

— Мы выходзім, Аля?..

— Зараз, — кіўнула ёй галавой Аліцыя і хутка скончыла інструктаж.

— Чаму гэта сёння такі шыкоўны абед? — спыталася Юлька, калі яны былі ўжо на лесвіцы.

— У нас сёння госць.

— Доктарчык, — выпаліла Юлька.

Аліцыя засмяялася:

— Не, не пан Чухноўскі. Мой стары знаёмы, пан Вінклер.

— Стары! — з ноткай расчаравання скрывілася Юлька. — Вельмі стары?

— Не вельмі.

— Але, напэўна, надта сур'ёзны і нудны, як флякі з алеем.

— О, не. Убачыш.

Аліцыя прамовіла гэта не раздумваючы і толькі зараз заўважыла, што ў яе словах гучаў нібыта гонар. Таму яна дадала:

— Вельмі прыемны чалавек.

Аліцыя праводзіла Юльку да школы і паехала на Мядовую.

У варотах яна сустрэлася са стажорам Мадронем, які няўклюдна ёй пакланіўся і, акінуўшы яе постаць захопленым позіркам, уздыхнуў.

Раптам Аліцыя адчула жаданне какетнічаць, неадольнае жаданне ўздзейнічаць на пачуцці Мадроня. Мадроня, Мартыновіча, Пяшкоўскага, кожнага мужчыны, кожнага без выключэння. Яна цяпер хацела адчуваць сябе жаданай, чароўнай, акружанай прагнымі позіркамі. Ёй гэта было патрэбна як выпрабаванне пачуццяў Друцкага, а можа, — думала яна, — таму, каб менавіта для яго стаць больш каштоўнай.

— Якая вы сёння цудоўная, — клыпаў ля яе Мадронь, спатыкаючыся на круглыя камяні двара. — Я яшчэ ніколі не бачыў вас такой…

— Прыгожай? — спыталася яна, раскрываючы вусны.

— О, не! — задрыжэў ён. — Гэта нельга называць так банальна! Што значыць прыгажосць у параўнанні з вамі! Калі б я мог знайсці словы, — усклікнуў ён, — якімі можна вас апісаць, я стаў бы аўтарам найлепшых… эратычных твораў, якія вядомы паэзіі свету!

Яны міналі цемнаваты ўваход, і Аліцыя затрымалася перад лесвіцай:

— Гэта значыць, — нахілілася яна да Мадроня, — што я ўздзейнічаю на вашы пачуцці?..

З-пад доўгіх веек яго агарнуў гарачы, як лава, позірк, напаўраскрытыя вусны, здавалася, прагнулі пацалункаў.

Малады чалавек захістаўся, паблядне́ў і схапіўся за парэнчы. Ён не здольны быў прамовіць ні слова і вылупленымі зрэнкамі глядзеў на яе, як яна лёгка паднімалася па лесвіцы.

Ідучы па доўгім калідоры, яна не абмінула ніводнага мужчыны, каб не выпрабаваць на ім сваю сілу.

Яна прагна лавіла іх погляды і шчодра раздавала свае. Яна адчувала плаўныя рухі сваіх сцёгнаў, уздрыгванне сваіх грудзей пад дотыкам гэтых вачэй, адчувала спружыністасць свайго цела, агорнутага пажадлівымі поглядамі мужчын.

Праз расчыненыя вокны плыло паветра вясны, вясны, якую яна сама выпраменьвала.

«Ах, — падумала Аліцыя, — можна так па-рознаму ўсё інтэрпрэтаваць: я самка падчас цечкі або Фрына[1], якая па волі багоў ахвяруе сваю прыгажосць вачам смертных, каб абудзіць у іх падсвядомую прагу дапоўніць сваё жыццё жыццём новым?.. Гэта, зрэшты, ці не тое самае?..»

Такое супастаўленне навяло яе на іншую думку:

«Забаўна: кожны раз, калі мы хочам выказаць нешта, што нам, людзям дваццатага стагоддзя, здаецца брыдотай і брудам, мы пазычаем параўнанні з антычнага свету, дзе гэта самае лічылася прыгажосцю, але ні за якія скарбы мы не асмельваемся сказаць уголас, што па сваёй сутнасці мы малыя, крывадушныя і смешныя з гэтым багажом маральнасці, складзенай не з патрабаванняў, а хутчэй з забарон, забарон, скіраваных супраць таго, што з'яўляецца нашай прыродай…»

— Добры дзень, пані, — затрымаў Аліцыю старшыня Турчыньскі, — можна мне даведацца, якія думкі, як тыя арлы, лунаюць пад скляпеннямі вашага лба?

— Не арлы, пан старшыня, — засмяялася яна, — звычайныя вераб'і.

— О-о-о!

— Звычайныя веснавыя шчабятлівыя вераб'і.

— Не веру, — сказаў ён з гэткай забаўнай павагай, а хутчэй з сур'ёзнай жартаўлівасцю, якая заўсёды гучала ў іх размовах.

— Хіба ж я не выглядаю па-веснавому? — гулліва нахіліла галаву Аліцыя.

— Вы лепей спытайцеся, ці выглядае вясна так, як вы. Тады я скажу: амаль! І гэта будзе кампліментам.

— Для мяне?

— Для вясны.

Аліцыя засмяялася і, перакінуўшыся яшчэ некалькімі фразамі з Турчыньскім, пайшла ў свой кабінет.

За працу яна ўзялася з запалам. Розум яе працаваў удвая спраўней, што здзіўляла яе саму. Бо ў апошні час яна адчувала сябе такой стомленай, знерваванай, такой знясіленай. Яна нават хацела папрасіць водпуск, каб паправіць здароўе… О, яна ведала, што здольная зрабіць найвялікшае намаганне. Не ведала толькі, што будзе яно столькі каштаваць, бо ці магла яна дапусціць, што будзе блізкая да непрытомнасці ў момант, калі яе план, абдуманы з жалезнай логікай, завісне на павуціне сумніўнай кемлівасці адваката. А калі гэты не зарыентуецца ў сітуацыі, калі не схопіцца за падсунуты яму сродак ратавання, калі не пажадае аддаць на аналіз так званы морфій?..

Тады яна перажыла страшную хвіліну чакання. Яна бачыла кожны рух мышцаў на твары абаронцы, бачыла нечаканую іскру ў яго вачах і ўрэшце размову з абвінавачаным, а пазней… ужо ўсё добра. Калі б не гэта, яна б засталася без сіл. Таму што яна не магла сама прапанаваць экспертызу. Гэта было б роўнае скіраванню падазрэнняў на сябе, раўнялася б аспрэчванню сумленнага захавання рэчавага доказу і двайному паражэнню.

---

[1] Фрына — знакамітая афінская гетэра, былая натуршчыца Праксіцеля і Апелеса.

Ах, з якім жа задавальненнем яна абняла б гэтага наіўнага адваката за яго міну пераможцы! І гэты прысуд: з падсуднага Яна Вінклера знята абвінавачванне, і ён вольны…

Ян Вінклер…

Аліцыя адклала пяро і прыжмурылася.

А калі б яна ведала, хто гэты абвінавачаны Ян Вінклер?! Калі б ведала, што гэты чалавек, які ў яе руках, — вінаваты ў яе ганьбе, крыўдзе, якая атруціла яе жыццё ядам нянавісці?.. Калі б у літарах, з якіх складаецца імя і прозвішча падсуднага Яна Вінклера, яна здолела прачытаць слова «помста», калі б азарэнне адкрыла ёй, што перад ёй стаіць Багдан Друцкі, дзякуючы якому яна ўпершыню спазнала фізічную асалоду і якому яна абавязана доўгім пеклам растаптанага жыцця, што перад ёю той, на месцы якога іншыя плацяць доўгімі гадамі пакут у цёмных камерах…

Калі б?!.

Не, яна не жадала пра гэта думаць. Зрабіла б нешта страшнае, незваротнае… Не… не… Яна ж ведала, што ён невінаваты!.. О… ці магло б гэта стрымаць удар, якім бы і сябе яна зноў забіла?..

— Не! Я не хачу шукаць у сабе адказы на гэтае пытанне!

Аліцыя пацерла кончыкамі пальцаў скроні і схілілася над актамі… «Анэля Куркоўска бачыла, як яе мачаха выходзіла з падвала каля адзінаццаці гадзін…» Так, гэта ясна, яна павінна была там на нейкі час схаваць гэта срэбра…

А калі б ён не прыйшоў?..

Відаць, не магло быць іначай, відаць, ёсць, аднак, нейкая вышэйшая сіла, якая гуляе з намі ў шахматы… Чаму яна не магла сцерці яго з памяці?.. Не таму ж, што да яго цягнуцца рукі ўсіх іншых самак, наадварот, якраз гэта яе адштурхоўвала ад яго… А з морфіем… у яе не было ніякіх сумненняў, што ў гульню замяшаная жанчына! Аднак… аднак Аліцыя жыць без яго не змагла б…

Калі тады, у змроку адкрыліся яе вочы, калі яна ўбачыла над сабой гэтыя самыя залацістыя зрэнкі… І за што ж яна павінна была яго ненавідзець? Таму што гэта не ён, а злачынныя каноны грамадскай маралі, якія пужаюць бязмернасцю крывадушнай дурноты, зруйнавалі яе жыццё… Не, частку яе жыцця — мінулае… Калі б не гэтыя каноны, калі б не гэтыя крукі параграфаў, якімі народ раніць сваё жывое цела, што б перашкодзіла, калі б ужо тады людзі засталіся сам-насам з сабой?

Ох, як жа яна ненавідзела грамадства! Як жа яна пагарджала гэтым бажком, якому служыла з ключамі ад вязніцы ў руцэ, гэтым балванам, вылепленым з экскрэментаў пакаленняў і са сліны, выплюнутай несмяротным крывадушшам традыцый!

Аліцыя стаяла ў першым шэрагу жрацоў, якія б'юць чалом перад гэтым бажаством, і першая кінула б у яго камень, калі б не ведала, што шчарбіна тут жа будзе ліквідавана руплівымі рукамі вернікаў, а святататніца загіне, закіданая камянямі.

Аліцыя Горн, кандыдат правазнаўства, падпракурор Акруговага Суда, ведала, што барацьба з балванам права, грамадскага парадку і грамадскай маралі, што змаганне з гэтым калосам бессэнсоўнае. Нават тады, калі пачвара будзе разбітая, як гліняны гаршчок, на дробныя чарапкі ўзбунтаванымі вернікамі, яны адразу ж кінуцца ляпіць другога, таксама пустога і напоўненага толькі іх жаласным нявольніцкім скавытаннем.

У тысячах рэвалюцый ад пачатку свету знішчаны тысячы ідалаў, каб ляпіць новых, усё больш грозных, злых, усё больш помслівых, якія ўсё мацней прыгнятаюць сваімі пачварнымі тушамі жыццё чалавека, усё больш засланяюць яму сонца і зоры…

У нейкім асуджальным вар'яцтве чалавецтва ўсё тужэй заціскае пятлю забарон на сваёй шыі, усё ніжэй б'е чалом Малоху, выдуманаму імі ж сабе на пакуты…

Так думала Аліцыя Горн, пільны вартавы культу, няўмольны інквізітар, які штодзень прыносіць вогненныя ахвяры ўсемагутнай Фікцыі, якой яна таемна помсціла, як і памяці мужа, фанатыка-вар'ята, які сам скончыў у пашчы Малоха…

Якім жа вялікім задавальненнем было зараз для яе адшуканне Багдана, якім жа трыумфам над ненавісным зверам!

Яна кіне яго ў вялікае вогнішча, у цудоўны касцёр, на якім будзе пераплаўляць ланцуг сваіх кайданаў у залатыя кроплі незлічоных дзён кахання…

Залатых, як яго зрэнкі…

Яна здабыла яго, і цяпер у яе ўяўленні не ўкладвалася, што магла існаваць такая вялікая сіла, якая здолела б вырваць яго з яе рук.

Ох, яна ведала, што і ён у іх знойдзе шчасце ў сто разоў большае, чым могуць яму даць любыя іншыя рукі на зямлі.

Аліцыя не задумвалася пра тое, як складзецца іх жыццё. Яна ведала яго сутнасць, а форма яе не цікавіла. Яна не сумнявалася, што і ў гэты момант, калі яна сядзіць тут над актамі, Багдан думае пра яе. Бох…

Аліцыя склала паперы, узяла дзве папкі і пайшла да Мартыновіча.

Стары пракурор, прагледзеўшы акт, спытаўся:

— А чаму гэта вы сёння такая вясёлая?

— З чаго вы ўзялі, што я вясёлая? — засмяялася Аліцыя.

— Ну, дык… хм, можа, я няўдала выразіўся: не вясёлая, а хм… чалавечая мова часта бяссільная, у ёй часам не знайсці многіх азначэнняў. Праўда?

— Цалкам з вамі згодная.

— А ведаеце, я добры дыягност, але дрэнны майстар вызначаць гэтыя розныя дробязі… Ва ўсякім выпадку, вы не станеце спрачацца, што ў вас сёння нейкі асаблівы настрой?

— Вы добры псіхолаг, — прызнала Аліцыя з усмешкай.

Мартыновіч зняў акуляры і пацёр рукі:

— Хе…хе…хе… Як бы гэта сказаць. А вы не будзеце злавацца?

— За што?

— От, за жарт.

— Ніколі ў жыцці.

— Ведаеце, я з Віленшчыны, а ў нас там такі настрой апісваюць, хм… толькі, калі вы пакрыўдзіцеся…

— Смялей, пан пракурор!

— Вы самі захацелі. Дык кажуць так: «Ідзе вясна, кахаць пара, а кахадла так далёка!»

Аліцыя рассмяялася, а Мартыновіч, задаволены сваёй дасціпнасцю, ляпнуў сябе па каленях.

— Я аднаго не разумею, — сказала Аліцыя, — чаму «кахадла» павінна быць далёка. Можа, яно якраз бліжэй, значна бліжэй, чым вы думаеце…

Яна пры гэтым спакуслівa зіркнула на яго і ледзь стрымалася, каб не рассмяяцца з раптоўнай засаромленасці гэтага паважанага мужчыны, які стаў спешна надзяваць акуляры і без патрэбы перакладваць паперы.

На развітанне Мартыновіч пацалаваў Аліцыі руку, чаго ён ніколі не рабіў.

Было яшчэ рана, аднак Аліцыя хацела сёе-тое купіць і таму пакінула працу. У тры яна была ўжо дома.

Шчабятаннем і смехам сустрэла яе Юлька.

— Што за баль Сарданапала[1]! — радасна ўсклікнула яна, распакоўваючы набыткі. — Гэты пан Вінклер такі гурман?

— Думаю, такі ж, як і твой Сарданапал, — весела адказала Аліцыя. — Ну, што там у школе?

---

[1] Сарданапал — персанаж старажытнагрэчаскай міфалогіі.

Далей была чарада справаздач, як заўсёды дэталёвых, пра заняткі, пра выкладчыкаў, пра сяброўак. Аліцыя з Юлькай разам накрывалі на стол.

— У нас так даўно нікога не было на абедзе. Я вельмі рада, — гаварыла Юлька, — а ты, Аля, сёння цудоўна выглядаеш! Цудоўна! Ты пераапранешся?

— А як жа. Надзень і ты сваю крэмавую сукенку.

Юльцы перадаўся настрой Аліцыі. Яна адчувала, што гэты госць — болей, чым проста знаёмы, і ёй было настолькі цікава, што яна аж заружавелася.

Усё было гатова без дзесяці чатыры, і Юлька пастаянна выглядвала ў акно. Аліцыя вельмі хацела зрабіць тое самае, але стрымалася.

Як толькі прабіў гадзіннік, загучаў кароткі званок у вітальні.

— Дакладнасць — рыса каралёў, — ухваліла Юлька.

Аліцыя выйшла ў вітальню і ў прысутнасці Юзэфовай толькі падала Друцкаму руку. Ён моўчкі пацалаваў яе далонь, але погляд, якім ён акінуў Аліцыю, утрымліваў столькі захаплення, што па ёй пракацілася гарачая хваля.

Яна хутка адступіла ў сталовую:

— Будзьце ласкавыя… Вы дазволіце — мая кузіна Юлька, пан Вінклер.

— Я не ведала, што вы манарх, — выпаліла Юлька, але, убачыўшы, што госць не разумее яе прэтэнзій да Аліцыі, дадала: — Ну, таму што я была прадстаўлена вам, а толькі манархам прадстаўляюць жанчын.

Друцкі паглядзеў на яе з усмешкай.

— Ці добра так адразу ставіць ні ў чым не вінаватага чалавека ў няёмкую сітуацыю?

— Дарагая, ты недаацэньваеш перавагі сваёй маладосці, — засмяялася Аліцыя, радуючыся запалу Юлькі.

— І сівізну маіх валасоў, — зрабіў паважную міну Друцкі.

Юлька акінула вокам на яго сівеючыя скроні, сустрэла ўсмешлівы позірк і крыху збянтэжылася:

— Ну, на патрыярха вы не падобны.

— Сядайма за стол, — перарвала Аліцыя. — Звані, Юлька.

— Выдатна, бо я страшэнна галодны.

— І я таксама, — дадала Аліцыя.

— Сядайце ж, — звярнулася Юлька да Друцкага.

— Я не магу, прабачце. Толькі манархі дазваляюць сабе заняць месца раней за дам.

Юлька засмяялася і села.

Друцкі пачаў гаварыць пра этыкет і ўвогуле аб правілах паводзін, прынятых у розных экзатычных краінах. З гумарам ён расказваў пра сенсацыю, якую ён выклікаў некалі ў Нікарагуа, цалуючы даме руку. Гэта мода была адразу ж там перанята і набыла агульнае прызнанне.

Друцкі гаварыў свабодна і весела, дасціпна адказваючы на рэдкія пытанні, якія падкідвала Аліцыя.

Юлька прыглядалася да яго з усё большай цікавасцю. Ён не быў прыгожы, не быў нават надта сімпатычны, але меў у сабе штосьці дзіўна прыцягальнае. Юлька не ведала, чаму, але менавіта так яна ўяўляла сабе Алена Жэрбо[1]. Яго нізкі, глыбокі голас валодаў нейкай магіяй. Юлька паглядзела на Аліцыю — о! Ёй пэўна таксама падабаецца гэты пан Вінклер. Яму давялося шмат падарожнічаць…

Відавочна, іх думкі супадалі, таму што Аліцыя сказала:

— Дык вы аб'ехалі ўвесь свет!

— Ну, не ўвесь, — засмяяўся Друцкі, — я, напрыклад, ніколі не быў у Турцыі, у Сібіры, а Швецыю і Нарвегію ведаю толькі з партоў.

— Ах, дык вы марак! — усклікнула Юлька.

---

[1] Ален Жэрбо (1893—1941) — французскі лётчык і тэнісіст, які спрабаваў самастойна на яхце перасекчы Атлантыку.

— Так, у асноўным марак.

— Ах, — уздыхнула Юлька, — калі б я была мужчынам, то пэўна стала б мараком. Я проста абажаю мора!

— Гэта, — жартам пачала каментаваць Аліцыя, — самая ідэальная любоў.

— Чаму? — спытаўся Друцкі.

— Ды таму, што я ніколі не бачыла мора. Але ў гэтым годзе мы паедзем з Аляй на Хель і будзем рабіць далёкія прагулкі ў адкрытае мора. Шкада, што вас з намі не будзе.

— О, гэтага я яшчэ не гаварыў, — запярэчыў Друцкі, магчыма, і я выберуся на Хель.

Пасля абеду Юлька заявіла, што яна ідзе да сяброўкі рабіць дамашняе заданне.

— Пойдзем у мой пакой, — прапанавала Аліцыя.

Юзэфова прынесла каву і, бразгаючы посудам, пачала прыбіраць са стала.

Калі яны засталіся адны, Друцкі абняў Аліцыю і прыцягнуў яе да сябе.

— Не, не, — стрымала яна яго, — Юлька прыйдзе развітацца…

Аліцыя дакранулася вуснамі да яго губ і дадала:

— Скажы мне цяпер, калі ласка, што Бох рабіў сёння зранку?

— Усё па плане.

— Што за планы?

— Я да гэтага часу жыў у атэлі. Цяпер адшукаў добрую і ціхую кватэру на праспекце Шуха. Заўтра раніцай засяляюся. Пабачыш, мая Аль, што я не дарэмна хвалюся.

— О, я ўбачу? — нібыта здзівілася Аліцыя.

Друцкі збянтэжыўся:

— Дык… дык толькі для гэтага я яе і зняў.

Аліцыя засмяялася і хацела нешта сказаць, але якраз увайшла Юлька.

— Да пабачэння вам, — зрабіла яна какетлівы рэверанс. — Аля, будзь ласкавая, калі патэлефануе Янка, скажы ёй, што я ў Зоські. Добра?

— Добра, дарагая, толькі вярніся да дзевяці.

— Вярнуся. Да пабачэння!

Праз некалькі хвілін выйшла і Юзэфова.

Яны засталіся адны.

У цішыні пасляабедзеннага часу і блізкага змяркання, калі вусны дваіх так блізка, яны ўмеюць забыцца пра існаванне слоў і адшукаць значна больш важкія, вельмі красамоўныя сродкі выражэння.

Гадзіннік у сталовай адбіваў восьмую, калі яны рассталіся.

Аліцыя сапраўды пачала сваё жыццё наноў.

## Раздзел 15

Прафесар Караль Бруніцкі паклаў трубку і сказаў:

— Будзе тут праз некалькі хвілін.

Доктар Кунокі буркнуў нешта ў адказ, не адрываючы вачэй ад кнігі, якую чытаў.

— Тэмпература ў сёмым пакоі знізілася?

— Трыццаць восем і шэсць.

— Вось як. Такое адчуванне, што ўкол быў занадта моцны.

Доктар Кунокі адклаў кнігу і з усмешкай паглядзеў на Бруніцкага.

— Вы сёння нервуецеся, сказаў ён спагадліва.

— Магчыма.

— Вы вельмі любіце пана Вінклера?

Прафесар не адказаў, і японец дадаў:

— Не дзіўна. У гэтым чалавеку ёсць прывабная жыццёвая сіла.

— Вы памыляецеся, доктар, я яго не люблю. Мне… не патрэбна яго жыццёвая энергія. Зрэшты, гэта вельмі складана.

Кунокі тактоўна змоўк. Але Бруніцкі праз хвіліну сам пачаў:

— Павінен ужо быць.

— Вы думаеце, — змяніў плынь размовы Кунокі, — адразу праз некалькі дзён пасля яго працэсу рызыкоўна даверыць яму гэтую справу? За ім могуць сачыць.

— Сумняваюся, — пацiснуў плячыма Бруніцкі, — зрэшты, ён сам вырашашыць.

Доктар выглянуў у акно якраз у момант, калі да варот пад'ехала таксі. З машыны выйшаў Друцкі.

Праз хвіліну ён быў ужо ў холе і, моцна трасучы руку прафесара, смяяўся:

— Бачыш, Караль, ніякія мяне чэрці не бяруць! Вітаю доктара! Як там вашыя… трусікі?

— Усё ў парадку.

— А гэтая малышка, за якую я буду высланы ў пекла?

— Можаце быць за яе спакойныя. Яна палюбіла раманы пра чарнаскурых.

— Чаму, чорт пабяры, пра чарнаскурых? — здзівіўся Друцкі.

Кунокі пытальна зірнуў на Бруніцкага і прадоўжыў за яго:

— Калі мы не памыляемся, яна хоча нарадзіць маленькае негрыцянятка альбо ў найгоршым выпадку мулата.

— Дык гэты яе кавалер не быў чарнаскурым?!

— Зразумела, і тым лепей. Мы робім першы эксперымент па пігментацыі. Таму гарантый не даём. Дакладна толькі, што будзе сын, мяркуючы па ўсім, здаровы і незвычайна моцны, які вырасце вельмі высокім і будзе вызначацца музычным талентам.

Друцкі з падазрэннем глядзеў на іх:

— Доктар, вы з мяне кпіце? — звярнуўся ён да прафесара.

— Не, — запярэчыў Бруніцкі, — доктар — аптыміст.

— Але якім чынам? На якой падставе можна гэта прадказаць?

— О, гэта не мае нічога агульнага з прароцтвамі, — усміхнуўся японец. — Проста справа ў дасягненні жаданага эфекту праз адпаведнае ўздзеянне на арганізм і псіхіку маці…

Прафесар перарваў:

— Давайце не будзем. Я не люблю гаварыць пра пачатыя даследаванні.

— Боязь няўдачы.

— Не.

— Боязь несур'ёзных адносін пабочных…

— Прафана? — падказаў Друцкі.

— Прафана ці спецыяліста, усё роўна. Павер, што з Калумба, які адплываў на Захад з мэтай адшукаць найбліжэйшую дарогу на Усход, смяяліся таксама як прафаны, так і прафесійныя маракі. А доктар Кунокі так стаміўся ад маёй кампаніі, што забываецца пра легендарную японскую стрыманасць.

— Я атрымаў гэта ў спадчыну ад маці, — засмяяўся Кунокі і паглядзеў на гадзіннік. — Ужо, відаць, час зняць бандажы?

— Відаць, — пацвердзіў прафесар, кінуўшы вокам на ўласны гадзіннік, — толькі не забывайце пра масаж.

— Вы гэтую маю небарачку так мучыце?

— Не, — запярэчыў японец, — у вашай выдатна развітая шчытападобная залоза ў пярэдняй частцы, а тут якраз…

— Вось балбатун! — з пагрозай усклікнуў Бруніцкі, і доктар, камічна развёўшы рукамі, выйшаў, не скончыўшы фразы.

— Ну?.. — спытаўся Друцкі пасля хвіліны маўчання.

— Я тэлефанаваў табе па дзвюх прычынах, — пачаў прафесар, — па-першае, хацеў цябе павіншаваць з удалым заканчэннем працэсу.

— Інакш і быць не магло, бо я не вінаваты.

— Калі гаворка пра морфій, то так.

— А ў чым яшчэ справа?

Прафесар барабаніў пальцамі аб падлакотнікі крэсла і ўважліва прыглядаўся да Друцкага.

— Справа, — працадзіў ён, — у дэфларацыі, учыненай Багданам Друцкім у дачыненні да пансіянеркі Марыі Аліцыі Жэраньскай.

Друцкі зачырванеўся. Ён падумаў, што ўжо Бруніцкі ведаць не можа! Тут ён пацісnуў плячыма:

— Караль, дарагі, мяне ніхто не мог пазнаць, з таго часу мінула столькі гадоў.

— Канечне, — не спускаў з яго вачэй Бруніцкі, — ніхто. Ніхто, за выключэннем Марыі Аліцыі з Жэраньскіх, цяпер пракурора Аліцыі Горн.

Ён быў упэўнены ў каласальным эфекце і не расчараваўся. Друцкі пабляднеў. Адкуль, якім шляхам прафесар мог да гэтага дайсці? Якую выгаду ён захоча ад гэтага мець? Друцкі ўпіўся поглядам у нерухомыя вочы Бруніцкага.

Усталявалася маўчанне.

## Раздзел 16

Друцкі ў думках узважваў цяжкасць сітуацыі. Калі прафесар Бруніцкі якім бы тое ні было чынам захоча капнуць мінулае, трэба найперш перасцерагчы Аліцыю, ну і дзейнічаць…

— Дык ты яе не пазнаў? — ціха засмяяўся прафесар. — Блаславі свой лёс, што і яна цябе не пазнала. Кажу табе: пракурор Аліцыя Горн, твая абвінаваўца, — тая самая дзяўчына, з-за якой ты зламаў сабе жыццё і кар’еру.

— Неверагодна! Як ты да гэтага прыйшоў?

— Гэта няважна. Збег акалічнасцей. Я цябе нават хацеў папярэдзіць перад працэсам, але не стаў гэтага рабіць, баючыся за твой нервовы стан. Думаю, ты быў бы не такі спакойны падчас разбору, калі б ведаў, хто цябе абвінавачвае.

— Дапусцім, — прамармытаў Друцкі і падумаў, што раз Бруніцкі ўсё ведаў раней і не перасцерагаў яго, то ў яго была нейкая мэта.

— Дзіўна, праўда? — пытаўся прафесар.

— Вельмі дзіўна. Нечувана дзіўна, ну… але зараз ужо ўсё роўна… Паколькі яна не пазнала мяне на судзе… Напэўна, я больш ніколі ў жыцці яе не ўбачу.

— Значыць, яна больш не прыходзіць у «Аргенціну»?

— Не. Даўно.

— У любым выпадку, Багдане, асцерагайся яе.

Друцкі скрывіўся:

— А цябе так хвалюе мая бяспека?

— Хвалюе, і гэта ўжо іншая справа.

— Я слухаю.

— Тыдзень таму адна з маіх пацыентак…

— Альбо адзін з тваіх трусікаў?

— Не, пацыентка з псіхіятрычнай клінікі была выпісана. Гэта тып псіхастэнічкі, які па пэўнай прычыне мяне вельмі цікавіць.

— І што? — панура спытаўся Друцкі. — Я павінен даставіць яе на тваю бойню?

— Пачакай. Дык вось, гэта маладая і вельмі прыстойная жанчына. Па прафесіі оперная спявачка, якая цяпер у поўнай нястачы па той простай прычыне, што… анямела.

— Як гэта, анямела?

— Анямела. Псіхічнае расстройства на сексуальнай глебе. Паслухай, што я скажу, гэта будзе важна пры выбары тактыкі.

— Можа, прымусіш мяне яе лячыць? — здзівіўся Друцкі.

— Пра гэта я хацеў цябе папрасіць, — няпэўна ўсміхнуўся прафесар.

— Ну дык я слухаю.

— Карацей, гэта ўвогуле інтэлігентная дзяўчына. Скончыла гімназію, кансерваторыю і вучылася на юрыдычным. Была даволі паспяховай спявачкай, што дазваляла ёй забяспечваць сябе, яе старых бацькоў, якія жывуць недзе ў Сухачаве ці ў Пултуску, я ўжо не памятаю. Як я ўжо казаў, яна анямела. Адбылося гэта месяц таму, калі яна даведалася, што цяжарная…

— Ага!

— Не «ага». Пацвярджэнне цяжарнасці яе вельмі парадавала.

— А яна не замужам?

— Так. Яна была ўпэўнена, што паведамленне пра гэты стан яе каханаму ашчасліваць яго і схіліць да жаніцьбы. Падкрэсліваю, што гэта экзальтаваная асоба, відаць, таму яна пераацэньвала высакароднасць партнёра.

— А той змыўся? — здагадаўся Друцкі.

— Так. І даволі брутальна. Гэты нечаканы ўдар так узрушыў маю пацыентку, што яна замкнулася ў сваім пакоі і тры дні не ела і ні з кім не гаварыла — гэта від чорнай меланхоліі. Калі прыехалі бацькі, выкліканыя знаёмымі, яна была ўжо нямая…

— Можа, у дадатак і глухая?

— Не. Параліч галасавых звязак, а хутчэй — на маю думку — часовае паражэнне нерва, які адказвае за складкі, што называюцца *plicae ventriculares*[1]… але гэта ўжо табе не цікава. Дык вось, урач, якога выклікалі да гэтай дзяўчыны, накіраваў яе ў псіхіятрычную клініку. Пасля кароткага, але дэталёвага агляду, я прыйшоў да высновы, што гэта вылечны выпадак і…

— І ты хочаш даверыць пацыентку мне.

— Табе.

— Як я яе павінен апякаць?

— Вельмі проста. Гаворка пра тое, каб ты праводзіў з ёй па некалькі, няхай, па дзве гадзіны на дзень. Каб стараўся быць з ёю прыемным, сардэчным, далікатным…

— Прыгожая гісторыя!

— Каб пастараўся забяспечыць ёй шмат забаў. Напрыклад, можаш яе браць у тэатр, на прагулкі, у сваю «Аргенціну». Карацей, я б вельмі хацеў, каб у яе з'явілася адчуванне, што ты ставішся да яе вельмі прыязна, добразычліва і па-сяброўску. Усе звязаныя з гэтым выдаткі пакрыеш, зразумела, з сумы, якую я табе выдзяляю.

Друцкі моўчкі закурыў.

— Ты згодны? — нецярпліва спытаўся Бруніцкі.

— Але чаму ты з гэтым звяртаешся да мяне? Няўжо ты не можаш даверыць гэта каму-небудзь са сваіх асістэнтаў, слухачоў, каму-небудзь?

— Не магу. Мне важна, каб гэта быў менавіта ты.

— Чорт! — вылаяўся Друцкі. Яму зараз няёмка было займацца нейкай бабай, да таго ж, нямой.

Друцкі ўстаў, пачаў хадзіць па пакоі і раз'юшана штурхнуў тоўстага ката, які трапіў яму пад ногі.

Кот пранізліва мяўкнуў, а Друцкі ўскрыкнуў:

— Даруй, Караль, але гэта патрабаванне не адносіцца да прынятых мной абавязкаў. Гэта не мае нічога агульнага са справай… са справай твайго… бацькоўства.

---

[1] Plicae ventriculares *(лац.)* — вентрыкулярныя складкі, якія адносяцца да жалудачка (сэрца, галаўнога мозга).

Прафесар падціснуў вусны, а Друцкі дадаў:

— Ты не можаш ад мяне гэтага патрабаваць. Я ў тваім распараджэнні ва ўсім, што можа пераканаць цябе, што светлай памяці пані Ванда была табе вернай жонкай. Я разумею тут твае пакуты і, як мімавольны іх віноўнік, гатовы да любых ахвяр. Але я не збіраюся дзеля тваіх фантазій станавіцца медсястрой ці гувернанткай…

— Пачакай, Багдане, — ціха перарваў Бруніцкі. — Мая просьба не фантазія, яна непасрэдна звязана са справай, пра якую ты гаворыш. Пачакай…

Прафесар адкрыў стол і дастаў адтуль фатаграфію.

— Вось, Багдане, а ну прыгледзься да здымка жанчыны, якую я хачу даверыць табе пад апеку.

Друцкі заўважыў, што рука прафесара дрыжала.

Хвіліну Друцкі спакойна прыглядаўся да жанчыны, але раптам пабляднеў, а бровы яго падняліся ад здзіўлення. Ён паглядзеў на прафесара:

— Караль?!.

— Ты бачыш, — выдыхнуў Бруніцкі і зноў закусіў вусны.

— Яна… яна ж так падобная на Ванду! — гаварыў Друцкі, углядаючыся ў фатаграфію. — Неверагодна! Гэта амаль яе партрэт!

— Не зусім, — працадзіў прафесар, — але ў любым выпадку падабенства незвычайнае. Больш за тое, у яе падобны тэмперамент, захапленні, блізкі характар.

— Слухай, Караль, а яна часам не якая-небудзь…

— Сваячка памерлай? Не. Яна з ёю нават не пароднена праз самых далёкіх сваякоў. Я ўважліва гэта вывучыў. Разумееш, я сам быў шакіраваны гэтым падабенствам. Калі яе даставілі ў клініку, у мяне быў сардэчны прыступ…

Друцкі не мог адарваць вачэй ад фатаграфіі.

— Не дзіўна. Колькі ёй гадоў?

— Дваццаць шэсць.

— Такім чынам…

— Проста збег абставін.

— І яна цяжарная?

— Так. Заканчваецца другі месяц.

Друцкі паклаў фота, працёр скроні і плюхнуўся ў крэсла:

— Цяпер разумею, — уздыхнуў ён.

Бруніцкі сутаргава схапіў яго за руку:

— Разумееш? Разумееш?..

— Так. Разумею, што ты патрабуеш ад мяне подласці.

— Чаму подласці? Ты ж выцягнеш гэтую няшчасную з яе калецтва, выцягнеш яе з роспачы! Сам падумай!

— Ты хочаш, — цэдзячы словы, сказаў Друцкі, — каб я пастараўся… закахаць яе ў сябе, каб, не кахаючы яе, я разыгрываў перад ёй камедыю…

— Зусім не! Не трэба камедый! Ты спачувай і сімпатызуй ёй настолькі, колькі гэта беднае стварэнне заслугоўвае.

— Беднае стварэнне, — горка засмяяўся Друцкі, — і ты хочаш гэтаму беднаму стварэнню даць новае расчараванне. Ты хочаш для гэтага беднага стварэння новай трагедыі…

— Памыляешся.

— Ну дык якога ліха, — узарваўся Друцкі, — ты, часам, не спадзяешся, што я з ёю ажанюся?!

— Не. Я спадзяюся толькі, што яна, адшукаўшы ў табе суцяшальніка, забудзецца пра таго, а што найважней, верне голас, які яе корміць.

Друцкі моўчкі курыў.

— Я ўпэўнены, — працягваў прафесар, — што нерв адновіцца.

— Чаму ж яна анямела, а не аслепла або аглухла?

— Яна спявачка. Уся яе ўвага, свядома ці падсвядома, заўсёды канцэнтравалася на галасавых звязках.

— Як жа я з ёю пазнаёмлюся?

— Вельмі проста. Зайдзі заўтра да гадзіны дня ў клініку. Я прыму яе ў тваёй прысутнасці.

— І ты мяне прадставіш урачом?

— Не, сваім сябрам. Думаю, што лепш за ўсё будзе для вашага збліжэння, калі ты прапануеш нам, гэта значыць, ёй і мне, праехацца на машыне.

— Мая машына на дзве асобы, — заўважыў Друцкі.

— Возьмем маю. Па дарозе вы высадзіце мяне на Дэмбовай, а самі паедзеце далей. Астатняе даручаю табе.

— А калі яна ўвогуле не захоча са мной знацца?

— О, гэта нават можна прадбачыць, улічваючы яе псіхічны стан. Я, са свайго боку, парэкамендую ёй тваю кампанію, ды і, думаю, ты як спрытны… спакушальнік дасі сабе рады. Такім чынам… Дамовіліся?

— Дамовіліся, — апусціў галаву Друцкі.

Прафесар пацiснуў яго руку і спешна дадаў:

— Але доктару Кунокі пра гэта ні слова!

— Добра.

Бруніцкі замкнуў фатаграфію ў стале, пачаставаў госця папяросай і сказаў:

— Вось што яшчэ я хацеў у цябе спытаць: ты не баішся, што за табой сочаць?

— О, гэта выключана. Дзеля чаго?

— Тады мог бы ты заняцца дастаўкай нам новай пацыенткі?

— Чорт, а не занадта для мяне! — вылаяўся Друцкі.

— Як мне гэта разумець? Ты адмаўляешся?

— Не адмаўляюся, ліха яго бяры, толькі табе не здаецца, што я вымушаны адразу закінуць усе свае ўласныя справы?!

Бруніцкі пакачаўся ў крэсле:

— Ну канечне, я не настойваю, каб ты з гэтым спяшаўся, хоць доктар Кунокі тэрмінова патрабуе новай пацыенткі, таму што гаворка ідзе пра вельмі важную праверку пэўнага эксперымента. Я сказаў таксама, што ты б мог гэтым заняцца. Можа ж так здарыцца, што ты заўважыш патрэбны аб’ект.

— Ну, можа, — неахвотна буркнуў Друцкі, давячы недакурак у попельніцы.

— Справа яшчэ ў тым… Такім чынам, доктар, — звярнуўся прафесар да ўваходзячага японца, — пан Вінклер бярэцца знайсці нам маладую бландзінку.

— Раз вы такі ласкавы, — дадаў доктар, — я б хацеў, каб яна не была худая.

Друцкі суха засмяяўся:

— Можаце яе адкарміць, тысяча чарцей!

Друцкага хацелі затрымаць на абед, але ён быў настолькі сыты па горла абодвума, што падзякаваў і адмовіўся.

Зрэшты, толькі сёння ён перасяліўся на праспект Шуха і хацеў непасрэдна заняцца ўладкаваннем кватэры, таму што ў сем павінен быў першы раз прыняць у сябе Аліцыю.

Акрамя таго, трэба было хоць на чвэрць гадзіны зазірнуць да Залкіндаў, з якімі з дня пасяджэння ў судзе ён зусім не бачыўся.

Друцкі паехаў на Наваліп’е.

Любы не было дома. Яго сустрэў Барыс з кампрэсам на галаве.

— Зноў да мяне вярнуліся гэтыя невыносныя мігрэні, капітане, — наракаў ён, — мяне хочуць выслаць на нейкі французскі курорт, але ж я нават марыць пра гэта не магу, бо каму б я даверыў свае справы? Сёння роднаму брату нельга давяраць.

— Не трэба перабольшваць, Джэк, у цябе ёсць свае дырэктары, адвакаты…

— Зразумела… Ёсць адзін чалавек, якому я цалкам давяраю, але…

— Але я таксама з’язджаю на лета, — уратаваўся Друцкі.

— Канечне, — уздыхнуў Залкінд. — Зрэшты, я б і так не асмеліўся вас прасіць пасля гэтага морфіевага жарту. Але… Ведаеце, Люба, відаць, мела рацыю, што там была замяшаная жанчына.

— Так, была.

— Дык вы ўжо ведаеце?

— Ведаю.

Залкінд засвісцеў:

— Бабы да дабра не давядуць, — рэзюмаваў ён сентэнцыяй.

— Вы і Любу маеце на ўвазе? — пажартаваў Друцкі.

— Ні ў якім разе, — жахнуўся Залкінд. — Люба — анёл. Як яна будзе шкадаваць, што яе не было дома ў гэты час, але, можа, зараз падыдзе…

Ён выглянуў у акно.

— На жаль, — Друцкі ўстаў. — Мне трэба ісці. У мяне цяпер шмат важных спраў і часу ні секунды.

— Работа, капітане? — зацікавіўся Залкінд.

— Дзе там… Так, крыху… асабістыя гісторыі. Пакуль. Кланяйся пані Любе. Калі будзе вольная хвілінка, зазірну зноў. Ага… Я пераехаў. На праспект Шуха.

— Навошта?

— Хопіць з мяне атэльнага жыцця. Можа, старэю, Джэк, а?

— Ну-ну! — недаверліва буркнуў гаспадар, замыкаючы за ім дзверы.

Па дарозе Друцкі зайшоў у магазін кветак і загадаў прыслаць шмат руж і гваздзікоў. Забег у найбліжэйшы бар на лёгкі перакус і паехаў дадому.

«Дадому, — засмяяўся ён, — я, відаць, да канца жыцця не буду ведаць, што значыць слова «дом», уласны дом, сапраўдны дом».

Аднак ён хацеў, каб яго кватэра нагадвала Аліцыі дом.

Дзверы ён заспеў адчыненымі, а ў кватэры знаходзілася ўся сям’я вартавога, якая заканчвала ўборку. Два здаровыя хлопцы расцягвалі дыван і ставілі на яго нізкую мяккую мэблю. Іх маці, высокая, мажная баба ў спадніцы, закасанай вышэй за калені, шаравала ванны пакой, нахіліўшыся так, што яе шырокі, як у кабылы, зад хістаўся ўправа і ўлева, у такт з рухамі шчоткі, на магутных мускулістых нагах.

— Ну, як там, маці! — прыязна паклікаў Друцкі сярод шуму вады, якая цякла з душа.

Жанчына падняла на яго зачырванелы твар і выпрасталася. Друцкі акінуў поглядам яе купалападобныя грудзі, моцнае тулава, магутныя сцёгны і спіну, разважаючы: «Маці, менавіта так і павінна выглядаць маці. Што за непараўнальны экзэмпляр! Калі б людзі ладзілі для сябе такія выставы, як робяць для пародзістых жывёл, яна б атрымала залаты медаль, хоць ёй павінна быць ужо за сорак».

Баба выцерла лоб мокрай рукой, і яе пухлыя шчочкі расплыліся ва ўсмешцы, паказваючы моцныя шырокія зубы.

— Ну, праз паўгадзіны будзе *fertik*[1], яснавяльможны пан.

— Не трэба, маці, гэтага «яснага панства», — запратэставаў Друцкі. — Я не ліхтар, каб свяціцца.

— Ну зразумела! — засмяялася яна. — Але такі звычай.

І, не звяртаючы на яго больш увагі, зноў узялася за работу.

Друцкі ўвайшоў у залу, дапамог хлопцам перасунуць дзве цяжкія тахты і, абтросшы рукі, зазірнуў у спальню. Тут усё ўжо было скончана, толькі перад акном стаяла складаная лесвічка, а на ёй сядзела стройная брунетка, старэйшая дачка вартаўніка.

— Дзень добры паненцы. Ай-ай, як вы прыгожа ўлажылі гэтыя фіранкі!

---

[1] Fertik (*ням.*) — скончана.

Дзяўчына трымала ў вуснах іголку з ніткай і, паколькі абедзве яе рукі былі занятыя, яна толькі кіўнула галавой і сарамліва засмяялася.

Ён бачыў яе ўжо два разы і ведаў, што яна касірка ў бакалейнай краме на рагу.

— Што ж гэта, — запытаўся Друцкі, — вы сёння не пайшлі на працу?

Дзяўчына выняла іголку і сказала:

— Я адпрасілася, шаноўны пан. Тут столькі працы! Я павінна была дапамагчы.

Друцкі заўважыў, што сёння яна апранулася прыгажэй, у гранатавую сукенку з белым каўнерыкам. Сукенка была караткаватая і, стоячы ніжэй, ён бачыў яе зграбныя, хоць і вельмі худыя, лыткі, абцягнутыя — відавочна, дзеля сустрэчы з ім — шаўковымі панчохамі са стрэлкамі.

— Я ўжо тут скончыла, — сказала яна, правяраючы сваю справу. — Я павінна яшчэ паправіць на другім акне.

Дзяўчына хацела злезці з лесвічкі, але ён яе затрымаў.

— Пачакайце, я вас перанясу!

Не паспела яна запярэчыць, Друцкі ўвайшоў пад лесвіцу і пад акампанемент крыху пужлівых «ой-ёй!» перанёс яе да другога акна.

— А вы, аднак, моцны! — усклікнула яна з нейкім неспакойным здзіўленнем.

Друцкі весела засмяяўся і спытаўся:

— А дзе сястрычка?

— Зоська? Прыбірае ў кухні, шаноўны пан.

— Ну, і як вам падабаецца мая кватэра? А, прабачце, бо я ўсё яшчэ не ведаю, як вас завуць?

— Францішка.

— Панна Франя?

— Не, Франка… А кватэра сапраўды вельмі прыгожая… толькі…

— Толькі што?

— Ну, гэтыя… Навошта гэтыя непрыстойнасці… Аж сорамна глядзець.

— Гэта не мае, — апраўдваўся Друцкі, — гэта ж таго пана, які тут жыў.

— Э-э-э… — паціснула плячыма дзяўчына, — той, дзякуй богу, з’ехаў.

— Панна Францішка яго не любіла?

— Паскудства, — сказала яна пасля хвіліны вагання, сыходзячы на падлогу. — Томэк! Забяры лесвіцу! — крыкнула яна брату. — Гэта ўсё, шаноўны пан.

— Не, панна Франка, зараз сюды прынясуць кветкі, а я ў гэтым не разбіраюся. Можа, вы як-небудзь парасстаўляеце іх па вазах, добра?

— Я таксама ў гэтым не разбіраюся, — састроіла яна сціплую мінку, — але калі вы гэтага жадаеце, я паспрабую.

— Жадаю, — усміхнуўся ёй Друцкі і вельмі захацеў пагладзіць дзяўчыну па галаве, але стрымала яго пытанне «навошта?». Пытанне, якое да гэтай пары ён ніколі сабе не задаваў у падобных сітуацыях, аднак магчымасць якога цяпер яго здзівіла і занепакоіла.

Як гэта «навошта?», ну, мілая і сімпатычная дзяўчына, гэтага хіба не дастаткова?.. Заўсёды было дастаткова.

Друцкі хадзіў па пакоях, перастаўляючы то адно, то другое, раскладваючы сувеніры і ацэньваючы ўсё ўвогуле.

«Ну, так, — думаў ён, — усё зводзіцца да таго ж. Які д’ябал загадаў бы мне раней займацца гэтай лухтой!»

Якраз прынеслі кветкі, і Друцкі прыглядаўся да далікатных рук Франкі, якія вымалі іх з каробак. Друцкі ўспомніў, што ён яшчэ не бачыў кухню, ну… і гэтую малую, Зоську.

Кухня ззяла чысцінёй, а Зоська — ёмкая, здаровая дзяўчына, босая і ў закасанай паркалёвай спадніцы — завіхалася ля паліц з посудам.

Яна была падобная да маці як дзве кроплі вады. Ёй не споўнілася яшчэ і шаснаццаці, а яна ўжо была не па гадах развітая. У яе рухах, у поглядзе карых, амаль круглых вачэй і малых мясістых вуснах, у свабодзе ўсмешкі, у лініі кожнага жэсту была гэта самая плоднасць, жыццёвая сіла і багацце жыцця.

Гэта нельга было назваць какетлівасцю, нават гуллівасцю, аднак жа з моманту, калі ён увайшоў сюды і калі яна яго павітала смелым кіўком галавы і простым «добры дзень», ён адчуў нібыта магнетычны ток, якім яна яго ўдарыла.

Друцкі цалкам усведамляў, што гэта падсвядомае, і вырашыў падчас бліжэйшай сустрэчы з доктарам Кунокі спытацца, чым можна патлумачыць існаванне гэтых флюідаў. Гэта незалежны ад нас парыў замкнутай у чалавеку сілы прыроды, якая пастаянна прагне прадаўжэння жыцця, ці толькі самаўнушэнне закончанага бабніка?

— У момант будзе гатова, — вышчарыла дзяўчына на Друцкага роўныя белыя зубы і, агледзеўшыся, узялася ўбокі. — Аж блішчыць!

— Сапраўды, — згадзіўся Друцкі. — Панна Зоська, відаць, добра папрацавала.

— Ну дык для сябе і не шкада.

— Як гэта, для сябе? — не зразумеў ён.

— Дык матуля казала, што я буду вам гатаваць, як што спатрэбіцца. Што нібы я павінна асвоіцца, — захіхікала дзяўчына, — з уласнай гаспадаркай.

Раптам яна спалохана паглядзела на Друцкага.

— Хіба, хіба, можа, вы не хочаце?..

— З чаго б, — запярэчыў ён, — чаму б гэта мне не хацець?

— А я ведаю?.. Можа, у вас будзе служка.

— Вось гэта не. Не будзе ў мяне ніякага служкі, і я рады, што панна Зося будзе мне гатаваць.

— Рады ці не, не заракайцеся, бо, можа, якраз не спадабаецца.

Зоська рассмяялася і пачала паласкаць анучы над злівам.

— Маё шанаванне пану, — пачуў Друцкі за сабой голас вартаўніка.

— А, як вашы справы?

— Дзякуй вяльможнаму пану. Я прыйшоў паглядзець, ці навялі тут мае парадак.

— Дык я вам дзякую, — падаў яму руку Друцкі, — кватэра выглядае як лялька. Ужо ж на сваю сям'ю вы не павінны скардзіцца.

— Нібыта? — падрапаў ён сябе па цемені. — Ну, так, яны спраўныя, я не скарджуся.

Вартаўнік сказаў гэта з наколькі было магчыма абыякавай мінай, але было відаць, што пахвала вельмі парадавала яго, нават узрушыла, бо кашлянуў ён амаль панура.

Друцкі ўзгадаў тое, што некалі, яшчэ маладым хлопцам, ён пачуў ад дзядзькі: «Польскія мужчыны і англійскія джэнтльмены маюць адну агульную рысу: і адны, і другія лічаць выказванне сваіх пачуццяў найвялікшай непрыстойнасцю».

Праз пятнаццаць хвілін Друцкі застаўся адзін. Ён стаяў ля акна і чакаў, пакуль не ўбачыў Аліцыю, якая ішла плаўным, пругкім крокам.

Вітаючыся, яна падала яму абедзве рукі і сказала:

— Гэта так банальна, што я прыходжу да цябе, і ўсё ж, як любая жанчына, якая прыходзіць па абдымкі да мужчыны, я хачу ў гэтым бачыць нешта незвычайнае… Скажы, гэта не смешна?

— Гэта цудоўна, — сказаў Друцкі, моцна прытуляючы Аліцыю.

Яна падумала: заўсёды тое, што акцёры лічаць прыгожым, у глядзельнай зале, аднак, успрымаецца як наіўнае і банальнае, але, нягледзячы на гэта, яно менш важнае за факт валодання ім, адчування непарыўнай моцы яго рук, прагнасці яго пацалункаў…

— Паглядзі, Аль, як табе падабаецца мая пячора, — Друцкі пацягнуў госцю наперад.

— Столькі кветак! — усміхнулася яна.

— Для цябе, Аль.

Аліцыя стала і ўперылася ў яго вочы.

— Ты ўвесь для мяне… Толькі для мяне… — сказала яна ціха.

— Для цябе, — прызнаў ён з усмешкай.

— Для мяне і ні для каго больш…

Яе пальцы ахапілі твар Друцкага захопніцкім рухам.

— Ні для каго больш, — запэўніў ён.

— Я ведаю, — пачала Аліцыя пасля паўзы, — што ты не разумееш, якое гэта вялікае шчасце… Нічога больш я не прагну… Хачу толькі верыць, што ты мой, што… ніколі мяне не пакінеш. Ніколі! Скажы, ці не зашмат я жадаю ад жыцця?

— Замала, — сур'ёзна прамовіў Друцкі. — Ты магла б, мая Аль, пажадаць яшчэ келіх добрага віна і, калі б гэта зрабіла, я як упаўнаважаны жыцця адкаркаваў бы бутэльку і…

Аліцыя закрыла яму вусны пацалункам.

Ёй падабалася «пячора», хоць яна заявіла, што жыллё не ў стылі Друцкага.

— Ты б па-іншаму ўладкаваў сваю кватэру.

— А ці ўвогуле ўладкаваў бы? — засмяяўся Друцкі. — Можа, гэта ўплыў качавога ладу жыцця, а можа, проста мая прырода, але я не адчуваю патрэбы ў кватэры ці пэўным месцы жыхарства.

— Дзіўна, што мы так мала ведаем адно пра аднаго. Амаль нічога, а між тым… добра знаёмыя. Праўда?

— Відаць, можна кагосьці ведаць без вялікай колькасці звестак пра яго.

— Не, мне не патрэбна біяграфія, важныя дэталі настрою, погляды, звычкі. Дык вось, гледзячы на цябе ці думаючы пра цябе, я ўяўляю цябе цалкам, поўны вобраз, і калі задумваюся пра якую-небудзь частку, ведаю, што яна павінна быць такая і не можа быць іншая…

— Дэдукцыя?

— Не зусім. Хутчэй інтуіцыя.

— І што ж яна табе падказвае?

— Як і раней, не шкадуе для цябе кампліментаў.

Абое засмяяліся.

Аліцыя хацела вярнуцца дадому ў дзесяць, але так атрымалася, што яны не звярнулі ўвагі на гадзіннік. Набліжалася поўнач, калі Друцкі адвёз яе на машыне і паехаў у «Аргенціну».

— У кабінеце пана дырэктара чакае адна жанчына! — далажыў яму парцье.

— Якая жанчына?

— З выгляду яўрэйка, але ўвогуле — вышэйшы клас!

«Гэта Люба!» — падумаў Друцкі.

Ён не памыліўся. Зразумела, яна сядзела за сталом і ад няма чаго рабіць назірала за спінай нахіленай над машынкай Тэці.

— Ну, нарэшце, — устала яна, убачыўшы Друцкага. — Я думала, што ўжо не дачакаюся капітана.

— Што здарылася?

— Нічога не здарылася. Добра ж вы мяне прымаеце! Калі я прыходжу, трэба радавацца і скакаць ад задавальнення.

— Ужо скачу, — засмяяўся Друцкі. — Што, Люба, табе хочацца «шалець»?

— Так. Я захопліваю капітана на ўвесь вечар. Я павінна натанцавацца і напіцца.

— Добра! Будзем шалець, — сыпаў Друцкі гумарам, хоць на самай справе ён быў незадаволены.

Ён папрасіў у Любы прабачэння, уладзіў некалькі спраў, выбраў столік ля сцэны і праводзіў яе туды.

Люба сапраўды хацела «вытанцавацца» і не прапускала ніводнага танца, так, што Друцкі ўрэшце пачаў прасіць аб памілаванні:

— Я ўжо ледзь ногі перасоўваю! Люба, злітуйся над замучаным старэнькім!

— О? А што ж гэта капітана так замучыла? — спыталася яна з падазрэннем.

— Сёння я ўладкоўваў сваю кватэру. Я ўжо ледзь дыхаю.

Люба шмат піла і, калі Друцкі адвёз яе ў чатыры гадзіны на Наваліп’е, яна была на добрым падпітку.

На шчасце, яму не трэба было ставіць машыну ў гараж, таму што ў яго быў дазвол пакідаць аўто ў двары дома, у якім ён цяпер жыў.

Вартаўніку, які яму адчыніў браму, Друцкі даручыў разбудзіць яго ў адзінаццаць і лёг спаць.

Ён быў добра-такі зморany, таму спаў мёртвым сном, і толькі яркае святло сонца яго разбудзіла.

Друцкі расплюшчыў вочы і ўбачыў Зоську, якая раскрывала шторы на вокнах.

— Ну вы і спіцё! — весела ўсклікнула яна.

— Добры дзень, малышка, як ты сюды ўвайшла? — здзівіўся ён.

— Дык вы ж пакінулі дзверы адчыненымі. Калі б якія злодзеі хацелі, то маглі б вас вынесці з ложкам.

— А колькі ўжо?

— Адзінаццаць. Вам чаго: гарбаты ці кавы?

— Зрабі, малышка, што хочаш, абы хутка, бо ў дванаццаць я павінен — ф’юіць!

— Ф’юіць?

— Ну, быць у горадзе.

— А… А што падаць да гарбаты?

— Што табе падабаецца, а зараз дуй адсюль, бо я вылажу з ложка.

Пакуль ён выкупаўся і апрануўся, Зоська ў зале паставіла посуд і падала гарбату, булкі, масла, вяндліну.

— А сыру я не купіла, бо не ведаю, ці любіце вы яго.

— Люблю, я ўсё люблю, — заявіў Друцкі, беручыся за ежу, — са мной у цябе не будзе клопатаў.

— А абедаць вы дома не будзеце?

— Не буду.

— Шкада… Вас кожны дзень будзіць у адзінаццаць?

— Кожны дзень.

— Лепш за ўсё, калі вы мне пакінеце ключ. У вас жа два.

— Добра, малая, вось табе ключ і рабі, што хочаш, абы толькі мяне не чапала.

Дзяўчына засмяялася:

— Вы любіце, каб вамі так кіравалі?

Друцкі паглядзеў на яе з усмешкай:

— А ты гэта любіш?

— Адкуль я ведаю? Пабачу. Дык калі вы пойдзеце, я тут прыбяру, правятру… А калі вы вернецеся?

— Яшчэ не ведаю.

— Але не хутка?

— Не хутка.

Друцкі ўзяў капялюш і хацеў выйсці, але Зоська яго затрымала:

— А як будзе з грашыма, шаноўны пан?

— Не хочаш мяне мець на ўтрыманні, — пажартаваў ён, — ну, тады бяры на выдаткі.

Бруніцкага ён заспеў яшчэ аднаго:

— Я не спазніўся?

— Не. Якраз. Яна павінна тут быць з хвіліны на хвіліну.

— Як яе завуць?

— Панна Лэнска. Уршуля Лэнска. Ты мог пра яе чуць, яна вядомая спявачка, дакладней, была ёй.

— Колькі жыву, не быў ні на водным канцэрце.

У дзвярах стаяў дворнік:

— Прыйшла панна Лэнска, вы яе прымеце, пан прафесар?

— А, калі ласка, калі ласка, — усклікнуў Бруніцкі і сам выбег ёй насустрач.

Панна Лэнска, худая, невысокая шатэнка з празрыстымі зялёнымі вачыма і светлай матавай скурай, была сапраўды неверагодна падобная да памерлай жонкі Бруніцкага. Гэта ўражанне падмацоўвалі яе рухі і манера трымаць галаву. Друцкі не мог не заўважыць, што яе прысутнасць і на прафесара моцна ўздзейнічала. Ён быў сам не свой і нейкі ненатуральна рухавы.

— Вы дазволіце, я прадстаўлю майго добрага сябра, пана Вінклера.

Жанчына падала яму руку, абцягнутую чорнай пальчаткай, і безгалоса паварушыла вуснамі.

Бруніцкі падсунуў ёй крэсла і не пераставаў гаварыць:

— Я тут расказваў сябру пра гэты рэдкі выпадак часовага паражэння нерва пад уплывам псіхічнага перажывання. Пан Вінклер мяне яшчэ раз пераканаў, што гэта пройдзе. А менавіта, ён узгадаў, што падчас свайго жыцця ў Чыкага ён пазнаёміўся з адным інжынерам-гарняком, у якога было нешта падобнае, што адбылося з-за навіны пра выбух у шахце, дырэктарам якой ён з'яўляўся. Ён таксама страціў голас, але — паколькі быў паслухмяным пацыентам, — усміхнуўся Бруніцкі, — ён выконваў парады дактароў, ну, і праз тры тыдні да яго вярнуўся голас. А ведаеце, якое яму прызначылі лячэнне?

Панна Лэнска адмоўна паматала галавой.

— Абсалютна прыемнае, шаноўная пані, — працягваў прафесар. — Яму якраз прапісалі як мага больш весяліцца. Прагулкі, гульні, танцы, вясёлая кампанія… Усё мінула бясследна, без найменшага следу.

Пацыентка слаба ўсміхнулася і, дастаўшы з сумачкі нататнік і аловак, напісала:

«Вельмі прыгожая казачка».

— Ну, слухай, скажы пані, што гэта не казачка.

— Паверце мне, — няўпэўнена сказаў Друцкі.

«У вашага сябра няма таленту “дыдактычнага падману”», — напісала жанчына.

Бруніцкі рассмяяўся і падаў нататнік Друцкаму. Гэты ж састроіў вельмі заклапочаную міну і прамовіў:

— Што ж мы можам зрабіць з вашай праніклівасцю? Здаёмся… Хм… але, спадзяюся, гэта не падрывае вашай веры ў паспяховасць рэцэпта прафесара? Я свята веру, што ён у гэтых рэчах не памыляецца.

Жанчына кіўнула галавой і напісала:

«Я веру ў рэцэпт, але не веру, што мне гэта дапаможа».

— Чаму?

«Таму што я не ўмею весяліцца», — напісала яна пасля хвіліны вагання.

— Глупства, шаноўная пані, — абурыўся прафесар. — Будзеце весяліцца як міленькая. Гэта ўжо прашу пакінуць нам…

Яна здзіўлена паглядзела на абодвух.

— Я кажу нам, — патлумачыў прафесар, — таму што баюся, што такі зануда, як я, не здолее нікога развесяліць. Таму я папрасіў пана Вінклера, каб ён мне дапамог. Вы, хіба, будзеце за гэта на мяне крыўдаваць?

Жанчына з усмешкай паціснула плячыма.

— Вы мне павінны паабяцаць толькі адно: добрую волю і выкананне маіх указанняў. Згода?

Яна пацвердзіла кіўком галавы.

— Ну, тады я спакойны. У сувязі з гэтым мы сёння пакінем даследаванні і вы адвезяце мяне дадому.

Пацыентка згадзілася.

Яны занялі месцы ў лімузіне Бруніцкага, і прафесар гаварыў бесперапынку. Ён расказваў пра апошнія навуковыя падзеі, пра новыя метады лячэння псіхастэніі, пра перавагі актыўнага жыцця:

— Сённяшняя навука абвергла традыцыйныя навуковыя погляды, калі сцвярджалася, што найлепшыя лекі — гэта цішыня, спакой і пазбяганне моцных узрушэнняў. Цалкам наадварот. Для псіхічнага здароўя неабходна як мага больш уражанняў і, наколькі магчыма, разнастайных. Страх, гнеў, весялосць — лепшыя, чым сузіранне. Трэба шмат працаваць і шмат адпачываць.

— *Medice, cura te ipsum*[1], — засмяяўся Друцкі. — Вы ведаеце, пані, што прафесар сам не прытрымліваецца сваіх рэкамендацый…

— Бясспрэчна, я дакладна прытрымліваюся.

— Ну, ты шмат працуеш, але цябе немагчыма ўгаварыць павесяліцца.

— Няпраўда. Я адпачываю. Толькі мой адпачынак іншага роду. Мне, запэўніваю вас, мае дарагія, значна больш эмоцый прыносіць мікраскоп, чым іншым танцы… Але прызнаюся, што я павінен усё ж цікавіцца і танцамі. Калі я не магу сабе гэтага дазволіць, гэта даказвае маю… няздольнасць. І паглядзіце, наколькі відавочныя вынікі гэтага. Мы з Вінклерам аднагодкі, аднак я выглядаю, мякка скажам, на яго дзядзечку! Праўда?

Жанчына прыгледзелася да абодвух і запярэчыла рухам галавы.

— Не? Але ў любым выпадку я з ім адчуваю сябе засушанай моллю побач са скакуном. А чаму? Таму што ён працуе, як вол, і весяліцца, як малады козлік, а я гэтага не ўмею. Таму з яго жыццё аж плешча, а я капчу сабе, як старая свечка.

Пацыентка зноў запярэчыла і напісала:

«Я зусім так не думаю. Вы проста належыце да розных тыпаў, і ўсё».

— Так, — няшчыра засмяяўся прафесар, — толькі да такіх тыпаў, як ён, належыць жыццё. Няхай пані сама памяркуе. Калі б, напрыклад, вам прапанавалі выбраць аднаго з нас — толькі папрашу не саромецца — каго б вы абралі? Ну? Шчыра!

Жанчына акінула іх сумным позіркам і са слабай усмешкай указала на прафесара.

Друцкі не стрымаў смех:

— Бачыш? Ты сябе недаацэньваеш!

— Э… Вы з мяне жартуеце, — Бруніцкі раптам пабляднеў і змоўк.

Аўтамабіль спыніўся перад яго вілай. Выходзячы, прафесар выціснуў пару вясёлых фраз на развітанне і папрасіў Друцкага, каб ён не саромеўся і карыстаўся машынай столькі, колькі будзе патрэбна.

Яны вярнуліся праз горад, потым пераехалі цераз мост на Вісле і Грохуў[2].

Друцкі апусціў шыбы і сказаў:

— Я не люблю закрытых аўтамабіляў. Чалавек пазбаўляецца найвялікшага задавальнення ад язды: паветраны паток, ты нібыта перастаеш адчуваць хуткасць. Праўда, шаноўная пані?

Жанчына кіўнула галавой.

— Некалі ў мяне быў сябар, думаю, яго прозвішча ў вас на слыху. Гэта Мак Вулд. Нейкі час ён лічыўся «самым хуткім чалавекам Злучаных Штатаў». Дык вось, я некалькі разоў меў прыемную магчымасць ездзіць з ім падчас

---

[1] Medice, cura te ipsum *(лац.)* — вылечы самога сябе.

[2] Грохуў — частка Варшавы, размешчаная на правым беразе Віслы.

трэніроўкі на спецыяльным гоначным цмоку, які разганяўся да чатырохсот кіламетраў за гадзіну. Я не памятаю, каб калі-небудзь перажываў такія ж незвычайныя эмоцыі.

«Страх таксама?» — напісала на лістку жанчына.

— Не. А хутчэй, так, толькі не страх за жыццё, а страх за свае пачуцці. Пры такой хуткасці зрок і слых перастаюць дзейнічаць, аднак пры гэтым з'яўляецца пачуццё правальвання ў глыбіню. Гэта не надта прыемна, асабліва калі пасля пяці хвілін такой язды чалавек на паўгадзіны становіцца паўпрытомным. У мяне цяпер нядрэнная спартыўная машынка, з якой можна выціснуць сто — сто дваццаць кіламетраў за гадзіну. Калі вы хочаце, мы можам хоць заўтра апрабаваць. За Рашынам[1] ёсць паўтара дзясятка кіламетраў цудоўнай шашы.

Пані Уршуля напісала, што добра, але зараз яна хоча вярнуцца дадому: вул. Мядовая, 18.

— Мне здаецца, — сказаў Друцкі, развітваючыся з ёй перад варотамі, — што Караль вельмі пераацаніў прыемнасць маёй кампаніі.

Жанчына ўсміхнулася і запярэчыла рухам галавы.

— У колькі вы дазволіце заўтра заехаць за вамі?

Яна пагадзілася на дванаццаць.

Друцкі адразу ж адаслаў аўто. Ён сёння зноў абедаў у Аліцыі, але перад тым павінен быў зайсці ў «Аргенціну», праверыць рахункі і падпісаць паперы, што ўчора яму перашкодзіла зрабіць Люба.

Пунктуальна ў чатыры ён ужо быў на Тапалёвай.

Яго прыняла Юлька, заяўляючы, што Аліцыя просіць прабачэння за спазненне, але яна яшчэ не можа пакінуць суд.

— Прыгаворвае адначасова дваіх, — засмяялася дзяўчына, — кагосьці там да турмы, а вас да маёй кампаніі.

— О, гэта, відаць, самы мяккі прыгавор, які калі-небудзь быў вынесены.

— Вы б маглі падабраць і больш прыемны камплімент, — весела заўважыла Юлька.

— А навошта вам кампліменты, — нібыта здзівіўся Друцкі, — ніводнае ж люстэрка не адмовіць вам у самых хвалебных.

— Я не гляджу ў люстэркі, — сказала дзяўчына з яўным намерам гэта зрабіць, — тут усе люстэркі адбіваюць такую прыгожую істоту, што я проста не адважылася б.

Юлька скосу прыглядалася да Друцкага ў жаданні праверыць, якое ўражанне на яго зробяць гэтыя словы. Яна не сумнявалася, што ён павінен быў кахаць Аліцыю, а Аліцыя, зразумела, яго. Без сумненняў, бо як жа яна магла б застацца абыякавай да такога чалавека.

Яны размаўлялі каля пятнаццаці хвілін пра розныя рэчы, звязаныя з планамі на лета, калі ўрэшце вярнулася Аліцыя.

— Якое шчасце, што ты ўжо прыйшла! — павітала яе Юлька.

— А што здарылася?

— Нічога. Я баялася толькі, што ўсыплю пана Вінклера сваімі размовамі.

— Я падобны на соннага?! — запратэставаў Друцкі. — Самі памяркуйце?

— Вы выглядаеце стомленым, — вынесла прысуд Аліцыя.

— Менавіта! — узрадавалася Юлька.

— Як гэта менавіта?

— Ну, вам каштавала столькі намаганняў змаганне са сном, што вы аж стаміліся.

— Прабачце мне. Пачакайце яшчэ хвілінку. Я пераапрануся, — сказала Аліцыя, знікаючы ў сваім пакоі.

[1] Рашын — вёска ў Польшчы ў Мазавецкім ваяводстве.

— Не, панна Юлька. Я працаваў да пяці раніцы, вельмі мала спаў. Вось прычына.

— А што вы рабілі да пяці раніцы? — здзівілася дзяўчына.

— Пільнаваў сваё прадпрыемства.

— Ноччу?

— Маё прадпрыемства адчынена менавіта ў гэтую пару сутак.

Бачачы, што ёй цяжка сфармуляваць пытанне, Друцкі сказаў:

— Я ўладальнік клуба «Аргенціна».

— А… а… ргенціна!

— Здаецца, я вас напужаў.

— О, не, не, — запярэчыла Юлька. — Толькі…

— Толькі што?

— Я столькі пра гэту «Аргенціну» чула, гэта вельмі, вельмі цікава. Нарэшце я даведаюся праўду. Бо ў нас, шаноўны пан, у школе расказваюць самае рознае…

— Напрыклад?

— О, я не скажу!

— Дык як я змагу абвергнуць?

— Можа, калі-небудзь, як я буду вас лепей ведаць. Цяпер скажыце мне, што там на самай справе робіцца?..

— Нічога нязвыклага. Людзі танцуюць, п'юць, забаўляюцца…

— Забаўляюцца? — стрымала Юлька Друцкага.

— Натуральна. Каго гэта забаўляе, той забаўляецца.

Юлька пакруціла галоўкай.

— Але ці ёсць там нешта неналежнае?

— Належнае? О, гэта як для каго.

— Ну, напрыклад, для маладых дзяўчат?

— Так, — засмяяўся Друцкі. — Для маладых дзяўчат, такіх, як панна Юлька, там усё неналежнае.

— Менавіта, але чаму?

— Таму што маладыя паненкі павінны займацца…

— Папярэджваю, — перарвала Юлька, — калі вы зараз заведзяце пра дыплом і школу, я пакрыўджуся на вас на ўсё жыццё.

Друцкі рассмяяўся:

— Я ўвогуле не меў намеру, адкуль такое падазрэнне?

— Ну, бо ўсе заўсёды…

— Я ніколі не раблю таго, што ўсе і заўсёды, — жартаўліва сказаў ён.

Яна, аднак, успрыняла гэта ўсур'ёз і задумліва пацвердзіла:

— Так… Гэта праўда… Вы не такі. Тады скажыце, чым павінны займацца, на вашу думку, маладыя паненкі?

— Я думаю, сваёй маладосцю. Клуб — гэта карысна для разладжаных і вытрапаных нерваў, якія шукаюць штучнага хвалявання. А маладосць? О, у маладосці яшчэ багата рэчаў для пазнавання, трэба зрабіць столькі адкрыццяў, столькі сапраўдных радасцей і стымулаў…

Друцкі пацёр лоб і зрабіў шырокі, няпэўны жэст рукой.

— Вы так прыгожа гэта сказалі.

— Я не ўмею прыгожа гаварыць. Таму я кажу тое, што адчуваю.

— А…

— Што адчуваю, гэта, можа, нават не тое, што… думаю.

Друцкі зараз падаваўся яшчэ больш незвычайным, яшчэ больш цікавым.

— А вы, — спыталася Юлька. — Вас забаўляе «клуб»?

— Мяне? — задумаўся госць. — Мяне ўсё забаўляе… Можа, клуб менш за астатняе, але гэта таму, што пастаянна… што пастаянна ў маёй галаве зялёна… Скажу вам па сакрэце, што калі б я пераканаўся, што перастала быць зялёна, то не ведаў бы, навошта я жыву… Я так расфіласофстваваўся, відаць,

для таго, каб даказаць вам, што розум не з'яўляецца разам з сівымі валасамі, мая малышка.

Юлька глядзела на яго залатыя з усмешкай вочы, на сівеючыя скроні і смуглыя шчокі. Як ён да яе звярнуўся: мая малышка… Цудоўна сказаў…

І раптам ёй прыйшло ў галаву, што яна ні ад каго б не пацярпела такой паблажлівай бесцырымоннасці. Не павінна гэтага цярпець, таму што яна амаль дарослая.

«Калі-небудзь я яму скажу», — вырашыла яна.

Увайшла Аліцыя, і падалі абед.

## Раздзел 17

Міналі дні і тыдні.

Жыццё Аліцыі Горн увайшло ў сваю каляіну, глыбокую, трывалую і спакойную, адшукала свой поўны сэнс і найвышэйшую вартасць, у моц якой яна верыла без агаворак, так, як верыла ў моц і незнішчальнасць пачуцця, якое злучала іх дваіх.

— Наша каханне, — гаварыла яна Друцкаму, — гэта тое для нашага існавання, што дух для цела. Яно напаўняе існаванне зместам, надае яму апраўданне і мэту. Гэта самамэта.

— Я так не думаю, — адказваў Друцкі, — я заўсёды думаў, што каханне — гэта толькі сродак, дарога, якая вядзе да мэты.

Аліцыя ж абараняла свой пункт погляду, а яе спраўны розум не падводзіў у падборы аргументаў і ўменні аперыраваць імі.

Друцкі саступаў. Увогуле ён не любіў такія размовы. У абстрактнай сферы ён адчуваў сябе проста непатрэбным, лішнім, заблуканым. Зрэшты, дастаткова было фактаў: яны кахаюць адно аднаго, ці ж гэтага мала?

Аднак Аліцыі было мала. Яна хацела перажываць гэтае каханне цалкам, здабыць з яго не толькі эмацыянальныя скарбы, не толькі найпрыгажэйшую вясёлку і ўсю гаму асалоды, але і звышвартасці, якія дае інтэлектуальнае вывучэнне яго валакно за валакном, дэталёвы, ды такі захапляльны аналіз найдрабнейшых праяў, найменш даступных сувязей, прычын і вынікаў.

— Ты ставішся да кахання, мая Аль, — смяяўся Друцкі, — як гурман да рыбы. Я ўпэўнены, што ад яго застануцца адны косці.

— А ты яго глытаеш сырым? — падыгрывала яму Аліцыя.

Яны настолькі жылі сённяшнім днём, што іх размовы амаль ніколі не краналі мінулага. Зрэдку пры розных абставінах Друцкі згадваў пра тыя ці іншыя здарэнні падчас сваёй вандроўкі па свеце. Аднак Аліцыя, бачачы, як загараюцца яго вочы, як шмат цяпла тады набывае яго голас, не любіла гэтых момантаў і крыху баялася гэтай адзінай сваёй саперніцы, якую спазнала і адчула ў тузе Друцкага па бясконцых дарогах качэўніка.

Яна абажала ў ім гэты ўвабраны ягоны свет, але жадала трымаць скарбонку зачыненай.

Пра будучыню яны таксама не гаварылі. Толькі раз Друцкі пачаў:

— Ведаеш, Аль, мы робім не зусім разумна.

— Чаму?

— Таму што абое вольныя. Мы б маглі, замест таго каб хавацца са сваім каханнем, пабрацца і ўсё.

— Не, Бох, не, — паматала яна галавой.

— Здаецца ж, няма ніякіх перашкод?

— Так, Бох. Вельмі міла з твайго боку, што ты просіш маёй рукі, але, на жаль, я вымушана табе адмовіць.

Друцкі спахмурнеў і, адвярнуўшы галаву, сказаў:

— Разумею.

— Нічога ты не разумееш, — засмяялася Аліцыя.

— Ты не можаш стаць жонкай чалавека, які перад законам… злачынец.

— О!.. Бох! Як ты можаш мяне так крыўдзіць?!

— Я толькі канстатую факты.

— Ты мяне вельмі зачапіў гэтым падазрэннем.

— Мне шкада. Даруй, і не будзем больш пра гэта.

— Бох!

— Не будзем. Усё зразумела.

— Наадварот. Я павінна табе патлумачыць…

— Аль, — перарваў Друцкі, — я цябе запэўніваю, што не крыўджуся на цябе. Я зрабіў гэтую прапанову не падумаўшы, але зараз бачу яе поўную недарэчнасць. Пракурорка становіцца жонкай злачынца… Ха… ха…

— Бох, — схапіла Аліцыя яго за руку, — калі ты так ставіш пытанне, добра. Запэўніваю цябе, што ты памыляешся, што ты мяне крыўдзіш, недаацэньваеш майго кахання. Я сёння ж пераязджаю да цябе і застаюся. Гары яно ўсё гарам! Плёткі, закон, скандал. Гэтага табе даволі, каб даказаць, што твае падазрэнні няслушныя?

Друцкі ўстаў і пачаў хадзіць па пакоі.

— У такім выпадку табе прыйдзецца адрачыся ад сваёй справы, — сказаў Друцкі.

— Я выдатна ўсё разумею. Калі не адракуся сама, то мяне выкінуць.

— Ты не раз гаварыла, што любіш і цэніш сваю працу, — заўважыў Друцкі.

— Так, гэта праўда. Але я кахаю цябе, і калі такой цаной я магу табе прынесці хоць самую маленькую радасць, гэта цана для мяне — нішто.

— Паслухай, Аль, — стаў ён перад ёй, — я не хачу ад цябе ніякіх ахвяр і ніякіх прысвячэнняў. Не хачу я іх. Скажы мне толькі, чаму ў такім выпадку ты не пагаджаешся стаць маёй жонкай?

— А навошта? — паглядзела яна яму ў вочы. — Навошта? Ты што, за сваё жыццё пранікся павагай і прызнаннем да інстытуту шлюбу?

— Ну… Гэта залежыць ад асоб, якія ўваходзяць у ігру…

— Не! — усклікнула Аліцыя. — Сто разоў не! Я паклялася сабе, што ніколі ніякай цаной я не здамся гэтаму найдурнейшаму, найагіднейшаму, найбрыдчэйшаму інстытуту, выдуманаму рабскай людской мараллю. Я б пагарджала сабой, калі б свядома і дабравольна выраклася свайго чалавечага імя, калі б сябе і цябе хацела звязаць самымі недарэчнымі з абавязкаў толькі таму, што мільёны іншых пакорліва сунуць свае пустыя галовы ў ярмо для таго, каб зненавідзець адно аднаго праз некалькі гадоў або гібець, задыхаючыся ад прымусу. І навошта нам гэта? Навошта? Ты ведаеш так жа добра, як і я, што наша каханне не згасне, а калі б і згасла, няма такой сілы, якая б здолела ўтрымаць нас разам. Дык я пытаюся, для чаго? Чаму мы не можам застацца вольнымі людзьмі? Навошта свядома лезці ў пятлю, навошта, каб на сцяне вісела пуга, як пастаянная перасцярога і напамін, што мы нявольнікі? Я зусім не разумею, як табе, істоце вольнай, нібы птушка, прыйшла ў галаву гэта дзікая думка?! Ты разумееш цяпер, чаму?

— Я не разумею, чаму ты пракурор, — сказаў Друцкі пасля моманту вагання.

— О, — іранічна засмяялася Аліцыя, — бо як пракурор я маю найвялікшыя магчымасці кантраляваць, каб быдла берагло ярмо, калі яго пажадала. Таму што ў маіх руках гэтая пуга, пад якую яны падставілі свае нявольніцкія спіны. Бо я магу даць ім як найвыразней адчуць іх тупое глупства.

— Ты страшная, Аль, — сумным голасам сказаў Друцкі.

Яна засмяялася.

— О, Бох! Цябе ж я кахаю, кахаю да шаленства, і калі… Я казала, што ні за што не пайду замуж. Гэта няпраўда. Калі б ты вельмі хацеў гэтага, калі б гэта

была цана твайго кахання, тады, нават пагарджаючы сваёй слабасцю, я павінна была б згадзіцца, Бох!

— Добра. Не гаворым больш пра гэта, Аль.

І сапраўды, яны больш не вярталіся да тэмы жаніцьбы. Зрэшты, Друцкі добра сябе адчуваў у любой сітуацыі, якую лічыў непазбежнай.

Іх асабістае жыццё запаўняла гадзіны, вольныя ад працы Аліцыі ў судзе і Друцкага ў «Аргенціне». Абедалі яны звычайна разам з Юлькай. Вечар праводзілі ў яго кватэры, пасля чаго расставаліся да заўтрашняга пасляпаўдня. Часам яны хадзілі ў кіно або тэатр, беручы з сабой Юльку.

Аліцыя не расказвала яму пра свае заняткі, звязаныя з работай, і не выпытвала Друцкага пра яго справы. Яна абсалютна яму давярала, ды і залішняя цікаўнасць не была для яе характэрна. Такім чынам, яны жылі толькі тым, што было для іх агульнае, і абодвух гэта цалкам задавальняла.

Друцкі не здраджваў Аліцыі. Не таму, што яму перасталі падабацца іншыя жанчыны, а таму, што ў Аліцыі ён знайшоў каханку, якая цалкам задавальняла ўсе яго фантазіі і ўсе жаданні. Яна была ўсё тая ж, аднак заўсёды розная, і таксама, як штодзень ён адкрываў новыя вабноты яе цела, ён нястомна адшукваў нечаканыя ўласцівасці гэтай такой цэльнай і адначасова складанай натуры. Яму здавалася, што з кожным днём ён усё больш жаданы і сам больш жадае.

Пацвярджэннем гэтага былі шалёныя гадзіны іх пяшчот, крывавых, бурных, напаўпрытомных, калі ў полымі аргазму два целы пераплаўляліся, як два металы, у адно, калі яны застывалі магутным сплавам бронзы і мармуру…

Друцкі не здраджваў Аліцыі.

На сумныя погляды Тэці ён адказваў крыху збянтэжанай усмешкай, з Любай ён бачыўся вельмі рэдка, таму што на лета яна пераехала ў Канстанцін[1], і ў Варшаву заязджала толькі раз на тыдзень. Тоня дарэмна яго штурмавала, а шматлікія прапановы жанчын, якія наведвалі «Аргенціну», ён пакідаў без увагі.

Абяцанне, якое Друцкі даў Бруніцкаму, ён сумленна трымаў. Штодзень ён бачыўся з паннай Лэнскай, катаў яе па гарадскіх ваколіцах, забіраў у «Аргенціну», стараўся зрабіць усё, каб яна забылася аб перажытай трагедыі. Ён яе вельмі палюбіў і бачыў, што сам выклікаў у яе сімпатыю. У гэтай сімпатыі, аднак, на сваю радасць, ён не мог разгледзець тых пачуццяў і жаданняў, якія так часта абуджаў у жанчынах. Наадварот, ён заўважыў, што панна Лэнска больш цікавіцца асобай Бруніцкага, што яна гадзінамі можа слухаць аповеды аб прафесару і не хавае радасці, калі яго сустрэне.

Сустрэчы гэтыя здараліся нярэдка, таму што Бруніцкі часам заходзіў у «Аргенціну» з намерам паназіраць, ці даюць вынікі яго метады лячэння.

Немата, праўда, не адступала, але ў настроі пацыенткі заўважаліся выразныя прыкметы паляпшэння.

У той жа час Друцкаму ўдалося даставіць яшчэ адну дзяўчыну ў «трусятнік» доктара Кунокі і Бруніцкага.

Гэта атрымалася цалкам выпадкова. Аднойчы Друцкаму патэлефанаваў Залкінд з пытаннем, ці не мог бы ён пазычыць яму аўто, таму што ён бы хацеў паехаць у Канстанцін, але апошні цягнік ужо адышоў. Друцкі выказаў гатоўнасць яго адвезці.

Было ўжо далёка за поўнач, калі, вяртаючыся ў горад, ён заехаў на найлепшы ўчастак шашы і даў поўны газ. Фары выдатна асвятлялі дарогу на вялікую адлегласць і таму ўжо здалёк ён заўважыў постаць, якая маячыла на краі шашы.

Яму прыйшло ў галаву, што гэта падстаўная жанчына, якая знаходзіцца ў змове з бандытамі, што схаваліся ў рове, альбо таксама магчыма, што гэта дзяўчына, якая хоча папрасіць падвезці яе ў Варшаву. У абодвух выпадках варта

---

[1] Канстанцін-Язёрна — курорт у Мазавецкім ваяводстве; у 20-х гадах XX стагоддзя палову яго жыхароў складалі яўрэі.

было б спыніцца, таму што будзе займальная прыгода ці ён знойдзе сабе кампанію на далейшую дарогу.

Друцкі вырашыў сцішыць ход аўтамабіля, і гэта ўратавала жыццё дзяўчыны. Менавіта ў момант, калі яна кінулася пад машыну, ён яшчэ здолеў рэзкім рыўком павярнуць руль убок і, нягледзячы на два моцныя штуршкі, выраўняць і затармазіць.

Ён у тую ж хвіліну выскачыў і падбег да дзяўчыны якраз тады, калі яна паднялася з зямлі і кінулася ўцякаць.

— Стой! — схапіў ён яе за рукаў. — Што гэта значыць?!

— Пусціце мяне, — спрабавала яна барукацца.

— Што гэта? Кроў? — усклікнуў Друцкі, адчуўшы пад пальцамі ліпкую вадкасць.

— Пусціце мяне, — маліла дзяўчына.

— Не, анёлак, ты пойдзеш са мной.

Нягледзячы на яе супраціўленне, Друцкі падвёў яе да фар машыны. Гэта была маладая сціпла апранутая дзяўчына. Яе шырокі жакет на плячах быў парваны, а адтуль моцна цякла кроў.

Ён адразу скеміў, што зачапіў яе крылом машыны.

— Дазвольце мне пайсці, — усім целам дрыжала дзяўчына.

— У нас ёсць час, мая дарагая. Найперш трэба спыніць кроў.

Не цырымонячыся, Друцкі зняў з яе жакет і блузку. Блузку ён разарваў на палосы і моцна перавязаў руку.

— Вельмі баліць? — спытаўся ён.

Дзяўчына маўчала, гледзячы ўніз. Яна бездапаможна стаяла перад ім, а яе голыя рукі дрыжалі, як у ліхаманцы.

Паколькі жакецік увесь быў у крыві і пыле, ён накінуў на плечы дзяўчыны свой пінжак, бо вечар быў даволі халодны. Яна не адпіралася, калі ён пасадзіў яе на прыступку аўтамабіля, і паслухмяна выпіла глыток каньяку.

— Ну, а цяпер пагутарым, — сеў ён побач з ёй. — Навошта вы хацелі ўчыніць гэтае глупства?

— Гэта было не глупства, — адказала яна шэптам.

— Ну, а хіба было самым разумным? Я не збіраюся чытаць вам тут маралі, таму што не знаёмы з гэтай прыгожай і карыснай справай. Але трэба мець шмат вады ў галоўцы, каб самазабойства лічыць у якім бы ні было выпадку, у якой бы ні было сітуацыі разумным уладжваннем справы.

На яе твары з'явілася хваравітая ўсмешка.

— Так, так, мая дарагая. Не трэба ўсміхацца са шкадаваннем, бо гэта цалкам перабольшаная саманадзейнасць. Што ж, вам, тысяча чарцей, здаецца, што вы разумнейшая за ўсіх на свеце, што сітуацыя, у якой вы апынуліся, цалкам выключная і ніколі ні з кім не здаралася? Мілая мая, калі б я расказаў вам гісторыю майго жыцця, вы б, напэўна, вырашылі, што я павінен быў бы разоў дваццаць скончыць жыццё самагубствам. Аднак я жыву і — тысяча чарцей — адчуваю сябе выдатна.

— Вы мужчына, — ціха сказала яна.

— Якая розніца? — не зразумеў ён.

— Ах, гэта проста… Зрэшты, мне ўжо ўсё роўна. Я ўпэўнена, што калі б вы ведалі… то не памянялі б кірунку сваёй машыны…

— Канечне! Калі б я ведаў, што ў вас няма грошай, — падхапіў ён з іроніяй, — што вы кахаеце без узаемнасці і што пасварыліся з цёткай, я пераехаў бы вас некалькі разоў туды і назад, а ў дадатак быў бы шчаслівы, што дапамог бліжняму пазбавіцца ад жыццёвай трагедыі…

— Не, пане, — запярэчыла дзяўчына дрыжачым голасам, — але калі б вы ведалі, што пазбаўляеце ад цяжару жыцця дзяўчыну, якая здыхае ад голаду,

цяжарную і заражаную венерычнай хваробай, якую выгналі з дому і якая не можа нікому паказацца на вочы… Што б вы зрабілі?

Друцкі анямеў ад гэтых слоў.

— Набярыцеся смеласці і адкажыце мне шчыра, — настойвала дзяўчына, — што б вы зрабілі?

Друцкі ўсё яшчэ маўчаў.

— Так, вы перашкодзілі майму самазабойству, а самі павінны прызнаць, што ў мяне няма іншага выйсця. Вы толькі прадоўжылі мае пакуты.

Дзяўчына засмяялася.

— І самі недарэчна аказаліся ўцягнутым у клопатную сітуацыю…

Яна ўстала, скінула яго пінжак і збіралася сысці.

— Пачакайце, — рашыўся Друцкі.

— Чаго?

— У мяне да вас прапанова.

— Вы мне хочаце даць міласціну?

— Не. Я ніколі не даю міласціну.

— Такім чынам?

— Я магу вас змясціць пад апеку дактароў, дзе вы знойдзеце цішыню, утульнасць і добразычлівасць.

— Прытулак для распусных дзевак?! О, не, дзякуй пану.

— Зусім не. Прыватная клініка.

— Адкуль такая філантропія? — недаверліва спыталася дзяўчына.

— Там праводзяць навуковыя эксперыменты. Клініка тайная і нелегальная. Але вас ніяк не пакрыўдзяць. Наадварот, вылечаць, будуць дбаць, каб дзіця з'явілася на свет у самых спрыяльных умовах і забяспечаць ваша далейшае існаванне. Гэтым, зрэшты, я і сам магу заняцца. Што вы ўмееце?

— Я настаўніца.

— Тут, у Варшаве?

— Не, далёка адсюль, на Валыні.

— І сям'я ваша жыве там?

— Там. Сюды я прыехала ў надзеі, што знайду якую-небудзь установу або доктара, які бясплатна пазбавіў бы мяне ад цяжарнасці. Я чытала, што ўрачы робяць гэта задарма… Я наведала паўтара дзясятка ўрачоў, але ўсе з мяне пасмяяліся. Я думала таксама, што мне ўдасца якім-небудзь чынам зарабляць на жыццё…

— Значыць, вы прымаеце маю прапанову? Я даю вам слова гонару, што да вас будуць адносіцца з поўнай павагай і добразычлівым клопатам. А ўрачы, у рукі якіх я аддаю вас, — гэта два вялікія вучоныя з сусветнай славай. Мне нельга агучваць іх імёны, але я прашу мне паверыць, што ніякай крыўды яны вам не ўчыняць.

— Як жа мяне яшчэ можна пакрыўдзіць!

— Дык вы згодныя?

— Добра.

— Ну, дык брава! Яшчэ глыток алкаголю, для куражу.

Друцкі падаў дзяўчыне дарожны кубачак з каньяком.

— І сядайце.

Не прайшло і дваццаці хвілін як ён званіў у вароты вілы прафесара Бруніцкага.

— Хутчэй адчыняй! — загадаў Друцкі барадачу, набліжаючы свой твар да штыкецін, каб той яго мог пазнаць.

Машына заехала ў двор.

Дзяўчына абыякава азіралася.

— Нешта ёсць? — пачуўся прыглушаны голас прафесара, які выйшаў у халаце.

— Так, — коратка адказаў Друцкі.

— Антоні, — звярнуўся прафесар да служкі. — Разбудзі пана доктара. Мы самі перанясём.

— Гэта лішняе, — сказаў Друцкі. — Яна прытомная.

— Як гэта? — спужаўся Бруніцкі.

— Праз хвіліну я табе ўсё раскажу. Калі ласка, пані.

— Друцкі дапамог дзяўчыне выйсці з машыны, узяў яе пад руку і праводзіў цёмным калідорам прама ў ванную.

У гэты момант з'явіўся доктар Кунокі.

— Доктар, — павітаўся з ім Друцкі, — пані трэба зрабіць новую перавязку.

— Рана? Агнястрэльная?

— Не, невялікая драпіна, але моцна крывавіцца.

— Ну, дык доктар сам ужо дасць рады, — не цярпелася прафесару, — хадзем.

Яны перайшлі ў хол, і Друцкі падрабязна расказаў, як усё было.

— Яна зусім не ведае Варшавы, — скончыў ён, — акрамя таго, з выгляду прыстойная.

— Але я крыху ўстрывожыўся, — з палёгкай выдыхнуў Бруніцкі. — Табе не падаецца, што ты надта легкадумны.

— Ты хочаш сказаць, што я дурань, Караль?

— Не, але гэта магла быць, дапусцім, агент паліцыі.

— Немагчыма. Паліцыю, дарагі мой, я адчуваю на адлегласці, як такса ліса. Я б хацеў яшчэ развітацца з гэтай малышкай, бо мне пара ехаць у клуб.

— Што за сантыменты! — засмяяўся Бруніцкі, але праводзіў яго ў пакой, куды змясцілі новага «трусіка».

— Да пабачэння, пані, — пацалаваў Друцкі яе ў руку, — і прашу пра мяне памятаць. Мяне завуць Вінклер, Ян Вінклер. Пасля выздараўлення завітайце, калі ласка, да мяне. Паны дактары ведаюць мой адрас.

Дзяўчына развіталася з ім поўным удзячнасці поглядам.

Прафесару і японцу, якія праводзілі яго да машыны, Друцкі сказаў:

— Памятайце, шаноўныя, што я даў ёй слова гонару, гарантуючы вашу добразычлівасць і прыязнасць!

— Не хвалюйся.

— Доктар, а як з гэтай хваробай? А?

— Хутка вылечым, дробязь.

— Тады да пабачэння!

Друцкі выехаў з варот з выключанымі фарамі. Вуліца была пустая. Ён націснуў на газ і рушыў на значнай хуткасці ў бок «Аргенціны». Толькі праязджаючы цераз добра асветленую Тэатральную плошчу ён заўважыў на рукаве пінжака вялікую пляму крыві.

— Халера, трэба пераапрануцца! — канстатаваў ён і звярнуў на праспект Шуха.

Ужо пры пад'ездзе ён заўважыў святло ў вокнах сваёй кватэры. Яго гэта здзівіла, але вартавы растлумачыў, што гэта Зоська засцілае ложак.

— Так позна? — спытаўся Друцкі.

— Дык жа ж вы ніколі рана не вяртаецеся, а яна да гэтага часу адчыняла вароты, а зараз разбудзіла мяне і пайшла ў вас прыбіраць.

Зоська павітала яго з характэрнымі для яе бестурботнасцю і свабодай, што было так незвычайна для вясковай дзяўчыны, і не спыніла сваёй працы.

— Вы ўжо будзеце спаць? Сёння рана!

— Не, мне трэба пераапрануцца, — заявіў ён.

Дзяўчына акінула яго поглядам і ўсклікнула:

— О, Божа! Вы ўвесь у крыві!

Друцкі зняў пінжак. Сапраўды, у многіх месцах віднеліся вялікія плямы.

— Што з вамі? Вы параніліся?

— Не, — коратка адказаў ён.

Дзяўчына ўзяла пінжак у руку і спыталася:

— А адкуль столькі крыві?

— Дождж такі чырвоны ішоў, — пажартаваў Друцкі.

Раптам Зоська зрабілася вельмі сур'ёзная і моўчкі стала да яго прыглядацца.

— Ну, і што ты ўперылася, малая? — смяяўся ён. — Дастань з шафы чорны касцюм і ідзі спаць.

Дзяўчына выканала яго даручэнне, але затрымалася ў дзвярах:

— Скажыце, — спыталася яна нейкім таямнічым голасам, — а можа, лепей зараз замыць?

— А ці атрымаецца?

— Пакуль свежае, атрымаецца. І следу не будзе… А ці не бачыў толькі бацька?

Друцкі адвярнуўся ад яе. Дзяўчына стаяла з пінжаком у руцэ, а засяроджаная таямнічасць на твары была надзвычай забаўная.

— Ты што, Зоська, думаеш, я некага забіў?

Яна нават не паварушыла вуснамі, але было зразумела, што яна ў гэтым не сумнявалася.

— Не бойся! Усе жывыя і здаровыя. А пінжак можна памыць і праз два дні.

— А можа, лепей зараз, — не паверыла дзяўчына, — хто сябе сцеражэ, таго й Бог беражэ!

— Эх, ты! Што ж ты, малая, думаеш, што Бог беражэ забойцаў? — засмяяўся ён.

— Я не ведаю… Але я лепей памыю. Заўсёды лепей, каб не засталося следу.

— Якая табе розніца? — пацікавіўся Друцкі.

— Ну, бо вас могуць накрыць, — сказала яна проста.

— А ты ведаеш, што калі дазнаюцца, што мыла мне гэты пінжак ты, то і цябе пасадзяць?

— За што гэта?

— За тое, што дапамагала схаваць злачынства.

Дзяўчына хвіліну павагалася і нарэшце пацiснула плячыма:

— Ну і няхай!

Друцкага гэта ўзрушыла, і ён адчуваў непераадольнае жаданне выказаць сваю сімпатыю і ўдзячнасць, але ж такога роду пачуцці ён не ўмеў выражаць іначай, як прыціснуць яе да сябе, падняць яе падбародак і пацалаваць у вусны.

Вусны былі гарачыя і сакавітыя, а скура пахла малаком.

Дзяўчына стаяла нерухома. Яна ні аддалася пацалунку, ні супраціўлялася. Толькі апусціла вочы і дыхала крыху хутчэй, а яе вялікія, пукатыя грудзі падымаліся ў хуткім рытме пад ружовым паркалем блузкі.

Друцкі скрыгатнуў зубамі і няшчыра засмяяўся:

— Ну, Зоська, ты да мяне вельмі добрая. Дзякуй табе, а гэта на цукеркі.

Ён працягнуў ёй банкнот, але яна паматала галавой.

— Не хачу.

— Бяры, бяры, не строй з сябе графіню.

— А калі я не люблю цукеркі. І не думайце, што я да вас добразычлівая, бо вы мне плаціце!.. Я так… па дружбе.

— Ну і я табе даю па дружбе.

— Я і так нікому не скажу.

Друцкі сеў на тахту, закурыў і загадаў ёй падысці.

— Слухай, малая. Не забівай сабе галаву глупствамі. Кроў ад таго, што я пераехаў аднаго чалавека. Ты мне верыш?

— Веру.

— Ну дык не трэба мыць, а пінжак варта аддаць у хімічную чыстку. Разумееш?

— Разумею.

— Мне тут няма чаго хаваць. А раз ты мне адкрыла сваё добрае сэрца, то дазволь і я табе адкрыю, і вазьмі гэта на цукеркі.

Дзяўчына секунду павагалася і паматала галавой:

— Не.

— Чаму не? — раздражніўся Друцкі.

— Бо і вы мне таксама адкрылі добрае сэрца, — зачырванелася Зоська, — вось мы і квіты.

Яна павярнулася на абцасах і выбегла.

Друцкі сядзеў і курыў. У скронях ён адчуваў моцныя ўдары пульсу, а ў ноздрах пах скуры, свежай, гладкай скуры з водарам малака.

— Можа, яшчэ не спіць, — сказаў ён уголас.

Устаў, узяў тэлефонную трубку і назваў нумар Аліцыі, але, кінуўшы погляд на гадзіннік, усклікнуў:

— Не, шаноўная, не! Калі ласка, не злучайце! Я памыліўся!

— А які нумар вам трэба? — спыталася тэлефаністка.

— Я памыліўся не з нумарам, а з часам! — засмяяўся ён.

— Ага, што так позна?

— Менавіта. Я вельмі позна падумаў.

Тэлефаністка гулліва засмяялася:

— А вы жанчыне званілі?

— Так, мая дарагая. Аднак ужо чацвёртая гадзіна, яна, напэўна, спіць і будзе злавацца, што я яе буджу.

— Не бойцеся. Не будзе злавацца. Ніводная жанчына за такое не раззлуецца. Хіба…

— Хіба калі той, хто звоніць, — стары і брыдкі? — падхапіў Друцкі.

— Ну, так, — засмяялася тэлефаністка.

— Вось бачыце! Я якраз вельмі брыдкі, і ў мяне вялікая сівая барада.

— Ну дык пагаліцеся! — весела адказала жанчына і выключыла апарат.

— Шэльма, — уздыхнуў Друцкі і пачаў пераапранацца.

## Раздзел 18

Юлька атрымала атэстат сталасці. Яна чакала большага шчасця, якое павінен быў прынесці ёй гэты пераломны момант, і была крыху расчараваная сваёй абыякавасцю.

Яна, уласна, радавалася толькі таму, што ўсе цяпер павінны лічыць яе дарослай паннай і што не трэба будзе кожны дзень усхопліваццa ў школу.

Аліцыя ў гэты вялікі для Юлькі дзень не магла раздзяліць з ёю радасць, таму што ў судзе разглядалі нейкую надта важную справу, у якой Аліцыя выступала абвінаваўцам. Хутчэй за ўсё, яна нават не прыйдзе на абед, і гэтую важную ўрачыстасць Юлька адсвяткуе ўдваіх з панам Вінклерам, з панам Янкам, як яна яго называла.

Яна, зрэшты, пра гэта надта не турбавалася. Ёй так рэдка здаралася заставацца з ім сам-насам, калі ён павінен быў — нікуды не дзенешся — звяртаць увагу на яе.

Да таго ж, у прысутнасці Аліцыі ён не гаварыў пра свае падарожжы, што можна было слухаць гадзінамі, затаіўшы дыханне. Юлька любіла тыя хвіліны, калі ёй удавалася з дапамогай вельмі хітрай дыпламатыі павярнуць размову на тэму якой-небудзь экзатычнай краіны, якіх-небудзь плямёнаў, майстэрства лоўлі кітоў ці жэмчугу, працы шукальнікаў золата ці палявання на змей.

Тады паступова твар пана Янка траціў свой бестурботны дружалюбны выраз, яго рысы завастраліся, як маланкі, вочы бліШчалі, а ноздры расшыраліся, нібыта ў

іх ён уцягваў пах джунгляў ці рэзкі водар мора. Ох, ён тады станавіўся такі прыгожы! Такі цудоўны, такі гераічны! Мышцы, здавалася, ігралі пад смуглай скурай твару, бровы счэпліваліся ў востры лук, а голас зыходзіў з шырокіх лёгкіх, якія грукаталі самымі дзіўнымі водгаласамі, водгаласамі, якія асацыяваліся ў жывым уяўленні Юлькі з ровам хваль далёкіх мораў, з выццём віхру ў парусах, з топатам капытоў каўбойскіх коней, з салодкімі мелодыямі гавайскіх песень, з шумам некранутых пушчаў, поўных гукаў дзікіх звяроў, з грукатам гармат браняносцаў і трэскам страляніны ў партовых тавернах…

Ах, яго голас быў тады магутнай рапсодыяй, у якой адчувалася ўся веліч, буянне і прыгажосць свету!

Калі ён пачынаў гаварыць так проста, ясна і зразумела, яна нібыта ўпадала ў транс, быццам п’янела. Яна адчувала ў спіне незнаёмыя раней дрыжыкі, на вуснах смак салёнай вады, а ў маладых, яшчэ не развітых грудзях надакучлівае, дзіўнае пацягванне.

Друцкі вымаў папяросу з вуснаў, пазіраў у акно і пачынаў:

— На Філіпінах Ціхі акіян вясной спакойны і лагодны. Дробныя хвалі амаль бясшумна ліжуць плоскі бераг…

Альбо таксама:

— Пасля дня дарогі ад Форбс пачынаецца краіна кенгуру…

Юлька нерухома, падцягнуўшы пад сябе ногі, сядзела ў куце канапы, уся ператварыўшыся ў слых.

Калі падчас аповеду Друцкі часам пазіраў на яе, ён дадаваў словы «мая малышка», і былі яны прыгажэйшыя за ўсе словы, якія ўвогуле прыдумаў чалавек.

Якая ж шчаслівая Аліцыя, што будзе жонкай пана Янка! Што ён яе кахае! О, бо Юлька была ўпэўнена, што ён кахае і дабіваецца рукі Аліцыі. Зрэшты, Аліцыя цалкам заслугоўвае яго кахання. Цалкам. Можа, ніводная іншая ў цэлым свеце не вартая была б і мезенца пана Янка, аднак Аліцыя сама настолькі прыгожая, разумная, такая вартая! Юлька за сваё жыццё не сустракала жанчыны, якой — абстрагуючыся ад асабістых пачуццяў — яна б настолькі захаплялася.

Яна ёй ні ў чым не зайздросціла, не раўнавала нават да яе пана Янка. Наадварот! Усім сэрцам яна зычыла ёй гэтага шчасця, пра якое сама, дурнічка, простая і звычайная прыгожая дзяўчына, ні марыць, ні сніць не магла.

Можа, лёс так распарадзіцца, што і яна калі-небудзь, у далёкай будучыні спаткае мужчыну, які хоць нечым будзе падобны да пана Янка, і можа, ён захоча ажаніцца з ёю… І можа, таксама будзе гаварыць ёй «мая малышка»…

Насамрэч пан Янэк ніколі так да Аліцыі не звяртаецца. Ён кажа «пані Аль», але пасля шлюбу, натуральна, ён будзе ёй казаць «мая малышка».

Юлька два разы пыталася ў Аліцыі пра пана Вінклера.

Яна сама, не маючы ад Аліцыі ніякіх тайн, сказала ёй, што яна шчаслівая, што пан Янэк і Аліцыя кахаюць адно аднаго, бо пан Янэк цудоўны.

— Ён табе падабаецца? — з усмешкай запыталася Аліцыя.

— Вельмі! Вельмі! Я так рада, што вы кахаеце адно аднаго… Праўда, кахаеце, Аля?

— Праўда, Юлечка, кахаем.

— А ён табе ўжо зрабіў прапанову? Прасіў тваёй рукі?

— Яшчэ не, не зусім, — ухіліста сказала Аліцыя.

— Але вы нібыта неафіцыйна заручоныя?

— Нібыта, — пацвердзіла Аліцыя і перавяла размову на іншую тэму.

З таго часу Юльку разбірала цікаўнасць: ці цалуюцца яны, калі застаюцца адны. На самай справе нічога б не было надзвычайнага ў тым, калі б яны цалаваліся. Усе нарачоныя цалуюцца — пераконвала яна сябе — а яны ж сапраўды заручоныя.

Але яна не магла з гэтым змірыцца! Самае простае, зрэшты, спытацца ў Аліцыі пра тое, хоць яно і нетактоўна. Толькі праз пару дзён, носячыся з гэтым намерам, яна рашылася і спыталася, цалуючы Аліцыю на ноч:

— Аля, а вы з панам Янкам цалуецеся?

Аліцыя акінула яе здзіўленым позіркам.

— Я пытаюся, Аля, таму што ведаю, што нарачоныя заўсёды цалуюцца, — дадала Юлька ў сваё апраўданне.

— Пра што ты думаеш, Юлечка! — дакорлівым тонам адказала Аліцыя. — У цябе экзамены на носе, а ты задаеш недарэчныя пытанні. Дабранач, дарагая, ідзі спаць.

«Ну, натуральна, не цалуюцца», — думала Юлька, засынаючы, і невядома чаму была гэтаму рада. Калі б яны цалаваліся, рабілі б вельмі брыдка! Яна не магла гэтага даказаць, але ёй здавалася, што тады яны падманулі б яе чаканні.

З таго часу яна задавольвалася ўласнымі назіраннямі, якія яшчэ больш заспакоілі яе несвоечасовыя падазрэнні.

Зараз яна развітвалася з сяброўкамі. З большасцю расставалася не без жалю. Яны абяцалі адна адной пісаць і пасля канікулаў зладзіць у школе з’езд.

Юлька выбегла на вуліцу са слёзкамі ў куточках вачэй і хутка ішла да трамвая, як раптам пачула за сабой голас:

— Панна Юлька!

Яна азірнулася і аж ускрыкнула ад нечаканасці: перад ёй стаяў доктар Чухноўскі.

— Доктарчык! — усклікнула яна. — Добры дзень! Я так даўно вас не бачыла! Чым вы займаецеся?

Доктар паціснуў ёй руку. Бачна было, што ён узрушаны.

— Я, панна Юлька, працую.

— Які шчаслівы збег абставін, што я вас сустрэла!

— О, гэта не збег абставін, — усміхнуўся Чухноўскі. — Я наўмысна вас чакаю.

— Наўмысна?

— Так. Вы ж сёння атрымалі атэстат. Я хацеў павіншаваць.

— Доктарчык памятаў! — расчулілася дзяўчына. — Які вы добры!

Чухноўскі выглядаў змарнелым і яшчэ больш бездапаможным, чым раней. На яго адзенні былі сляды занядбаласці. Ён быў непаголены, у старым, дрэнна завязаным гальштуку.

— Як жа я мог забыцца пра такі ўрачысты дзень, — гаварыў ён, — гэта ж доўгачаканая дата…

— А вы не падумалі, што я магла зрэзацца? — весела спытала Юлька.

— Вы? Мне гэта нават у галаву не прыйшло, — запратэставаў доктар.

— Доктар, вы ў які бок? Можа, вы мяне праведзяце?

— О, не, не, — спужаўся Чухноўскі. — Толькі крышку. Вам, напэўна, непрыемна ісці па вуліцы ў такой прыгожай сукенцы ў кампаніі такой нязграбнай асобы, як я…

Юлька пашкадавала яго, вельмі-вельмі. Яна не сумнявалася, што ён яе любіць, але ведала, была ўпэўнена, што ён месяцамі чакаў гэтага выпадку, каб што-небудзь даведацца пра Аліцыю. Юлька б з задавальненнем яму расказала вельмі шмат, калі б не той факт, што ўсё, пра што яна магла яму распавесці, было б для яго балюча. Таму яна вырашыла лепш гаварыць пра школу і планы на лета.

На наступным прыпынку трамвая доктар з ёй развітаўся.

«Нейкі ён няшчасны, — думала Юлька, вяртаючыся дадому, — нейкі сумны. Але, відаць, ён сам разумее, што можа шкадаваць толькі сябе. Я б здзівілася, калі б ужо не Аліцыя, а якая-небудзь іншая жанчына змагла яго пакахаць. Такі яго лёс… Лёс, у сваю чаргу, несправядлівы, такому вось пану Янку даў усё, а доктарчыку нічога».

Ужо ў вітальні Юлька ўпэўнілася, што пан Янэк тут. На адным з бра тырчаў яго светлы, амаль белы капялюш з шырокімі палямі. Ён жа ніколі па-людску не павесіць свой капялюш!

Юлька ўбегла ў сталовую і стала як укапаная: перад ёй на падлозе ляжала велізарная гумовая чарапаха, а на яе спіне сядзеў пан Янэк у адпаведным капелюшы, зробленым з газеты, і апяразаны вялікай чырвонай аўтамабільнай камерай.

Калі яна ўвайшла, ён выказаў ёй пашану і адрапартаваў:

— Адмірал Балтыйскага флоту Ян Вінклер, начальнік эскадры вашай каралеўскай вялікасці, з'явіўся па вашы загады!

— Ах! — крыкнула Юлька. — Гэта мая эскадра?

— Так. Гэта «чарапаха» — падводная лодка.

— Падводная? Чаму?

— Таму што, сеўшы на яе, няма нічога лягчэй, чым апынуцца пад вадой.

— Цудоўная! Божа, якая велізарная!

— А гэта, — Друцкі зняў з сябе шыну, — плывучы док. Сядаюць у яго так і вяслуюць ручкамі.

— Ах, і гэта для мяне?

— Паколькі вы Юлія Першая, каралева Балтыйскага мора і галоўная сірэна гэтага мора, то так.

— Вялікі-вялікі дзякуй!

Друцкі нечакана схапіў яе пад пахі і, некалькі разоў падкінуўшы пад столь і злавіўшы ў паветры, ускрыкнуў:

— Гіп-гіп, ура! Ура!

— Ой, я ўпаду, — папісквала Юлька, а калі ён яе, пачырванелую, нарэшце паставіў на падлогу, яна зрабіла абражаную мінку:

— Гэта так абыходзяцца з дарослымі людзьмі?

Друцкі прыжмурыў вочы і сказаў:

— Эх!.. Можна і па-іншаму…

— О! Напрыклад?

Друцкі хвіліну ўглядаўся ў яе іскрыстыя вочы, у раскрытыя вусны, у стройную фігурку, застылую ў якімсьці чаканні.

— Ты прыгожая, мая малышка, — сказаў ён нечакана для самога сябе.

Юлька пабляднела і закрыла вочы. Друцкі апамятаўся і ненатуральна разняволеным тонам усклікнуў:

— А можа, мы б што-небудзь з'елі?

— Так, так, — спалохана ўскочыла Юлька, — вы, відаць, галодны.

Яна націснула кнопку званка.

— Я галодны, як сам касавокі Білі.

— Тады сядайма. Зараз будуць піражкі з мазжачком.

— Ну, і сёння, відаць, вы, панна Юлька, вып'еце дзеля ўшанавання гістарычнага моманту кілішак каньяку? А?

— Вып'ю!

Юзэфова пачала падаваць. Друцкі напоўніў кілішкі:

— За здароўе дарослага чалавека! — падняў ён тост.

— О, як нясмачна, — скрывілася дзяўчына, — бр-р-р… адчуваю, што ніколі не буду п'яніцай. Калі ласка, пан Янэк… А чаму вы сказалі, што галодныя, як касавокі?..

— Білі?.. Ах, гэта такая гісторыя пра аднаго абжору, якую ведае кожны марак.

— Што за Білі?

— Відаць, быў такі! Магчыма, усё гэта анекдот, выдуманы для рэкламы бараноў з вострава Хартог[1], што ў Заліве Акул[2].

---

[1] Дзірк-Хартог — востраў у Індыйскім акіяне ля заходняга ўзбярэжжа Аўстраліі.

[2] Заліў Акул (Шарк) — заліў у паўночна-заходняй частцы ўзбярэжжа Заходняй Аўстраліі. У ім жыве больш за 10 відаў акул. Адсюль і назва.

— Чаму бараноў?

— Таму што гэты востраў вядомы памерамі гадаваных там бараноў. Дык вось, аднойчы падчас штогадовага кірмашу ў Адэлаідзе адзін з фермераў выхваляўся, што ў яго статку такія бараны, якіх не здолее зрушыць самы моцны чалавек. Паколькі гэта ўсё адбывалася ў партовым бары, выхвалянні гэтыя раззлавалі шкіпера шхуны «Альбатрос». Ужо быўшы трохі на падпітку, ён ударыў кулаком аб стол і заявіў, што няма на свеце такога барана, якога б ён не падняў. І дадаў, што ведае чалавека, які лёгка можа з'есці зараз цэлага барана любой велічыні.

— Няўжо гэта магчыма? — здзівілася Юлька.

— Дык вось, — працягваў Друцкі, — і фермер у гэта не паверыў. Тады пайшлі ў вялікі заклад. Фермер сцвярджаў, што выбера такога барана, якога ніводзін шкіпер не ўнясе ды ніякі абжора не зможа з'есці. Шкіпер настойваў на сваім, у выніку вырашана было адразу, як толькі «Альбатрос» загрузіць сваю воўну, плыць у Заліў Акул. Акрамя фермера, на борт падняліся яшчэ паўтара дзясятка разявак і валацугаў, якіх у Адэлаідзе, як, зрэшты, у любым порце, нямала. Яны паміж сабой таксама пайшлі ў заклад. Тыя, хто бачыў бараноў з вострава Хартог, ставілі на фермера, а тыя, хто ведаў апетыт боцмана з «Альбатроса», касавокага Білі, на шкіпера.

— Ну, і хто выйграў?

— Ні адны, ні другія. Пасля прыбыцця на месца фермер сапраўды выбраў велізарнага барана. Яго звязалі і паклалі на зямлю. Шкіпер, мажны мужык, гадзіну марна пацеў, намагаючыся яго падняць, і ўрэшце адступіўся.

— А гэты касавокі?

— Білі. Касавокі Білі якраз не.

— А бачыў ён барана?

— Не бачыў. Ён увогуле не пакідаў палубу. Настойваў толькі, што з'есць. Урэшце пад наглядам абодвух бакоў барана зарэзалі, растрыбушылі і абадралі шкуру, пасля з галавы, ног і вантробаў зрабілі рагу, а ўсё мяса запяклі. Толькі тады прывялі боцмана. На стол паставілі два велізарныя блюды з рагу і бутэльку віскі, а фермер, упэўнены ў сабе, пажартаваў: «Ну, Білі, спачатку невялікая закуска!» Боцман узяўся есці, але, праглынуўшы паўтара блюда, адклаў лыжку і заявіў: «Ну, хопіць гэтых закусак. Загадайце зараз падаць барана, бо потым у мяне можа знікнуць апетыт».

— Як гэта? — не зразумела Юлька. — Значыць, ён думаў, што гэта была толькі закуска?

— Канечне.

— Ну, і што сталася з рэштай?

— Ён з'еў усё. Так, па меншай меры, у анекдоце, які ўсхваляе бараноў з вострава Хартог і абжор з Белфаста. Касавокі Білі ж быў ірландцам.

Юлька смяялася і засыпала пана Янка незлічонымі пытаннямі, на якія ён весела адказваў.

— Дзіўна, — прамовіла Юлька, — нас жа ў школе вучаць і геаграфіі, і батаніцы, і заалогіі, і эканоміцы, але ніхто з нас пасля ўсяго гэтага не мае ніякага паняцця пра свет. Калі б я валодала гімназіяй, не, універсітэтам, то заснавала б там кафедру… светалогіі, а вас бы прызначыла прафесарам.

— Я б лепей працаваў на кафедры жыццялогіі… прыкладной, — пажартаваў Друцкі.

— Значыць, вы вучылі б людзей жыць? О, я была б вашай самай стараннай слухачкай…

Зазваніў тэлефон. Аліцыя паведаміла, што пасяджэнне скончыцца вельмі позна вечарам, таму яна параіла ім схадзіць у кіно, калі ў пана Вінклера ёсць час.

У пана Вінклера быў не толькі час, але і ахвота, таму яны паехалі ў кіно, дзе паказвалі фільм Клера «Наша свабода». Друцкі ўжо глядзеў яго з Аліцыяй, а цяпер хацеў паказаць Юльцы.

— Ведаеце, — казаў ён, — калі б я стаў прафесарам жыццялогіі, то рэкамендаваў бы гэты фільм усім слухачам і бязлітасна зразаў бы тых, хто б ім не захапляўся.

— О, значыць, і я вымушана ім захапляцца?

— Тут гаворка не аб прымусе, — сур'ёзна адказаў Друцкі, — а аб вывучэнні жыццёвага вопыту, так сказаць, псіхатэхнічны экзамен. Каму не падабаецца «Наша свабода», павінен адразу ж пераходзіць на факультэт права.

— Чаму менавіта права?..

— Хм… Таму што права вучыць, як ашчасліваць сябе і іншых насуперак прыродзе, а мая кафедра культывуе іншую філасофію. Гэта зусім не значыць, што я лічыў бы маё найлепшым! Проста адной катэгорыі людзей падыходзіць гэта, а другой тое.

— Значыць, гэты фільм?..

— Гэта, як мне здаецца, надзейны крытэрый пры вызначэнні катэгорыі, да якой належыць чалавек.

Друцкі задумаўся і сказаў:

— Найгорш знаходзіцца не ў сваёй катэгорыі.

— Чаму?

— Таму што чалавек змагаецца з самім сабой і ніколі не будзе жыць напоўніцу. Ён не зможа дасягнуць сапраўднага шчасця.

Сказаў гэта Друцкі, думаючы пра Аліцыю. Калі ён быў з ёю ў кіно, яна так яго апісала: «Гэта найпрыгажэйшы і найразумнейшы фільм, які я калі-небудзь бачыла. Я не кажу пра тэхнічны бок, а пра яго філасофію. За гэтую філасофію я як пракурор павінна паклапаціцца, каб гэты фільм забаранілі для паказу».

Тады Друцкі ёй на гэта нічога не адказаў, таму што дыскусіі з Аліцыяй аддалялі яго ад яе, а ён гэтага не хацеў. У поглядах Аліцыі было штосьці садысцкае і мазахісцкае, яны абуралі бязлітаснасцю, выклікалі непрыязнасць злым шаленствам.

Неяк ён звярнуў на гэта яе ўвагу, дадаючы, што гэта не адпавядае яе грамадскай пазіцыі абаронцы маралі.

На што яна яму адказала: «Усе абаронцы маралі набіраюцца з людзей у аснове сваёй найбольш амаральных. Гэта індывідуумы, так перапужаныя лішкам бруду, які пакрывае дно іх свядомасці, што ўсюды бачаць бруд і аж выюць пра забароны і анафемы. У глеі, што запаўняе дно іх падсвядомасці, знаходзіцца рассаднік пратэсту супраць уласнай натуры гэтых ідэйных маралістаў. Таму яны не ведаюць, хто яны, і гэтыя погляды яны лічаць сваёй натурай. Найбольш заўзята выкараняе зладзейства той, каму якраз наканавана быць злодзеем. Парнаграфію ўсюды бачыць той, хто па сваёй натуры самы бессаромны эратаман. Уся яго ўвага канцэнтруецца на плоцкіх пытаннях, і ў гэтым ён бачыць найвялікшае злачынства. Ён пераважна звычайны мурза і пошлы крывадушнік, які, аднак, часам свята верыць у сваю агіду да сексуальных спраў. Тады гэта эратаман з псіхічнай траўмай, якая з'явілася на фоне рэзкага зніжэння эратычнай цягі і ўбівання яе ў падсвядомасць, адкуль яна падсілкоўвае дыяметральна супрацьлеглыя погляды. Вось якія абаронцы маралі. Я ад іх адрозніваюся толькі тым, што ведаю сябе і не цешуся марамі, ну і тым, што я магу дазволіць сабе адэкватную ацэнку маралі наогул».

Друцкі не згаджаўся з Аліцыяй, не разумеў яе і не хацеў разумець.

Зараз ён паглядзеў на Юльку і паўтарыў:

— Найгорш знаходзіцца не ў сваёй катэгорыі.

— Цікава, да якой катэгорыі я сябе аднясу пасля гэтага фільма, — прамовіла Юлька. — Аля гаварыла мне, што фільм амаральны і шкодны для грамадства.

Папярэдні сеанс якраз скончыўся, і яны ўвайшлі ў глядзельную залу.

Фільм Юльку вельмі ўразіў. Яна была дастаткова разумнай, каб хутка разабрацца ў яго ідэі. Стваральнік далікатна высмейваў усё, што абмяжоўвае свабоду

чалавека, што стварае забароны, што ўзвышаецца турэмнымі сценамі: дзяржаву, грамадства, сям'ю, працу, валоданне… Высмейваў, выкрываў, з усмешкай пабразгваў усім тым, што лічыў бескарыснымі манетамі і жэтонамі, за якія нельга купіць сабе сапраўднае шчасце. Бо шчасце — гэта толькі свабода. Бесклапотная свабода валацугі, які ідзе ў свет з вясёлай песенькай на вуснах, з песенькай «наша свабода», свабода і нічога больш, і нічога нам больш не трэба.

Калі яны выйшлі з кінатэатра, Юлька сказала:

— Гэта цудоўна, але…

— Што але?

— Я не магу сказаць, да якой катэгорыі я павінна сябе аднесці. Наша настаўніца нямецкай мовы паўтарыла б пасля гэтага фільма сваё любімае «*die Gedanken sind zollfrei*»[1].

— Канечне, і была б яе праўда, — сказаў Друцкі.

— Гэты вясёлы анархізм захапляе. Аднак мне здаецца, што я здолела б прымірыць асабістую свабоду з тым, што прапануе нам жыццё.

Друцкі нічога не адказаў. Ён зноў пасля сеанса гэтага фільма адчуў незразумелы неспакой, нейкую раптоўную тугу, прагу прасторы. Яму здавалася, што ён марнуе, праседжвае жыццё…

— Пра што вы задумаліся? — спыталася Юлька.

— Я старэю, панна Юлька, старэю.

— О! — усклікнула дзяўчына з сумненнем.

— Так, думкі аб сабе — першая прыкмета гэтага.

— Значыць, лепей не думаць.

— Натуральна, лепей не думаць.

Калі Друцкі адвёз Юльку дадому, Аліцыі яшчэ не было. Юлька пачала завіхацца, рыхтуючы стол да вячэры.

Паколькі ён сядзеў моўчкі і быў нібыта сумны, Юлька падышла да яго і лёгенька пагладзіла па руках:

— Не хвалюйцеся, калі ласка, вельмі вас прашу… Я не хачу, каб вы былі сумным.

Друцкі рассмяяўся:

— Дык буду вясёлы! Запусцім факстрот і патанцуем!

— Я хачу вальс.

— Добра, танцуйма вальс!

Яны якраз танцавалі, калі вярнулася Аліцыя.

— Што я бачу, — усклікнула яна, — тут сапраўдны баль!

— Так, зладжаны ў гонар панны Юліі Горн з выпадку атрымання атэстата, — адказаў Друцкі.

— Аля! Глядзі, што я атрымала ад пана Янка! — радавалася Юлька, цягнучы гумовую чарапаху і шыну — усю марскую экіпіроўку!

— Цудоўна, — пагадзілася Аліцыя. — Такім чынам, паслязаўтра едзем на Хель.

— Віват! Віват! — пачала падскокваць Юлька

— Дарослы чалавек! — нібыта абурыўся Друцкі.

Рэшту вечара яны правялі ўтраіх за абмеркаваннем дэталей ад'езду. Жанчыны збіраліся ехаць на цягніку, а Друцкі назаўтра на машыне. Ён таксама ўзяў на сябе замову па тэлефоне трох пакояў у пансіянаце «Гадзіва», з якім яны ўжо загадзя перапісваліся.

— Навошта нам тры пакоі, — заўважыла Юлька, — пану хопіць аднаго, а нам з Аляй другога.

— Лепей узяць для кожнай з нас асобны, — патлумачыла Аліцыя. — На мора мы едзем адпачываць, а калі разам жывуць два чалавекі, нават самыя блізкія, —

[1] Die Gedanken sind zollfrei (*нем.*) — думкі вольныя ад тарыфаў.

гэта заўсёды абмежаванні для абодвух. Ага, калі ласка, зрабі раніцай спіс рэчаў, якія ты хацела б купіць. Заўтрашні дзень мы прысвецім пакупкам.

Калі Юлька пайшла ў свой пакой, Аліцыя напаўголасу сказала:

— Ведаеш, Бох, яна пераканана, што мы не цалуемся!?

— Тым лепей.

— Для яе, зразумела. Мы павінны клапаціцца, каб не парушыць яе пераканняў.

— Гэта залатая дзяўчына з крыштальным характарам, — адказаў Друцкі, — шмат бы я аддаў за тое, каб мог бачыць яе заўсёды шчаслівай.

— Будзе. Гэта ж мэта майго жыцця.

Да поўначы Друцкі развітаўся і паехаў у «Аргенціну», а да трэцяй гадзіны быў ужо дома. Як звычайна, усё было ў ідэальным парадку, усё падрыхтавана не толькі добрасумленна, а нават з любоўю.

«Як гэта малышка клапоціцца пра мяне», — падумаў ён.

Добра выспаўшыся, Друцкі прачнуўся ад гучнага голасу Зоські.

Яна паступова пазнаёмілася з яго перавагамі і густамі і ўжо не засыпала яго пастаяннымі пытаннямі. Наадварот, яна, відаць, стала лічыць сваім абавязкам забаўляць Друцкага аповедамі пра дом і яго насельнікаў. А паколькі ў яе быў прыемны голас ды забаўны і адметны спосаб выказвання, ён з радасцю з ёй балбатаў. Друцкі заўважыў у ёй яшчэ адну арыгінальную рысу: яна не мела фальшывага сораму. Пра справы, якія звычайна выклікаюць у жанчын неадназначную ўсмешку і збянтэжанасць, гаварыла абсалютна проста і свабодна. Тое самае з вуснаў іншых гучала б непрыстойна, а гэта маладзенькая дзяўчына магла, напрыклад, сказаць: «Канечне, я б хацела хлопца, але ў мяне ёсць час. Хто даўжэй чакае, той болей мае».

І ў гэтым не было нічога не толькі брыдкага або пошлага, а наадварот — шмат прывабнай абаяльнасці.

Яе погляд на спецыфічнае аздабленне ваннай таксама быў дыяметральна супрацьлеглы погляду яе старэйшай сястры.

— Франя кажа, што гэта непрыстойна і што на гэта сорамна глядзець, а я ёй кажу, што ў гэтым такога? Вядома, кожны мужчына такі, як яго стварыў Бог. А яна кажа, чаму людзі не ходзяць голыя, я ж кажу, не ходзяць, бо холадна, а яна кажа, што летам горача, а людзі ўсё роўна не ходзяць голыя, бо гэта грэх, а я ёй гавару, што людзі і крадуць, і забіваюць, і абгаворваюць, а гэта грэх, але яны ўсё роўна гэта робяць, а баранэса з другога паверха выгнала гувернантку, бо тая рыбу нажом ела, і гаварыла, што гэта сорам, а самой не сорам такога шчанюка, як наш Валек, да сябе заманьваць. Карацей, адным штосьці сорам, а другім не сорам.

Зоська круцілася па кватэры, напаўняючы яе сваім маладым голасам і пахам свежавымытага паркалю. Здавалася, яна напаўняла сабой паветра, з'яўлялася сэнсам і зместам таго, што Друцкі называў сваім домам. Ён сачыў за ёй вачыма, а калі іх позіркі сустракаліся, яны ўсміхаліся адно аднаму.

Калі Зоська ставіла перад ім кубак, падавала піжаму ці які-небудзь іншы прадмет, яна не пазбягала міжвольнага дакранання яго рукі, чапляння за яго плячом ці бядром.

Тады Друцкі сціскаў зубы, але не рабіў нічога, што магло б выпадковасць і ненаўмыснасць гэтых дакрананняў так ці інакш змяніць. Ён ведаў, што гэта малая яго вельмі любіць, але таксама быў упэўнены, што яна не ўсведамляе сваёй гуллівасці, якая была хутчэй натуральнай рысай яе сталення, чым прагай звярнуць на сябе ўвагу.

— У вас зусім не бывае гасцей, — некалі сказала яна, — толькі гэта прыгожая дама.

— Ты яе бачыла?

— Ды ці раз? Прыгожая, бо прыгожая, але…

— Яна табе не спадабалася?

— Ці мала што мне падабаецца? Так…

Друцкі падумаў, што яна раўнуе, і спытаўся:

— Ну, скажы, малышка, што ты там у ёй убачыла?

Зоська моўчкі сцерла са стала, занесла паднос на кухню і, вярнуўшыся, прамармытала:

— Яна, відаць, вельмі злая.

— Чаму ты думаеш, што злая?

— Не ведаю. У яе вочы такія. Калі я на днях адчыняла вам вароты, то яна на мяне так паглядзела, быццам я ў яе штосьці ўкрала.

— Табе здалося.

— Можа… Добры чалавек на кожнага пазірае добра. А яна і на вас добра не глядзіць.

Друцкі рассмяяўся.

— Вы не смейцеся. Упервае ў вас зенкі, бо кахае вас, а гэта ж нешта іншае.

— Чаму табе, мая малышка, прыйшло ў галаву, што гэта жанчына мяне кахае?

— А што я, дурніца? Я ж бачу. Яшчэ б яна вас не кахала!

Зоська наліла свежай вады ў вазу і сказала:

— Вы ўсіх прыцягваеце. З усяго дома. Кожны выпытвае і гэта, і тое. А я кажу: спытайцеся ў яго самога. І ўсё.

Друцкі вырашыў перад ад’ездам зрабіць Зосьцы які-небудзь падарунак. Паколькі яна ўпіралася, не брала ў яго на чай, а ён хацеў ёй аддзячыць, то, дыктуючы панне Тэці тэлеграму ў пансіянат «Гадзіва», ён спытаўся:

— Што б гэта ўручыць падлетку, дачцэ вартаўніка, якая ў мяне на гаспадарцы?

Друцкі ў некалькіх фразах апісаў, што яна з сябе ўяўляе, і Тэця параіла, каб у адной з ашчадных кас ён палажыў грошы, а малой даў ашчадную кніжачку.

Друцкі прыслухаўся да яе парады і ўжо назаўтра зранку прамовіў:

— Слухай, Зоська, ты збіраешся замуж?

— А чаму вы пытаецеся?

— Ну, бо хацеў бы даведацца, ці маеш пасаг.

— Маю, — засмяялася дзяўчына, выцягваючы перад сабой рукі, — вось мой пасаг!

— Ну, дык я табе да яго яшчэ нешта дадам. Вазьмі гэтую кніжачку, а калі ў цябе будуць зберажэнні, занясі туды і пакладзі.

Зоська недаверліва ўзяла кніжачку, агледзела яе і, не ведаючы, што гэта, сказала:

— Дзякуй!

У той дзень у Друцкага было шмат работы. Найперш ён купіў чыгуначныя білеты для Аліцыі і Юлькі, потым ён павінен быў заехаць па пані Лэнску і забраць яе на абяцаную прагулку.

Да бедалажкі ўсё не вяртаўся голас, але настрой яе значна палепшыўся. З вясёлым тварам яна слухала пацешныя жарты Друцкага. Ён якраз быў вымушаны прыпыніць аўто на скрыжаванні Брацкай з Алеямі Іерусалімскімі. Друцкі расказваў пра новыя пасяленні ў Бразіліі, дзе, нягледзячы на неразвіты рух транспарту, паставілі паліцэйскіх, каб яго кантраляваць, як на тратуары ўбачыў Аліцыю, якая праходзіла міма.

Яна не магла іх не заўважыць, аднак зрабіла выгляд, што не бачыць яго. Так яму, па меншай меры, падалося.

І ён не памыліўся. Калі гадзінай пазней ён прыехаў на Тапалёвую, то заспеў Аліцыю за пакаваннем чамаданаў. Юлькі не было, яна пайшла развітвацца з сяброўкамі. Друцкі павітаўся і прапанаваў сваю дапамогу. Аліцыя ветліва падзякава-

ла яму, але з непрыхаваным холадам. Праз момант, калі ён у маўчанні курыў, яна загаварыла:

— Што ты сёння рабіў?

— Я? Ну, купіў для вас білеты, уладзіў некалькі спраў, крыху праехаўся на аўто — і вось я тут.

Ён наўмысна не ўспамінаў пра іх сустрэчу. Хацеў ведаць, ці спытаецца яна ў яго пра гэта і як.

— Цалкам прыстойная жанчына, — пачала Аліцыя праз хвіліну.

— Што за жанчына?

— Ну, ты ж, мабыць, лепей за мяне ведаеш, што за яна.

— Магчыма, Аль, не ведаю толькі, пра каго ты гаворыш.

— Пра жанчыну, якая… дапамагала табе ўладзіць некалькі спраў і разнастаіць паездку.

— А, сапраўды, нябрыдкая, — спакойна расказваў ён. — Гэта пацыентка Бруніцкага, панна Лэнска.

Аліцыя ўперылася ў яго праніклівым позіркам і адазвалася прыцішаным голасам:

— Слухай, Бох. Я магу табе верыць?

Друцкі ўстаў, абняў яе і пацалаваў у вусны:

— А ты мне верыш? — спытаўся ён сур’ёзна.

— Веру, Бох, — кіўнула яна галавой, — але ты мяне не шкадуй. Я кахаю цябе больш за ўсё… Я бачыла вас разам. Бачыла, што яна табе ўсміхалася…

— Не трымай на яе зла за гэта, Аль, гэта вельмі няшчасная істота, а ўсмешка для яе адзіны спосаб, якім яна можа кантактаваць з людзьмі.

— Чаму адзіны спосаб?

— Яна нямая. Перажыла нейкі нервовы шок і анямела.

— А Бруніцкі яе лечыць?

— Магчыма, нават больш… магчыма, адчувае да яе асаблівую сімпатыю…

Больш яны пра гэта не гаварылі, але Друцкі ведаў, наколькі моцным і бурным перажываннем былі напоўнены ў Аліцыі гэтыя гадзіны падазрэнняў. Ён не задумваўся пра гэта, але быў крыху раздражнёны. Паняцце вернасці заўсёды было для яго нечым смешным і прыніжальным. У гэтым слове ўтрымлівалася недарэчная для яго забарона. Ён не здраджваў, але і не быў верны.

Жанчыны ад’язджалі ў сем. Друцкі праводзіў іх на вакзал і пасадзіў у купэ. Пасля кароткіх развітанняў і запэўніванняў, што выедзе заўтра зранку, ён стаяў на пероне і махаў капелюшом. Пакуль здаля яму адказвала хустачка Юлькі, ён думаў пра яе і Аліцыю. Калі, аднак, на прасторы, парэзанай незлічонымі разгалінаваннямі рэек, засталася толькі кропка поезда, якая ўсё змяншалася і аддалялася, з воблачкам рванага дыму, ён забыўся пра ўсё. Ён чуў толькі гук рэек, бачыў толькі іх бясконцасць.

Яго агарнуў дзіўны неспакой, незразумелае адчуванне, што ён нешта ўпусціў, пра нешта забыўся, што спазніўся і трэба спяшацца…

Ён пацёр лоб і павольна павярнуўся.

Перад ім ляжаў нерухомы горад, які пульсаваў сваім штодзённым рытмам.

Друцкі ледзь не спатыкнуўся на худога падлетка, які тырчаў на краі платформы. Ён стаяў, засунуўшы рукі ў кішэні зацыраваных штаноў, з-пад насунутай на лоб кепкі чорныя вочы пазіралі на пуці, што раставалі ў тумане.

— Настальгія, — сумна ўсміхнуўся Друцкі. — Што, прыяцель, — спытаўся ён, — хацелася б у свет?

Хлопец акінуў яго рассеяным поглядам, падцягнуў порткі і далёка цыркнуў тонкім струменем сліны…

Друцкі засмяяўся. Ён адчуў неадольнае жаданне дапамагчы гэтаму падлетку з худымі загарэлымі шчокамі ў спраўджванні яго мар.

— Слухай, прыяцель, а калі б табе падфарціла з грашыма, куды б ты паехаў?

— Адчапіся, пан, што табе да гэтага?

— Дурань, братка, бяры!

Хлопец не адразу працягнуў руку па скрутак дробных банкнотаў, неахвотна прыглядзеўся да іх і абыякава сунуў у кішэнь.

Друцкі кіўнуў яму галавой і пачаў праціскацца скрозь натоўп, што запаўняў памяшканне вакзала.

Ён ужо садзіўся ў машыну, калі адчуў, што нехта яго лёгка пацягнуў за край пінжака. За ім стаяў той падлетак:

— Дзякуй вам! — ціха сказаў ён.

— Дурань, — кінуў яму Друцкі і са злосцю націснуў на стартар.

Ён паставіў машыну ў гараж, даручыў падрыхтаваць яе ў далёкую дарогу, потым патэлефанаваў Бруніцкаму.

— Я, Караль, еду на мора.

— Надоўга?

— Можа, на месяц, можа, на два. Але ў гэты перыяд я з’яўлюся ў Варшаве.

— А што будзе з паннай Лэнскай?

— Цяжка сказаць, мне трэба ехаць. Думаю, цяпер ты знойдзеш для яе больш часу.

— Ты, па меншай меры, пішы ёй, — прасіў прафесар.

— Добра. А як там… усе здаровыя?

— У поўным парадку. Значыць, да пабачэння.

— Да пабачэння, Караль.

Яшчэ да вечара ён быў у Залкінда. Паведаміў яму пра свой ад’езд і пра тое, што кіраўніцтва «Аргенцінай» ён даверыў на гэты час касіру Юстэку і бармену Грабоўскаму. Калі яны не справяцца, то напішуць на Хель. У надзвычайных выпадках ён даручыў Юстэку звяртацца да Залкінда.

Друцкі забег яшчэ на гадзінку ў «Аргенціну», каб даць апошнія распараджэнні і вярнуўся дадому. Вартавы, адчыняючы вароты, пачаў яму дзякаваць за ашчадную кніжачку для Зоські, але Друцкі перарваў яго:

— Гэта дробязь. Глядзіце, каб тут усё было ў парадку. Я на досвітку ад’язджаю.

Было яшчэ цемнавата, калі Друцкага абудзіў гук клаксона пад вокнамі. Прыкладна ў той жа час прыйшла Зоська і жвава прынялася гатаваць сняданак.

Шафёр, які прыгнаў машыну з гаража, забраў чамаданы, каб пакласці іх у багажнік.

— Ну, Зоська, бывай здарова, — сказаў Друцкі, хаваючы ў кішэнь карту трасы.

— Вяртайцеся здаровым, — адказала яна сваім сакавітым голасам. Ён пагладзіў яе па шчочцы і паляпаў па плячы.

Праз пятнаццаць хвілін ён быў ужо далёка за гарадской мяжой.

Віла «Гадзіва», трохпавярховы белы асабняк сярод маладых соснаў, выстрэльвала над іх цёмнай зелянінай сваёй светла-зялёнай вежачкай, як малады парастак.

Аліцыя і Юлька атрымалі два маленькія прыгожыя пакоі на трэцім паверсе. Адзіным іх недахопам было тое, што яны не былі звязаны паміж сабой.

Аднак несумненнай іх перавагай перад пакоямі другога паверха, куды засяліўся пан Янэк, трэба было прызнаць, як заўважыла Аліцыя, выдатны від на бязмежнае мора.

Першы паверх займалі: гасціная, сталовая і пакоі ўладальніцы вілы пані Чэрвеньскай, сімпатычнай пажылой дамы, удавы знакамітага піяніста.

Нягледзячы на тое, што быў канец чэрвеня, купальны сезон пачаўся, таму што лета было надзвычай спякотнае. Начамі, праўда, панаваў пранізлівы холад,

а вечарамі вільготны туман праганяў людзей па дамах, але ўжо з паўдня пляжы стракацелі рознакаляровымі касцюмамі, піжамамі і парасонамі.

У «Гадзіве» толькі частка пакояў была да той пары занятая. На трэцім паверсе жыла жонка нейкага прамыслоўца з Катавіц і адвакат з Львова, пажылы ўжо джэнтльмен, на другім — балбатлівая землеўладальніца з-пад Каліша з дзвюма нябрыдкімі дочкамі, оперны спявак з Познані і два браты Тэрлінгі, маладыя яхтсмены, сыны амерыканскага консула ў Варшаве.

Гэтыя два лічылі сваім абавязкам прадставіцца ўсім, астатнія ж абмяжоўваліся абменам нейтральнымі паклонамі пры сустрэчы. А сустрэчы адбываліся даволі рэдка, таму што ў кожнай кампаніі быў свой распарадак дня.

Калі Аліцыя і Юлька ў восем раніцы спускаліся ў сталовую, яны заставалі там Друцкага, а бывала і Тэрлінгаў, якія хутка даядалі сняданак і спяшаліся на мора. Астатнія пансіянатаўцы часта спалі да адзінаццаці, значыць, да часу, калі Аліцыя, Юлька і Друцкі ўжо вярталіся з прагулкі і пераапраналіся на пляж. Абедалі ў чатыры. Пасля абеду Юлька павінна была, паводле прадпісання доктара, гадзінку паляжаць. Тады яна сумавала, ёй нават не хацелася чытаць.

Надвячоркам яны рабілі кароткія экскурсіі на лодцы, арандаванай маторцы або, калі былі надта высокія хвалі, на машыне. Аднак паколькі ў аўто было месца, акрамя Друцкага, толькі для аднаго чалавека, Аліцыя саступала яго Юльцы. Сама ж заглыблялася ў кнігі, якіх яна набрала з сабой шмат.

Юлька больш за ўсё любіла гэтыя хвіліны. Так, яна гадамі марыла пра марскія экскурсіі, і цяпер у яе іх было досыць. Сапраўды, яны атрымліваліся цудоўныя, але колькі ж хараства было ў гэтым фыркаючым руху машыны, гэтыя яго плаўныя, але рэзкія павароты пры нязначных рухах руля, на якім так свабодна, аднак упэўнена ляжала бронзавая, жылістая рука пана Янка.

Ён заўсёды так вёў машыну, адной рукой. Пры гэтым ён размаўляў, адварочваў галаву, смяяўся. Здавалася, што ён кіруе жывой істотай, якой цалкам давярае і ў майстэрства якой верыць. Спачатку Юльку часам агортваў страх, калі пан Янэк, апярэджваючы які-небудзь аўтамабіль, што валокся з рэкамендаванай хуткасцю, цудам праскокваў паміж ім і машынай, якая ехала па сустрэчнай паласе, калі, не тармозячы, нейкім незразумелым чынам ён вёў аўто цераз статак кароў, якіх гналі па цэнтры шашы.

Аднак пасля некалькіх такіх прагулак Юлька настолькі стала давяраць майстэрству пана Янка, што ні здрыганулася нават у самай крытычнай сітуацыі.

А здарылася яна наступным чынам.

На паўвостраве Хель чыгуначныя пераезды не забяспечаны шлагбаўмамі. Вадзіцеляў аўтамабіляў пра небяспеку засцерагаюць толькі дарожнымі знакамі і звонам лакаматыва.

Аднойчы на вялікай хуткасці яны з Друцкім убачылі, што справа набліжаецца поезд. Да пераезда было больш як дзвесце метраў, і лёгка можна было затармазіць, але пан Янэк зрабіў цалкам наадварот: ён дадаў газу і крыкнуў:

— Трымайся, малая!

Машыніст свісцеў і рэзка званіў, з адчыненых вокнаў поезда пачуўся гучны віск спалоханых падарожнікаў.

Аўто мчала на шалёнай хуткасці ў пункт, дзе павінна было сустрэцца з паравозам.

Юлька ні на момант не адчула страху: яна бачыла, што нічога дрэннага з ёй не будзе. Праўда, яна заўважыла, што твар яе таварыша засяродзіўся, што з яго вуснаў знікла ўсмешка, але які ж ён зараз быў прыгожы!

Жвір насыпу рэзкім парывам зазвінеў па крылах машыны, у спіну ўдарыла гарачае дыханне паравоза, і вось аўто пачало запавольвацца.

Юлька агледзелася: пасажыры поезда нешта крычалі, гнеўна размахваючы кулакамі.

— Пан Янэк! Яны нам пагражаюць! — з абурэннем усклікнула дзяўчына.

Друцкі спыніў машыну і таксама агледзеўся, што выклікала яшчэ больш актыўную жэстыкуляцыю ў вокнах. Поезд цяпер ішоў павольна, таму што відавочна машыніст у апошні момант затармазіў з намерам забраць ахвяр катастрофы.

— Яны нам пагражаюць і шалеюць, — засмяяўся Друцкі. — А калі б яны нас пераехалі, то ў роспачы не адзін бы над намі праслязіўся, але паколькі мы цэлыя, яны на нас злуюцца. Так, панна Юлька, людзі такія. У іх хапае спачування, але толькі для нябожчыкаў.

Смяяліся абое.

— Яны, між іншым, павінны мне падзякаваць за моцныя ўражанні, — сказаў Друцкі. — Ходзяць у кіно, каб іх перажыць у бяспечным крэсле і плацяць за гэта грошы. Яны, канечне, думаюць, што гэта звычайны фотамантаж і таму не перажываюць мацнейшых эмоцый. Дык я ім паказаў, як гэта выглядае на самай справе.

— Няўжо, пан Янэк, у фільмах гэта робяць таксама ўжывую?

— Не заўсёды, але часта. Справа ў тым, мая малышка, што ў мяне тут ёсць нейкі вопыт. Я набраўся яго ў Галівудзе.

— Вы былі кінаакцёрам?! — усклікнула Юлька з энтузіязмам.

— О, не, у мяне да гэтага няма ніякіх здольнасцей. Я проста замяшчаў знакамітых акцёраў тады, калі здымкі патрабавалі пэўнай рызыкі, а тыя баяліся за сваю шкуру. У Галівудзе больш за тысячу чалавек, якія зарабляюць на такіх замяшчэннях.

— І вы дзеля заробку?

— Часткова дзеля заробку, часткова дзеля спорту. Такіх трукаў, як гэты, я рабіў разоў з дваццаць, не лічачы проб. Але я, стары асёл, відаць, нагнаў на вас вялікага страху, мая малышка?..

— Вы?.. О! Пан Янэк! — яе голас задрыжаў.

— Малышка не баялася?

— З вамі… — прашаптала яна, — з вамі я нічога не баюся…

Друцкі нічога не адказаў, і толькі яго ўсмешлівыя залатыя вочы мігцелі светлымі водбліскамі.

Юлька пабляднела.

— Паехалі, — вымавіла яна, не варушачы вуснамі.

— Добра, паехалі.

Вада ў моры была яшчэ халодная, і нямногія рашаліся купацца доўга. Юлька, седзячы ў аўтамабільнай камеры, плавала ля берага. Аліцыя адплывала на добры кіламетр, а пан Янэк нават пры высокай хвалі штодзень аддаляўся ад берага на гадзіну.

Спачатку, седзячы на пяску, яны бачылі, як роўна працавалі яго моцныя бронзавыя плечы, мільгаючы над грэбнямі хваль, потым ён знікаў з поля зроку, і трэба было пaглядзець у бінокль, каб адрозніць яго светлую галаву ад бледна-зялёнага мора.

Праз некаторы час Аліцыя нязменна пачынала непакоіцца, уставала з біноклем, каб лепей бачыць, паглядала час ад часу на гадзіннік і нервова ўсміхалася. Затое Юлька зусім не хвалявалася. Яна была ўпэўнена, што пан Янэк не можа патануць, што гэта быў бы проста нонсенс, калі б ён знік! Яна ведала, што ён вернецца, што яшчэ дзесяць ці дваццаць хвілін — і яны зноў убачаць дужыя бронзавыя плечы, якія пераразаюць пену хваль, што потым высунуцца з вады яго шырокія грудзі, чорныя плаўкі і што ён будзе ісці да іх сваім плаўным крокам, з усмешкай, глыбока дыхаючы, а струмені кропель будуць сцякаць па яго дзіўна гладкай і тонкай скуры, пад якой так прыгожа гуляюць мышцы.

Пасля плавання ён яшчэ некалькі хвілін бегаў, а яны сачылі за ім вачыма.

Яны ведалі, што таксама і іншыя жанчыны, якія ляжалі на пяску, не адрываюць ад яго вачэй. Юлька звярнула на гэта ўвагу, Аліцыя ж абыякава паціснула плячыма. А Юльку гэта забаўляла: няхай захапляюцца, які непараўнальны наш пан Янэк, няхай нам зайздросцяць.

І раптам спахапілася: «Чаму нам?»

Яна адчула востры ўкол у сэрца… Не нам, не мне, а Аліцыі…

І адразу ж папракнула сябе за эгаізм, няўдзячнасць і прыземленасць.

Так міналі дні.

Два маладзёны Тэрлінгі спачатку актыўна заляцаліся да панны Юлькі, некалькі разоў прапаноўвалі ёй экскурсію на яхце, але яна, нягледзячы на ўгаворы Аліцыі, катэгарычна адмаўляла:

— Смаркачы! — пагардліва крывіла яна вусны.

Калі ж аднойчы пасля паўдня і пан Янэк (пэўна ж падгавораны Аляй!) пачаў нахвальваць старэйшага Тэрлінга і раіў, каб яна пераканалася, як ён спраўна кіруе яхтай, Юлька расплакалася і пабегла ў свой пакой.

Цяпер ужо яна не магла схаваць ад сябе, што кахае пана Янка, што кахае яго больш за жыццё.

Канечне, яна рабіла ўсё, што ўмела, каб ні яму, ні тым больш Аліцыі не выдаць старанна схаваную таямніцу нешчаслівага сэрца. Знешне яна была спакойная і вясёлая, аднак ночы праводзіла ў слязах і хвалюючых марах.

Яна ніколі нікога не кахала. Канечне, яна была закаханая ў пана Рэльмана, настаўніка фізікі, у брунета з вялікім партфелем, які жыў у кватэры насупраць вокнаў сёмага класа, у пані Летыцыю, маладзенькую настаўніцу гісторыі, у кузіну, рыжую Валішэўску — у многіх. Але цяпер было сапраўднае каханне, вялікае, такое каханне, ад якога яна памірае.

Уставала яна няшчасная, з сінякамі пад вачыма, са слядамі слёз на шчочках.

— Здаецца, Юльцы не на карысць марскі клімат, — гаварыла Аліцыя.

Сапраўды, не на карысць. На працягу дня яна выпівала вачыма кожны яго рух, паглынала непараўнальны тэмбр яго голасу, поглядамі, як вуснамі, прыпадала да яго рук.

А ночы былі доўгія, балючыя, безнадзейна самотныя.

Так міналі дні, так міналі тыдні.

Ніякага бунту не нараджалася ў яе сэрцы, ніякія надзеі не апаноўвалі яе думкі. Яна бачыла, што пацярпела паражэнне і адказвала адмовай. Што значыла яе малое, недалёкае каханне ў параўнанні з узнёслым, багатым, цудоўным каханнем, якое ахвяравала яму Аліцыя?.. Нічога… І Аліцыю яна не шкадавала. Наадварот, яна яшчэ больш яе абажала, яшчэ больш шанавала яе каханне…

Яна ведала, што гэта было святое каханне, о, як жа яно адрозніваецца ад тых раманаў, пра якія яна чытае ў кнігах, ад тых, хаця б, якія яна магла лёгка назіраць у самім пансіянаце. Мярзота! Малодшы Тэрлінг абцалоўваў пакаёўку, а оперны тэнар — пра што гаварылі амаль уголас — праводзіў ночы ў пакоі пані Чэрвеньскай… Бр-р-р… Гэтая панна з-пад Каліша, канечне, прыкідвалася на пляжы, што ў яе сонечны ўдар, толькі для таго, каб пан Янэк мусіў аднесці яе дадому. Нахабніца! Юлька ж добра бачыла, як бессаромная какетка тулілася да яго голых грудзей… А між тым, аднойчы здарыўся і значна больш сур’ёзны выпадак, якому было наканавана адыграць вельмі вялікую ролю ў жыцці іх траіх.

А менавіта даволі моцны прыбярэжны вецер знёс гумовую чарапаху. Калі Юлька гэта заўважыла, было ўжо надта позна, і на сваёй камеры яна не магла яе дагнаць, а Янэк якраз перад гэтым вярнуўся са свайго штодзённага «трансбалтыйскага» падарожжа, як яны называлі яго плавальныя рэйды, таму Аліцыя скокнула ў ваду, каб дастаць чарапаху.

За ёй назіралі з берага. Бачылі, як яна даплыла і моцным штуршком рукі павярнула чарапаху назад.

Раптам да іх данёсся яе крык, і яна знікла пад вадой.

Юлька пачула побач з сабой гучны пляскат вады і, перш чым зразумела, што адбылося, убачыла пана Янэка, які плыў з шалёнай, проста неверагоднай хуткасцю.

Толькі цяпер яна зразумела, што Аліцыя тоне.

Сапраўды, яна яшчэ раз высунулася з вады і зноў знікла.

— Божа мой! Божа мой! — паўтарала Юлька.

Ля яе сабраўся натоўп разявак. Яшчэ тры ці чатыры мужчыны кінуліся ў ваду. Маторная лодка, якая праплывала за добрых дзесяць хвілін дарогі да месца выпадку, змяніла накірунак і мчала на поўным ходу да чырвонай плямы чарапахі, што калыхалася на хвалі.

Але вось пан Янэк даплыў. Яго ногі апісалі дугу ў паветры, і ён знік.

Доўгія секунды чакання… Пакутліва доўгія… І вось на паверхні паказваецца ён, а побач сіняя шапачка Аліцыі.

Юлька чуе за сабой адрывістыя, усхваляваныя галасы:

— Уратаваная!

— Гэта яшчэ невядома.

— Ён не можа хутка плыць.

— Нічога з яе не будзе…

— Жадаю, каб вы без грузу маглі плыць з такой хуткасцю!

— Калі б я ратаваў сваю палюбоўніцу, можа, у мяне б і атрымалася.

— Доктара!

— Дзе доктар Лазіньскі? Быў тут!

— Вы што, не бачылі? Ён паплыў ратаваць!

— Так, так! О! Глядзіце, ён падхоплівае яе з другога боку.

— Удвух ім лягчэй.

І сапраўды, вось ужо яны даплываюць, пан Янэк з доктарам Лазіньскім выносяць Аліцыю на пясок. Натоўп расступаецца, каб акружыць іх шчыльным колам. Юлька застаецца за імі. Яна бачыла рукі Аліцыі, якія звісалі, і твар, страшна бледная… Божа!

Гоман змяшаных галасоў. Усе нешта раяць, кожны ведае надзейны спосаб. Юлька становіцца на дыбачкі. У сярэдзіне круга доктар і пан Янэк, нахіленыя… Штучнае дыханне… Масаж… так… так… гоман узмацняецца. Раптам раздражнёны доктар выпростваецца і, задыханы, загадвае:

— Ды ціха вы, халера!

Яго твар спакойны, а голас упэўнены.

Усталёўваецца маўчанне. Чуваць толькі паскоранае дыханне двух мужчын, якія працуюць над прывядзеннем Аліцыі ў прытомнасць.

З кола высоўваецца нейкі мужчына ў пенснэ.

— Вы яе ўратуеце, пан доктар?

Доктар, не адварочваючы галавы, адказвае:

— Такую прыгожую жанчыну ды не ўратаваць?!

— Доктар, вы ёй косці паламаеце, — крычыць нейкі мужчына.

— Я вам паламаю, калі вы не перастанеце нудзець!

Праходзяць секунды… Юлька дрыжыць усім целам.

Раптам чыйсьці крык:

— Дыхае!

— Дыхае! Дыхае!

У Юлькі кроў прыліла да сэрца. Яна не бачыць Аліцыі, але вось заўважыла два бронзавыя твары: пана Янка і доктара. На абодвух адначасова — калі сустрэліся іх вочы — заззяла ўсмешка. Яны не прамовілі ні слова, але ў гэтай усмешцы было ўсё: уратавана.

Прынеслі нейкія лекі. Урач скончыў свае працэдуры. Аліцыя, ужо прытомная, сядзела на пяску, абапертая на плячо пана Янка.

— Сутарга, — ціха гаварыла яна, — сутарга ў абедзвюх нагах…

Доктар Лазіньскі, які якраз стаяў на каленях побач, мераў пульс, правёў рукой па нагах Аліцыі:

— Мышцы ўжо ў парадку. Вы не адчуваеце болю?

— Не.

— Хм… Нават сутаргі чапляюцца да такіх прыгожых ног, ці не так?

Аліцыя ўсміхнулася.

— Ну і што? Вы вельмі аслаблі?

— Не, крыху.

— Зараз у ложак? — спытаўся пан Янэк.

— Калі вы хочаце згубіць дзве гадзіны добрага сонца, то так — пацiснуў плячыма доктар, — можна і ў ложак.

— Значыць, гэта неабавязкова?

— Пані не падобная да той, якая цацкаецца з сабой. Патрэбы няма. Дзякуй богу, арганізм пані без шкоды для сябе перанёс гэтую гісторыю.

— Застаёмся, — вырашыла Аліцыя. — Вялікі дзякуй вам, доктар!

— У любым выпадку, — пацалаваў ён яе руку, — некалькі дзён старайцеся не填 пературамляцца.

Юлька, калі яны засталіся адны — пан Янэк адышоў на хвіліну з доктарам — закінула рукі Аліцыі на шыю і прытуляла яе да сябе, а гарачыя Юльчыны слёзы падалі на сіні купальнік Аліцыі.

— Мая любімая, мая адзіная Аля!..

— Ужо ўсё добра, Юлечка, — цалавала яе Аліцыя.

Пасля вяртання з пляжа і абеду яны з панам Янкам угаварылі Аліцыю легчы адпачыць — гэта не пашкодзіць. Яны сядзелі ля яе аж да вечара, і, хоць яна пераконвала, што выдатна сябе адчувае, ёй не дазволілі ўстаць да вячэры.

Калі настала ноч, Юлька не магла заплюшчыць вачэй. Ёй пастаянна здавалася, што Аліцыі можа стаць горш. Яна прыслухоўвалася.

Там, ля ложка, няма званка. Трэба пільнаваць. Юлька села, абаперлася на падушкі і чакала.

Раптам у суседнім пакоі яна пачула нейкі шум, нібы крокі…

У яе зашчымела сэрца. Зразумела, Аліцыі дрэнна, пэўна, яна паднялася да званка.

Юлька ўскочыла, у спешцы накінула халат і начныя туфлі. Адчыніла дзверы.

На калідоры панавала поўная цішыня. Толькі знізу, з другога паверха да яе даляцеў шоргат замыканых дзвярэй. Калі што якое, трэба будзе разбудзіць пана Янка і патэлефанаваць доктару. Юлька стаяла ля дзвярэй Аліцыі. Унутры было цёмна. Яна ціхенька пастукала і праз момант націснула на ручку.

— Аля! — паклікала яна напаўголасу. — Аля!..

Можа, яна самлела, а можа, проста спіць? У любым выпадку трэба пераканацца. Юлька ціхенька замкнула за сабой дзверы і, ідучы на дыбачках, наблізілася да ложка. У пакоі было зусім цёмна. Рукі намацалі край падушкі… Далей… далей…

— Няма!

Пасцель была яшчэ цёплая. Божа! Аліцыя, відаць, ляжыць дзесьці тут, на падлозе!.. Юлька знайшла выключальнік начніка і… пакой быў пусты. Не было толькі халата, які Юлька ўчора паклала на крэсла каля ложка, і туфляў. Усё астатняе было ў поўным парадку.

— Ну я і дурніца! — усміхнулася сабе дзяўчына і села на ложак.

Яна хацела пачакаць Аліцыю і павесяліць яе сваім неспакоем. Але міналі хвіліны, мінула чвэрць гадзіны, а Аліцыя не вярталася! Што б гэта магло значыць?

Юлька на дыбачках пайшла аж у канец калідора: ванная і туалет таксама былі пустыя.

Павольна, вельмі павольна яна вярталася. Патушыла ў пакоі Аліцыі святло, увайшла да сябе і замкнулася, сама не ведала навошта, на ключ. У яе скронях моцна біўся пульс, калені дрыжалі.

— Дык вось яно што!..

Цяпер яна ўсё зразумела. Усё!!! Усе дробязі, недагаворкі, погляды, тэлефоны, манеўры з найманнем трох пакояў…

«Яны падманвалі мяне, — падумала яна з горыччу, — самым жахлівым чынам ашуквалі!»

Яны такія самыя, як усе іншыя… Не, гэта толькі Аліцыя падманвала! Ён, што ж ён мог зрабіць? Аліцыя… подлая! Так, подлая!

Юлька стаяла, абапершыся на дзверы, але ногі яе невыносна трэсліся, яна спаўзла на падлогу. Будзе так чакаць, пакуль не пачуе, як гэта падманшчыца вяртаецца, вяртаецца пасля бессаромнай ночы!.. Подлая! Захапіла яго сабе! О! Юлька была да гэтага вельмі наіўнай! Цяпер скончана, раз і назаўсёды!

— Святое каханне… ха… ха… ха… святое каханне, перад якім я схіляла галаву… дзеля якога я адракалася нават ад мар пра яго…

«О, навошта яе ўчора выратавалі! Няхай бы патанула!»

Раптам яна спужалася ўласнай думкі.

«Не, не, я нікчэмнасць!.. Як я магла, о, якая ж я злая, якая няўдзячная!»

Урэшце… Аліцыя ж мела поўнае права. Яна ж не была абавязаная адракацца ад пана Янка… Паколькі яны кахаюць адно аднаго…

— Прыгожае каханне! — яе вусны скрывіліся ў іранічнай усмешцы. — Такое, як гэтага тэнара да пані Чэрвеньскай.

Праходзілі гадзіны, а Юлька дрыжала, скурчаная, сядзела пад дзвярыма.

Яна знаходзіла тысячы апраўданняў і тысячы абвінавачванняў, узрывалася нянавісцю, разгаралася клятвамі помсты і зноў вінавацiла сябе ў мізэрнасці і злосці.

Яна малілася яму самымі пяшчотнымі словамі і да крыві закусвала вусны пры думцы, што ён там, паверхам ніжэй, ляжыць у абдымках гэтай вераломнай, ілжывай, фальшывай жанчыны, якой яна, Юлька, так шмат абавязана, якой яна без асцярог адкрывала сваё самотнае сэрца, з якой дзялілася кожнай думкай…

Шэрае світанне раставала ў ружовасці на аконных шторах, калі дзяўчына пачула яе крокі, асцярожныя, каціныя, каварныя, калі пачула шум замыканых дзвярэй…

Юлька ў гэтую ноч не заснула, але калі пачала апранацца, то ў яе саспела рашэнне: яна будзе змагацца за яго. Не адступіць ні перад чым, што магло б аддаліць яго ад Аліцыі, ні перад чым, што магло б прыцягнуць яго да яе, Юлькі. Яна мае на гэта права. На крывадушнасць Аліцыі яна адкажа таксама крывадушнасцю, на хітрыкі — хітрыкамі, на фальш — фальшам. Аліцыя не можа ні пра што здагадацца… Гэта самае важнае. А ён?..

— Пабачым!

Юлька апранула самую прыгожую сваю сукенку, даўжэй, чым звычайна, сядзела перад люстэркам, старанна ўкладваючы валасы. Яна з задавальненнем канстатавала, што бяссонная ноч пакінула ёй «інтрыгоўныя» цені пад вачыма, а самім вачам надала яркі бляск.

Не чакаючы Аліцыі, дзяўчына збегла ў сталовую.

Тэрлінгі, стоячы, скончылі снедаць і наперабой расказвалі нешта пану Янку, які сядзеў на стале з рукамі ў кішэнях.

— Вы на мора? — весела спыталася Юлька, моцна паціскаючы ім рукі.

— Так, — адказаў за маладзёнаў Друцкі, — хоць я ім і не раю, бо страшны вецер.

— Відаць, тым лепей? Для такіх марскіх ваўкоў, як паны, гэта дробязь!

Тэрлінгі на ламанай польскай мове пераконвалі, што, наадварот, гэта сапраўднае задавальненне. Юлька яўна какетнічала з імі: усміхалася і рабіла губкі банцікам, гэта было яе «разынкай». Маладзёны, здзіўленыя такой прыхільнасцю, цягнулі з выхадам і скакалі каля яе, як ваўчкі.

Калі яны ўрэшце выбеглі, Друцкі засмяяўся:

— Вось чорт! Што ж гэта, панна Юлька, вы выпрабоўваеце свае чары на гэтых смаркачах?

— А што, у мяне дрэнна атрымліваецца? — гулліва паглядзела на яго дзяўчына.

— Хм… думаю, для гэтага прыгожай палове не патрэбныя практыкаванні.

— Канечне, — пацвердзіла Юлька, — гэта якраз і былі практыкаванні, пробныя манеўры… Перад… аблогай, — яна паказала зубкі ва ўсмешцы і нахіліла галаву.

— Якая ж крэпасць павінна трэсціся ад страху?

Юлька наблізілася да яго так, што ледзь не дакраналася грудзьмі і, кладучы палец на вусны, сказала:

— Цс-с! Гэта ваенная тайна. Не пытайцеся.

Друцкі прыжмурыўся:

— Што ж гэта, ты і на мне практыкуешся, мая малышка?

Яна засмяялася, змоўкла і, падумаўшы, гулліва адказала:

— А можа, гэта не практыкаванні, а…

— А што? — спытаўся Друцкі.

— Дапусцім… вывучэнне мясцовасці… разведка…

— Гэта небяспечна, мая малышка, — ціха сказаў ён, расцягваючы словы.

— О, Аля ідзе, — усклікнула Юлька, чуючы яе крокі, — сняданак! — націснула яна званок.

Аліцыя абняла Юльку, якая яе пацалавала шчыра, як звычайна.

— Ну, як ты сябе адчуваеш, Аля? — клапатліва спыталася Юлька. — Ці добра правяла ноч?

— Ах, выдатна, — адказала Аліцыя, кідаючы мімалётны позірк на Друцкага.

Юлька, адчуваючы, што бляднее, адвярнулася і пачала дапамагаць служцы накрываць на стол.

Пан Янэк гаварыў нешта пра Тэрлінгаў і іх рызыкоўную экспедыцыю. Юлька не чула яго слоў. Прайшло добрых некалькі хвілін, пакуль яна здолела супакоіцца. Падчас сняданку яны абмяркоўвалі праект наведвання порта ў Гдыні.

— Давайце адкладзём гэта да заўтра, — заявіла Аліцыя, — раз сёння так штарміць.

Пасля сняданку яны зрабілі амаль трохкіламетровую прагулку. Друцкі, па просьбе Аліцыі, тлумачыў правілы канструкцыі плывучых докаў і падводных лодак. Юлька ішла побач, а калі ён змоўк, сказала:

— Я б ніколі не адважылася падарожнічаць у падводнай лодцы.

— Я раз спрабаваў, — засмяяўся Друцкі, — і паўтараць не маю ніякага жадання.

— Там душна, праўда?

— Не тое каб. Проста чалавек адчувае сябе зняволеным, не гаспадаром самога сябе. Зрэшты, калі гаварыць пра мой выпадак, пад канец было душна.

— Не хапіла кіслароду? — пыталася Юлька.

— Так. У нас тады быў другі афіцэр, хворы на насмарк. А хто хоча бяспечна правесці лодку у порт Баія[1], плывучы на адлегласці трыццаць пяць футаў пад вадой, таму, праўда, можна хварэць на насмарк, але чхаць нельга.

— А ён чхнуў?

— Менавіта.

— Я не разумею, пан Янэк, як гэта магло пашкодзіць?

[1] Баія (*партуг.* «бухта») — адзін са штатаў Бразіліі, размешчаны ва ўсходняй частцы краіны на ўзбярэжжы Атлантычнага акіяна.

— Хм… калі вы шыеце, а падчас гэтага раптам чхняце, можа здарыцца так, што іголка трапіць у палец?

— Ага!

— Дык вось, нос нашага карыта трапіў у адну з падводных скал, якіх, чорт ведае чаму, там хапае, хоць усё ўзбярэжжа плоскае, як блюда. Карыта ўтульна ўселася сабе на пясок і не хацела рухацца. Нас было чатырнаццаць, і хоць кожны набіў сабе, дарэчы, добрага гуза, мы зразумелі, што чакаць на дне няма чаго…

— Відаць, ужо час вяртацца, — перарвала Аліцыя.

— І як жа вы ратаваліся? — пыталася Юлька, з задавальненнем канстатуючы, што пан Янэк не заўважыў, проста не заўважыў каментарыя Аліцыі.

— Ну, паднялі люк. А калі чалавек лёгка адштурхнецца ад палубы, то вылятае ўверх, як корак…

— Аж на паверхню мора?

— Калі б так, мая малышка! Выскоквае як мінімум на дзесяць футаў над паверхняй, быццам выстралены з гарматы. Дык вось, дно ў гэтым брыдкім заліве страшна глеістае, першая частка дарогі нагадвае сапраўдны суп, а потым ужо нічога не бачна, пакуль чалавек жыватом не ўпадзе на паверхню. Найгорш тое, што ў выніку розніцы ціску ледзь не траціш прытомнасць, калі душа ўвогуле не адлятае прама ў неба. Мы ўсе выскачылі, але не ўсім удалося…

— Вяртаемся, — рэзка перарвала Аліцыя, — скажыце мне, калі ласка, колькі часу?

— Што? — нібы апрытомнеў Друцкі. — Ага, дзесяць дваццаць.

— Ну, ужо час вяртацца. Як вы думаеце, мне пасля ўчарашняга не пашкодзіць плаванне?

Друцкі быў перакананы, што не, і прапанаваў Аліцыі сваю кампанію. Юлька заўважыла, што яго абразіла навязаная змена тэмы і што Аліцыя зрабіла гэта дэманстратыўна, бо ў самой на руцэ быў гадзіннік.

Таму, калі яны вярнуліся ў «Гадзіву», Юлька ў рэкордным тэмпе пераапранулася, дзякуючы чаму зноў выйграла некалькі хвілін сам-насам з панам Янкам.

— Я так рада, — сказала дзяўчына, — што сёння шторм.

— І мне падабаецца.

— О, я думаю пра другую палову дня… Пакатаемся на машыне, праўда, пан Янэк?

— Пакатаемся. Паедзем сёння аж на край Тухольскіх бароў[1]. Там, падаецца, вельмі прыгожа.

— Так, і ніхто не будзе перашкаджаць мне вас слухаць!

Друцкі кашлянуў і нічога не сказаў.

— Я не разумею Алю, — гаварыла нібыта сабе Юлька, — яна сёння так сябе паводзіла, нібыта… Чаму яна такая чэрствая?.. Яна выглядала так, быццам…

На лесвіцы загучалі крокі Аліцыі, і Юлька змоўкла.

Дзьмуў моцны паўночна-заходні вецер, расхінаючы іх купальныя халаты. На пляжы было яшчэ няшмат людзей. Мора грукатала. На ўсёй прасторы як кінуць вокам яно было нібы ўзаранае, у агромністых барознах, з пенай на грэбнях хваль, здавалася гнеўным, панурым, узбунтаваным.

Нягледзячы на гэта, Аліцыя вырашыла паспрабаваць плаваць, і яны з Друцкім даволі значна аддаліліся ад берага. Юлька, лежачы на пяску, то губляла іх з поля зроку, то знаходзіла сінюю шапачку Аліцыі і бронзавыя плечы пана Янка.

— Добры дзень, пані, — пачула дзяўчына за сабой голас доктара Лазінскага. — Як жа справы ў вашай сястры?

---

[1] Тухольскія бары — буйны лясны масіў, цяпер нацыянальны парк, у раёне горада Тухоля на поўначы Польшчы ў міжрэччы Брды і Вды.

— Дзякуй вам, вы маеце на ўвазе маю кузіну, якую ўчора ратавалі?

— Ах, гэта кузіна? Ну канечне, вы ж непадобныя адна да адной. Якая прыгожая жанчына!

— Вельмі прыемна, — пакрыўдзілася Юлька.

Доктар засмяяўся.

— Я гэтым хацеў сказаць, што вы належыце да розных тыпаў. Дык дзе ж ваша кузіна?

Юлька неахвотна носікам указала на мора.

— Я бачу, што страціў вашу ласку, — уздыхнуў доктар.

— Можна страціць толькі тое, што мелі, — адказала дзяўчына.

— А якім чынам яе можна займець?

— Трэба пастарацца.

— Думаю, вы памыляецеся. У мяне ёсць прыяцель, надзвычай прыстойны хлопец. Мы працуем у адной бальніцы. Ён на галаве стаяў, стараючыся заслужыць ласку адной жанчыны, якую кахае, як вар'ят. Са скуры лез — і нічога. Я не раз яму казаў: «Уладэк, супакойся ты!» А ён усё ўздыхаў, аднак, што было прадказальна, яму далі ад варот паварот. Так, шаноўная, старанні нічога не далі. Трэба, каб шанцавала.

— Вы, доктар, лічыце, — запыталася Юлька, — што наадварот, ніякія старанні не дапамогуць?

— Як гэта, наадварот?

— Ну, напрыклад, якая-небудзь жанчына хацела б выклікаць пачуцці ў мужчыны.

Юлька, гаворачы гэта, зачырванелася аж да бялкоў вачэй.

Доктар Лазіньскі ўсміхнуўся.

— Здагадваюся, што вы не пра сябе гаворыце.

— Вы брыдкі, — крыкнула дзяўчына, але тут жа дадала: — Я думаю якраз пра сябе і пра вас.

— Калі так, то ўсё ўжо ў парадку.

— Не, — зморшчыла яна носік, — гэта надта хутка. Я люблю адчуванне няпэўнасці.

— Згодны і на гэта. У мяне ў запасе столькі няпэўнасці! Адна большая за другую.

Жартаўлівы настрой доктара развесяліў і Юльку. Калі Аліцыя і Друцкі вярнуліся на бераг, яны засталі іх у гуморы.

Пасля абеду Юлька заявіла, што яна адступіць ад свайго распарадку дня і не застанецца ў сваім пакоі дзеля гадзіннай сіесты. Ёй хацелася прадоўжыць прагулку з панам Янкам, і як толькі яна ўпэўнілася, што Аліцыя згодная, то адразу пачала прыспешваць пана Янка.

— Што ж табе так карціць? — абыякава спыталася Аліцыя.

— Нам сёння прадбачыцца доўгая дарога, і я не хачу, каб ты чакала нас на вячэру.

— Можаце не вельмі спяшацца. Я сёння атрымала з Варшавы адну справу і павінна буду яе праштудзіраваць.

Пад вокнамі прагучаў сігнал аўтамабіля, і Юлька выбегла.

— Сёння моцны вецер, малышка, — сказаў ён, — можа, вы ўзялі б якоенебудзь паліто?

— Не. Мне цёпла.

— Вечарам можа быць халадней.

— Чаму ж тады вы не бераце пінжак?

— У мяне ногі і рукі не голыя. Зрэшты, калі вам стане холадна, то будзе вам навука на іншы раз.

Машына рушыла.

— Калі мне стане холадна, то... вы мяне прытуліце і абагрэеце.

Друцкі зрабіў выгляд, што не чуе, і павялічыў хуткасць.

— Добра? — патрабавала адказу дзяўчына.

— Што? Нічога не чуваць! — кінуў Друцкі і адкрыў глушыцель.

Цяпер ужо і сапраўды нічога не было чуваць, Юлька, аднак, не здавалася і, ледзь не прыкладаючы вусны да яго вуха, закрычала:

— Будзе чуваць, калі вы закрыеце глушыцель.

— Асцярожна! Не абапірайся на мяне, малышка, бо я яшчэ ўрэжуся ў дрэва.

Для ілюстрацыі небяспекі Друцкі закруціў рулём, і машына выпісала на шашы некалькі зігзагаў.

Юлька зрабіла выгляд, што пакрыўдзілася, і сядзела ціха. Яна, аднак, не магла доўга трываць і, як толькі ён на яе паглядзеў, дзяўчына гулліва ўсміхнулася.

— Ну, памірыліся, — сказала яна і ўзяла яго свабодную руку. Паціснула яе, паклала на свае калені і пачала гладзіць, лёгенька, чула, пяшчотна.

Калі рука здрыганулася і Друцкі хацеў яе прыбраць, Юлька паклала на яе свае далоні, і ў гэтым дакрананні было столькі просьбы, што ён вымушаны быў скарыцца.

Праз тонкі шоўк сукенкі ён адчуваў цяпло яе цела, па паверхні далоні павольна рухаліся тонкія пальцы Юлькі, на дзіва далікатныя, якія, здавалася, кожным нязначным рухам гаварылі пра сваю радасць, пра глыбокае сузіранне маленькай долі шчасця.

Аўто праехала зараснікі і апынулася на вольнай прасторы хвалістых верасовых палёў. Тут дарога за чырвоным домікам плаўна зварочвала і рэзка ўздымалася ўгару стромкім серпанцінам. Трэба было пераключыцца на першую перадачу, і Друцкі, шчыра ўсміхнуўшыся Юльцы, забраў руку.

Яна, нерухомая, сядзела ціха. Аўто павярнула і зноў паехала па раўніне, тут і там парослай купкамі сосен і елак, фарпостамі чорнага лесу.

— Вось і пушча, — гучна сказаў Друцкі.

Ён паменшыў хуткасць, калі яны ўехалі ў цёмны калідор, закрыў глушыцель.

— Калос! Каля трох тысяч квадратных кіламетраў лесу. Некалі, вельмі даўно, я паляваў тут на дзікоў. Прыгожы лес?

— Прыгожы і такі ж шумны, як мора, — сказала Юлька. — Ноччу тут павінна быць страшна.

— Калі тут нічога не змянілася, то мы знойдзем адну добрую палянку… Яна падобная да калодзежа з выпуклым дном. Недалёка налева павінна ісці вузкая лясная дарога.

Некалькі хвілін яны ехалі моўчкі.

— Вось яна! — усклікнуў Друцкі. — У мяне, аднак, нядрэнная памяць.

Ён павярнуў. Цяпер яны ехалі па вузкай крутой дарозе, на якой колы машыны час ад часу падскоквалі, трапляючы на карані.

— Што, трасе? — спытаўся Друцкі.

— Крышку, — адказала Юлька, падскокваючы, як мяч.

— Мы амаль прыехалі, — спыніў ён машыну, выскачыў і дапамог Юльцы выйсці. — Тут пахне жывіцай. Ну, хадзем.

Друцкі ішоў наперадзе ледзь бачнай сцежкай, пратаптанай звярамі ў гушчыні ядлоўцу. Яны ўздымаліся па сцежцы, а ядловец радзеў. Затое зямлю пакрываў усё больш тоўсты, мяккі і пругкі мох. Высакаствольныя сосны, расхістаныя да паловы сваёй вышыні, утваралі над імі рухомы дах.

— Мы прыйшлі, — Друцкі павярнуўся да Юлькі, — вось наша палянка.

— Наша? — спыталася яна.

— Ну, тая, якую мы шукалі.

Гэта быў свайго роду курган, які падымаўся выгнутым конусам. У сярэ-

дзіне была закругленая скала, вакол змыкаўся лес, сапраўды ўтвараючы нешта накшталт калодзежа шасці або сямі метраў у дыяметры. Узгорак і камень, пакрытыя шарсцістым сівым мохам, рабілі ўражанне аазіса ці вострава.

— Асталёўваемся тут, — сказаў Друцкі.

Ён сеў на камень і ўказаў Юльцы на месца побач.

— Я хачу тут, — пакруціла яна галавой і легла перад ім на мох, падклаўшы далоні пад галаву.

Друцкі моўчкі курыў.

— Я б хацела, — пачала Юлька, — усё жыццё гэта месца называць… нашай палянай… Нашай, значыць, не вашай і маёй, а Нашай… Я толькі баюся, ці захочаце вы, не… ці зможаце вы, ці зможаце быць такім велікадушным і дазволіць мне гэта.

— Я магу нават яе называць палянкай малышкі Юлькі, — пажартаваў Друцкі.

— Гэтага мала… гэтага вельмі мала, — сумна сказала яна, — гэта так, нібыта з літасці да гэтай беднай Юлькі, смешнай, дурненькай дзяўчыны… Своеасаблівае адчэпнае за тое, што я рашылася ахвяраваць вам такую танную і непатрэбную рэч, як… усе свае пачуцці…

Друцкі глянуў на яе. Юлька знарок ляжала з заплюшчанымі вачыма, бледная, як палатно.

— Юлька!

— Але гэта ўсё, што ў мяне ёсць, — гаварыла яна, нібыта не чуючы яго ўскрыку, — і таму, магчыма, мне гэта маё каханне падаецца скарбам… Непрынятым, непатрэбным… нават незаўважаным…

— Юлька! Што ты лапочаш! Мы ж сябры!

Ён бачыў, што яна хоча нешта сказаць, але вусны яе дрыжаць, а ў куточках яе закрытых павекаў блішчаць слёзы.

— Маленькая, ну, мая малышка, чым я заслужыў, што ты мне гэта гаворыш?

— О, я ведаю, — запярэчыла яна, — ведаю, што вы мне загадваеце маўчаць, што я бессаромная, навязлівая… што я подлая…

— Дзяўчо, ты звар’яцела?! — абурыўся Друцкі.

— Так, так, подлая. Бо я ведаю, што вас кахае Аліцыя, Аліцыя, якой я абавязана бясконца дзякаваць… Я подлая… Але я так шалёна, так бязмерна вас кахаю… Я жыву толькі мараю пра вас… Я павінна была, павінна была гэта вам сказаць… Таму што я страшна бяссільная, страшна бездапаможная… Што ж мне было рабіць, калі я так вас кахаю?..

Голас яе змяніўся шэптам і сціх. Па бледных шчочках пачалі сплываць слёзы.

Гэта было мацней за Друцкага. Горла ў яго перасохла, у лёгкіх ён адчуў амаль фізічны боль.

Ён ускочыў, схапіў яе ў абдымкі, панёс, бездапаможную, прытуліў і пачаў асыпаць бледны, заплаканы твар Юлькі гарачымі, шчырымі пацалункамі. Валасы, лоб, вочы, вусны — ён аж адчуў салёны смак слёз… Друцкі калыхаў яе на руках, як дзіця.

— Ціха, ціха, мая малышка, ціха, — паўтараў ён, хоць яна і так плакала ціхенька.

Яе рукі аплялі яго шыю, вусны прыніклі да вуснаў. Не адпускаючы яе, ён сеў на мох. Юлька моцна прытулілася да яго, з усіх сіл.

— Мой каханы, мой адзіны… — паўтарала яна, наблізіўшы свае вусны да яго шчакі.

— Ціха, мая малышка, ціха…

Так яны сядзелі доўга. Друцкі першы раз у жыцці не ведаў, проста не ведаў, што яму рабіць з маладой, прыгожай дзяўчынай, якую ён трымаў у руках. Яму

нават і ў галаву не прыходзіла, што ён мог бы зрабіць так, як заўсёды рабіў у падобных выпадках. Чаму? Ён не мог сабе гэтага растлумачыць. Ён атрымліваў задавальненне ад блізкасці гэтай свежай духмянай істоткі, знаходзіў невытлумачальную радасць у тым, што так натуральна, так проста яна выбрала яго, што адарыла менавіта яго сваімі прыгожымі пачуццямі. Аднак… ён не ведаў, чаму нерухома сядзіць, чаму ён расчуліўся і захваляваўся, чаму шукае іншых шляхоў і тлумачэнняў, чым звычайна… Аліцыя?.. Ён аж здзівіўся, што гэта імя выплыла зараз у яго свядомасці… Прычым тут Аліцыя?..

Калі б не боязь якога б ні было руху, ён бы перасмыкнуўся. О не, дзіўна чужой і далёкай падалася яму ў гэты момант тая жанчына, на дзіва беспадстаўнымі прэтэнзіі да яго вернасці. Таму што яна апякунка Юліі?.. Гэта не мае значэння. Ён цалкам усведамляў, што ніводзін з гэтых матываў не стрымліваў яго, не здолеў бы стрымаць. Тады што?..

«Можа, тое, што я так моцна люблю гэтую малышку? — падумаў ён. — Я яе, тысяча чарцей, вельмі люблю!»

Гэтая разгадка загадкі яго ўчынкаў не задаволіла, але, не ў сілах знайсці іншую, ён здаўся.

— Пан Янэк, — ціхенька прамовіла Юлька, — вы не ўяўляеце, якая я шчаслівая, вельмі шчаслівая… Я так шмат думала пра падобную хвіліну… Нічога б не прагнула болей, чым каб толькі так было заўсёды…

— Апамятайся, малышка, — пажартаваў Друцкі, — можа пайсці дождж!

— Хай ідзе. Ох, пан Янэк… — яна раптам спынілася і скончыла сумным голасам: — Вы мяне ніколі не пакахаеце.

— Юлька! Падумай, навошта табе такі стары хлам?

— О, няпраўда!

— Я мог бы быць тваім бацькам. Вы ведаеце, я мог бы быць вашым бацькам? А?..

— Гэта не мае значэння, — горача запярэчыла дзяўчына.

— Гэта многа значыць, мая малышка, многа!

— Зразумела. Я вельмі інфантыльная, надта неразумная…

— Так, але толькі таму, што ты так гаворыш…

— Калі б я была такая разумная і прыгожая, як Аліцыя, тады б магла спадзявацца, што вы мяне пакахаеце, як яе…

Друцкі задумаўся, а Юлька, палічыўшы яго маўчанне прызнаннем слушнасці яе слоў, спыталася дрыжачым голасам:

— Скажыце мне, скажыце мне шчыра…

— Што?

— Я хачу, каб вы мне шчыра сказалі, каб хоць гэтым адказалі мне ўзаемнасцю за тое, што я гатова вам адкрыць усю сваю душу…

— Добра, мая малышка, скажу табе шчыра пра ўсё, пра што спытаеш.

Юлька паглядзела яму ў вочы. Яны былі сур'ёзныя і сумныя.

— Пра ўсё?

— Табе… табе пра ўсё, — запэўніў ён і раптам зразумеў, што гэтай юнай дзяўчыне, ёй адной ва ўсім свеце мог бы расказаць усё, зразумела!.. Хацеў бы!.. Ён не змог растлумачыць сабе прычыну гэтага поўнага даверу, аднак ведаў, што ні на момант бы не завагаўся.

Юлька, аднак, думала пра штосьці іншае:

— Тады добра, — гаварыла яна хуткім шэптам, — добра. Скажыце мне, Аліцыя — ваша каханка?

Дзяўчына чакала, затаіўшы дыханне.

— Так, — коратка і цвёрда адказаў Друцкі.

— А-а-а! — з Юлькі вырваўся жаласны крык. Яна была ўпэўнена ў такім адказе, але як жа яна прагнула адваротнага!

Усё было страчана…

— Скажыце мне яшчэ… ці, ці… вельмі вы яе кахаеце?

— Ці ж я ведаю, мая малышка? — задумаўся Друцкі. — Можа, і кахаю. Па меншай меры, раней мне здавалася, што кахаю…

Юлька вырвалася з яго рук і глядзела на яго шырока адкрытымі вачыма.

— Як гэта, здавалася?

— Ну, я так думаў. Гэта вельмі складаныя рэчы…

— Дзіўныя, — сказала Юлька.

— Ёсць шмат дзіўнага, настолькі, што калі б чалавек не махнуў рукой на здзіўленне гэтым дзівосам, то сам бы стаў дзіваком.

— Але ж яна кахае!

— Відаць, так.

— А вы, вы яе так не кахаеце, так моцна не кахаеце, як яна вас?

Друцкі пацiснуў плячыма і маўчаў.

Юлька закусіла вусны. У яе галаве таўкліся думкі.

Яна старалася зразумець, аж нарэшце яе прарвала:

— Гэта немагчыма! Вы ўсё ж павінны ведаць, ці кахаеце яе! Вы, напэўна, ужо не раз кахалі, у вас ёсць з чым параўнаць. Я ведаю, вы хочаце мяне аберагчы ад непрыемнасці і таму вы са мной не шчырыя!

— Панна Юлька, — спакойна адказаў Друцкі, — я абсалютна шчыры. Вы сказалі, што я не раз кахаў. Гэта няпраўда… Я заўсёды любіў і заўсёды люблю, я люблю свет, люблю тое, што ён мне дае і што я ў ім магу атрымаць. Я не ўмею прыгожа гаварыць, мая малышка. Я ведаю некалькі моў, але ўсе яны разам не маюць такіх слоў, якімі заўсёды можна было б выказаць любое пачуццё і любую думку. Я, па меншай меры, не магу знайсці гэтых слоў. Я табе кажу, што люблю жыццё, што люблю свет — у гэта я веру, бо адчуваю гэта кожным нервам. Значыць, я, можа, і любіў жанчын, якія прайшлі праз гэты мой свет, а можа, любіў толькі свет, у якім былі і яны. Не ведаю.

Друцкі падпёр рукой галаву і засмяяўся:

— Зрэшты, ці ёсць дакладная назва, якой мы акрэсліваем тое, што адчуваем? Я бачыў людзей, якія, на гадзіну спазніўшыся на абед, казалі, што паміраюць ад голаду, і таксама такіх, якія, не маючы нічога ў роце тры дні, урэшце запэўнівалі, што з задавальненнем бы што-небудзь з’елі.

— Гэта праўда, — сказала Юлька, — аднак я ведаю без усялякіх сумненняў, што вас кахаю больш за ўсё і за ўсіх на свеце… І таксама ведаю, што я не вартая вашага кахання…

— Не нясі глупства, — раззлаваўся Друцкі.

— Так, — ціха прамовіла дзяўчына.

— Малышка мая! Думаю, ты не сумняваешся, што я цябе вельмі люблю? Шмат, вельмі шмат я гатовы зрабіць для цябе. Але не трэба надта радавацца. Я недзе прачытаў вельмі разумную фразу, што сённяшні дзень — гэта павелічальнае шкло, праз якое ўсё выглядае значна большым і важнейшым, чым на самай справе. Таму мудрыя людзі даюць ацэнку розным рэчам назаўтра або праз яшчэ даўжэйшы прамежак часу.

— Можа, яно і так, але я ў гэта не хачу верыць. Я павінна быць няшчаснай.

— Вельмі неразумна! — абурыўся Друцкі.

— А калі мне добра з гэтым няшчасцем. Не смейцеся з мяне. Сапраўды, добра. Я хачу толькі аднаго, каб вы дазволілі мне сябе кахаць, каб я магла вас бачыць… Гэта ж так нямнога… Гэта ж так нямнога, праўда?

Зноў у яе вачах былі слёзы.

— Хадзі сюды, малышка, — сказаў Друцкі.

Ён пасадзіў яе на калені і гладзіў па валасах, як малое дзіця. Юлька тулілася да яго і дрыжала ўсім целам.

— Усё добра, мая маленькая дзяўчынка, — гаварыў ён, — але памятай, што найперш мы сябры, добрыя сябры.

— Так, так, — шаптала Юлька.

— Ну, а цяпер час вяртацца! — неспадзявана ўскрыкнуў Друцкі, падкінуў Юльку ледзь не на метр уверх, злавіў у паветры і паставіў на зямлю.

— Ой! — крыкнула яна і рассмяялася.

Яны сышлі з пагорка, трымаючыся за рукі.

— Цяпер гэта сапраўды наша палянка, — сказала Юлька з пытальнікам у тоне.

— Наша, наша. Твая і мая, — пацвердзіў Друцкі.

Дзяўчына яшчэ раз закінула рукі яму на шыю і пацалавала ў вусны.

Машыну на працягу паўкіламетра трэба было весці заднім ходам, таму што на вузкай дарожцы пра разварот не было і размовы.

Калі яны выязджалі з лесу, сонца ўжо зайшло і стала халадней.

— Табе не холадна, малышка?

— Крышачку.

— Тады падсунься да мяне.

Юлька з гатоўнасцю скарысталася гэтай парадай. І паколькі Друцкі, як заўсёды, вёў машыну адной рукой, Юлька ўхапіла другую.

Калі б не гучнае вуркатанне матора, ён бы напэўна чуў ціхія, пяшчотныя словы, якімі дзяўчына абсыпала яго далонь, прытуляючы яе да вуснаў і грудзей. Калі яны ўязджалі ў пасёлак Хель, трэба было ўжо ўключыць фары.

**Заканчэнне ў наступным нумары.**

***Пераклад з польскай Веранікі БАНДАРОВІЧ.***



Ірына ЧАСНОК

# ІНТЭРФЕРЭНЦЫЯ ЛЕТАПІСНАЙ СТЫЛІЗАЦЫІ І РАМАННАГА АПОВЕДУ Ў «КАМАРОЎСКАЙ ХРОНІЦЫ» МАКСІМА ГАРЭЦКАГА

Пісьменнік М. Гарэцкі — надзвычай яскравая і важная постаць у беларускай культуры, з няпростым, трагічным лёсам. Аўтар, захоплены нацыянальнай літаратурай, імкнуўся стварыць разнастайнасць у айчыннай прозе, спяшаўся даць чытачу-беларусу ўзоры розных жанраў. Такая ж шматграннасць назіраецца і ў наратыўнай культуры М. Гарэцкага, чыя творчасць увабрала ў сябе вельмі розныя аповедныя тэхнікі.

«Камароўская хроніка» — найбольш складаны мастацкі тэкст пісьменніка ў жанравым плане. Гэтаму твору было аддадзена шмат увагі даследчыкаў. У паслясавецкім гарэцказнаўстве да аналізу кампазіцыі «пяцікніжжа» звярнуўся М. Мушынскі [4, с. 461]. І. Чыгрын адзначыў істотную сувязь «Камароўскай хронікі» з папярэднімі творамі пісьменніка [5, с. 67]. Л. Корань (Сінькова) падкрэсліла парушэнне эпічнай дыстанцыі праз асабістасць і біяграфічнасць [3, с. 59].

Нягледзячы на той факт, што М. Гарэцкі не паспеў здзейсніць усе свае задумы па дапрацоўцы «Камароўскай хронікі», можна пагадзіцца са словамі А. Адамовіча, што гэты тэкст цэласны і нават мае эстэтычную завершанасць [1]. Адметны ён і ў плане нарацыі.

У цэнтры любога наратыву знаходзіцца пэўная гісторыя. У дадзеным выпадку ў творы вылучаецца гісторыя Камароўкі і камароўцаў — як агульнай супольнасці, а таксама гісторыя Задумаўскай сям'і (Ганны, Лявона (Кузьмы), Лаўрыка, Марылькі і інш.) — больш прыватная. Аб'ектам нарацыі выступае мінулае.

У пачатку «Камароўскай хронікі» наратар (пасярэднік паміж аўтарам і апавядальным светам [6, с. 11]) акрэслівае асноўнае месца — прастору, з якой звязана шмат падзей у творы. Адразу бачым аўтарскае і наратарскае імкненне падкрэсліць значнасць гэтага месца: «На адной геаграфічнай мапе, складзенай за часы Кацярыны, — значыцца, у блізкім часе пасля далучэння краю да Расіі (1772), — няма ні П'янава, ні Палянкі, хоць яны большыя за Камароўку, а Камароўка, хоць яна меншая, паказана» [2, с. 7]. Бачым узвелічэнне лакальнага.

Па летапісным прынцыпе апісваецца Задумаўскі род: як і хто ад каго нараджаўся, як жылі, якія мелі характары. Відавочнай робіцца пэўная стылізацыя нарацыі пад вясковае камароўскае маўленне, інтанацыя апавядальніка размоўная: «Яны спярша нічога жылі, сад у іх вялікі быў, а пасля збяднелі. Пасагу за жонкаю Тамаш не ўзяў, дый не давалі тады пасагу, — так пасаблялі, чым маглі: у рабоце, хлебам…» [2, с. 22]; «у Быстрыцу чуць і не аддалі, праз пасаг рассохлася» [2, с. 43]. Размоўнасць і хранікальнасць, як ні дзіўна, арганічна спалучаюцца ў творы.

Часта наратар праз прыватнае пераходзіць на агульнае — з жыцця камароўцаў на асэнсаванне таго часу ў гісторыі: «І пасля прыгону, яшчэ доўга, усе людзі жылі ў вялікай беднасці» [2, с. 12]. Пасля да гэтай высновы дадаюцца пэўныя прыватныя прыклады: дзеці Саўка і Палута былі вымушаны пайсці служыць з малых гадоў.

Увесь тэкст разбіты на датаваныя фрагменты, у залежнасці ад часу падзей, якія адбываліся. Для самога Гарэцкага і для абстрактнага аўтара ў творы важна

падаць вельмі дакладную, пэўную гісторыю. Нярэдка адлік ідзе ад ці да важных гістарычных падзей. Напрыклад, «(1903—1911) Адзінаццаць гадоў. Да вайны» [2, с. 47].

Інфармацыя падаецца наратарам з пункту гледжання асобы, падобнай да вяскоўца, жыхара Камароўкі, хоць наратар і не самапрэзентуецца адкрыта.

Разам з тым, ёсць моманты, дзе бачым, што кругагляд наратара больш шырокі: «Многія, і старыя, і хлопцы, і дзяўчаты дэкламуюць верш Мацея Бурачка, а хто напісаў — не ведаюць» [2, с. 67]. Такім чынам, сам наратар дэманструе сваё веданне.

Апавядальнік валодае той інфармацыяй, якой павінен валодаць жыхар Камароўкі: «празвалі Саўку "Тужыкам". Што — усё аб усім тужыў» [2, с. 15], «Другім сведкам ад паноў быў п'янаўскі мужычок Міхей Сучачка, празваны так за тое, што любіў пайсці да паноў і нашаптаць ім на людзей, каб убіцца ў панскую ласку» [2, с. 16].

Наратар транслюе не толькі веданне, звязанае з адной сям'ёй ці нават простымі вяскоўцамі, але і тое, што тычыцца мясцовых паноў. Падрабязна пералічваюцца панскія дочкі і ў адным абзацы акрэсліваецца іх лёс. Калі б у творы не ставілася мэта такой усеахопнасці, то гэтая інфармацыя магла б падацца лішняй, абцяжарвальнай для тэксту.

У аповед, калі выкладаецца гісторыя пакаленняў сялян, уводзяцца фальклорныя забабоны. Напрыклад, калі цяжарная жанчына будзе апранацца ў чыстае — анёл прынясе яе дзіцяці чыстую душу, а калі будзе хадзіць у брудным — брудную. Распавядаецца пра сурочлівыя вочы пані Нерадзіхі.

Дзеці так хутка нараджаюцца ў «Камароўскай хроніцы», героі так часта паміраюць (бо іх шмат, некалькі пакаленняў, некалькі сем'яў), што нараджэнне і смерць у большасці выпадкаў не з'яўляюцца падзеямі ў плане нарацыі. З пункту гледжання тэорыі, падзейнасць з'яўляецца абавязковай катэгорыяй для любой нарацыі. Саму падзею В. Шмід вызначае як змену зыходнай сітуацыі: ці знешняй сітуацыі ў апавядальным свеце, ці ўнутранай сітуацыі таго ці іншага персанажа [2, с. 13]. Паводле даследчыка, цыклічныя з'явы, да якіх усе прывыклі, у наратыве да падзей не адносяцца.

Памірае Мар'ечка, сямігадовы Раман, першая Ганніна Марынка… Паказаны бясконцы шэраг смерцяў. Памірае Кузьма Батура, Адарка Бондарыха; «…чалавек сем памёрла — хлопчыкаў і дзяўчат» (чалавек сем — падкрэсліваецца звыкласць) [2, с. 52].

Хтосьці нараджаецца, а хтосьці адыходзіць у іншы свет. Адзін з раздзелаў нават мае назву «Смерць Ляксейкі і Аўгінніна вяселле». Усе такія здарэнні — звычайны ход жыцця, яны не нясуць асаблівай перамены для астатніх. Перадача ж гэтага жыццёвага цыкла ў Камароўцы, паводле А. Адамовіча, служыць паэтызацыі сялянскага роду [2, с. 313]. Сапраўды, у творы М. Гарэцкага гучыць адсылка да міфалагічнага, цыклізаванага ўспрыняцця часу.

У цэлым жа «Камароўская хроніка» — выдатны прыклад дакументальна-мастацкай формы, так званай «непрыдуманай» літаратуры. У аўтабіяграфічных творах гаварыць пра «смерць аўтара» (паняцце Р. Барта) або пра абсалютную незалежнасць наратара ад поглядаў пісьменніка не выпадае. І, канешне, калі прататыпам Лявона (і Кузьмы) з'яўляецца сам Максім Гарэцкі, то і атрымліваем у выніку пункты гледжання наратара і аўтара — як ацэнку сябе збоку, успрыняцце і аналіз свайго жыцця, паводзінаў, учынкаў звонку.

Калі ў аповед уводзяцца Лявон (ён жа Кузьма), Лаўрык, Марынка, маці Ганна — ім адводзіцца больш увагі ў тэксце, як іншым персанажам. Нават Пракопу (Марціну), роднаму брату пералічаных герояў, наратар не надае столькі ўвагі.

Лявон 11-гадовы, Лявон, якому ўжо 16-ы год ішоў… А вось ён ужо захапіўся беларускай мовай [2, с. 59], друкуецца ў «Нашай Ніве» [2, с. 68], працуе каморні-

кам, ідзе па прызыве, ваюе 10 месяцаў, хварэе, уладкоўваецца на сталую працу ў газету... Бачым сталенне ключавых герояў, усё іх жыццё

Часам хранікальнасць і фіксаванне асобных момантаў прыводзіць да вельмі адметнай выбаркі, калі акцэнтуецца ўвага на момантах, здавалася б, нязначных у эпічным паказе. Напрыклад, Лявон чуе, як настаўнік Мудрык агучвае слова «рэспубліка», а людзі пачулі як «рэж публіку». Яго брат Лаўрык атрымаў у школе 5 за работу па творчасці Пушкіна… Сам М. Гарэцкі падчас напісання твора карыстаўся ўласнай памяццю ў якасці першакрыніцы, а не столькі мастацкай выдумкай. І гэта прывяло да такога, на першы погляд, даволі суб'ектыўнага, калейдаскапічнага адбору інфармацыі ў агульным панарамным малюнку.

Не забываецца наратар зафіксаваць нават гісторыі герояў, якія не нясуць для Камароўкі нічога важнага: Хвядос Рагавы з маткай прыязджаюць у вёску ў госці. А далей наратар абавязкова раскрывае іх лёс: «Пасля таго паехаў ён у Сібір. Жыў у Хабараўску, у Благавешчанску, перабраўся на Сахалін і там і пагінуў (1928)». У такіх фрагментах іншыя месцы, апрача Камароўкі, падаюцца пункцірна.

Але далей у тэксце прастора па-сапраўднаму пашырыцца, калі за межамі вёскі ўжо апынуцца цэнтральныя персанажы. Наратар перамяшчаецца ў Пскоў і іншыя гарады ўслед за Кузьмой. У тэкст уключаецца дзённік Пракопа — з Каўказа.

Надзвычай важнымі элементамі з'яўляюцца ўстаўкі з дзённікаў герояў, лісты. Яны ўжо дазваляюць пабачыць персанажаў не з пункту гледжання наратара, які глядзіць звонку, а пабачыць кожнага з іх знутры, не з пазіцыі часавай дыстанцыі — а з пазіцыі моманту. Гэта дае магчымасць паказаць жыццё ў розных ракурсах.

Хранікёрам фіксуецца не толькі асноўнае ў жыцці вяскоўцаў, але і пэўныя дэталі, якія дазваляюць яшчэ бліжэй пабачыць той час і герояў: які каму далі пасаг, прычынна-выніковыя сувязі пэўных падзей і паводзінаў, колькі калі было сена, колькі пудоў жыта пасеялі, як у які перыяд ішла гаспадарка, колькі вучняў Лаўрыка паступіла вучыцца далей.

Часам увага наратара канцэнтруецца на якімсьці пэўным персанажы, калейдаскапічна пераходзіць да іншага; а часам, каб даць больш агульную карціну ці нагадаць пра астатніх герояў, наратар дае звесткі пра многіх запар у дадзены перыяд: «Жыў Кузьма ў двары ад 3 красавіка да 20 траўня. Бацька быў у Князеўшчыне, Лаўрык вучыўся ў Нізінках, Марынка — у Раздзеле, а Рамана з Бабруйску перагналі ў Менск» [2, с. 84].

Абавязкова адзначаецца наратарам, як пэўныя гістарычныя падзеі адбіваліся на лёсе Камароўкі з яе жыхарамі. Называюцца імёны тых, каго прызывалі падчас вайны, фіксуюцца даты.

Найбольш поўна раскрыты ўнутраны свет Лявона (Кузьмы). Напрыклад: «Сэрца яго ныла па Марусі ці па адсутнасці ідэалаў і ад свядомасці, што робіцца ён грубей, гадзей і драбней» [2, с. 110]. Але і іншыя персанажы раскрываюцца наратарам таксама часам з даволі прыватнага боку. Напрыклад, Лаўрык сніць, што Надзея, якая яму падабаецца, пайшла ў манашкі; пасля паказаны пачатак яго стасункаў з Варай; перададзена, як Марылька знаходзілася ў пошуках сябе [2, с. 141].

У частцы трэцяй (1917—1921 гг.) наратар зноўку асвятляе жыццё братоў па чарзе. «Старэйшы брат, Раман, быў у Смале…» [2, с. 112]; «Другі брат, Кузьма, якому зраўнялася 24 гады» [2, с. 112]; «Трэці брат, Пракоп, якому зраўняўся 21 год» [2, с. 113]; «Чацвёрты брат, Лаўрын, якому канчаўся 17-ты год» [2, с. 114]; «Марынка, якой ішоў 15-ты год» [2, с. 114]. І апавядаецца, як хто з герояў прыняў рэвалюцыю.

Калі Лаўрык, хоць і хацеў, але не напісаў у газету пра дрэнны водзыў з гімназіі Марынкі, «бо не было падмазкі» ў яе [2, с. 115], наратар адзначае: «Шкода, што не напісаў» [2, с. 115]. Відавочна, што ён глядзіць на падзеі і ацэньвае іх з вышыні гадоў.

Падбіраюцца і моманты, якія ў цяперашнім часе падаліся б чалавеку нязначнымі, але пасля пэўных падзей пераасэнсоўваюцца. Наратар апісвае забаўку Кузьмы і яго сястры Марынкі, калі яны відэльцам дзялілі кавалак курыцы: чый кавалак адламаецца — той раней памрэ. І гэты момант важны, бо ўсёведны наратар прадбачыць, што Марынка загіне.

Дзённік Марынкі, нататкі Лаўрыка, Пракопаў дзённік, уключаныя ў тэкст хронікі, паказваюць, чым жывуць героі. Матчын ліст, Марынчыны лісты, лісты да Кузьмы аднавяскоўцаў — уключаецца найбольш дарогае самому пісьменніку-асобе.

Калі ідзе аповед пра Кузьму, даведваемся, якім чынам яго пасадзілі ў турму. Паказана не толькі тое, што адбылося, але наратар падае і інфармацыю, якая стала вядомай самому М. Гарэцкаму пазней, напрыклад, у чым канкрэтна Кузьму абвінавачвалі палякі: «1) Змова з мэтаю перавароту; 2) шпягоўская баявая арганізацыя» [2, с. 190] і г. д. Для наратара важна данесці гэта і праз пэўны час пасля падзеі.

Вышэй мы адзначалі, што смерць у пераважнай большасці выпадкаў у «Камароўскай хроніцы» не з'яўляецца падзеяй. Але ёсць выключэнне. Яшчэ А. Адамовіч заўважыў, што ўсё ў творы мяняецца, паказана зусім інакш, калі ідзе гаворка пра Марынку [1].

Прататыпам гераіні была родная сястра М. Гарэцкага Ганна, якая трапіла пад трамвай. Зноў жа — досвед самога пісьменніка паўплываў на наратыўныя інстанцыі (абстрактнага аўтара і наратара). Паколькі для Гарэцкага смерць сястры стала незагойнай ранай, і ў творы наратарам надаецца шмат увагі вобразу Марынкі, асабліва яе смерці. І ўжо згаданы эпізод з варажбой «хто раней памрэ», і яе сон, калі гераіня бачыць дзве пустыя труны і мёртвую сям'ю. І стаўленне да яе студэнтаў, і верш-эпітафія, уключаны ў твор… Фіксуецца дата, калі гераіні паставілі помнік на могілках. Увага надаецца і таму, як хто ўспрыняў заўчасную смерць дзяўчыны. Гэтая трагедыя ўплывае глыбока і на Кузьму, і на Лаўрыка, і на іншых персанажаў. «Марылю ўва сне шукаю», — разважае Лаўрык. Чытаем ліст ад Лаўрыка, дзе ён піша да Кузьмы, як схадзіў на могілкі ў той дзень, калі па Марылі было акурат пяць гадоў.

І наратар, які быццам збоку падае інфармацыю, і ў час усяго астатняга аповеду быў імпліцытным, недыегетычным (у класіфікацыі В. Шміда [6, с. 46]), не вытрымлівае ды сам звяртаецца да памерлай: «А ты, Марынка, вечны спакой табе, любая, трагічная дзяўчынка!» [2, с. 278].

Яшчэ раз адзначым, што да ўсяго памятнага, звязанага з Марынкай, і сам пісьменнік, і наратар, і абстрактны аўтар, які адказвае за ўсю сутнасць тэксту, ставяцца надзвычай уважліва. Напэўна, таму апавядальнік узгадвае, як Кузьма па дарозе з Марынчынай магілы падцягнуўся на турніку перад маці. І наратар разважае, навошта ён гэта зрабіў, быццам сам шкадуе пра недарэчны ўчынак, неадпаведны моманту.

Моўнае пытанне важнае і для героя Кузьмы, што цікавіцца ўсім беларускім і ўдзельнічае ў беларускім адраджэнскім руху, і для наратара, калі ён агульна і панарамна паказвае, як сяляне рэагавалі на пераход школы на беларускую мову [2, с. 240].

Пад канец недапісанага твора ў Кузьмовых нататках з'яўляецца ўсё больш абрывістасці і фрагментарнасці: «Сусед. Бываліха. Крутагорскі.

Настаўнік з Варны. Жонка цяжарная.

Змена суседа. Кулакі. Прозвішчы. Клапы, вада, хлеб. Лесапілка. Яблыкі, сад. Друкарня. Акно. Нямецкая кніжка, Торглер» [2, с. 275]. Безумоўна, тут і стан самога пісьменніка падчас напісання твора, пагаршэнне яго становішча паўплывалі на нарацыю ў «Камароўскай хроніцы». Аднак адмысловае спалучэнне інтанацый спрадвечнага эпасу і ўжо сучаснага псіхалагізму прачытваецца на працягу ўсяго твора.

Такім чынам, адметнасць нарацыі дакументальна-мастацкай «Камароўскай хронікі» вызначаецца наступнымі рысамі:

1) Кузьма (Лявон), прататыпам якога быў сам пісьменнік М. Гарэцкі, мае абмежаваны пункт гледжання ў творы, а наратар — неабмежаваны. Нягледзячы на стылізацыю і адбор з пункту гледжання наратара як аднавяскоўца-сведкі (хоць ён і эксплiцытны), у тэкст уведзены ацэнкі з пазіцыі часавай дыстанцыі;

2) у творы бачым спецыфічную выбарку момантаў, якія абіраюцца часам узважана, а часам і проста па плыні памяці, асацыятыўна;

3) паслядоўнае ўзвелічэнне лакальнага;

4) запаволенасць аповеднага рытму ў адны моманты (калі ідзе гаворка пра роздумы Кузьмы, пра Марынку, пра Лаўрыка; хуткасць у іншыя (калі апісваюцца радаводы, канстатуюцца звесткі пра вяселлі, нараджэнне, пэўныя смерці);

5) прыём калейдаскапічнасці, шырокая часавая і прасторавая панарама надаюць тэксту сапраўднае эпічнае гучанне;

6) нараджэнне і смерць часта не з'яўляюцца ў творы падзеяй у тым сэнсе, як падзею разумеюць у нараталогіі;

7) нягледзячы на тып наратара-хранікёра, аповед нельга назваць цалкам аб'ектыўным і неэмацыйным;

8) уключэнне лістоў і дзённікавых запісаў ускладняе наратыўную арганіацыю тэксту, аднак цыклічнасць нарацыі ў «Камароўскай хроніцы» (паслядоўнае чаргаванне розных яе тыпаў) аб'ядноўвае ўсе часткі, пераўтварае ў адзінае цэлае;

9) нараталагічны аналіз пацвярджае выснову А. Адамовіча пра цэласнасць і эстэтычную завершанасць «Камароўскай хронікі», нягледзячы на той факт, што пісьменнік не паспеў здзейсніць усе свае задумы па дапрацоўцы гэтага твора.

У «Камароўскай хроніцы» вылучаецца новая для беларускай літаратуры першай паловы XX ст. наратыўная стратэгія — інтэрферэнцыя летапіснай стылізацыі і раманнага аповеду.

## Спіс літаратуры:

1. Адамовіч, А. Каментарыі // М. Гарэцкі. Збор твораў: у 4 т. — Мінск: Маст. літ., 1986. — Т. 4. — С. 310—331.

2. Гарэцкі, М. Збор твораў: у 4 т. — Мінск: Маст. літ., 1896. — Т. 4. — 384 с.

3. Корань, Л. Максім Гарэцкі / Л. Корань // Цукровы пеўнік: літ.-крытыч. арт. — Мінск: Маст. літ., — 1996. — С. 22—65.

4. Мушынскі, М. Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі: жыццёвы і творчы шлях Максіма Гарэцкага // Мушынскі М. — 2-е выд., выпр. і дап. — Мінск: Беларус. навука, 2013. — 543 с.

5. Чыгрын, І. П. Паміж былым і будучым: Проза М. Гарэцкага / І. П. Чыгрын. — 2-е выд., выпр. — Мінск: Беларус. навука, 2003. — 166 с.

6. Шмид, В. Нарратология / В. Шмид. — Москва: Языки славянской культуры, 2003. — 312 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 22 снежня 2017 года.

## Рэзюмэ

**Ірына ЧАСНОК**

### Інтэрферэнцыя летапіснай стылізацыі і раманнага аповеду ў «Камароўскай хроніцы» Максіма Гарэцкага

УДК 821.161.3

У артыкуле разглядаецца нарацыя ў мадэрнізаваным эпасе Максіма Гарэцкага «Камароўская хроніка». Праз сістэмныя асаблівасці нарацыі ў творы вылуча-

ецца інтэрферэнцыя летапіснай стылізацыі і раманнага аповеду. Кузьма (Лявон), прататыпам якога быў сам пісьменнік М. Гарэцкі, мае «абмежаваны» пункт гледжання ў творы, а наратар — «неабмежаваны». Нягледзячы на стылізацыю і адбор з пункту гледжання наратара як аднавяскоўца-сведкі, хоць ён і эксплiцытны, у тэкст уведзены ацэнкі з пазіцыі часавай дыстанцыі. У творы бачым спецыфічную выбарку момантаў, якія абіраюцца часам узважана, а часам і проста па плыні памяці, асацыятыўна.

**Ключавыя словы:** беларуская проза, паэтыка, аўтар, наратар, наратыўная стратэгія, наратыўныя прыёмы, падзейнасць.

## Summary

**Iryna CHASNOK**

### Interferance of the chronicle stylization and novel narration in the text of the «Komarovskaya chronicle» by Maxim Garetsky

In this article the narration is observed in modernized epos of «Komarovskaya chronicle» by Maksim Garetsky. Interferance of the chronicle stylization and novel narration is marked out through the system peculiarities of the tale. Kuzma (Lyavon) whose prototype was M. Garetsky (Gorecky) himself, Kuzma has limited point of view in this work, while the narrator has has an unlimited one. Despite the stylization and choice from the narrator's point of view as a witness − neighbor , inspite the fact that he is explicit, this text includes estimations from the time distance. In this work we can see the specific choice of the moments which sometimes are picked up carefully and sometimes just by the stream of memory, associatively.

**Keywords:** Belarussian prose, poetics, author, narrator, narratire strategy, narrative methods, eventness.



Алена МАРОЗАВА

# РЫСЫ ВІДЭАБЛОГА Ў ВЫПУСКАХ ТЭЛЕКЛУБА «ВЕЦЕР ВАНДРАВАННЯЎ»

Усярэдзіне 90-х гг. ХХ ст. узнік феномен *тэлеперадачы-блога*. Каб ахапіць як мага больш шырокую аўдыторыю, стваральнікі тэлеперадач шукаюць для іх паралельныя шляхі распаўсюджвання: адзін і той жа выпуск можна паглядзець і ў эфіры тэлебачання, і ў інтэрнэце — у яе прыватным блогу.

Блог — гэта веб-сайт, дзе запісы рэгулярна дадаюцца. Характэрна, што ў блогу адначасова існуюць паведамленні ў розных формах — тэкст, фота, відэа, графіка. Пры гэтым у відэаблогу, напрыклад, пераважаюць відэазапісы. Трэвэлблогі (блогі аб падарожжах) *«былі ля вытокаў эры блогінга»* [4, с. 100—101]. Таму нядзіўна, што асабліва шмат перадач-блогаў сёння існуе ў галіне тэлепадарожжаў. Найбольш яскравы прыклад на прасторы Байнэту — гэта «Падарожжа дылетанта», што працяглы час выходзіла на тэлеканале СТБ, а зараз прадстаўлена на партале tut.by са спасылкай на YouTube.

Каб рабіць *інтэрнэт-прыдатныя тэлеперадачы*, трэба ведаць вытокі і асноўныя асаблівасці развіцця перадач-блогаў у Беларусі. Тэлеперадачу «Вецер вандраванняў», што выходзіла на беларускім тэлебачанні з 1965 па 1994 год, можна назваць протаблогам па фармальнай (структура паведамлення) і прагматычнай (асоба камунікатара) характарыстыках, а таксама па яе адносінах да аўдыторыі і камерцыйнай скіраванасці. Разгледзім «Вецер вандраванняў» у параўнанні з найбольш папулярнымі блогамі на прасторы Байнэту і з самымі знакамітымі блогамі аб падарожжах (трэвэл-блогамі) у свеце.

У тэлеперадачы камунікацыя часцей за ўсе двухбаковая і гарызантальна накіраваная — ад тых, хто на экране, — да тых, хто ля тэлевізара. Нават ток-шоу — гэта хутчэй за ўсе — п’еса ў кадры, дзе ёсць свае размеркаваныя ролі: мэта гасцей у студыі — не знайсці ісціну ў агульнай спрэчцы, а данесці сваю пазіцыю да гледача. Блог адрозніваецца ад тэлеперадачы па сваёй фармальнай характарыстыцы, бо вакол яго ствараецца *сетка камунікацыі*: у ім можна пакідаць каментарыі, бачыць, як на іх рэагуюць не толькі аўтары праграмы, але і іншыя гледачы, спрачацца. Можна нават запосціць сваё відэа, або спасылку на свой блог, у адказ на пэўную прапанову. Такім чынам вакол блога гуртуецца супольнасць людзей, заахвочаных адной тэмай, якія імкнуцца публічна выказваць свае погляды. Для прыкладу можна прывесці польскі відэаблог «Гісторыя без цэнзуры». Ён мае больш за паўмільёна сталых гледачоў-падпісчыкаў. Пад кожным відэавыпускам можна ўбачыць дзясяткі каментарыяў. Стваральнікі блога — радыёдыджэй, гісторык ды відэааператар — называюць сабе *грамадскімі карэспандэнтамі*.

Варта ўзгадаць, што ў СССР існавала правіла: у рэдакцыі павінна быць 60 % пазаштатных (грамадскіх) карэспандэнтаў. Супрацоўнік спартыўнай рэдакцыі Белтэлерадыёкампаніі А. Супанёў кажа, як гэта цяжка давалася, бо не ўсе рабселькары мелі шырокі светапогляд і добра валодалі мовай.

А. Чуланаў з дапамогай грамадскіх карэспандэнтаў здолеў стварыць цікавую і败 рознабаковую мультымедыйную прастору — тэлеклуб «Вецер вандраванняў». Ён запрашаў у сваю праграму аматараў спартыўнага турызму. У пераважнай большасці гэта былі кандыдаты і дактары навук — людзі, якія ўмелі лагічна мысліць

і нядрэнна складаць тэксты. Абмеркаванне тэмы накшталт таго, што адбываецца зараз у каментарыях да блога, праходзіла ў студыі. Як пацверджанне пэўных поглядаў, турысты-аматары паказвалі фота ці відэаздымкі, якія яны зрабілі падчас сваіх падарожжаў. Н. Фральцова піша, што ў перадачы «Вецер вандраванняў» цікава назіраць за тым, як *нараджаецца думка* [3, с. 111]. Героі перадачы задаюць філасофскія пытанні і адказваюць на іх: «*Чем хороши горы? Да тем, что чем выше поднимаешься в горы, тем остаётся меньше низости»*. Альбо: *«Нас было 12. А вот здесь 7 чел. возвратились обратно. Не прошли экзамен. Не хватило сил, а может быть, характера? Огромное психологическое воздействие оказывает Эльбрус на человека. Эльбрус — это экзамен, который не каждому дано сдать»*. Ці: *«В который раз каждый из нас думал, ну чего мы лезем сюда наверх? Ведь внизу тепло, уютно. Кто его знает, какая сила притягивает к вершинам гор. На этот вопрос, наверное, не ответит никто»* [10].

З сеткай камунікацыі цесна звязаная і наступная рыса блога — *складанаструктурнасць інфармацыі* [1, с. 17]. Напрыклад, у блогу «Гісторыя без цэнзуры» глядач бачыць рэтраспектывы, дзе вядучы ў гістарычнай вопратцы, стэндапы вядучага ў сучасным строі, графічныя гістарычныя даведкі, інтэрв'ю і інш. Паслядоўнасць гэтых блокаў змяняецца ад выпуску да выпуску. Што датычыцца «Ветру вандраванняў», то ў гэтай тэлеперадачы таксама не існавала цвёрда ўстаноўленай структуры і працягласці, але такія блокі, як размова ў студыі і відэасюжэт, існавалі заўсёды. У складзе перадачы можна было ўбачыць матэрыялы, розныя па форме і змесце. Адны распавядалі аб цікавай вандроўцы, іншыя былі востракрытычныя і датычыліся захавання культурнай спадчыны. У падарожных нарысах «Ветру вандраванняў» расказвалася аб экстрэмальных турыстычных і навуковых экспедыцыях у мясціны ад Лепельскіх азёраў [13] да Паўночнага полюса [14], аб самабытных мастаках, народжаных у Беларусі, творчасць якіх яшчэ недастаткова даследавана [7], аб прыродных і нацыянальных асаблівасцях розных мясцін Савецкага Саюза [6, 8, 10]. У аналітычных рэпартажах праграмы абмяркоўвалі тэмы захавання вежавых гадзіннікаў у Мінску, адраджэння сядзібы Агінскага ў Залессі ды іншых культурных помнікаў.

Блогер заўсёды імкнецца стаць часткай асяроддзя, паказаць спантанныя моманты жыцця, якія, па выразе П. Пазаліні, і *ёсць найпершая мова людзей* [5]. Адсюль узнікае дыялог аўтара і героя, дзе аўтар знаходзіцца за кадрам. Звонку гэта нагадвае *дыялог з камерай.* Напрыклад, блогер Льюіс Коль, канал якога мае каля 300 тысяч праглядаў, у сваіх матэрыялах гутарыць падчас дзеяння — з таксістам, які падвозіць выпадкова яго, з пілотам верталёта, з інструктарам па парашутным спорце [25]. Размова датычыцца ўласных адчуванняў, культурных і этнічных стэрэатыпаў. Ёсць *лайфавыя моманты* і ў фільмах Чуланава. Напрыклад, падчас падарожжа на Эльбрус немец з калектыву турыстаў-аматараў звяртаецца да яго: «*Рускія такія арыгінальныя»*. Чуланаў адказвае: «*Што тут арыгінальнага. Усё звычайна»* [8]. У гледача ўзнікае пачуццё спантаннасці, неадрэжысіраванасці моманту, што выклікае давер да матэрыялу, уражанне, быццам ён (глядач) атрымлівае веды з першакрыніцы, без пасрэдніцтва журналіста.

Тэлеклуб «Вецер вандраванняў» можна лічыць відэаблогам і па прагматычнай характарыстыцы. Раней людзі садзіліся да экранаў, каб паглядзець на дыктараў-зорак. Яны здаваліся асаблівымі істотамі, што маглі ўжывую пабачыць і нават крануць камеру, мікрафон, мантажны стол — цудоўныя прадметы, якіх звычайны чалавек у сваім жыцці не бачыў [2, с. 33]. Сёння, калі камеры ёсць практычна ва ўсіх у мабільных тэлефонах, асоба супрацоўніка тэлебачання паступова страчвае флёр цуду. Цяпер патрэбна іншая персона, якая дасць штуршок усёй шматаспектнай сетцы камунікацыі. Гэтай асобай робіцца *блогер-лідар*. Ён, як і іншыя блогеры з сеткі камунікацыі, захоплены тэмай, але ў яго, магчыма, больш разумення, як трэба падаваць інфармацыю, каб зацікавіць аўдыторыю. Па сутнасці, яму належыць ініцыятыва ўтварэння блога. І тэматыка паведамленняў звязана з

яго інтарэсамі, захапленнямі ў паўсядзённым жыцці. Даследчыца з Санкт-Пецярбурга Я. Гаршкова піша, што блог — *«это личное пространство его создателя, поэтому коммуникативная инициатива и регуляция принадлежит исключительно автору, а коммуникация в целом личностно-ориентирована на автора»* [1, с. 11]. У рафініраваным варыянце — гэта *блог-сэлфі*: блогер-лідар увесь час прысутнічае ў кадры, распавядае аб тым, з чаго складаецца яго дзень, мяркуючы, што гледачам падабаецца «падглядаць праз шчыліну». Дзіма Ермузевіч вядзе блог такога кшталту і мае больш за 700 тысяч сталых гледачоў [24]. У адным з нарысаў А. Чуланава таксама выкарыстоўваецца прыём сэлфі, калі ён здымае свой партрэт праз люстэрка, каб паказаць, як абгарэў яго твар і папярэдзіць гледачоў: сонейка Эльбруса вельмі каварнае [8]. А. Чуланаў і сам быў турыстам-аматарам, маршруты, пра якія распавядаецца ў «Ветры вандраванняў» — ад Калінінграда да Камчаткі, ад Паміра да Паўночнага Ледавітага акіяна, — праходзіў побач з героямі сваіх тэлеперадач.

Блогер-лідар бярэ на сябе шмат: ён часцей за ўсё і аўтар, і аператар, і музычны рэдактар, і прадзюсар (прыцягвае спонсараў, знаходзіць сродкі для існавання блога). У асабістай справе А. Чуланава чытаем: «*Чуланов хорошо научился снимать фотокамерой и кинокамерой. Для всех своих передач кино и фотосъемки А. Чуланов делает сам. Как правило, все эти съемки высокого качества. В настоящее время Чуланов осваивает киносъемки на цветной кинопленке»* [16, с. 35]. У характарыстыцы супрацоўніка беларускага тэлебачання 1987 года адзначаецца: «*В совершенстве владеет фотоаппаратом и кинокамерой, что помогает ему в работе»* [16, с. 61]. У 70-я гг. XX ст. замест масіўных тэлевізійных камер з’явіліся больш зручныя. Тады журналіст А. Чуланаў навучыўся здымаць, потым здаў нарматыў на трэці разрад кінааператара. У 80-я гг. XX ст. ён набыў на ўласныя грошы напаўпрафесійную камеру «Sony». Падчас вандровак па ўсім свеце А. Чуланаў не толькі здымаў сам, але і вучыў гэтаму майстэрству сваіх сяброў, падштурхоўваючы іх рабіць матэрыялы для перадачы «Вецер вандраванняў». Анатоль Шабан, удзельнік паходу пятай катэгорыі складанасці па рацэ Катунь, успамінае: «*В фильме “Алтайская одиссея” показано, что эдельвейсы, они растут вверх. То есть он движением тела и камеры показывал, как это делается. Потом говорил: бери камеру и то же самое делай»* [15].

Большасць блогераў выступаюць у сваіх перадачах не дыктарамі-прэзентатарамі, а экспертамі-аналітыкамі, удзельнікамі падзей, яны імкнуцца адлюстраваць жывыя думкі. Валоданне тэмай, добрая тэарэтычная падрыхтоўка дазваляе журналістам-экспертам выказваць карысныя для грамадства прыватныя ўражанні. Блогер імкнецца стаць для гледача сябрам, не настаўляць яго, а размаўляць з ім. Напрыклад, беларускі блогер Леанід Пашкоўскі прысутнічае на цырымоніі спальвання памерлых у Індыі і там жа запісвае стэндап, дзе дзеліцца з гледачамі сваімі ўражаннямі і думкамі аб сэнсе рытуалу [23]. Варта прыгадаць тут і «Падарожжа дылетанта», дзе Юры Жыгамонт, расказваючы аб героях мінуўшчыны, імкнецца зрабіць іх учынкі зразумелымі сённяшнім гледачам [22]. А. Чуланаў спрабаваў адаптаваць новую ролю — аўтара-эксперта — да рэалій савецкага тэлебачання. У «Ветры вандраванняў» заўсёды быў вядучы-дыктар — У. Баклейчаў, С.Яскевіч, Я. Бяклемешаў ды іншыя — сам Чуланаў выступаў аўтарам сюжэтаў ды запрошаным у студыю госцем. Ён выказваў уласныя меркаванні па тэме. Побач з ім сядзелі прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў, у якіх падчас эфіру А. Чуланаў нярэдка запытваў больш, чым вядучы праграмы.

Каб наладзіць кантакт са сваёй аўдыторыяй, блогеры-лідары выкарыстоўваюць шэраг прыёмаў. Па-першае, прыём *дыялагізаванага маналогу*: каб утварыць атмасферу даверу, яны гутараць са свамі гледачамі, як са старымі сябрамі. Напрыклад, Льюіс Коль, у блогу якога амаль два мільёны падпісчыкаў, нярэдка выкарыстоўвае звароты тыпу: *«Хлопцы, гляньце, якія зоркі на небе»* ці *«Любіце жыццё і захапляйцеся вандроўкамі»* [25]. Юры Жыгамонт («Падарожжа дыле-

танта») звяртаецца да сваіх гледачоў: *«Панове, шаноўнае панства»* [22]. У блогах дыстанцыя паміж аўтарам і гледачом скарачаецца: камера нібы ўвасабляе гледача — да яе прыкладаюць навушнікі, быццам прапануючы гледачам паслухаць музыку ці падносяць талерку з ежай, нібы прапануючы пакаштаваць [26]. Параўнаем, у падарожных нарысах А. Чуланава гучыць зварот да гледача*: «…глядя на кинокадры, вы уже, конечно, догадались, что самолет нас доставил в Арктику… если, мои дорогие соотечественники, у вас есть марки, доллары или другая валюта, то вы тоже можете путешествовать вокруг полюса… сразу же занялись прозаичной работой — возведением снежного туалета; не удивляйтесь, в Арктике это необходимо»* [14].

Блогеры-лідары імкнуцца зрабіць сваё паведамленне незвычайным і яскравым, эпаціраваць публіку, у прыватнасці, вобраз аўтара замяняюць іншай выявай, напрыклад, персанажам хатняй жывёлы. Усе разумеюць, што не жывёла піша і не здымаецца ў блогу, але арыгінальнасць аўтарскага падыходу прыцягвае ўсё новых прыхільнікаў. Сярод папулярных *татэмаў блогераў* — Кот Гамільтан з вусамі як у Эркюля Пуаро, папугай Джэк, модны сабака, парасяты Прысцыла і Поплтан — маюць сотні тысяч падпісчыкаў. А. Чуланаў амаль ва ўсе падарожжы браў з сабою малпу, якую яму падаравалі сябры. Малпа Чыкіта з’яўлялася ў кадры ў падарожным нарысе «Алтайская адысея» [9], у замалёўцы «Успаміны аб Катуні» [12]. У адным з выпускаў «Ветру вандраванняў» быў матэрыял «Малышка», дзе закадравы тэкст гучаў ад імя малпы [10].

Блог адрозніваецца ад тэлеперадачы і сваёй камерцыйнай скіраванасцю. Блогер сам знаходзіць сродкі для развіцця і ўдасканалення свайго прадукта. *Бізнес-патэнцыял* з’яўляецца адной з важных рысаў сацыяльных медыя, да якіх належаць блогі. Напрыклад, Франк Кандэ ладзіць блог «Дзень турыста» [21] пры фінансавай падтрымцы «Белавіі», спонсар тэлеперадачы-блога «Беларусь без межаў» [19] — піўзавод «Крыніца» У інтэрнэце дзейнічаюць сэрвісы для калабарацыі брэндаў і блогераў на відэахосцінгах ды ў сацыяльных сетках.

Да стварэння тэлеперадачы «Вецер вандраванняў» таксама прыцягвалі спонсараў. У выпусках праграмы нават ёсць указанні на гэтую акалічнасць, напрыклад, — «*…ученые научно-исследовательского института пригласили туристов-водников»* [13]. У відэазамалёўцы «Па Гуцульшчыне» — *«…знята па загадзе Цэнтральнага бюро рэалізацыі турысцка-экскурсійных пуцёвак»* [18]. У перадачах з цыкла «Вецер вандраванняў» 1990-х гадоў гасцямі ў студыі рабіліся прадстаўнікі турфірм. З аднаго боку, яны спансіравалі выпуск відэасюжэтаў, замалёвак і нарысаў, а з другога — у праграме адкрыта расказвалі пра свае паслугі і агучвалі адрасы.

У сучасным свеце, калі шмат хто можа зрабіцца блогерам, варыянт «я пра вас узгадаю, а вы мяне прафінансуеце», ужо не працуе. Усё больш папулярнасці набывае *крос-посцінг*, калі публічныя асобы ўзгадваюць адна адну. Напрыклад, вядучыя праграмы «Беларусь без межаў» — гэта ўдзельнікі музычнага гурта «Без білета». Іх песні аб падарожжах гучаць у «шапцы» праграмы і ўплеценыя ў яе структуру. А. Чуланаў запрашаў у «Вецер вандраванняў» выканаўцаў-бардаў. Іх музыка гучала за кадрам. Нярэдка кліпы-выкананні былі ўплеценыя ў структуру праграмы. Напрыклад, нарыс «Барды на Іслачы» [11] уключаў некалькі лірычных замалёвак, дзе аўтары выконвалі свае песні, паміж кліпамі ў падводках вядучы Мікалай Пінігін разважаў аб сувязі чалавека з наваколлем, аб асаблівасцях беларускай прыроды, аб сяброўстве. У перадачы гучалі песні ў выкананні Барыса і Галіны Вайханскіх, Валянціна Віхарава, Алы Бяляўскай, Уладзіміра Кадола, Алены Дзіхціеўскай, Алёны Пільнікавай, Зоі Курак і інш.

Таленавіты выканаўца, з аднаго боку, рабіў праграму больш прыцягальнай для гледача, а з другога, піярыў сябе. Аўтар і кампазітар Барыс Вайханскі ўспамінае: «*Это была реклама. Даже нам платили за эти программы какие-то маленькие деньги. Саша пытался за режиссуру нам заплатить. Хотя никакой*

*рэжиссуры мы не делали. Мы просто пели свою песенку, а он преподносил, как будто мы какой-то там сценарий написали»* [15].

Мэта, да якой імкнецца кожны блогер, — стварыць уласны брэнд. І гэта ў аўтараў «Ветру вандраванняў» атрымалася. Уладзімір Белакосаў, майстар спорту па мататурызме, успамінае, што імем Чуланава ў Савецкім Саюзе карысталіся нібы візітоўкай: варта было сказаць «я ад Чуланава», каб усе ўспрымалі цябе як свайго [15].

Перадача «Вецер вандраванняў» — гэта прадвеснік блога (протаблог) — мультымедыйная прастора, сетка камунікацыі, што аб'ядноўвае людзей, захопленых адной тэмай, вакол асобы аўтара-лідара. Вядома, у савецкі час не было магчымасці хутка падлічыць колькасць гледачаў праграмы так, як зараз падлічваюць колькаць падпісчыкаў блога на відэахосцінгу. Але варта верыць фактам. У 1992 годзе выйшаў выпуск расійскай праграмы «Пілігрым», у якой А. Чуланаў удзельнічаў у звыклай для яго ролі журналіста-эксперта. Вядучая «Пілігрыма» Галіна Прыязжаева тады назвала «Вецер вандраванняў» «*старейшей и популярной программой белорусского телевидения»* [17]. Як бачна, нават за 26 гадоў існавання першая беларуская тэлеперадача-блог не страціла прыхільнасці аўдыторыі.

З развіццём тэхнікі і тэхналогіі відэаздымкаў у сярэдзіне 90-х гадоў XX ст. з'явіліся першыя відэаблогі [4, с. 100—101]. З тых часоў яны набіраюць неверагодную папулярнасць, б'ючы рэкорды адзін аднаго па колькасці праглядаў. У блогасферы сёння ёсць нямала аматарскіх твораў. Журналіст беларускага тэлебачання здолеў стварыць папулярную перадачу-блог у межах прафесійнай журналісцкай практыкі. 6 сакавіка 1994 года спецыяльны карэспандэнт спартыўнай рэдакцыі Белтэлерадыёкампаніі А. Чуланаў загінуў ва ўласнай кватэры пры загадкавых абставінах. Калі б жыццё выдатнага журналіста не абарвалася так трагічна, вельмі верагодна, што яго лічылі б адным з заснавальнікаў феномена тэлеперадачы-блога ў сусветнай інтэрнэт-прасторы.

*Аўтар выказвае падзяку Белтэлерадыёкампаніі і, у прыватнасці, Дырэкцыі фондавах матэрыялаў Генеральнага прадзюсарскага цэнтра за аказаную дапамогу пры падрыхтоўцы артыкула.*

## Спіс выкарыстаных крыніц:

1. Горшкова, Е. И. Блог как вид Интернет-коммуникации: дис. … канд филол. наук: 10.02.04 / Е. И. Горшкова. — СПб, 2013.

2. Курков, И. Н. Мир живого эфира / И. Н. Курков. — Минск: Медиафакт, 2007. — 304 с.

3. Фрольцова, Н. Т. Телевидение: хроника, документ, образ / Н. Т. Фрольцова. — Минск: Наука и техника, 1977. — 120 с.

4. Folker, H. Travel Journalism: Exploring Production, Impact, and Culture / H. Folker, E. Zürich. — UK: Palgrave Macmillan, 2014. — 266 с.

5. Pasolini, P. P. La lingua scritta dell'azione / P. P. Pasolini // Nuovi argomenti. — 1966. — № 2.

Матэрыялы з архіва Белтэлерадыёкампаніі:

6. Вецер вандраванняў. Казахстан. — Гостелерадио Республики Беларусь. — 1992.

7. Вецер вандраванняў. Мсціслаў. — 1992.

8. Вецер вандраванняў. Расказ аб пакарэнні Эльбруса беларускімі альпіністамі. — Галоўная рэдакцыя спартыўных праграм Дзяржтэлерадыё Рэспублікі Беларусь. — 1991.

9. Ветер странствий. Алтайская одиссея. — 1981.

10. Ветер странствий. Баку. — 1980.

11. Ветер странствий. Барды на Ислочи. — Гостелерадио БССР. — 1980.

12. Ветер странствий. Воспоминания о Катуни. — Гостелерадио БССР. — 1981.

13. Ветер странствий. В ритме весел. — Гостелерадио БССР. — 1970.

14. Ветер странствий. Северный полюс. — Гостелерадио Республики Беларусь. — 1992.

15. Чудак, Е. Есть только миг / Е. Чудак і др. Первый национальный телеканал. [Дата эфира не указана].

16. Личное дело Чуланова А. М. — Архив Белтелерадиокомпании.

17. Пилигрим-Ветер странствий. Гостелерадио Республики Беларусь. — 1992.

18. Чуланов, А. По Гуцульщине / А . Чуланов. — 1979.

Сучасныя блогі і тэлеперадачы:

19. Беларусь без границ. [Электронный ресурс]. — Режим доступа: https://www.youtube.com/channel/UC1v-ysuMm90qew7ICEl0oRg.

20. Гісторыя без цэнзуры. [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://www.youtube.com/channel/UCRWskElXZvb3q0W5JopPTnQ.

21. День туриста. [Электронный ресурс]. — Рэжым доступу: https://www.youtube.com/channel/UCvUJUpjB2LAvMGSCvRVp-EQ.

22. Падарожжы дылетанта. [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://www.youtube.com/playlist?list=PL6F52F3E95B040DFE.

23. Хочу домой из Индии. Варанаси. Часть 1. [Электронный ресурс]. — Режим доступа: https://www.youtube.com/watch?v=iTtzW_BDoN8.

24. Dima Ermuzevich. [Электронный ресурс]. — Режим доступа: https://www.youtube.com/user/DimaErmuzevich.

25. FunForLouis. [Электронный ресурс]. — Режим доступа: https://www.youtube.com/user/FunForLouis/about.

26. Soniastravels. [Электронный ресурс]. — Режим доступа: https://www.youtube.com/channel/UCqZ2HZqow7l35qrhHBo4w?sub_confirmation=1.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 5 кастрычніка 2017 года.

## Рэзюмэ

**Алена МАРОЗАВА**

### Рысы відэаблога ў выпусках тэлеклуба «Вецер вандраванняў»

УДК: 070:654.197(476)(091)

У артыкуле вылучаны рысы сучаснай формы аўдыявізуальнага кантэнту — відэаблогу — у выпусках тэлеклуба «Вецер вандраванняў», якія выходзілі на беларускім тэлебачанні з 1965 па 1994 гг. Даказваецца, што перадачы пазначанага цыкла з’яўляюцца протаблогамі па сваёй фармальнай (структура паведамлення) і прагматычнай (асоба камунікатара) характарыстыках, таксама па адносінах да аўдыторыі і камерцыйнай скіраванасці. Вызначаецца, што ў перадачах цыкла «Вецер вандраванняў» сфарміравалася сетка камунікацыі вакол асобы аўтара-лідара. Сцвярджаецца, што А. Чуланаў знаходзіўся ля вытокаў эры блогінга ў прасторы Байнэту.

**Ключавыя словы:** блог, тэлеперадача-блог, інтэрнэт-прыдатныя перадачы, запосціць, сетка камунікацыі, грамадскі карэспандэнт, журналіст-эксперт, татэм блогера, крос-посцінг, піяр, Чуланаў, протаблог, лайфавы момант, дыялог з камерай, бізнес-патэнцыял блога.

## Summary

**Alena MAROZAVA**

### Features of the blog in the TV club «The Wind of wanderings»

In the article the author described the main features of the modern form of audiovisual content — videoblog — in the releases of TV- club «The wind of wandering» (1965—1994). It is proved, that the TV-programs are protoblogs according to their formal (the structure of the narrative) and pragmatic (the person of the communicator) characteristics and according to their attitude to the audience and commercial focus. It's defined that the net of communication is established in «The wind of wandering». It's approved that A. Chulanov was at the beginning of the age of bloging in the Bynet.

**Keywords:** blog, TV programme- blog, Internet suitable programmes, to post, communications network, community reporter, journalist-expert, totem of blogger, cross-posting, PR, Chulanov, protablog, live piece, the dialogue with camera, the business potential of a blog.



Святлана КАЛЯДКА

# КРЫТЭРЫІ МАСТАЦКАСЦІ ПАЭТЫЧНАГА ТВОРА Ў ДАСЛЕДАВАННЯХ ДЗМІТРЫЯ БУГАЁВА

Мастацкасць у шырокім сэнсе слова звязана з характарыстыкай мастацтва як спосабу адлюстравання жыцця ў вобразах. У дачыненні да літаратурнага твора яна выступае паняццем, у якім азначаны крытэрыі ацэнкі напісанага, з дапамогай якіх можна абмяркоўваць ступень эстэтычнай дасканаласці твора. І калі звярнуцца да гісторыі паняцця, то ўбачым, што з часоў антычнасці і Арыстоцеля, і Платона турбавала сувязь сапраўднага мастацтва з імкненнем чалавека да пазнання, са станам натхнення аўтара, якое перадаецца і чытачу. Пазней, на рэакцыю на прачытанае, калі чытач успрымае ідэю твора таксама глыбока, як яе выказаў сам аўтар, звяртаў увагу і Ф. Дастаеўскі.

Да паняцця мастацкасці звярталіся як замежныя (да прыкладу, Г. Гегель, У. Вордсварт, С. Колрыдж, К. Бел, Р. Фрай, Б. Крочэ, Э. Касірэр, Н. Буало, К. Леві-Строс), так і рускія аўтары (М. Чарнышэўскі, В. Бялінскі, Л. Талстой, В. Іваноў і многія іншыя), якія імкнуліся акрэсліць паняцце з пазіцый гармоніі, арганічнасці, цэльнасці, арыгінальнасці, адзінства структуры твора, звязвалі яго з асаблівасцямі раскрыцця жыццёвай праўды і тыповасцю характараў, з завершанасцю творчай задумы, з ідэйнасцю, важкасцю грамадскага ідэала, з творчай прасторай і свабодай мастака, яго пачуццём меры, майстэрствам пісьменніка, якое дапамагае яму дасягнуць суладдзя паміж формай і зместам. Каноны і нормы змяняліся, аднак непарушным заставалася патрабаванне арганічнага адзінства формы і зместу, якое і сёння прадвызначае аднесенасць пэўнага тэксту да твораў мастацтва.

У гарманічным адзінстве формы і зместу выяўляецца цэласнасць, завершанасць твора. Чарнышэўскі лічыў адзінства формы і зместу, ідэі і адпаведнага яму вобраза(аў) пацверджаннем майстэрства і першасным крытэрыем мастацкасці. Гэта ў выніку прадвызначае і эстэтычную дасканаласць твора, якая напрамую звязана з унутранай арганізацыяй усіх узроўняў, кампанентаў і сродкаў увасаблення, матываваных ідэяй твора. Кожная дэталь удзельнічае ў пабудове мастацкага арганізма, як цаглінка ў будынку, займаючы ў гэтай канструкцыі пэўнае месца, падпарадкуючыся пэўнай творчай задуме. Як нельга выцягнуць цаглінку, не парушаючы цэльнасці сцяны, так і не пераставіць дэталі ў паэтычным творы ў іншае месца, не ўносячы дысананс ва ўнутраную арганізацыю завершанага верша. Аднак дэталі — элементы «павярхоўнай», бачнай структуры, а існуюць і элементы глыбіннай структуры, да якіх маюць дачыненне эмоцыі і іх прадстаўнікі ў паэтычным творы — эматывы. Яны выконваюць свае індывідуальныя ролі, надаючы вобразам дадатковую эмацыянальную нагрузку. Такім чынам, ідэйна-мастацкая мэтазгоднасць усіх элементаў твора выступае важным крытэрыем мастацкасці.

Мастацтва заўсёды аперыруе паняццямі *належнага, жаданага, найлепшага, ці дасканалага.* І не трэба да іх ставіцца як да звычайных азначэнняў, бо гісторыяй літаратуразнаўства за імі замацаваны пэўныя ўяўленні пра паэтычны тэкст, абагульненне розных поглядаў на прадмет паэтычнай творчасці. У гэтых паняццях адлюстраваны аб'ектываваны падыход да твора як да прадмета, які ствараецца па пэўных мадэлях і ў гэтым працэсе адпавядае пэўным заканамернасцям яго структуравання. *Належнае* выпрацоўваецца гісторыяй літаратуры і

літаратуразнаўства, яно звязана з модусам мастацкасці як стратэгіяй тыпізацыі, з паняццямі «эстэтычная дзейнасць», «эстэтычны аб'ект», «каштоўнасная карціна свету», з праблемай эстэтычнага ідэалу і ідэальнага ў мастацтве і інш.

*Жаданае, ці магчымае*, у сваю чаргу, звязваецца з камунікатыўнасцю мастацтва, з яго здольнасцю выклікаць пэўныя рэакцыі, з непарыўным адзінствам аб'екта (твора), суб'екта (аўтара) і адрасата (чытача); з эстэтычнай мадальнасцю — гэта значыць з пэўным спосабам быць мастацкім; з працэсамі ідэнтыфікацыі мастацкага твора ў сістэме рода-жанравай прыналежнасці і наяўнасці адпаведных гэтай ідэнтыфікацыі прыкмет, якасцей, характарыстык. Крэатыўны вопыт пры гэтым толькі ўхваляецца, таму што дазваляе аўтара разглядаць як непаўторную асобу, творчасць якой пашырае ўяўленні пра межы мастацтва.

Жаданае таксама набывае сувязь з асацыятыўнасцю і метафарычнай шматзначнасцю паэтычнага слова, з яго катарсіснай роляй у мастацкім творы. І гэты шэраг паняццяў, катэгорый, стратэгій, падыходаў, звязаных з належным і магчымым у мастацтве, можна доўжыць.

Як адзначыў мастацтвазнаўца М. Алпатаў, «адным з вырашальных крытэрыяў ацэнкі мастацкіх з'яў у гісторыі мастацтва служыць ступень іх плённасці, ступень іх гістарычнага ўздзеяння... Найвышэйшай ацэнцы падлягаюць такія мастацкія з'явы, якія аказалі ўплыў не толькі ў асяроддзі, але і сталі здабыткам усяго чалавецтва» [1, с. 30—31]. Яго выказванне тычыцца ў большай ступені катэгорыі *найлепшага*, ці дасканалага, у мастацкай літаратуры. Калі твор становіцца набыткам гісторыі, лепшым узорам, шэдэўрам — гэта дасягненне самай высокай шкалы ў яго ацэнцы. Крэтэрыем мастацкай значнасці з'яўляецца тое, на працягу якога часу, з пазіцый якіх ацэнак і якое кола чытачоў/спецыялістаў адносіць яго да значных твораў мастацтва. Чым больш людзей адгукаецца на гэты твор і лічыць яго менавіта творам мастацтва, а не вынікам шараговай літаратурнай практыкі, тым значней актуалізуюцца ў яго ацэнцы законы мастацтва як модусы мастацкасці. Аўтар, дасягнуўшы ў суб'ектыўным творы значнай аб'ектывацыі, абагульнення з'яў, падзей, бакоў жыцця, надае ім важнае значэнне для многіх. Ствараць мастацкі твор — значыць дасягаць пазнання абагуленай сутнасці з'яў.

Мастацкасць — гэта таксама такое выражэнне пачуццяў і думак, такая ступень нагляднасці і яскравасці, якая можа быць аднесена да прыкмет вышэйшай дасканаласці. Аднак кожны аўтар, як і кожны даследчык праяўленні мастацкасці інтэрпрэтуюць як з пазіцый агульнапрынятых падыходаў, так і з уласнага вопыту. Паспрабуем вызначыцца ў агульных, характэрных для паэзіі як роду літаратуры, дэфініцыях, звярнуўшыся да літаратуразнаўчых даследаванняў Дзмітрыя Бугаёва, які пачаў сваю навуковую дзейнасць як крытык і літаратуразнавец у 1957 годзе, і яго смела можна адносіць да пакалення «шасцідзясятнікаў». Сам літаратуразнаўца пра гэты час сведчыў наступнае: «Адносная свабода была ў першыя хрушчоўскія гады — адразу пасля XX з'езда і да самага пачатку 1960-х. А ўжо ў 1963 годзе часта непрадказальны, імпульсіўны Хрушчоў узяўся за пісьменнікаў, стаў вучыць іх літаратурнай справе, пра што, пазней, ужо страціўшы ўладу, горка шкадаваў. І каяўся. Потым праработачная кампанія мінулася. І сёетое можна было надрукаваць. Але існавалі непарушныя догмы, якіх нельга было чапаць ні ў якім разе. Праз некалькі гадоў зноў ціснуць пачалі вельмі моцна. Вось так і хісталіся, то туды, то сюды» [2, с. 406], «у сярэдзіне і пасля першага пасляваеннага дзесяцігоддзя прыйшла вялікая група маладых, многія з якіх потым, ужо ў наступныя гады, шмат зрабілі для абнаўлення літаратуры. Гэта былі Р. Барадулін, А. Вярцінскі, В. Зуёнак, Я. Сіпакоў, Г. Бураўкін, П. Макаль, А. Лойка, Ю. Свірка. Аднак усе яны пачыналі хоць часам і ярка, уражліва, асабліва Р. Барадулін, але не хапаліся «ў рожкі са старымі», «ражном у зубы» ім не білі, працавалі без вялікай помпы і крыку. Ды і без відавочнага, прынамсі адкрытага, афіцыёзнага супраціўлення. Выключэнне складае, бадай, адзін У. Караткевіч, якога за першыя ўжо творы атакавалі аршанскія артадоксы з адстаўнікоў і дагодлівых журналістаў» [2, с. 404].

У такой спрыяльна-спрэчнай атмасферы давялося Д. Бугаёву ўваходзіць у літаратуразнаўчы працэс. З аднаго боку, ён трапіў у хвалю дэмакратызацыі навуковага працэсу, а з другога, як сам пісаў, «непарушныя догмы» былі законам і для яго. «Але я адчуваю амаль фізічны боль кожны раз, як з той ці іншай нагоды натыкнуся на свой некалі пакалечаны тэкст, у якім зіхаюць бачныя мне пустоты ад колішніх вымушаных ампутацый. А даводзілася і самому пісаць не зусім так, як і тады думалася. І для абароны добрых пісьменнікаў ад зубадрабільнай крытыкі на знішчэнне. І для таго, каб выратаваць, скажам, кнігу ў цэлым, папсаваўшы ў ёй асобныя мясціны афіцыёзнай рыторыкай, своеасаблівым маленнем уладарнаму д'яблу» [3, с. 246—247]. Гэта прызнанне Д. Бугаёва пра спалучэнне ў даследаваннях навуковай аб'ектыўнасці і абавязковай рыторыкі і ідэалагічнай скіраванасці ў метадалагічных падыходах можна адрасаваць і многім іншым літаратуразнаўцам, якія выступалі ў друку ў пасляваенны перыяд. Найбольш мяне ўразіла ў развагах Дзмітрыя Якаўлевіча пра яго літаратуразнаўчыя даследаванні пасляваеннай пары вылучэнне ў якасці дамінанты эматыўнасці навуковых прац (паняцця, якое мяне вельмі захапіла ў якасці прадмета даследавання апошнім часам): «Якраз за фундаментальнасцю не гнаўся ніколі. Мне здавалася, што трэба імкнуцца да іншага, пісаць так, каб і крытычныя, літаратуразнаўчыя працы чыталіся без натугі, прымусу, а наадварот, з цікавасцю. Гэта ўстаноўка на эмацыянальны кантакт з чытачом для мяне была вельмі істотнай. Пісаў я пра пісьменнікаў выдатных ці па меншай меры добрых. Усіх іх яднала "служэнне Беларусі"» [3, с. 284]. Як бачым, пазіцыянавалася эмацыянальнасць літаратуразнаўства не толькі ў аснове пабудовы праекцыі «аўтар — чытач», але і ў сутнасці навуковага метаду ў вывучэнні беларускай літаратуры XX стагоддзя. Эмоцыя — праваднік сэнсу, зместу, думкі… Такімі ж эмацыянальнымі і пры гэтым вельмі трапнымі, выверанымі, дакладнымі былі ацэнкі Д. Бугаёва. «Жанрава-стылёвыя тэндэнцыі ў развіцці беларускай літаратуры XX і ўжо XXI стагоддзяў, творчая індывідуальнасць найбольш значных нашых пісьменнікаў і яе ўздзеянне на літаратурны працэс, залежнасць літаратуры ад стану грамадства і мажлівасць яе ўздзеяння на гэты стан, актуальныя праблемы літаратурнай крытыкі — такая ў агульных рысах галоўная сфера маёй даследчыцкай працы» [3, с. 289], — так акрэсліваў праблемнае поле ўласных даследаванняў Д. Бугаёў.

Пры ўсіх вышэй згаданых складанасцях перыяду 1960—80-х гадоў, часу так званага «застою», Д. Бугаёвым былі напісаны выдатныя даследаванні, прысвечаныя творчасці такіх таленавітых паэтаў, як Уладзімір Дубоўка, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Пімен Панчанка, Яўгенія Янішчыц, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Мікола Аўрамчык і інш. Як неаднойчы адзначаў Д. Бугаёў, ім даследавалася творчасць лепшых прадстаўнікоў беларускай паэзіі. Аднак пры гаворцы пра паэтаў прыярытэтнымі заставаліся задачы вызначэння месца паэзіі таго ці іншага аўтара ў сістэме творчага працэсу — што разглядалася як *належнае,* якое пры гэтым не навязвалася, не дэкларавалася, а шляхам аналізу выяўлялася як непазбежнае, абавязковае, бо неабходна «імкненне да падкрэслена простых, але вельмі неабходных для паспяховага развіцця нашага грамадства спраў і, здаецца, даўно вядомых, але важных ісцін, як бы нанова адкрытых і глыбока ўсвядомленых, пазнаных сёння. (Для яснасці яшчэ раз падкрэслім, што маецца на ўвазе неабходнасць праўды, дабра, шчырасці, справядлівасці, сумленнасці ва ўсім і г. д.)... толькі абапіраючыся на іх, вырастае ўсё сапраўды вялікае і значнае» [4, с. 315]. Эстэтычная прырода мастацтва ў першую чаргу звязваецца крытыкам з аксіялагічнымі паняццямі. Без вернасці першавытокам любога творчага акта — быць праўдзівым, шчырым — не варта брацца за пяро. Творчасць павінна адпавядаць эстэтычным патрэбам духоўнага жыцця асобы і ўсяго грамадства. Гэта тое *належнае*, з чаго пачынаецца шлях творцы. А калі да гэтага дадаецца ўменне «паэтычна адчуваць, думаць у вершах» [4, с. 319], то ў гэтым адзінстве духоўнага і мастацкага праявяцца эстэтычныя адносіны аўтара да свету, яго ўменне прозу будняў рабіць паэзіяй, і вынікам паўстануць цудоўныя творы.

Эстэтычнае супрацьпастаўляецца абстрактнаму, лагічнаму і яго дапаўняе — да гэтай думкі прыходзіць Д. Бугаёў, аналізуючы творчасць А. Вярцінскага: «…лірычны герой Анатоля Вярцінскага імкнецца спалучаць абвостраную прынцыповасць і высокую інтэлектуальнасць з разумнаю дабратою і сапраўднаю чалавечнасцю» [4, с. 313]. Інтэлектуальнасць верша, дакладная думка, лагізаваныя тэзісныя фразы, абмежаванасць тропаў не перашкаджаюць раскрывацца ў характары героя А. Вярцінскага «разумнай дабраце, сапраўднай чалавечнасці». Пры захаванні канстантай «дабра» ў аснове творчасці Д. Бугаёў дапускае зменлівасць форм і спосабаў яго ўвасаблення ў паэтычным тэксце ў якасці эстэтычнай мадальнасці. І ў такім падыходзе крытыка да асэнсавання сутнасці мастацтва я не бачу нейкай састарэласці і сёння (артыкул пра А. Вярцінскага напісаны ў 1966 годзе), тэндэнцыйнасці ці служэння сацрэалізму. У выпрацоўцы ўласнай метадалагічнай сістэмы даследавання Д. Бугаёў скіроўваецца на вызначэнне эстэтычнага не як сацыяльнага, а як духоўнага, надчасавага, а таму вечнага. Гэта свайго роду інтэрсуб’ектыўная перадумова адзінства творчага і чалавечага. Аднак гэтае адзінства немагчымае без абапірання на форму, адпаведную зместу: «Андрэй Вазнясенскі, Эдуардас Межэлайціс і наш Анатоль Вярцінскі ўжо ў 1960-я і наступныя гады з вялікім поспехам распрацоўвалі стылістыку асацыятыўна-лагізаванай паэзіі, якая шмат у чым трымаецца і на такіх, як у ранняга Куляшова, нагнятаннях паўтораў, і на гнуткай, як у яго, рытміцы віртуозна вар’іраванай фразы, і на нязвыклай для класічнай традыцыі вынаходлівасці рыфмы» [5, с. 247]. Аднак Д. Бугаёва, як і многіх сучасных даследчыкаў, турбавала праблема эксперыментатарства як праблема аўтарскага вынаходніцтва або штучнага пераўтварэння тэксту, што тычыцца форма-, а не слоўнай творчасці, а таму такія новаўвядзенні ён апраўдваў у сувязі з іх здольнасцю ўздзейнічаць на перадачу сутнасці, сэнсу, ідэі. А калі эксперыменты ў вобласці формы здольныя паўплываць на «стылістыку паэзіі», набываюць маштаб калі не сусветнай, то роднаснай для многіх літаратур тэндэнцыі, то варта такія пачынанні адзначаць, ухваляць, падтрымліваць. За імі калі не будучыня, то ўздзеянне на змену творчых парадыгм.

Агульнаэстэтычны тып мастацкасці твора (вызначэнне В. Цюпы) вынікае са спосабу мыслення аўтара. Д. Бугаёў упэўнены, што талент пісьменніка грунтуецца на непарыўнай сувязі ў ім характару творцы і асобы, што прадвызначае і спосаб мыслення. Нездарма ў якасці аб’ектаў даследаванняў ён выбіраў «мастакоў арыгінальных, сумленных і мужных» [3, с. 154], а пісьменнікам, увабраўшым у сабе пералічаныя якасці, лічыў у першую чаргу Васіля Быкава, «магутнага пісьменніка і ўнікальнага па аўтарытэтнасці і душэўнай далікатнасці чалавека, у якога гэтая далікатнасць спалучалася з непахіснасцю маральна-этычных прынцыпаў нязломнага барацьбіта» [3, с. 160]. *Барацьбіт* для Д. Бугаёва не метафара і красамоўнае слова, у ім увасобіліся эстэтычныя патрабаванні. Да іх ліку ён адносіў і Уладзіміра Калесніка: «У яго ж і праўда была натура барацьбіта, якая штурхала на пошукі ісціны, вялікай праўды пра чалавека і свет. Гэтаму была падпарадкавана і яго грамадская актыўнасць, і літаратурная дзейнасць, і педагагічная праца» [3, с. 168]. У гэтым вызначэнні — *барацьбіт* — знаходзіць увасабленне спосабы мыслення, пабудовы адносін з людзьмі і навакольным светам, арганізацыі ўласнага жыцця і г. д. А значыць *барацьбіт* — тып творцы, які прымаецца Д. Бугаёвым за ўзор, гэта той эстэтычны ідэал пісьменніка, які прадуцыруе фарміраванне ідэалаў у мастацкай творчасці; гэта «мадальнасць эстэтычнай свядомасці» (вызначэнне В. Цюпы), якая павінна ў формах і спосабах выяўлення ў творы адпавядаць эстэтычным устаноўкам успрымаемай свядомасці. І адпаведна — зыходная канстанта мастацкасці паэтычнага твора.

У 2005 годзе Д. Бугаёў напісаў артыкул «Голас чалавечнасці быў для яго звыклы (штрыхі згадак пра Віктара Антонавіча Каваленку)». Ужо ў назве вылучаў адзін з канцэптуальных тэзісаў прац Віктара Антонавіча як актуальны і па сённяшні дзень, не зважаючы на тое, што паняцці «гуманізму» і «гуманістычнасці» ў навуковых даследаваннях 1960—80-х гадоў успрымаюцца як «зацяганыя»,

а таму, перанесеныя ў сучасныя навуковыя працы, асацыіруюцца з тагачаснымі заідэалагізаванымі кантэкстамі іх ужывання. Д. Бугаёў прыводзіць цытату з працы В. Каваленкі: «Сапраўднае мастацтва і літаратура — гуманістычныя па сваёй сутнасці, па сваіх задачах і мэтах. Адступленне ад гуманізму ніколі не застаецца непакараным, яно абавязкова выклікае скажэнне саміх эстэтычных асноў і прынцыпаў» [3, с. 152]. А потым дадае: «Гуманістычная па духу літаратура — «залаты фонд чалавечай культуры» [3, с. 152]. У падобнай салідарнасці двух выбітных даследчыкаў мне бачыцца не толькі адстойванне аднолькавых эстэтычных прынцыпаў, але і пазіцыянаванне магістральнага напрамку ўласных даследаванняў, скіраванага на ўнутрана адзіную сістэму каштоўнасцей і адпаведную ёй паэтыку, на прыярытэт «гуманістычнага» светапогляду творцы.

Калі *належнае* сыходзіць і прадвызначае прынцыпы літаратуразнаўчай навукі, якія грунтуюцца на абавязковай адпаведнасці твора пэўным эстэтычным крытэрыям, то ў выяўленні *магчымага* даследчык абапіраецца на раскрыццё ўнікальнасці і непаўторнасці творчай індывідуальнасці аўтара. Г. Гегель некалі пісаў: «Только потому он и художник, что он знает истинное и ставит его перед нашим воображением и чувством в его истинной форме» [6, с. 285]. *Сапраўднае* ў мастацкім творы моцна звязана як з належным, так і з магчымым. Д. Бугаёў выпрацоўвае ўласныя крытэрыі *сапраўднага* ў паэзіі, да прыкладу пры аналізе паэзіі Міколы Аўрамчыка ён высоўвае наступныя патрабаванні да аўтара: здольнасць паэта «ствараць значныя мастацкія каштоўнасці»; патрабавальнасць майстра да сябе і да паэтычнага слова, які «шліфуе творы, удасканальваючы іх ад выдання да выдання»; навізна і глыбіня ўспрымання жыцця, якія даюць дакладнасць; багацце эмацыянальнага свету, інтэнсіўнасць перажывання, глыбокае ўнутранае пачуццё; асабіста перажыты вопыт у аснове стварэння паэзіі, што прадвызначае аўтабіяграфічнасць твораў («канкрэтны радок асабістай біяграфіі, рэальны эпізод уласнага жыццёвага лёсу»); паэзія — частка яго рэальнай чалавечай біяграфіі; асабістая выпакутаванасць напісанага; асацыятыўнасць паэтычнага мыслення; бездакорнасць паэтычнага чуцця, інтуіцыя мастака; пераканальнасць кожнай падрабязнасці быцця і псіхалогіі, адлюстраваных у творах [7, с. 286—306].

Такім чынам, даследчык арыентуецца на аўтабіяграфізм і псіхалогію творчасці ў вызначэнні канцэпцыі аўтара. Светапогляд пісьменніка, сістэма яго каштоўнасцей пазіцыянуецца праз мастацкі твор і прадвызначае ўнікальнасць яго індывідуальнасці. «Добрая паэзія, — адзначае Д. Бугаёў, — ствараецца з улікам законаў чалавечай псіхалогіі, логікі жывога пачуцця» [4, с. 292—293]. Інтэрпрэтацыя вобраза аўтара ў даследаванні Д. Бугаёва супадае з інтэрпрэтацыяй М. Бахціна, які прапаноўваў канцэпцыю аўтара як непасрэднага ўдзельніка мастацкай падзеі. Як сцвярджае Д. Бугаёў, «арыентацыя пераважна на свой жыццёвы вопыт усё ж ставіць для яго пэўныя межы, бо сам вопыт мае зусім відавочныя граніцы. Аднак сілу і дзейснасць верша, яго пераканальнасць такая арыентацыя не паслабляе, а хутчэй узмацняе. Сама ж здольнасць паэзіі да абагульнення не мае прамой залежнасці ад таго, арыентуецца аўтар на рэальныя факты, на сапраўды перажытае ці многае бярэ і ўласна паэтычнай фантазіяй» [4, с. 294]. Сапраўды, у дачыненні да шляхоў абагульнення і тыпізацыі ў творы аўтабіяграфізм мае другараднае значэнне, і ў дыялогу аўтара з чытачом цяжка акрэсліць межы рэальнага /пазарэальнага (фантазійнага) у спосабах стварэння іншай рэальнасці — *рэальнасці* паэтычнага твора, якая ў выніку становіцца набыткам чытача, пры прачытанні пераўтвараецца ў прыладу ўжо яго творчасці. Аднак уважлівы чытач нават у фантазіях аўтара вызначыць меру і ступень прысутнасці рэальнасці ў ёй, вядомага яму свету, і паверыць таму паэту, які будзе бліжэй за ўсіх да яго, чытача, разумення, усведамлення, адчування рэальнасці/нерэальнасці існага.

Паэтычныя творы Міколы Аўрамчыка не могуць стаць падставай для чытацкіх рэцэпцый, таму што яны не поліфанічныя і не шматзначныя. Як трапна адзначыў Д. Бугаёў, па яго вершах можна прачытаць ягоную біяграфію, а значыць і наша тэза «аўтар ёсць тэкст» мае прамое дачыненне да творчасці гэтага бела-

рускага паэта. Наша канцэпцыя аўтара — «аўтар ёсць тэкст» — грунтуецца на атаясамліванні суб'ектыўнасці, саматоеснасці творцы і лірычнага героя, на растварэнні «я» аўтара ў «я» героя і затым іх абодвух у самім тэксце. Абапіраючыся на выказванне Д. Бугаёва, «каб у смаляных кроплях убачыць паценне працавітай сасны, трэба быць не гладкапісцам, які ўмее рыфмаваць гучныя, ды затое сагрэтыя пачуццём радкі, а сапраўдным паэтам, які дасканала адчувае паэзію самога жыцця, паэзію звычайных рэчаў» [4, с. 297], — будзем смела сцвярджаць, што не толькі асоба нараджае паэзію, але і «паэзія жыцця і паэзія звычайных рэчаў» пераўтварае асобу ў паэта. Паэзія Міколы Аўрамчыка цалкам суб'ектная структура, аўтар у ёй адначасова і біяграфічная асоба, і, адпаведна М. Бахціну, «прынцып, якім трэба кіравацца».

«Узровень высокай паэзіі», ці крытэрыі мастацкасці тэксту паэзіі — такім чынам можам абазначыць шэраг патрабаванняў Д. Бугаёва да самога верша. Да прыкладу, у 1970—1973 гг. пры аналізе паэзіі М. Аўрамчыка ў якасці *належнага* ім называюцца наступныя характарыстыкі верша: узаемазвязанасць і суадносіны яркасці і дакладнасці ў вершы; асацыяцыі вырастаюць з дакладнай рэчыўнай, прадметнай вобразнасці; узор добрай паэзіі высокага патрыятычнага і гуманістычнага гучання; вера ў стваральныя сілы народа, у неўміручасць яго духоўных скарбаў; патрыятычны пафас, матывы, інтанацыі; трапная канцоўка, якая надае твору пэўную маштабнасць і значны абагульняльны сэнс; заключныя радкі акумулююць паэтычную энергію ўсяго верша, збіраючы яе ў адзін моцны і яркі фокус-успышку; сэнсавая сугучнасць радкоў верша і канцоўкі; скандэнсаванасць думкі і пачуцця; энергічнасць мастацкага пісьма; арыентацыя на прастату і натуральнасць пісьма; гарманічныя суадносіны тэксту і падтэксту, у аснове якіх складанасць і шматграннасць зместу [7, с. 286—306].

Як бачым з прыведзеных цытат, даследчык не толькі акрэслівае творчую індывідуальнасць М. Аўрамчыка, але і праз характарыстыкі яго паэзіі выходзіць на абагульняльныя высновы: аўтапсіхалагічная паэзія (вызначэнне В. Халізева) М. Аўрамчыка патрабуе адпаведных яе сутнасці мастацкіх сродкаў. Прамая прысутнасць аўтара ў тэксце, непасрэднасць яго самараскрыцця, сапраўднасць лірычнага перажывання падмацоўваюцца спалучанасцю думкі і пачуцця, асноўнага зместу і высноў і г. д. (гл. цытаты вышэй). Не называючы з'явы, Д. Бугаёў фактычна распавядаў у сваім даследаванні пра суб'ектыўнасць, якую В. Халізеў называў «звыклым уяўленнем аб адкрытасці аўтарскай прысутнасці ў лірычным творы як яго найважнейшай уласцівасці, якая традыцыйна пазначаецца гэтым тэрмінам» [8].

Пазней, у 2004 годзе, Дзмітрый Якаўлевіч, аналізуючы «Лісты ў Хельсінкі» Р. Барадуліна, вызначыць непаўторнасць яго творчай індывідуальнасці наступным чынам: «Рыгор Барадулін даўно сцвердзіў сябе як віртуозны майстар, паэзія якога прыемна здзіўляе цудамі вынаходлівасці. Незвычайная шчодрасць мастакоўскай фантазіі, а можна сказаць — і буянства яе, густата вобразнасці, забяспечаная яркасцю тропаў, асабліва кідкай метафарычнасцю і нечаканасцю трапнай асацыятыўнасці, рытмічная свабода і арыгінальнасць, багацце гукапісу, увогуле дзівосная інструментоўка радка, уменне знайсці ў арсенале народнай мовы незацяганае, часта зіхотка-іскрыстае слова, ды і слова зусім звычайнае павярнуць так, што яно пачынае прамяніцца новым святлом, — усё гэта ўласціва Барадуліну і выразна адчуваецца ў ягоных «Лістах у Хельсінкі» [3, с. 56—57]. Пры параўнанні даследаванняў творчасці М. Аўрамчыка, праведзеным Д. Бугаёвым больш за 30 гадоў таму, і Р. Барадуліна, акцэнт робіцца на непаўторнасць асобы аўтара як нязменны і дамінантны крытэрый мастацкасці паэтычнага твора. А вось адносіны да фантазіі значна змяніліся — даследчыкам ухваляецца нават «буянства фантазіі», аднак ніякіх супярэчнасцей у адрозных пазіцыях Д. Бугаёва я не бачу. Безумоўна, даследчыкам улічваўся факт рознасці творчых асоб і творчых падыходаў, спосабаў самавыражэння ў творы. Аднак, не апошнюю ролю тут набывае і пытанне размежавання аўтара і суб'екта. «Буянства фантазіі» ў паэзіі супярэчыць

устаялай тэзе пра тое, што лірычны верш з'яўляецца непасрэдным выказваннем лірычнага «я» (што, дарэчы, характэрна творчасці М. Аўрамчыка). Калі ў творчасці М. Аўрамчыка Д. Бугаёў адзначае пэўны сінкрэтызм аўтара і героя, то ў паэзіі Р. Барадуліна ён гаворыць пра аб'ектывацыю героя ў адносінах да аўтара ў якасці «іншага», і гэта абумоўлена ў першую чаргу свабодай пераўтварэнняў аўтара ў розных па настроі творах, выхадам за межы дазволенага канонам і традыцыяй. Калі адасобіцца ад даследавання Д. Бугаёва, то варта адзначыць, што аўтар у паэзіі Рыгора Барадуліна паўстае, згодна з класіфікацыяй Б. Кормана, ва ўсёй разнастайнасці суб'ектных роляў — і як аўтар-апавядальнік, і як герой ролевай лірыкі, і як лірычнае я (дарэчы, С. Бройтман размяжоўвае паняцці лірычнае я, лірычны герой і лірычны суб'ект). І гэтым пераўтварэнням аўтара служыць багацце мастацкіх сродкаў, якія ён задзейнічае. Р. Барадулін не замыкаецца ў ролі аўтара — суб'екта для сябе, увесь час выходзіць за межы эмпірычнай асобы, а таму з лёгкасцю прымервае маскі з рознымі характарамі, настроямі, экспрэсіяй і г. д. З такой жа лёгкасцю ён жангліруе словамі, надаючы ім шматзначную мастацкую выяўленчасць, эматыўную разнастайнасць.

Дзмітрый Бугаёў, дарэчы, засяроджвае нашу ўвагу на наступных прыкладах з «Лістоў у Хельсінкі»: «За каўнер небасхілу змрок сцюдзёна цячэ», «Дыспут вечны сабакі вядуць дваравіта», «І на іржышчы будзённасці колка босай душы», «Туга ў спакою на руцэ засне», «Слязою яблык дрыжыць на галіне» і многія іншыя, заўважаючы, «якая багатая, слухмяная і гнуткая наша мова, калі ёй аддае сваю душу выдатны паэт» [3, с. 57]. Спалучанасць творчай свабоды са свабодай валодання беларускай мовай у Р. Барадуліна надае яго тэкстам своеасаблівую «закальцаванасць», цэласнасць, а гэта ў сваю чаргу замацоўвае за імі статус эстэтычнага аб'екта. Гэта адзін з крытэрыяў мастацкасці, эстэтычнай дасканаласці — адзінства твора, што не замыкаецца толькі на праблеме адпаведнасці частак цэламу і наадварот, а вырастае да праблемы аксіялагічнага парадку — «наяўнасці самай высокай паэзіі чалавечага існавання» [3, с. 53]. Д. Бугаёў актуалізуе пастулат аб стварэнні формы, адпаведнай зместу. Але абапіранне на фармальныя патрабаванні да паэтычнай творчасці застануцца эфімернымі намаганнямі, калі магію нараджэння твора не асвоіць асоба-барацьбіт: «Сяброўства Рыгора Барадуліна і Васіля Быкава грунтуецца на супадзенні галоўных чалавечых і творчых арыентацый (катэгарычнае непрыманне ў жыцці, у літаратуры фальшу і крывадушнасці, дагодлівага прыстасавальніцтва да ўладаў, паслядоўная абарона беларушчыны, тым больш настойлівая, чым большая пагроза навісае над нашай будучыняй як нацыі, самабытнага этнасу)» [3, с. 52]. Карыстаючыся сучаснымі тэарэтычнымі вызначэннямі, Р. Барадулін і В. Быкаў — прадстаўнікі так званых індывідуальна-аўтарскіх тыпаў мастацкай свядомасці, якія цягнуліся да творчага эксперымента, і адпаведна — да параджэння новых эстэтычных ідэй, мастацкіх рашэнняў. Р. Барадулін стварыў новы тэкст, новы тып уласнай паэтыкі, выпрацаваў свой індывідуальны стыль, у многім не адпаведны нормам літаратурнага працэсу, а ў многім і надчасава ўзвышаны над правіламі і забаронамі яго мастацкага часу.

Тэарэтык, гісторык літаратуры Л. Чарнец называе мастацкае адзінства твора нязменным крытэрыем мастацкасці для твораў розных жанраў: «Менавіта ў перыяд панавання індывідуальна-аўтарскага тыпу мастацкай свядомасці найбольш поўна рэалізуецца такая ўласцівасць літаратуры, як яе дыялагічнасць, інтэрсуб'ектыўнасць яе зместу, які рухаецца ў кантэкстах успрымання. І кожная новая інтэрпрэтацыя твора ёсць адначасова новае асэнсаванне яго мастацкага адзінства» [9, с. 510]. І гэтую гармонію, адзінства твора Д. Бугаёў убачыў у паэзіі Уладзіміра Дубоўкі, пра якога ў 1997 годзе пісаў: «А яшчэ трэба згадаць уласцівае маладому Дубоўку выдатнае майстэрства гукавой інструментоўкі, рытмічную гнуткасць яго паэтычнага радка, высокую культуру рыфмы, а таксама віртуознае валоданне так званымі фармальнымі элементамі верша, без арганічнага асваення якіх не абыходзіцца ні адзін выдатны паэт» [5, с. 232]. Аднак майстэрства аўтара павінна

падпарадкаваецца творчай задуме. Адзінства твора звязана ў першую чаргу з залежнасцю ўсіх яго частак і дэталей ад ідэі. Творчая канцэпцыя як аснова адзінства кіруе «форматворчасцю», а пошукі новых форм павінны адпавядаць мастацкай ідэі, на што настойліва ўказваў Д. Бугаёў: «Дубоўка і самой складанасцю сваіх эксперыментальных паэм схопліваў істотныя павевы часу, інтуітыўна, чуццём мастака ўгадваў глыбінныя патрэбы мастацтва, якое няспынна абнаўляе, і, ускладняючы, удасканальвае свой выяўленчы інструментарый» [5, с. 233]. Варта згадаць той момант, што Дубоўка праводзіў свае творчыя эксперыменты ў 1920-я гады, падчас станаўлення беларускай літаратуры і літаратурнай мовы, калі модным лічылася ствараць новыя прыёмы, а не новыя сэнсы, удасканальваць славеснае выражэнне. Зместавая функцыя прыёмаў захапіла і У. Дубоўку. Аднак у гаворцы пра яго Д. Бугаёў адзначае адкрытасць паэтычнай мовы, якая зарыентавана на змены, на пошук новых сродкаў выразнасці, а ў іншых выпадках — і на арыгінальнасць. Мова становіцца для аўтара сродкам рэфлексіі, з дапамогай яе ён імкнецца апісаць сучасныя яму павевы часу, што патрабавалі новых найменняў і новай інтэрпрэтацыі. Час вымагаў ад аўтара ўключацца ў форматворчасць як спосаб упісання новага героя дня ў новыя абставіны існавання. У выніку «ягоная лірыка і праўда была вельмі адметнай, наватарскай з'явай у нашай літаратуры. У лепшых сваіх узорах яна вызначалася філасофскай заглыбленасцю, моцнай асацыятыўнасцю і той вобразнай размашыстасцю, якая і сёння ўражвае…» [5, с. 232]. Галоўнае дасягненне У. Дубоўкі ў галіне форматворчасці, напрамую звязанае з паняццем мастацкасці, гэта эвалюцыйны характар зменаў у паэтычнай мове, адпаведны зменам у грамадскім, сацыяльна-палітычным жыцці краіны. Паэт прыйшоў, як падсумаваў у сваім даследаванні Д. Бугаёў, да «абнаўлення паэтычнага сінтаксісу, слоўніка, літаратурнай мовы ў шырокім разуменні» [5, с. 233], і ў гэтым успрымаецца праваднікам новых ідэй у адборы моўных сродкаў, іх пераасэнсаванні і мастацкім замацаванні за імі сэнсаўтваральнай ролі. У. Дубоўка стаў не проста наватарам у мове — гісторыя літаратуры ведае розныя праявы фармалізму, пачынаючы ад эстэтызму і завяршаючы тэорыяй і практыкай «чыстага мастацтва», «мастацтва дзеля мастацтва» і інш. — ён прафесійна, па-мастацку віртуозна ўдасканаліў падыходы да дзвюх функцый літаратурнага слова: экспліцыравання (выражэнне сэнсу) і камунікацыі (перадачы сэнсу).

Такія паэты, як Р. Барадулін ў словатворчасці, У. Дубоўка ў форматворчасці прадвызначаюць эвалюцыйныя працэсы ў мове, дэманструюць розныя падыходы да пашырэння магчымасцей слова ў тэксце. Яны прыводзяць у дзеянне новыя мадэлі мастацкага форма- і словаўтварэння, нараджаюць новыя семантычныя сувязі слоў у паэтычным радку, за кошт чаго слова набывае разгалінаваную сістэму асацыятыўнага і метафарычнага ўжывання. Увогуле пераносныя значэнні слова становяцца поліфункцыянальнымі, а лінгвісты, да прыкладу, знаходзяць шмат класіфікацыйных падыходаў для размеркавання іх на розныя групы ў межах іерархічнай сістэмы слававыражэння. Да законаў мастацкасці В. Цюпа адносіць адпаведнасць зместу форме: «Закон цэласнасці прадугледжвае ўнутраную завершанасць (паўнату) і засяроджанасць (незбыткоўнасць) мастацкага цэлага. У прынцыпе гэта азначае гранічную ўпарадкаванасць формы твора адносна яго зместу як эстэтычнага аб'екта; у тэксце шэдэўра няма нічога выпадковага, абы-якавага, неабавязковага» [10]. А ў творах Р. Барадуліна і У. Дубоўкі мы бачым узоры высокамастацкага спалучэння зместу і формы, менавіта яны і сталі прадметам аналізу Д. Бугаёва.

Яшчэ адзін прадстаўнік «высокай» беларускай літаратуры — Аркадзь Куляшоў — таксама стаў аб'ектам вывучэння беларускага даследчыка. Д. Бугаёў прадчуваў, што без ускладнення мастацкай структуры твора немагчыма думаць пра з'яўленне нетыповых, нешаблонных разнастайных літаратурных твораў. А таму ўхваляў і куляшоўскія эксперыменты: «…фактычна прадоўжыў тыя

пошукі ў фармальным кірунку, якія распачынаў Дубоўка. Зноў спрацоўвала мастакоўская інтуіцыя, чуццё ўжо маладзейшага паэта, якое, як і Дубоўку, штурхала яго эксперыментальны шлях. Эксперыменты абодвух паэтаў не былі пустой забаўкай. Яны мелі скіраванасць і ў будучыню» [5, с. 250]. Важна тое, што эксперыменты двух класікаў ўсё ж былі звязаны са змястоўнасцю паэтычнага твора, яны сталі адлюстраваннем новага паэтычнага мыслення, якое скіроўвала аўтараў на наданне «старому» зместу новай формы, а затым і праз абжыванне новых форм прымушала рухацца да новых зместаў зменлівага жыцця.

У творчасці тады маладога паэта Д. Бугаёў разглядзеў і асаблівасць яго творчага метаду: «Аркадзь Куляшоў заяўляў пра сябе неардынарнасцю мастацкіх дэталей, за якімі праглядваўся жорсткі, бязлітасны да чалавечага лёсу час, напоўнены крутымі пераменамі, нечуванай раней індустрыяльна-тэхнічнай і сацыяльнай ломкай, якую на ўсе лады славіла савецкая літаратура» [5, с. 245]. Дэталь адносіцца да прадметнага свету твора, а ўменне надаваць дэталі значэнне мастацкага вобраза я назаву яшчэ адным крытэрыем мастацкасці. Бо дэталізацыя — неад'емная якасць, умова мастацкага выяўлення. Д. Бугаёў акцэнтаваў увагу на сувязі дэталі з выражаемым сэнсам усяго твора, з яго ідэяй, тэматыкай ды наогул са станам развіцця паэзіі. А. Куляшоў быў не проста майстрам дэталі, яго паэтычная творчасць дае падставы класіфікаваць мастацкія дэталі ў сістэму прадметнай вобразатворчасці, што дазваляе яго назваць унікальным аўтарам-«інструментальшчыкам». Дэталізацыя прадметнага свету ў паэзіі не аздабленне, з дапамогай дэталі перадаецца сутнасць вобраза ці вобразнай сістэмы твора. Аднак няма агульных схем, па якіх адбываецца пераход дэталі ў вобразную сістэму, гэта цалкам вынікі індывідуальна-аўтарскай мастацкай свядомасці. Прыгожае мастацтва, адпаведна закону індывідуацыі (у адпаведнасці з якім толькі нешта ўнікальнае, непаўторнае можа лічыцца творам мастацтва, а не рамесніцкай дзейнасці), на жаль, адзінкавае і неўзнаўляльнае.

«Модус мастацкасці, — адзначае В. Цюпа, — гэта ўсёабдымная характарыстыка мастацкага цэлага, гэта той ці іншы род цэласнасці, які прадугледжвае не толькі адпаведны тып героя і сітуацыі, аўтарскай пазіцыі і чытацкага ўспрымання, але і ўнутрана адзіную сістэму каштоўнасцяў і адпаведную ёй паэтыку: арганізацыю ўмоўнага часу і ўмоўнай прасторы на базе фундаментальнага «хранатопу», праз «вароты» якога здзяйсняецца «ўсялякае ўступленне ў сферу сэнсаў», сістэму матываў, сістэму «галасоў», рытміка-інтанацыйны лад выказвання» [10]. В. Цюпа называе рытміка-інтанацыйны лад выказвання неад'емнай часткай цэласнасці твора, што звязана з модусам мастацкасці.

На асаблівую рытміку вершаў А. Куляшова звяртаў увагу і Д. Бугаёў, спасылаючыся на ацэнку В. Бечыка: «Мастацкі лад твора, пры ўсіх агаворках пра асобныя пралікі і недакладнасці, вызначаецца выяўленчым багаццем, яркай вобразнасцю, смеласцю і самастойнасцю вобразнага мыслення. Вар'іруюцца спосабы рыфмоўкі і віды рыфмоўкі, выкарыстоўваюцца самыя розныя сугуччы: і надзвычай багатыя па агаласоўцы, і знарочыста бедныя, і аманімічныя… паэт чуе слова ў самых розных — «прыглушаных» і вельмі выразных перагуках» [11, с. 178]. Пры гэтым варта ўлічваць той факт, што майстэрства версіфікацыі і валоданне прыёмамі пабудовы верша заўсёды звязаны з жанрам, эматыўнасцю, сэнсам, зместам твора, якія кіруюць і рытмічнай арганізацыяй. Рытм увязваецца з метрам і рыфмай, яны ў сваю чаргу прадвызначаюць страфічны падзел. І ўсё ж у аснове гэтай складанай вершаванай «казуістыкі», у віртуознасці выкарыстання паэтычнага інструментарыя знаходзіцца, з аднаго боку, «шматгадовая ўпартая праца і шматлікія эксперыменты» [5, с. 251], а з другога — тонкае адчуванне магчымасцей паэтычнага слова, яго поліфанічнасці і месцазнаходжання ў радку. У мастацтве закладзена памкненне да гармоніі, аб'ектыўнай мэтазгоднасці ўсіх кампанентаў.

Аркадзь Куляшоў імкнуўся да размоўнай свабоды і гнуткасці верша, якія спалучаліся з добрай меладычнасцю і песеннай у сваёй аснове шматгалоснасцю

дзеля дасягнення гэтай унутранай гармоніі як *належным*. «Гнуткі куляшоўскі верш, — падсумоўвае Д. Бугаёў, — забяспечыў прастату і натуральнасць размоўных інтанацый у творы, рытмічную свабоду і ёмістасць яго паэтычнага радка, здольнасць умясціць вельмі многае» [5, с. 251]. Чаму даследчык так падрабязна спыняўся на характарыстыцы рытмічнай арганізацыі прасторы верша А. Куляшова?

Звязана гэта ў першую чаргу з тым, што пэўныя страфічныя, метрычныя, фанічныя формы замацоўваюцца ў свядомасці чытача як *знак стылю* пэўнага паэта. *Узнаўляльнасць стылю* аўтара па пэўных характарыстыках, яму ўласцівых, — гэта адзнака яго творчай індывідуальнасці і непаўторнасці. Наватарскія знаходкі тады становяцца набыткамі мастацкіх твораў з гісторыяй, застаюцца жыццяздольнымі, калі яны ўваходзяць у «мастацкае» жыццё грамадства, трапляюць у кола інтарэсаў большасці чытачоў. Д. Бугаёў засяроджваўся на аналізе самога твора, на заключаных у ім магчымасцях уздзеяння на чытача, на выяўленні патэнцыялу яго ўспрымання. Д. Бугаёў не піша пра камунікатыўную прыроду творчасці (творчасць як дыялог згодна з канцэпцыяй М. Бахціна), аднак увесь час арыентуецца на тое, як верш гучыць, як ён успрымаецца рознымі даследчыкамі ці крытыкамі. Больш таго, пры гаворцы пра паэтычны зборнік А. Куляшова «Новая кніга» Д. Бугаёў запэўнівае нас у тым, што яна вартая высокай дзяржаўнай узнагароды, таму што «ўражвае сваёй філасофскай глыбінёй і дасканаласцю вершаванай мовы, дзе строгая дысцыпліна мускулістага, нібы выкутага, паэтычнага радка, яго ўзважаная лаканічнасць і часта афарыстычнасць спалучаюцца з той жа маштабнасцю жэста, самой вобразнасці, за якой паўстае маштабнасць думкі і пачуцця» [5, с. 255]. Даследчык дакладна акрэслівае шлях нараджэння верша — ад мовы да рытмікі і страфікі, ад дэталі да вобраза, і гэта ўсё дзеля раскрыцця глыбіні думкі, пачуцця, перажывання і г. д. Здавалася б, гатовы рэцэпт напісання верша для версіфікатараў, аднак напоўніць жыццём гэты алгарытм зможа толькі Асоба, унікальны па прыродзе сваёй чалавек, здольны жыццё розуму і сэрца пераводзіць у вершы.

У сваіх даследаваннях паэзіі асобных аўтараў і асобных іх твораў Д. Бугаёў імкнецца знайсці ўстойлівую адпаведнасць паміж ідэйна-мастацкімі рэсурсамі твора, крытэрыямі яго эстэтычнай вартасці і спецыфікай яго функцыянавання як у межах эвалюцыі творчасці гэтага аўтара, так і літаратурнага працэсу таго перыяду. Праз яго працы актуалізуецца думка, што гісторыю ў літаратуры набываюць аўтары з яркімі індывідуальнымі стылямі.

Аднак верш можа згубіць мастацкую магію, калі аўтар не будзе пазбягаць наступнага: лексічнай рафінаванасці і «стэрыльнасці»; відавочнай празаічнасці радка (тэндэнцыя да белага верша з відавочнай празаічнасцю даследчыкам не разглядаецца); інтанацыйнай млявасці радка; рытмічнай расслабленасці і аморфнасці; рытміча-інтанацыйнай «недастатковасці»; безнадзейна расцягнутых радкоў; непатрэбных лексічных паўтораў; паўтораў адных і тых жа ці блізкіх паэтычных вобразаў у розных творах; зваротаў да шаблонных, устаялых выразаў; трафарэтаў; рытарычных вершаў; халоднай рыторыкі; знарочыстай зададзенасці эксперымента; манернасці; імкнення пісаць прыгожа без уліку глыбокага сэнсу; празмернага гукавога капіравання; апісальнасці; недакладна выверанага слова; спрашчэння; ненатуральна-гучных па тоне вершаў; твораў з аблегчаным зместам; фальшывых па думцы; з данінай ідэалагічным і палітычным дактрынам; твораў, сапсаваных дзяжурнай афіцыяльшчынай, з уступкамі казёншчыне; з дагодлівай афіцыёзнасцю; з сумнай афіцыяльшчынай і казённым славаслоўем; ангажаваных твораў [13].

Час унёс карэктывы ў многія тэарэтычныя палажэнні даследаванняў Д. Бугаёва, аднак яго метадалагічныя падыходы да вызначэння мастацкасці паэтычнага твора засталіся і па сённяшні дзень актуальнымі, нязменнымі і пакладзены ўжо ў аснову даследаванняў многіх сучасных вучоных-літаратуразнаўцаў.

Пры аналізе творчасці Яўгеніі Янішчыц Д. Бугаёў выказаў наступнае меркаванне: «Лірыкам даводзіцца плаціць за эстэтычную дзейнасць сваіх твораў асабліва вялікай самааддачай» [4, с. 345]. Аднак яго можна пашырыць і дадаць: сапраўдны талент не ўмее і не можа працаваць без вялікай самааддачы. Як гэта рабіў усё жыццё сам Дзмітрый Якаўлевіч. І як гэта рабілі безагаворачныя для даследчыка таленты Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, Іван Мележ, Міхась Лынькоў, Уладзімір Дубоўка, Максім Танк, Пімен Панчанка, Аркадзь Куляшоў, Кандрат Крапіва, Яўгенія Янішчыц, Янка Брыль, Рыгор Барадулін.

## Спіс літаратуры:


1. Алпатов, М. В. Всеобщая история искусств: [В 3-х томах]. Том I. Искусство древнего мира и средних веков / М. В. Алпатов. — М., Л.: Искусство, 1948.

2. Бугаёў, Д. Пра «рожкі», старых, маладых і яшчэ сёе-тое: Дыялог Людмілы Корань і Дзмітрыя Бугаёва / Бугаёў Д. Праўда і мужнасць таленту: Выбранае. — Мінск: Маст. літ., 1995.

3. Бугаёў, Д. Я. Жыццём ідучы: З гісторыі беларускай літаратуры і літаратурнай крытыкі / Д. Я. Бугаёў. — Мінск: БДУ, 2013.

4. Бугаёў, Д. Я. Талент і праца: Літаратурная крытыка / Д. Я. Бугаёў. — Мінск : Маст. літ., 1979.

5. Бугаёў, Д. Я. Спавядальнае слова: Літаратурная крытыка, успаміны / Д. Я. Бугаёў. — Мінск: Маст. літ., 2001.

6. Гегель, Г. В. Сочинения. Т. 12. Лекции по эстетике / Г. В. Гегель; пер. Б. Г. Столпнера. — М.: Соцэкгиз, 1938.

7. Выбарка цытат робіцца з раздзела: Бугаёў, Д. Я. Адкрытая душа паэта / Бугаёў, Д. Я. Талент і праца: Літаратурная крытыка / Д. Я. Бугаёў. — Мінск: Маст. літ., 1979.

8. Чернец Л. В. Введение в литературоведение. Литературное произведение: основные понятия и термины. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://nashaucheba.ru/v61502. Дата доступу: 12.10.2016.

9. Чернец, Л. В. Литературное произведение как художественное единство // Введение в литературоведение: учебник для студ. высш. учеб. заведений / Л. В. Чернец, В. Е. Хализев, А. Я. Эсалнек и др.; под ред. Л. В. Чернец. — 3-е изд., испр. и доп. — М.: Издательский центр «Академия», 2010.

10. Тюпа, В. И. Художественность // Чернец Л. В. Введение в литературоведение. Литературное произведение: основные понятия и термины. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://nashaucheba.ru/v61502/ Дата доступу: 12.10.2016.

11. Бечык, В. Шлях да акіяна: кніга пра паэзію А. Куляшова / В. Бечык. — Мінск: Маст. літ., 1981.

12. Куляшоў, А. А. Збор твораў: у 4 т. Вершы, паэмы (1914 — 1978). Т. 1. / А. Куляшоў. — Мінск: Беларусь, 1966.

13. Выбарка цытат здзяйснялася з даследаванняў розных гадоў: Бугаёў, Д. Шматграннасць: Літаратурна-крытычныя артыкулы і рэцэнзіі / Д. Бугаёў. — Мінск: Беларусь, 1970. — 232 с.; Бугаёў, Д. Талент і праца: Літаратурная крытыка / Д. Бугаёў. — Мінск: Маст. літ., 1979. — 352 с.; Бугаёў, Д. Праўда і мужнасць таленту: Выбранае: Кніга пра Васіля Быкава. Артыкулы. Дыялог / Д. Бугаёў. — Мінск: Маст. літ., 1995. — 414 с.; Бугаёў, Д. Спавядальнае слова: Літаратурная крытыка, успаміны / Д. Бугаёў. — Мінск: Маст. літ., 2001. — 327 с.; Бугаёў, Д. Жыццём ідучы: З гісторыі беларускай літаратуры і літаратурнай крытыкі / Д. Бугаёў. — Мінск: БДУ, 2013. — 304 с.

Мікола ЧАРНЯЎСКІ

# «І Я ЦЯПЛО ДЛЯ ЎСІХ ДАРЫЎ...»

«Была вясной напоўнена душа...», «Смерці я не раз глядзеў у вочы...», «Нас вятры пранізвалі, бывала...», «Нам крылы час не апаліў...», «Не раз я думаў пра сяброў...», «Шчаслівы, бо сяброў я многа маю...», «Людзям аддаю і сэрца, і душу...», «Чарадзейны шукаю настойліва ключык...» Не заўсёды чалавек, чытаючы такія дэкларацыйна-ўзнёслыя, здавалася б, радкі, спяшаецца паверыць у іх шчырасць і праўдзівасць, прыняць блізка да сэрца. Здараецца ж, і не так ужо рэдка, што паэт, які напісаў іх, зададзена спрабаваў «пайграць» на пачуццях людзей, а тым самым увесці чытачоў у зман, здрадзіць і сабе, і ім.

Што ж да паэта, аўтара гэтых радкоў, то не раіў бы нікому сумнявацца ў іх праўдзівасці і шчырасці. Ім патрэбна верыць. Бо няма ў яго вершах падазрэння на фальш і сумнеў, бо яны прапушчаны праз сэрца, выпакутаваны яго жыццёвымі няўдобіцамі і пакручастасцямі лёсу, прымушаюць хвалявацца і перажываць разам з аўтарам. Бо аўтар гэты — Станіслаў Шушкевіч. Адзін з першапраходцаў беларускай паэзіі, класік нашай дзіцячай літаратуры.

Беручыся за пяро, каб напісаць пра гэтага чалавека і майстра слова, я прыгадаў выпадак, які, прызнаюся, у свой час здзівіў мяне.

У пару маёй працы ў часопісе «Бярозка» была ў рэдакцыі не дужа грашовая штатная адзінка кур'ера-прыбіральшчыцы. Нейкі час яе займала маладзенькая дзяўчына Тамара. Праўда, яна часцей ахвотней выконвала кур'ерскія абавязкі, а вось другую частку іх дачка нярэдка «давярала» маці — не надта старой, але ў гадах ужо, жанчыне. Аднойчы, разгаварыўшыся, яна раптам пачала па памяці расказваць мне вершаваную казку, якую прачытала яшчэ ў далёкім маленстве на старонках «Беларускага піянера» — цяперашняй «Бярозкі».

Бегла чутка-перагудка
Там і тут,
Бегла шпарка, бегла хутка
Ў кожны кут:
Едзе страшны, едзе люты
Цар лясны.
І звярам пра здзек, пакуты
Сняцца сны...

Жанчына расказала казку ад пачатку да канца, толькі дзе-нідзе робячы запінкі. Потым запытала:

— Часам не ведаеце, хто напісаў яе? Забылася ўжо. Помню толькі, што казка называлася «Звярыны баль».

Не хаваючы свайго здзіўлення і шчырага захаплення яе памяццю, патлумачыў, што гэты твор — самая першая казка для дзяцей, якую напісаў вядомы ў нашай рэспубліцы паэт Станіслаў Шушкевіч. Нават паабяцаў: абавязкова пазнаёмлю з ім, калі зойдзе ў рэдакцыю. Станіславу Пятровічу будзе надзвычай прыемна пачуць такое, парадавацца: яго вершы помняць з маленства, яны не згубіліся ў прасторах часу!

Неўпрыкмет зацікаўлены і падахвочаны такой выпадковай нагодай, я таксама не ўтрымаўся і прадэкламаваў верш, які быў надрукаваны калісьці ў часопісе «Вясёлка» і з той пары сам па сабе застаўся ў маёй памяці:

Танцавалі ў сшытку кляксы
Ад чарніла і ад ваксы.
Танцавалі, прысядалі,
Двойку ў госці запрашалі.
Двойка кажа: — Не пайду,
Лепш сястрыцу прывяду.
І, дугой сагнуўшы спінку,
Прывяла сястру Адзінку.

Калі ж расказаў ёй, як складваўся лёс паэта, што давялося перажыць яму, пабываўшы ў сібірскім выгнанні, то заўважыў, як гэта навіна вельмі ўзрушыла набожную Марыю Паўлаўну.

— Няхай дае яму Божанька здароўя і доўгіх летаў, — хуценька перажагнаўшыся, толькі і прамовіла яна.

Тады, пры жыцці Шушкевіча, гэта, магчыма, не так заўважна і пераканаўча кідалася ў вочы, а цяпер, з вышыні пройдзенага часу, абсягі яго творчага засеўку, яго надзвычай багатай спадчыны могуць уразіць кожнага, хто зацікавіцца ёю, захоча далучыцца да яе. Як гэта мне падаецца. І найболей — у дзіцячай літаратуры. Кніжкі Станіслава Пятровіча «Лясная калыханка», «Сарочы церамок», «Мы на змену ідзём», «Гара Марата Казея», «Будзільнік», «Апавяданні пра Марата Казея», «Вясёлыя дзятлікі», «Колькі кіпцікаў у кошкі», «Дванаццаць пасланцоў», «Красавік», «Барадаты камар», «Ліса з магнітафонам», «Казачны церам», «Едзе страшная Яга», «Казёл на верталёце», асветленыя лагоднай усмешкай, сапраўды займальныя, дасціпныя, вясёлыя, багатыя на выдумку, жарты, гумар, не залежваліся на паліцах дзіцячых бібліятэк, даўно сталі сябрамі і дарадчыкамі дзятвы. Дзясяткі твораў з гэтых кніжак перабраліся на сталае жыхарства ў школьныя чытанкі і дапаможнікі.

У чым сакрэт іх запатрабаванасці? Зірніце на назвы: яны ў большасці сваёй надзвычай арыгінальныя, не збітыя, інтрыгуючыя. І нічога дзіўнага ў тым, што вершы і казкі паэта адразу знаходзілі дарогу да сэрцаў маленькіх чытачоў, надоўга запаміналіся ім. Бо нараджаліся і выпраўляліся яны ў свет чалавекам добрай душы, з багатай фантазіяй, казачнікам, які цудоўна разумеў дзіцячую псіхалогію, тонка адчуваў свет захапленняў юных чытачоў, іх імкненне да ўсяго незвычайнага, сагрэтага праменьчыкамі дабрыні і таварыскасці. Нездарма ж прызнаваўся: «Чарадзейны шукаю настойліва ключык…» І ўмеў знайсці гэты запаветны ключык да сэрцаў не толькі дзяцей, але і дарослых. Згадайма яго зборнікі лірыкі «Дарогаю вясны», «Услед за марамі», «Навальніца», «Сябрам», «Дарога ў залатую восень», «Рэха маладосці», «Сонца над маім асеннім садам».

* * *

Станіслаў Пятровіч быў чалавекам неспакойнага характару, няўрымслівага сэрца і нястомнай энергіі. Шмат ездзіў па рэспубліцы, сустракаўся з вучнямі, студэнтамі, настаўнікамі, рабочымі, калгаснікамі, бібліятэкарамі, выхаванцамі дзіцячых садкоў. Чытаў ім свае вершы, дзяліўся ўспамінамі. А ўспомніць і расказаць яму было што. Мяркуйце самі: у Сенніцкай пачатковай школе вучыўся ў настаўніцы Алімпіяды Васільеўны Сонцавай, да якой у свой час хадзіў на ўрокі будучы народны паэт Беларусі Янка Купала. «Гэта старэнькая, напаўсляпая і адзіная настаўніца ў школе, — з удзячнасцю прыгадваў паэт у аўтабіяграфіі, — навучыла мяне любіць і шанаваць сваю родную мову, любіць радзіму, любіць народ».

Пазней, калі скончыў сямігодку і стаў студэнтам Мінскага педагагічнага тэхнікума, слухаў лекцыі Якуба Коласа. У гэты ж самы час яго завочна, без заявы,

прынялі ў пісьменніцкую арганізацыю «Маладняк». Пачаткоўца заўважылі, бо ўжо даволі часта друкаваўся, браў актыўны ўдзел у літаратурных сустрэчах, што ладзіліся ў Мінску. Як гэта было ўласціва маладнякоўцам, васямнаццацігадовы паэт радасна вітаў жыццё, захоплена і рамантычна ставіўся да з'яў рэчаіснасці, да ўсяго, што прынёс на родную зямлю новы лад.

Скамячу, як снежку,
Радасць я сваю
І шпурну з усмешкай
Сённяшняму дню.

Радасць мая звоніць
Словам маладым
Ад сялянскіх гоняў,
Ад сялянскіх ніў.

Ад дуброў шумлівых,
Ад вясковых хат,
Дзе жыцця імклівы
Крочыць новы лад.

Дзень мне усміхнецца,
Ён такі, як я.
Ну, дык хто памкнецца
Радасць утрымаць?..

Скамячу, як снежку,
Радасць я сваю
І шпурну з усмешкай
Сённяшняму дню.

Як прызнаваўся, тады ж у яго пачало «разрастацца» кола знаёмстваў са старэйшымі пісьменнікамі, з яго равеснікамі. «Завязалася таварыская перапіска са Змітраком Астапенкам, Юліем Таўбіным, Сяргеем Фаміным. Васіль Каваль, Валеры Маракоў, Мікола Нікановіч, а пазней Міхась Чарот, Васіль Сташэўскі, Пятрусь Броўка, Анатоль Вольны, Максім Лужанін, Паўлюк Трус, Зіна Бандарына, Сцяпан Ліхадзіеўскі сталі маімі жаданымі гасцямі, добрымі таварышамі, — успамінаў Шушкевіч. — Пасля заканчэння другога курса педтэхнікума мне захацелася паступіць у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Праваліўся на экзаменах па фізіцы. У педагагічны тэхнікум на вучобу не вярнуўся і ўладкаваўся на працу ў Кніжную палату і Дзяржаўную бібліятэку імя Леніна. Бібліятэцы патрэбны былі бібліёграфы. На вакантныя месцы я запрасіў з горада Мсціслава Юлія Таўбіна і Змітрака Астапенку, а з мінчан прыйшла працаваць сюды паэтэса Яўгенія Пфляўмбаўм. Часамі мы забываліся пра тое, што з'яўляемся працаўнікамі бібліятэкі, і, забраўшыся ў кнігасховішча, гадзінамі па чарзе чыталі ўголас навінкі паэзіі…»

Праз нейкі час «падрос» — прапанавалі пасаду загадчыка бібліятэкі Навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі. «Кіраўніцтва інстытута пасылала мяне ў камандзіроўкі ў Маскву, Ленінград, Кіеў для азнаямлення з вопытам навуковых бібліятэк. Гэтыя паездкі былі карыснымі ў сэнсе знаёмства з культурнымі скарбамі, яны сутыкнулі мяне не толькі з бібліятэкарамі, але і кіраўнікамі архіваў і музеяў, абудзілі пачуццё неабходнасці набыць больш ведаў».

Менавіта гэтае «пачуццё» прывяло паэта ў Вышэйшы педагагічны інстытут імя Горкага, на літаратурны факультэт. Скончыў яго ў 1934 годзе. Гэта быў першы ў гісторыі Беларусі выпуск літаратараў-прафесіяналаў. Вучобу ў пядінстытуце сумяшчаў з працай у газеце «Літаратура і мастацтва», а пасля заканчэння быў накіраваны ў рэдакцыю часопіса «Калгаснік Беларусі», адкуль перайшоў у газету «Звязда». Тады ж яго, аўтара паэтычнага зборніка «Вершы» прынялі ў толькі

што створаны Саюз пісьменнікаў Беларусі. Пачало складвацца сямейнае жыццё: пабраўся шлюбам з пісьменніцай Аленай Раманоўскай, у сям'і нарадзіўся сын, якога, як і бацьку, назвалі Станіславам. Здавалася, усё складвалася з надзеяй на новыя здабыткі ў творчасці, на лепшае жыццё, будучыню, у якую верыў і якую апяваў сам, пра якую больш, чым хто, трубна вяшчала савецкая прапаганда, гаварылася на сходах і мітынгах працоўных, што не сыходзіла са старонак друку.

Але ж усё часцей запаўзала ў сэрца трывога, апаноўваў змрочны настрой, нібы сонца за хмары, хаваючы ў глыбіню душы ранейшую «звонкую радасць». Пачуццё страху і разгубленасці пачало закрадвацца ў яе. Пачуўшы бяссоннай ноччу за акном вуркатанне аўтамабільнага матора, як токам, працінала думка: «Ці не "варанок" падкаціў? Каго сёння забяруць? Мяне? Суседа?..» Але ж усё няўмольней раскручваўся махавік сталінскіх рэпрэсій, падграбаючы пад сябе, кідаючы ў пекла жудасных пакут і неймаверных выпрабаванняў дзясяткі і сотні людскіх ахвяр. Магчыма, нехта заўважыць, што я паўтараюся, ужываючы гэты выраз, ды як не паўтарыцца, калі такі здзек над людзьмі чыніўся без разбору і следства — дарослы ці малы, вінаваты ці невінаваты. Прысуд гучаў адзін — «вораг народа».

Не ўсім выпала ўцалець, жывым выбрацца з гэтага пекала. Не пазбег беспадстаўнага абвінавачвання ды арышту і Станіслаў Пятровіч. Пасля працяглых допытаў, якія суправаджаліся жорсткімі катаваннямі, яго асудзілі на восем гадоў пазбаўлення волі. Адбываў іх у турме, лагеры, ссылцы ў Кемераўскай вобласці. З асцярожнасцю азіраючыся на нядаўняе лагернае мінулае, даволі стрымана напіша: «У лістападзе 1936 года здарылася вялікае няшчасце: ад мяне адабралі свабоду. Мне было зразумела, што тут ткалася злачынства. Гэта нечуванае злачынства адбірала ў людзей жыццё і здароўе, але не магло адабраць веры ў перамогу праўды». Яму яшчэ пашанцавала. Прысуд па тым часе вынеслі не дужа суровы, нават «мяккі». Ён пазбег вышэйшай меры пакарання, якога, на вялікі жаль, не ўдалося пазбегнуць ягоным сябрам па жыцці і таварышам па творчасці, паэтам і празаікам Валерыю Маракову, Юрку Лявоннаму, Васілю Кавалю, Тодару Кляшторнаму, Алесю Дудару, Платону Галавачу, Анатолю Вольнаму, Васілю Сташэўскаму, Юлію Таўбіну, — іх расстралялі.

«Праз дзесяць год я вярнуўся на сваю радзіму, на Койданаўшчыну, — пісаў Шушкевіч пазней у аўтабіяграфіі. — Настаўнічаў у вёсцы Данілавічы. А праз два гады зноў арышт, зноў тыя ж абвінавачванні. Трапіў у Краснаярскі край. Працаваў цесляром, плытагонам. Потым — бухгалтарам геалагічнай партыі, калектарам, тапографам, намеснікам начальніка каратажнай партыі, начальнікам геалагічнай базы. Ці мог я калі паверыць, што авалодаю дзясяткам прафесій?»

На гэты раз доўгачаканую вестку аб сваім паўторным вызваленні, аб частковай рэабілітацыі ў снежні 1954 года. Аднак вяртанне на радзіму расцягнулася амаль на два гады…

Я не жораў, ды і я ляцеў
З выраю нязвычнага дадому.
Мабыць, толькі круглай сіраце
Хваляванне гэткае вядома…

Вярнуўся ў Мінск восенню 1956 года. Куды ўладкавацца на працу, дзе адважацца прыняць учарашняга «ворага народа»? Спачатку знайшлося месца ў рэдакцыі газеты «Мінская праўда», а потым да выхаду на пенсію — загадваў аддзелам пісьмаў у газеце сваёй маладосці «Літаратура і мастацтва». Менавіта ў памяшканні «ЛіМа» я ўпершыню ўбачыў яго: невысокага, каржакаватага, з цёплым позіркам добрых вачэй, але з голенай да бляску галавой, што мне, маладому, пышнавалосаму на той час, падалося нават нейкім дзівацтвам, калі зайшоў аднойчы ў рэдакцыю, прынёс нататку пра нейкую новую кніжку. Якую — не памятаю ўжо, толькі помніцца, што была яна дзіцячай. Ці не «Сонейка ўзышло»

Васіля Карпечанкі. Тым болей, што мой водгук не надрукавалі. Мабыць, тады ў не такой даступнай, як цяпер, літаратурнай газеце маю думку палічылі не зусім спелай, абгрунтаванай.

Бліжэй са Станіславам Пятровічам я ў хуткім часе пазнаёміўся ўжо на пасяджэннях секцыі дзіцячай літаратуры ў Саюзе пісьменнікаў, па вуліцы Энгельса, 9. Але ж, калі крышку вярнуцца ў мінулае, лёсам было наканавана сустрэцца з ім нашмат раней. Праўда, завочна, ці віртуальна, як цяпер кажуць. У газеце «Піянер Беларусі» 18 ліпеня 1958 года. На той старонцы, дзе я ўпершыню надрукаваўся, была змешчана невялікая нататка, якая знаёміла чытачоў з кніжкай Шушкевіча «Лясная калыханка». Першай пасля вяртання паэта з далёкай сібірскай ссылкі. Вельмі хацелася прачытаць яе. Аднак гэтае «хаценне» адклалася роўна на два гады, да майго прыезду ў Мінск. Як і сустрэча з самім паэтам.

Мне потым не адзін раз даводзілася выступаць са Станіславам Пятровічам перад рознымі чытацкімі аўдыторыямі, і я бачыў, з якой увагаю слухаюць яго дарослыя і дзеці, бо ён заўсёды прамаўляў з натхненнем і захапленнем, падмацоўваючы словы мімікай і ўзмахам рук, бо яму, столькі пабачыўшы і перажыўшы, было аб чым расказаць. Не дужа любіў вяртацца ў мінулае, у гады сваіх лагерных і ссыльных нягод, але з гонарам паказваў слухачам фотаздымкі і пісьмо ад першага касманаўта планеты Юрыя Гагарына. Расказваў, як ён стаў уладальнікам такой рэліквіі.

Усхваляваны палётам Гагарына ў космас, паэт у той жа дзень, 12 красавіка 1961 года, напісаў верш «Ты за ўсіх нас ляцеў да зор». Нават паспеў уключыць яго ў паэтычны зборнік «Услед за марамі», што якраз рыхтаваўся ў выдавецтве. Як толькі выйшаў, з дарчым надпісам паслаў яго ў Зорны гарадок. Падарунак беларускага паэта знайшоў свайго адрасата. Юрый Аляксеевіч прыслаў ліст, аддзячыў за падарунак.

* * *

Так здарылася, што Шушкевіч стаў «хросным бацькам» майго літаратурнага героя Міці Бегунка. Канкрэтней, сваім прозвішчам ён абавязаны яму, а я — застаўся ўдзячны Станіславу Пятровічу за падказку. Гумарыстычная аповесць «Бегунок пачынае думаць» была маім дэбютам у прозе. Памятаю, напісаў яе лёгка, на адным дыханні. Душа яшчэ жыла школай, якую не так даўно скончыў, а розныя там прыгоды не забыліся. Доўга падбіраў прозвішча свайму герою. Спачатку назваў яго Клёпкіным (ён у мяне нават лыжы змайстраваў з клёпак старой бочкі). Былі і іншыя прозвішчы. Але яны чамусьці мне не падабаліся. Аповесць закончыў, а вось з прозвішчам героя ніяк не вызначыўся. Не ведаю, чым закончыўся б мой пошук, каб не сустрэча Шушкевічам.

Помніцца, паехалі з ім на сустрэчу з вучнямі Ждановіцкай санаторнай школы. Бюро прапаганды мастацкай літаратуры, якое толькі пачало працаваць у Саюзе пісьменнікаў, паклапацілася. Я прачытаў дзецям раздзельчык з аповесці. Хацелася пабачыць, як яны ўспрымуць яе, ці будуць чытаць, калі ўдасца надрукаваць.

Пасля выступлення вярнуліся на аўтобусны прыпынак, каб ехаць у Мінск. Транспарт тады хадзіў не так часта, як цяпер, таму з гадзіну давялося чакаць чарговы рэйс. Быў цёплы сонечны дзень. Адышоўшы ад білетнай касы, прылеглі на траву. Заўважыўшы, што мой позірк даўжэй затрымаўся на пакалечаным пальцы яго правай рукі, Станіслаў Пятровіч патлумачыў:

— Гэта я яшчэ малым хлапчанём сярпом парэзаўся. Мама жыта жала, мне хацелася памагчы. Яна адвярнулася вады папіць, а я за серп ды ў жыта палез, сярпом замахнуўся. От на ўсё жыццё метку сабе і нажыў. Як собіла правую руку парэзаць? Дык я ж ляўшун. Праўда, вершы пішу правай, — і ён, выставіўшы перад сабою правую руку, пачаў рухава перабіраць пальцамі ў паветры. — А ты што падумаў?

— Ну, я падумаў, што… — не мог спачатку знайсціся я, — што гэта тады, як вас арыштоўвалі, пастараліся.

— Што было, тое было. Гэтага не адбярэш, — сумна-роздумна ўздыхнуў Шушкевіч. — Пры допытах у ізалятары некаторыя следчыя заціскалі арыштаваным пальцы ў дзверы, іншыя здзекі прыдумлялі. Мне паміж пальцаў алоўкі закладвалі, тоўстыя такія, як спецыяльна для гэтага прызначаныя. І сціскалі з усёй сілы аберуч. Спрактыкаваныя былі нягоднікі о-го-го! Не горш, як з дзвярамі выходзіла ў іх. Боль неймаверны чуўся, аж суставы хрумсцелі, а пальцы пасля распухалі, як не твае рабіліся. Ведалі, як можна дапячы. А што бяссонніцай марылі ды мардавалі, як хацелі, бязлітасна білі — дык гэта само сабой рабілася. Гумовымі шлангамі, пруткімі, як трубы якія, дубасілі. Яны шчыльней да цела прылягалі. Усё было следчым дазволена. Абы арыштаваны прызнаваўся нават у тым, што за ім і не было век-вяком. Але я вытрымаў, не даў ім паказанняў, якіх яны дамагаліся. Валерый Маракоў таксама… А Платона Галавача зламалі, прымусілі падпісаць тое, што падсоўвалі яму, ужо амаль паўжывому… Папрасіў прабачэння потым у сяброў, у перадсмяротнай запісцы. А ў чым ён вінаваты быў, як і мы ўсе?..

Потым, нібы хочучы павярнуць не зусім вясёлую гаворку ў іншы бок, неяк нечакана сказаў:

— Ведаеце што, а я таксама з цікавасцю паслухаў урывачак з аповесці. Думаю, дзеці будуць ахвотна чытаць яе, бо пра такога ж, як і яны, напісана. Толькі прозвішча хлопчыка трэба памяняць. Клёпкін — не зусім беларускае прозвішча. Я назваў бы яго Бегунком.

Як было не ўхапіцца за такое на дзіва арыгінальнае і ўдалае прозвішча, як было не ўзрадавацца такой неспадзяванай «знаходцы»?! Новы літаратурны герой пасля выхаду кніжкі, мяркуючы па водгуках, сапраўды спадабаўся дзецям. Здаралася, некаторыя вучні спрабавалі чытаць кніжку на ўроках тайком, і настаўнікам даводзілася часова «канфіскоўваць» яе, рабіць ім заўвагі…

Разлагоджаны сонцам і цеплынёй майскага дня, а яшчэ падахвочаны маёй цікаўнасцю, Станіслаў Пятровіч разгаварыўся. Гэта я цяпер шмат чаго ведаю пра той час, у якім жыў малады тады паэт, што адбывалася ў літаратуры і ў жыцці людзей, як ішоў працэс адраджэння ў Беларусі, як жылося творцам у той няпросты час, «як ішла рэканструкцыя смела па заводах, па полі, па думках», як…

Тады ад самога Шушкевіча пачуў, як ён у ссылцы ледзь не загінуў. Дабіраючыся на базу, да стаянкі геолагаў, па лёдзе замерзлай ракі, не заўважыў палонкі, што засталася пасля рыбакоў. Яе за ноч прысыпала снегам, таму і не разгледзеў. Ачомаўся, як праціяла холадам, а намоклае адзенне і важкі рукзак пацягнулі пад лёд. І наўрад ці выкараскаўся б з палонкі, каб не стрэльба за спінаю. Павісшы на ёй, толькі маліў Бога, каб вытрымаў, не абарваўся празмерна напяты рэмень. Навыперадкі з сібірскім марозам, шоргаючы добра-такі заледзянелай апраткаю, дзе подбегам, а дзе цішэй, усё ж дабраўся да геалагічнай базы, адагрэўся. Пашанцавала, бо ўсё прадвеснем здарылася, калі мароз прыаслаб ужо.

— Як бачыш, я загартаваны, нашы марозы мяне наўрад ці змогуць напалохаць, — на жартаўлівы лад павёў гаворку Станіслаў Пятровіч. — Сілы ў мяне яшчэ — о-го-го! Магу адным ударам пальца арэх раскалоць!

Пасмяяўшыся, падняліся з долу, пайшлі бліжэй да прыпынку.

Пазней, калі я працаваў у «Бярозцы», а то і падчас камандзіровак ад Бюро прапаганды мастацкай літаратуры, у мяне надаралася нямала цікавых нагод дарогаю ці ў гасцініцы, хоць нядоўга, ды пагутарыць з ім. Мала калі абыходзілася без ягоных успамінаў, звязаных з дзяцінствам і гадамі маладосці, са згадкамі пра былых сяброў, хто стаў ахвяраю сталінскага самаўладства. Часцей за іншых успамінаў Валерыя Маракова, аднакурсніка па вучобе ў педінстытуце, па творчых стасунках і паездках па рэспубліцы.

Аднойчы, пачуўшы пахвалу ад нашай Алены Міхайлаўны Мімрык — адказнага сакратара часопіса «Бярозка» — што хораша ўмее выступаць і з ім нават

маладзейшыя хлопцы не могуць параўнацца, ён, задаволена пасміхнуўшыся, раптам прызнаўся:

— Яшчэ з маладнякоўства павялося. Я ў тыя гады адзін мог за трох выступіць. Гэта сябры ведалі і рабілі ўсё, каб нечым стрымаць мой запал. Тады ж энергія біла цераз край, натхнення хапала. Хацелася, каб твае вершы спадабаліся, за жывое кранулі. Калі ж іх будзеш мямліць, бубніць сабе пад нос, каму ж яны спадабаюцца і запомняцца? Неяк я, Валерый Маракоў і Юрка Лявонны выступалі ў рабочым клубе ў Бабруйску…

І Станіслаў Пятровіч, яўна ўсцешаны даўнім успамінам, расказаў нам пра адзін з сяброўскіх «прыколаў», як цяпер модна казаць.

— Перад самым выступленнем, — працягваў у гуморы паэт, — Валера і Юрка, пашаптаўшыся між сабою, раптам прапанавалі: можа, перакусім чаго? А есці сапраўды хацелася. Маладыя, здаровыя, чаму б не падсілкавацца перад выступленнем? Але ж чым? Бачу, Валерка дастае пачак пячэння: «У сталоўку збегаць не паспеем, дык хоць пячэння перахопім». І мне аднаму з паўпачкі аддаў: «Ты ж, Стасік, грамчэй за нас выступаеш, каб з сілачкі не выбіўся». І пасміхаюцца, як блазны. Я потым зразумеў іх падвох, як выступаць пачаў. Пячэнне ж я з'еў, нейкае сыпкае такое, як пясок, а вады, каб хоць глытком прагнаць яго, пад рукою не аказалася. Нібы знарок ніхто не прапанаваў. Выйшаў на сцэну, пачаў вершы чытаць, а сам адчуваю: нешта перасела ў горле, казыча, аж слёзы з вачэй пагнала. Вымаўляю словы, трываю, каб не раскашляцца, а Валерка з Юркам, бачу, ад смеху кіснуць, Ну, думаю, пачакайце, гады печаныя, я вам таксама ўдружу! І вы ведаеце што, купіў я тайком ад іх загадзя ў краме пячэнне, думаю, падлаўлю ўсё ж каторага з вас. Трапіў на кручок Маракоў. Выступалі зноў разам. Дык я перад выступленнем пячэнне падсунуў. А ён, мусіць, забыўся пра розыгрыш са мною, не адмовіўся, узрадаваўся нават. Праўда, у яго абышлося без слёз на вачах, неяк выкруціўся. Падзякаваў за пачастунак, што не забыў падкарміць. Жартавалі, ды жарты не злосныя былі, сяброўскія. Нашы падначкі дзіцячымі забаўкамі здаваліся.

Здаралася, Алена Міхайлаўна ў чарговы раз запрашаючы Станіслава Пятровіча выбрацца дні на тры на рэдакцыйнай машыне ў камандзіроўку ў глыбінку для арганізацыі падпіскі на «Бярозку», пачынала вініцца перад ім:

— Прабачце, што зноў турбуем вас, але ж пасля паездак з вамі ў рэдакцыю самыя цёплыя водгукі прыходзяць. Дзеці і настаўнікі ведаюць вас, чытаюць вашы вершы, вы гэтак цудоўна ўмееце выступаць, расказваць розныя цікавыя гісторыі са свайго жыцця. Не адмоўце...

— Ведаеце што, — зноў пагаджаўся Шушкевіч. — я ў маладыя гады, камсамольцам, столькі пахадзіў, пратаптаў сцяжынак ад вёскі да вёскі, ад хаты да хаты, збіраючы падпіску на газеты і часопісы, што і ўявіць не можаце. Тады ж радыё рэдка ў каго было, дык стараліся, каб людзі ўсе навіны з газет чэрпалі. А я за падпіску і распаўсюджванне масавай тады газеты «Беларуская вёска» быў нават прэміяваны самім ЦК партыі. І вы ведаеце, якую прэмію я атрымаў? Цэлы пуд насення канюшыны! О-о-о, тады гэта сапраўднае багацце для вясковага гаспадара. Мой бацька нарадавацца не мог такой прэміі!

Падагрэты згадкай пра тую незвычайную прэмію, я нават пацікавіўся ў яго, як плацілі пісьменнікам, якія ганарары былі тады, у 20-я. Цікава было параўнаць з тым, што атрымлівалі мы, як нам плацілі на той час.

— У газетах плацілі па сорак пяць капеек за радок верша, — задаволіў маю цікаўнасць Станіслаў Пятровіч.

— А тады гэта лічылася многа ці мала? — зноў запытаў я.

— Як табе патлумачыць? — пасміхнуўся ён. — Бутэлька гарэлкі тады каштавала сорак капеек. Вось прыкінь сам, многа гэта ці мала…

З нашых бярозкаўскіх паездак па школах хацелася б прыгадаць, мабыць, самую памятную. І ў нечым — трывожную, калі ўсім нам неспадзявана давялося добра-такі пахваляваца. Я ўжо расказваў пра гэты выпадак у нататках-успамінах «"Бярозкі" дзіўнае святло…», але, думаю, ён варты таго, каб спыніцца на ім яшчэ раз.

Аднойчы на Гродзеншчыне, здаецца, перад выступленнем у Рагатнянскай школе, Станіславу Пятровічу раптам стала кепска: пэўна, зрабілі сваё далёкая і дрогкая дарога, частыя выступленні, пераезды з раёна ў раён. На шчасце, у школе быў медпункт. Зрабілі адзін ці два ўколы…

І я, і Мімрык сказалі яму: «Паляжыце, Станіслаў Пятровіч, выступім без вас». Памятаю, Шушкевіч неяк трошкі вінавата ўсміхнуўся і павольна вымавіў: «А чаго ж тады я сюды прыехаў? Дзеці ж і настаўнікі ведаюць, што я тут, будуць чакаць… Вы пачынайце сустрэчу, а я трохі паляжу і падыду…»

І сапраўды, хвілін праз дваццаць ён з'явіўся ў школьнай зале, падняўся да нас на сцэну, дачакаўся, калі дадуць слова, і выступіў з тым жа запалам, што і раней. Напэўна, ніхто са слухачоў на той час і не здагадваўся пра яго немач. Пасля гэтага здарэння рэдакцыя ўжо больш не адважвалася запрашаць паэта ў такія няблізкія вандроўкі. А ў мяне з той сустрэчы захаваўся фотаздымак, зроблены кімсьці з настаўнікаў і дасланы потым у рэдакцыю. Аматарскі, не зусім выразны, але постаць Станіслава Шушкевіча, «схопленая» ў той момант, калі ён чытае вершы, зафіксавана даволі выразна…

* * *

Апрача абавязкова-неадчэпнага ў гаворцы выслоўя «Вы ведаеце што», якое стала «хлебам» для перасмешнікаў і сяброўскіх кепікаў, была ў Станіслава Шушкевіча яшчэ адна «хвароба», якая не ўсім падабалася: ён ніколі не таіўся, у вочы выказваў тое, што думаў. Адных такая прынцыповасць раздражняла, выводзіла з раўнавагі, другіх наводзіла на вясёлы лад, успрымалася з нейкай усмешкай і, магчыма, з недаўменнем: «І нашто яму ў гэта ўвязвацца, крытыкаваць? Мала пацярпеў за свой язык?»

У гэтых разважаннях была доля праўды. Вядомы афарызм «Мой язык — мой вораг» да Станіслава Пятровіча, мабыць, стасаваўся як не найлепш. Яго заўсёды быццам нехта знарок падбухторваў, цягнуў за гэты самы язык, каб ён на сходзе ў Саюзе пісьменнікаў ці на якім іншым мерапрыемстве ўстаў ды выказаў сваё меркаванне, прапанову. Памятаю, Уладзімір Шахавец з нечых слоў з гумарам расказваў нам: да арышту на ўсе сходы ў Дом пісьменніка з Шушкевічам заўсёды хадзіла жонка. Ведаючы яго «крэўную» звычку ды гарачнасць, садзілася побач з ім. Кожны раз, як толькі ён падхопліваўся з месца, парываўся нешта сказаць, тузала яго за крысо пінжака: сядзь і памаўчы! Мабыць, і гэта неадольнае жаданне крытыкнуць «паспрыяла» таму, што ў змрочныя трыццатыя не засцярогся ад рэпрэсій.

А можа, вінаваты несумненны дар сатырыка, яго цяга да вострага слова і гумару? Прыхільнасць да гэтага жанру, майстэрства ды ўменне грунтоўна «праехаць» смехам па агрэхах, таксама надзвычай рана праявіліся ў даваеннай і пасляваеннай творчасці Шушкевіча. Літаратурныя пародыі, эпіграмы, гумарэскі, фельетоны, у якіх дасціпна высмейваліся многія хібы і заганы не толькі літаратурнага, але і грамадскага парадку, вельмі часта друкаваліся ў газетах і часопісах, змяшчаліся ў кніжках, выклікаючы ў чытачоў шчырую ўсмешку ды не заўсёды вясёлы смех. Не ўсе ведалі, што выходзілі яны з-пад пяра Станіслава Пятровіча, а Янка Бор, Вільгельм Эрнест, Ш. Стах, Шуш, С. Ш-ч, В. Эрн, Саўка Койданаўскі — менавіта ён.

Станіслаў Шушкевіч быў надзвычай прыдзірлівым, патрабавальным да ўсяго, што тычылася творчасці, сабратоў па пяры, хто, займаючыся літаратурай, рабіў сабе нейкія паслабкі. У пагоні за ўяўнай вобразнасцю страчваў пачуццё меры, не заўважаў хібаў і агрэхаў у творах, неахайна ставіўся да мовы і працы над радком. Не баяўся сказаць гэтага прылюдна, хоць і ведаў: магчыма, нажыве лішняга ворага, нядобразычліўца, але ж не мог адступіцца ад свайго прынцыпу, абысці, прайсці міма таго, што ляжала на паверхні, як бы само кідалася ў вочы. Хтосьці не хацеў заўважаць тыя «агрэхі», а Станіслаў Пятровіч быццам знарок

«чапляўся» за іх. Не баяўся сказаць і «паказаць» гэтыя аўтарскія пралікі не толькі з трыбуны схода, але з адпаведнаю рэплікай і ў друку выступіць.

Хтосьці такія «стрэмкі» ўспрымаў усур'ёз, хтосьці з гумарам, з усмешкай, ды ўсё ж яны, па-мойму, не павісалі ў паветры, падказвалі сяму-таму з нас: будзь уважлівы да таго, што пішаш, часцей задумвайся сам над тым, што напісаў і збіраешся аддаць на суд чытача.

Не толькі «падкопамі» і «прычэпкамі» абмяжоўваліся яго выступленні. Па-мойму, сакратары СП таксама пабойваліся «ўедлівага Стаха»: з чым прыйшоў на сход у гэты раз, што яшчэ там выкапаў? Пабойваліся, бо Станіслаў Пятровіч вельмі часта азадачваў кіраўніцтва пісьменніцкай арганізацыі markoзнымі непрадбачана-неспадзяванымі прапановамі. У яго памяці, бы ў тагачаснай ЭВМ, не проста трымалася, а віравала безліч самай markрознай інфармацыі: ад юбілейных дат паўзабытых усімі пісьменнікаў, дзеячаў нацыянальнай культуры і мастацтва, слынных асоб (Міхайла Грамыка, Сяргей Ракіта, Васіль Каваль, Адам Бабарэка, Іларый Барашка, Міхась Багун, Юлій Таўбін, Барыс Мікуліч, Уладзіслаў Галубок, Язэп Пушча, Зінаіда Бандарына, легендарны камкор Гая Гай), да цікавых архіўных знаходак і літаратурных свят, якія неабходна было б унесці ў планы мерапрыемстваў СП і адзначыць у нашых газетах і часопісах, нават выйсці ў Саўмін і ЦК партыі. Ён шмат чаго ведаў, бо шмат чым «хварэў»: вёў актыўную перапіску з многімі творчымі людзьмі, нашымі землякамі, якіх лёс раскідаў па прасторах Савецкага Саюза, вышукваў усё, што, на яго погляд і перакананне, варта было таго, каб пра іх здзяйсненні ведала як мага больш людзей, каб іх помнілі, што спрыяла б узбагачэнню роднай літаратуры і культуры, нашай гістарычнай спадчыны.

Перачытаўшы нядаўна яго кнігу ўспамінаў «Вяртанне ў маладосць», я міжволі здзівіўся: адкуль бралася ў яго столькі энергіі і любасці да людзей, цярплівасці і часу, каб ліставацца, ездзіць, хадзіць, сустракацца з роднымі і сваякамі, проста блізка знаёмымі сяброў сваёй маладосці, з кім назаўсёды разлучыў незабыўны і крывавы 1937, каб здабыць нейкія звесткі пра іх, адшукаць тое з творчай спадчыны, што, магчыма, нейкім чынам захавалася ў сямейных архівах, нават удакладніць з'яўленне нейкага цудам уцалелага фотаздымка, каб расказаць ім пры сустрэчы з тым ці іншым у далёкай ссылцы, пра іх жыццё там, каб гэтыя людзі — дзеці, сваякі, сябры і знаёмыя — ведалі ўсю праўду пра блізкага ім чалавека і творцу, маглі аддаць яму належную даніну сваёй любові і павагі, беражліва захоўвалі памяць аб ім. Шушкевічу падабалася жыць (іначай, напэўна, і не скажаш!) спагадаю да людзей, дапамагаць ім, на колькі гэта магчыма было, заставацца справядлівым, чаго б гэта ні каштавала, быць дабрадзеем. І не тым, казачным, які сыходзіў да нас са старонак яго твораў, а рэальнай асобай у рэальным жыцці, які імкнуўся рассяваць зярняты дабрыні і любасці, жывучы побач з намі, сярод людзей. Нездарма ж ён усе дванаццаць гадоў загадваў у газеце «Літаратура і мастацтва» аддзелам пісьмаў — напэўна, самым «баявым» і масавым у рэдакцыі, доўгі час з'яўляўся старшынёй прафсаюзнай суполкі СП Беларусі. Памятаеце радкі са знакамітага «Сказа пра Лысую гару»: «Адкрыў прафорг Шушкевіч веча: // — Сябры! Вы ведаеце, што? // Каля Заслаўя, на пустэчы, далі гародаў роўна сто!»

Нястомна ведучы пошукі, актыўна выступаючы ў друку з матэрыяламі, у якіх праўдзіва і ўсебакова ўзнаўляў жыццё і дзейнасць многіх вядомых асоб і творцаў свайго часу, хто незаконна пацярпеў ад рэпрэсій, ён гэтым самым «наладжваў масткі» да хутчэйшай рэабілітацыі і апраўдання ахвяр сталінізму, хоць сам быў поўнасцю рэабілітаваны толькі ў 1975-м, праз дваццаць гадоў пасля вяртання з высылкі на радзіму. Трагічны лёс яго былых сяброў хваляваў Шушкевіча, напэўна, больш, чым уласны лёс. Ён быў «спакойна жыць нязгодны», ён не хлусіў ні людзям, ні сабе, калі шчыра прызнаваўся:

Не раз я думаў пра сяброў,
Якіх даўно не бачыў,
Спакою не давала кроў,
Пякла агнём гарачым…

Уцяміў я з тае пары,  
З часоў, людзьмі забытых,  
Што я цяпло усім дарыў  
Для ўсіх душой адкрытай…

* * *

У мяне сабралася каля дзясятка кніжак з аўтографамі Станіслава Пятровіча. Найболей — дзіцячых. Адзін з іх — на зборніку вершаў і казак «Казачны церам» — я атрымаў крышку незвычайным чынам, у дарозе. Памятаю, вярталіся з Ракуцёўшчыны, са свята паэзіі, прысвечанага памяці Максіма Багдановіча. На гэтым свяце нам абодвум выпаў гонар выступаць. Прызнаюся, у мяне ёсць толькі адзін верш, прысвечаны аўтару славутага «Вянка», а ў Шушкевіча — нават нізка трыялетаў была. З імі мы і выходзілі на свяце да мікрафона.

Вярталіся ў Мінск аўтобусам. Сядзець выпала побач. Вядома ж, пачалі дзяліцца ўражаннямі ад свята. Падагрэты імі, Станіслаў Пятровіч прыгадаў, як будучы ў Ялце, шукаў магілу Максіма Багдановіча, а перад гэтым дарэмна блукаў па мясцовым рынку, спадзеючыся купіць букецік васількоў. Кветак, якія любіў самотны паэт, кветак, якія нагадвалі яму мілы вобраз Беларусі. Васількоў не знайшлося, купіў у адной бабкі снапок палявых кветак. Усё ж — аднаго поля з імі, бліжэй да жытнёвых узмежкаў растуць…

Неяк непрыкметна гаворка перакінулася на ўспаміны пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Змітрака Бядулю, Цішку Гартнага, пра тое, як яны падтрымлівалі маладых пісьменнікаў, не цураліся дружбы з імі. Калі ўжо ўязджалі ў Мінск, Шушкевіч раптам шчоўкнуў замочкам свайго даволі-такі «здарожанага» партфеля і дастаў адтуль паасобнік «Казачнага церама», а ўслед — акуляры і ручку:

— Як прыпынімся перад светлафорам, падпішу табе. Гэта, лічы, маё выбранае для дзяцей. Выдавецтва «Юнацтва» пастаралася.

Хоць не ў поўнай меры, ды ўсё ж нейкая справядлівасць на свеце ёсць. У Станіслава Пятровіча, як і ў многіх яго сяброў і равеснікаў, няўмольны лёс адабраў маладосць, радасць творчых вёснаў, цяпло і ўтульнасць роднага кутка, сям'і, але тым, каму пашанцавала выжыць, потым як бы аддаў хоць нейкі доўг — вярнуў з сібірскіх халадоў да родных аселіц, да літаратурнай працы, да ўсяго, што прыносіць радасць жыцця, не пакрыўдзіў пражытымі гадамі. Шушкевіч пайшоў з жыцця 1 лютага 1991 года, не дажыўшы да чарговага, восемдзесят трэцяга, дня нараджэння ўсяго васямнаццаць дзён. Развітацца з вядомым і старэйшым майстрам слова, слынным дзіцячым паэтам і казачнікам, у Дом літаратара прыйшлі дзясяткі людзей. Змяняючы адзін аднаго, у ганаровую варту станавіліся старэйшыя і маладзейшыя таварышы па творчасці, прадстаўнікі дзяржаўных і грамадскіх устаноў, сваякі і знаёмыя. Шмат каму хацелася аддаць апошнюю даніну пашаны блізкаму чалавеку і любімаму пісьменніку.

Раз за разам шчырыя спачуванні прымае сын нябожчыка Станіслаў Станіслававіч — доктар фізіка-матэматычных навук, тады Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі. Станіслаў Пятровіч вельмі ганарыўся сваім сынам.

Пахавалі Станіслава Пятровіча непадалёк ад Мінска, у вёсцы Шчытомірычы. Так ён сам пажадаў. Тут калісьці ў панскім маёнтку парабкаваў яго бацька, тут будучы паэт яшчэ ў далёкім юнацтве працаваў рабочым мясцовага саўгаса. Было не дзіўна бачыць, што апрача нас, сталічных праважатых, правесці яго ў апошні шлях на могілкі прыйшло нямала вяскоўцаў. Я сам не распытваў, але мне казалі, быццам сярод іх былі і тыя, хто помніў яго яшчэ з той далёкай пары. А можа, у той дзень ён узгадаўся каму па калыханках, вершах і казках, на якіх выхавалася не адно пакаленне дзяцей, што засталіся ў іх памяці з маленства, як і ў памяці знаёмай мне Марыі Паўлаўны: «Бегла чутка-перагудка там і тут. // Бегла шпарка, бегла хутка ў кожны кут…»

Галіна БАГДАНАВА

# З РОДУ ШАРАНГОВІЧАЎ

Апошнім часам мяне вабяць гісторыі творчых дынастый. Калі параўнаць культуру з тканым на кроснах палатном, то менавіта яны з'яўляюцца асновай, на якой пасля ўтвараюцца непаўторныя ўзоры. Згадаем, Рафаэль — з сёмага пакалення італьянскіх мастакоў. Для Беларусі, дзе адукаваных, адораных людзей яшчэ нядаўна, скрозь усё XX стагоддзе трымалі, калі можна так сказаць, пад прыцэлам, творчыя дынастыі ўяўляюць асаблівую каштоўнасць. Цікоцкія, Аладавы, Карызны, Глебавы-Белахвосцікі-Гарцуевы, Уладамірскія, Адамчыкі, Гілевічы, Навуменкі, Бараноўскія-Герасімавы, Масленнікавы, Кашкурэвічы, Шаранговічы… І яшчэ цэлы шэраг нашчадкаў выдатных асоб, якія працягваюць справу сваіх дзядоў і бацькоў, мацуюць беларускую культуру. Цяпер хацелася б узгадаць нашага выдатнага мастацтвазнаўцу, дырэктара Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў Наталлю Шаранговіч.

Яшчэ на самым пачатку свайго артжурналісцкага лёсу Наталля напісала выдатны матэрыял пра адну з «зорных» вучаніц свайго бацькі народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча Ларысу Палякову, якая, на жаль, рана пайшла з жыцця. Добра памятаю гэты тэкст, таму што я на той час працавала ў часопісе «Мастацтва», дзе ён быў апублікаваны. Гэта былі вельмі яркія для нашай культуры гады. І Наталля, калі з бацькамі, калі з сябрамі ўдзельнічала і ў Купаллях, і ў Гуканнях вясны, якія ладзіла моладзь, наведвала ўсе цікавыя тэатральныя і кінапрэм'еры, вернісажы... Праз колькі гадоў яна на немалы час узначаліць аддзел выяўленчага мастацтва ў часопісе, на старонках якога дэбютавала, і не раз напіша пра аднагрупнікаў Ларысы Паляковай, у якіх у юнацтве брала інтэрв'ю, — Міколу Купаву, Міколу Селешчука і іншых. Пра М. Селешчука атрымаецца цэлая выдатна ілюстраваная кніга, якую можна назваць мастацтвазнаўчым бестселерам XX стагоддзя. Улічваючы, што Наталля Шаранговіч напісала выдатныя кнігі і пра патрыярха нашага мастацтва народнага мастака Беларусі Гаўрылу Вашчанку, якога ведала з маленства, і пра аднаго з самых арыгінальных мастакоў Георгія Скрыпнічэнку, безліч артыкулаў пра мастацтва XX—XXI стагоддзяў (да прыходу ў часопіс «Мастацтва» яна ўзначальвала аддзел выяўленчага мастацтва ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва»), склала дзясяткі каталогаў самых розных выстаў, можна смела назваць яе летапісцам ці не самага складанага для ўспрымання і разумення перыяду развіцця нашай культуры. Упэўнена, што менавіта гены бацькоў — бацькі-мастака і маці-літаратара, культурнае асяроддзе, у якім гадавалася Наталля, дазволілі ёй пазбегнуць залішняга суб'ектывізму і «чужародных павеваў» у прэзентацыі найбольш цікавых твораў беларускага і замежнага мастацтва. Але ў перадюбілейнай гутарцы высветлілася, што ўсе асобныя адкрыцці, якія яна рабіла ў мастацтве, яе цікавілі найперш як фрагменты той цэласнасці, якую вызначаюць як культурную спадчыну. І нават самыя вострыя творы ёй бачыліся як бы па-за часам, у кантэксце гісторыі, і, даруйце за высокія словы, у кантэксце вечнасці. Вось, што кажа Наталля:

— *Хочацца скласці асобныя адкрыцці, асобныя аскепкі ў адзіную карціну мастацкага жыцця, убачыць самой і людзям паказаць, як наяве выгля-*



*дае гэтае цудоўнае дрэва нашай мастацкай культуры — ад каранёў да шатаў. Каб асобы, якія пакінулі след у нашай культуры, былі ўпісаныя ў агульную плынь. Шмат таго, што адбываецца ў выяўленчым мастацтве сёння, бярэ пачатак з 1900-х — 1920-х гадоў. У кожнай культуры свой шлях. Ёсць ён і ў беларускай. Чаму так плённа ў нас развіваюцца класічныя жанры? Скрозь усю гісторыю класіка ў нас была на ўзлёце. Нават калі ў нашых суседзяў распачалася барацьба з «бульдозернымі» выстаўкамі, у нас з'яўляліся найглыбейшыя класічныя творы, што пацвердзіў час. Гэта класіка філасофскага характару, з'яднаная з прыродай. Можа, гэта вынік таго, што дахрысціянскія традыцыі натуральна ядналіся з хрысціянскімі... І мне здаецца, мала хто ў свеце так эмацыянальна, па-майстэрску перадае ў творах зачараванасць лясамі, рэкамі, азёрамі... Хаця і мадэрнісцкая плынь, якая загучала ў 1920-я гады ў Віцебску, не спынялася. З'ехалі Шагал, Малевіч... Але плынь не спынялася. У нас не можа быць адной плыні. Мы талерантныя і ў жыцці, і ў мастацтве. І, па вялікім рахунку, класічнае мастацтва ніяк не супярэчыць мадэрноваму. Гэта проста розныя мастацкія погляды на жыццё, адметныя вобразныя сістэмы ўвасаблення рэчаіснасці. І ў нас дастаткова мастакоў, якія ствараюць і класічныя, і мадэрновыя творы. Можа, менавіта таму наша культура цікавая свету. Вось Рыгор Сітніца. Ён выдатны прафесійны мастак, выхаванец і адзін з лепшых прадстаўнікоў беларускай школы графікі. У сваіх творах ён бачыць і вобразна пераасэнсоўвае кожную дэталь. Але ён здолеў выйсці за межы класічнай школы. На аснове побытавых, добра вядомых усім дэталей стварыць сваю ўласную мастацкую канцэпцыю. Здавалася б, увасоблены проста лапіны снегу, а той, хто знаёмы з гісторыяй мастацтва, адразу ўгледзіць сугучча з «унавісаўскім» канцэптам...*

Не магу не нагадаць, што старшыня Беларускага саюза мастакоў Р. Сітніца заўсёды з гонарам называе сябе вучнем В. Шаранговіча. А Н. Шаранговіч, дарэчы, была кіраўніком секцыі крытыкі ў Беларускім саюзе мастакоў.

Новы перыяд творчага жыцця Н. Шаранговіч пачаўся, калі яна ўзначаліла Музей сучаснага мастацтва, пачынальнікам і першым дырэктарам якога быў В. Шаранговіч, а пасля — Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў, пачала выкладаць на пасадзе дацэнта ў Інстытуце журналістыкі БДУ (да таго скончыўшы аспірантуру БДАМ). Але гэты перыяд хутчэй не пачатак, а працяг яе ранейшай дзейнасці.

Кажуць, напісанае застаецца. Але сёння, калі новае пакаленне лягчэй успрымае не вербальную, а візуальную інфармацыю, гледачы прагнуць новых выставак, новых праектаў. І Н. Шаранговіч сабрала ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў выключную высокапрафесійную каманду аднадумцаў. І ў выставачных залах Музея сучаснага мастацтва на праспекце Незалежнасці, і ў будынку Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў на Някрасава, 3 праходзіць безліч вельмі цікавых выставак, паказаў, сустрэч, майстар-класаў... Мастацтва выхо-



*Сустрэча НЦСМ з міністрам культуры РБ Юрыем Бондарам.*

дзіць у горад. І Арт-астравы, і сумесныя з бразільскімі мастакамі праекты графіці, і выстаўкі на плошчы Якуба Коласа, і паказы вулічных тэатраў — усё гэта ініцыятыва Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў, які клапоціцца і пра дзіцячыя спектаклі, і пра арыгінальныя праекты для падлеткаў, кінапаказы для моладзі і людзей сталага ўзросту… Як сцвярджае практыка, галоўнае, чаго не хапае нашым сучаснікам — гэта жывых зносін, дыскусій… У Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў яны вядуцца пасля кожнага кіна- і тэатральнага паказу, на абмеркаванні выставак.

Лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва ў галіне крытыкі і мастацтвазнаўства Н. Шаранговіч была куратарам спецыяльнага праекта 4-й Маскоўскай біенале сучаснага мастацтва, выстаўкі сучаснага мастацтва «Авангард. Ад квадрата да аб'екта», Рэспубліканскай выстаўкі сучаснага мастацтва «Вяртанне вобраза. Да 130-годдзя Марка Шагала», камісарам нацыянальных павільёнаў Рэспублікі Беларусь на 54-й, 56-й, 57-й Венецыянскай біенале сучаснага мастацтва… Каментарый Наталлі:

— *Вельмі важна краіне засведчыць сваё мастацтва на буйных міжнародных форумах у супастаўленні з іншымі краінамі. Гэта дазваляе атрымаць пляцоўку для дыялогу з замежнымі мастакамі і крытыкамі, рэалістычна ўзважыць свае пошукі ў мастацкай творчасці, даць магчымасць айчынным куратарам і аўтарам экспазіцыі рэалізаваць задуманыя праекты ўжо ў міжнародным кантэксце. Наша сучаснае мастацтва было прадстаўлена на Маскоўскай біенале сучаснага мастацтва, але найважнейшай застаецца Венецыянская біенале. І не толькі таму, што яна мае вопыт працы на працягу апошніх 100 гадоў і штораз у ёй удзельнічаюць больш за 80 краін свету. Гэта найбуйная пляцоўка для дыялогу і дыскусій, гэта магчымасць заявіць пра краіну Беларусь і яе адметнае мастацтва, што мае нацыянальны каларыт і асаблівую мастацкую мову выказвання.*

*Летась на 57-й біенале ў Венецыі быў прадстаўлены праект «Стол» мастака Рамана Заслонава — відэаарт і інсталяцыі. Штодзень наш павільён наведвала больш за 50 чалавек, шмат хто пакідаў свае водгукі. Выйшлі публікацыі ў многіх спецыялізаваных еўрапейскіх выданнях.*

Дарэчы, у хуткім часе мы таксама зможам пазнаёміцца з гэтым праектам. Нараджаецца выдатная традыцыя паказваць у Мінску тое, што экспанавалася ў Венецыі. Такім чынам, кожны мае магчымасць убачыць, як мы былі прадстаўлены ў еўрапейскім кантэксце.

Мне здаецца, менавіта таму, што Н. Шаранговіч з маленства гадавалася ў мастацкім асяроддзі, каму-небудзь падасца выпадкова, а наяве зусім заканамерна нараджаюцца новыя творчыя ідэі і нават мастацтвазнаўчыя, культуралагічныя тэрміны. Адзін з кірункаў сучаснага мастацтва, які ў расійскіх слоўніках вызначаецца груваскім словам «постпостмадэрнізм» (калі вобразы яднаюцца паводле адзінага стылістычнага камертона), у нас набыў назву «посттрадыцыя». Так называлася выстаўка ў Палацы мастацтваў, куратарамі якой былі Наталля Шаранговіч і Ірына Мятліцкая. І зноў слова Наталлі:

— *У экспазіцыі выстаўкі былі прадстаўлены работы класічнай і посткласічнай традыцыі, якая атрымала сёння шматстайныя праекцыі ў формах свабоднай жывапіснай імправізацыі. Усе паказаныя на выставе творы склалі даволі цэласнае ўяўленне пра творчую плынь, якая з'явілася ў сучаснай беларускай мастацкай прасторы як вынік класічнай традыцыі, пасля яе, напоўненай, тым не менш, шматлікімі пасыламі да традыцыі. Так з'явілася і назва «посттрадыцыя».*

*Для многіх беларускіх мастакоў традыцыя застаецца фундаментам і асновай творчасці. А ўжо далей яна насычаецца метафарызмам, абстракцыянізмам...*

Творчая інтуіцыя, што грунтуецца на глыбокіх ведах, адчуванні таго, што адбываецца ў сучасным мастацтве, у свой час дапамагла калектыву, які ўзначальвае Наталля Шаранговіч, вылучыць тых творчых асоб, якія сталі лаўрэатамі першай Нацыянальнай прэміі ў галіне выяўленчага мастацтва. Іх творы, нават творы тых, хто быў прадстаўлены ў намінацыі «Дэбют», не раз экспанаваліся ў залах Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў. Дарэчы, за плённую самаадданую працу ўвесь калектыў быў узнагароджаны спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва.

Дачка Н. Шаранговіч Юлія вось-вось скончыць адно з самых модных на сёння аддзяленняў БДАМ — графічны дызайн, дзе выкладаў, потым загадваў кафедрай малюнка і жывапісу на факультэце дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і дызайну выдатны графік, малодшы брат Васіля Шаранговіча Кастусь Шаранговіч, які, на жаль, рана пайшоў з жыцця.

І ўсё ж для мяне галоўная інтрыга творчага лёсу Н. Шаранговіч у тым, што яна, выдатна разумеючы запатрабаванні сучаснай моладзі, прымаючы самыя дзёрзкія праекты далікатна ўводзіць іх у кантэкст праверанай часам традыцыі. Так, згадваючы сваю кнігу пра народнага мастака Гаўрылу Вашчанку, яна кажа:

— *Гэта сведчанне цэлай эпохі, для мяне бацькавай эпохі Вялікіх падзей, што адбываліся вакол, і эпохі Вялікіх надзей, што натхнялі «шасцідзясятнікаў», якія ў маленстве спазналі горыч вайны. Гэта наймацнейшыя асобы. Для іх кожная жыццёвая кропка была ўзыходжаннем. Нам вельмі важна паспець запісаць іх успаміны, пачуць галасы творцаў. Галоўны ўрок, які далі мне бацькі: каб штосьці адбывалася, каб цябе заўважалі, і каб самому шмат заўважаць, трэба шмат працаваць. Дзед, калі будаваў хату (хату ставілі на камяні), абцясаў нават камяні. Бацька ўсё жыццё працуе, выказвае тое, што на душы...*

Будзе час, і тыя, хто прыйдуць за намі, таксама згадаюць нашы ўрокі. Галоўнае, каб час не перарваў повязь пакаленняў. Дзеля гэтага сёння працуе і Наталля Шаранговіч.

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# ЧАС КАРМІЦЬ ПТУШКУ ШЧАСЦЯ




*Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ*

**ЧАС ЛІСТАПАДУ**

*Мн., Выдавецтва «Чатыры чвэрці», 2018.*

50-годдзе першай публікацыі — юбілей сур’ёзны. У 1967 г. у наваполацкай газеце «Хімік» адбыўся дэбют вядомага сёння паэта, празаіка, публіцыста Навума Гальпяровіча. Магчыма, ужо тады было выпрацавана і творчае крэда пісьменніка — гаварыць з чытачом шчыра, не баяцца пераходу на асабістае, перажытае, сумнае і вясёлае. На працягу ўсяго літаратурнага шляху Навум Гальпяровіч удумліва аналізуе лёс уласны і лёс яго пакалення. А дапамагае ў гэтым фенаменальная памяць, надзвычайная ўвага да цікавай дэталі. «Усё памятаю: першую лінейку, увесь першы дзень у школе, першыя падручнікі…» — кажа ў адным з інтэрв’ю Навум Гальпяровіч. І піша так, што і нас прымушае ўспомніць і глыбока задумацца.

«Час лістападу» — зборнік выбраных, лепшых на думку аўтара, вершаў. Гэта і своеасаблівая духоўная біяграфія, паэтычная справаздача. І пасыл у будучыню:

Супыніцца на краі і паслухаць Бога!..
І хаця б яшчэ на міг пастаяць адным.
І калі падорыць лёс новую дарогу,
Перадаць яе навек людзям маладым…

Лірычны герой твораў Навума Гальпяровіча супрацьстаіць мане, хцівасці, агрэсіі. Ён хоча пранесці праз гады ўменне чуць, бачыць, спачуваць чужому гору. Каб не адбылося, як у вядомым вершы вострага публіцыстычнага гучання:

Запалілі свечку, а вакол сляпыя.
І святло іграе на каменных тварах.
І ніхто не бачыць, што пятля на шыі,
Што праз момант горад палыхне пажарам.

Сумаваць разам з самотным віяланчэлістам, разварушваць «заснежаную памяць» смычком скрыпкі, прыгадваць веснічкі юначых сустрэч, выпускаць на волю пяшчотную птушку шчасця — з вершамі Навума Гальпяровіча хочацца наноў адкрываць Сусвет і дыхаць на поўныя грудзі. А яшчэ — адчуваць адказнасць за кожны свой крок на дарозе спасціжэння. Адчыняць дзверы тым, хто стукае, бо ў адваротным выпадку і табе не адчыняць…

Памяць пра свае вытокі, малую радзіму ніколі не пакідала паэта. Пра Полацк ён шмат піша, расказвае ў радыёэфірах. А ў лірыцы родны горад паўстае легендарным месцам сілы, натхнення, даўняй беларускай гісторыі. Велічная Сафія сустракае чытача як сімвал духоўнага яднання людзей:

На золку расступіцца ноч і ўварвецца сабор
У раніцу, поўную птушак і пахаў салодкіх.
Абудзяцца дрэвы, і сонныя гмахі, і лодкі,
Як быццам сабор той паклікаў людзей
за сабой.

Сёлетні юбіляр Навум Гальпяровіч заўсёды здзіўляе незвычайнай жыццёвай і творчай энергіяй, жывасцю, маладосцю думак. Пэўна, таму, што ніколі не баяўся дзейнічаць, рызыкаваць, прымаць валявыя рашэнні. Сам жа, сціпла падсумоўваючы дасягненні ў «Пасляслоўі», адзначае: «кахаў, ствараў сям'ю, гадаваў дзяцей <…> Усё астатняе, а, можа і самае асноўнае, — у маіх напісаных і надрукаваных у гэтай кнізе радках, якія выношу цяпер на ваш суд». І, трэба адзначыць, з такім «багажом» выступаць на судзе гісторыі пачэсна…




*Анатоль БУТЭВІЧ*

**ЖАНЧЫНЫ З ЛЕГЕНДЫ**

*Мн., Мастацкая літаратура, 2017.*

Неферціці, Жанна Д'арк, Кацярына Медычы, Раксалана, Марыя Складоўская-Кюры, Маргарэт Тэтчэр... Спіс славутых жанчын у сусветнай гісторыі можна доўжыць і доўжыць… Як і разважаць пра іх ролю ў палітыцы, эканоміцы, культуры. Аднак вядомыя ўсім і сумныя старонкі недаравальнага прыніжэння, дэвальвацыі культурнага вобразу «слабога полу». Сучаснае вострае гучанне гендэрных пытанняў стымулюе новае, прынцыпова адрознае ад мінулага, прачытанне «жаночай місіі» і «таямніцы жаноцкасці». Цудоўна, што гэта робіцца на прыкладзе няпростых лёсаў і беларускіх нацыянальных гераінь. Адна з апошніх спроб такога перагляду — праца Анатоля Бутэвіча.

«Жанчыны з легенды» — нізка гісторый пра незвычайных гераінь розных часоў (ад XIV да XX стст.). Легенды, вядома, складаюць пра асоб яркіх, нетыповых. Такія і жанчыны з новай кнігі Анатоля Бутэвіча — харызматычныя, кемлівыя, таленавітыя. Кожная — у сваёй галіне. Хто ў дзяржаўным кіраванні, хто ў ратнай справе, хто ў мастацтве… Мудрая дарадца мужа Соф'я Гальшанская, рашучая ў абароне роднай зямлі Анастасія Слуцкая, заступніца хрысціянства Сафія Слуцкая паўстаюць жывымі, абаяльнымі жанчынамі з уласнымі памкненнямі, перакананнямі, захапленнямі. «Жанчына заўсёды застаецца жанчынай: каханай, жонкай, маці — з багатым веерам асабістага жыцця, часам незвычайных і проста авантурных прыгод», — справядліва заўважае аўтар кнігі. І піша пра нежаданне ісці на кампрамісы, перавагу шчырых пачуццяў над абставінамі. Прывід Чорнай Панны і сёння нагадвае нам пра неўміручае каханне насуперак выпрабаванням лёсу…

Разважаючы пра строгія правілы дынастычных шлюбаў і поўнае інтрыг прыдворнае жыццё, Анатоль Бутэвіч завяршае выданне гісторыямі даволі блізкімі нам па часе. Гераічная і натхняючая гісторыя жыцця Зінаіды Тусналобавай, а таксама поўная прыгажосці і гармоніі — Стэфаніі Станюты не пакінуць нікога абыякавымі. Унутраная дысцыпліна, уласная годнасць, уменне бачыць хараство ў драбніцах дазваляе і сучасных гераінь называць каралевамі.

«Яны кахалі і былі каханымі, часта выходзілі замуж за невядомых ім мужчын, ехалі за край свету, траплялі ў займальныя трохкутнікі, пераадольвалі ўсе згрызоты неразздзеленага кахання. Бо на тое яны і жанчыны…» — бадзёра, іранічна характарызуе аўтар сваіх гераінь. І як быццам бы намякае на заканамерны працяг. Жанчыны XXI стагоддзя, якія яны?..

**У МІНСКУ «ПОЛЫМЯ» МОЖНА НАБЫЦЬ:**

- **магазін № 13, плошча Перамогі, падземны пераход;**
- **магазін № 18, плошча Перамогі, падземны пераход;**
- **магазін «Глобус», вул. Валадарскага, 16.**

16 +

АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 263-80-12,
намесніка галоўнага рэдактара — 319-79-85,
аддзелаў прозы,
крытыкі і літаратуразнаўства — 224-66-74,
аддзела паэзіі — 263-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны*
*для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп’ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар
*М. М. ГІЛЕВІЧ*

Падпісана да друку 13.02.2018 г. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,40. Ул.-выд. арк. 17,05. Тыраж 1356 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

*Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь*
*для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках (літаратуразнаўства)*